ВІЦЭСЬ МУДРОЎ

# ЗАМЕЦЕНЫ СЛЕД

Апавяданні

Мінск, «Кнігазбор», 2021

# ЗАМЕЦЕНЫ СЛЕД

На дварэ пачатак студзеня 1986-га, а на двары… — Мішка Шошын глядзіць у заснежанае вакно, дзе вісіць тэрмометр і задаволена паведамляе: «Сорак адно ачко».

Мішкава задаволенасць зразумелая. Яшчэ пару «ачкоў», і заўтра на працу можна не выходзіць. Абвесцяць актываваны дзень. Раніцай было не болей за трыццаць, а з вечара мароз прыціснуў як мае быць. Сёння нядзеля, і мы па старой нафтаправоднай традыцыі граем у храп.

— Асабліва не радуйся, — чытае Мішкавы думкі камендант пасёлка Гофман. — Галадзец усё адно зварных на трасу пагоніць.

Галадзец — начальнік будаўнічага ўчастка. Яму загадалі скончыць зварку трубапровода да Новага году, і вось ужо студзень наспеў, а загад дагэтуль не выкананы.

Мішка плюе на палец, спрытна раздае карты, казеліць вокам на пакамечаныя рублі.

— Колькі там ачкоў? — Шошын працуе дэфектаскапістам — прасвечвае рэнтгенам зварныя швы, — і па прафесійнай завядзёнцы называе «ачкамі» і ціск у трубе, і градусы за вакном, і грошы ў картачным банку.

— Чырвонец, — глуха адказвае Лёшка Лайзан — сувязіст, які забяспечвае сувязь пасёлка з вонкавым светам. Лёшка ладна прайграў, і шырокі лабешнік ягоны прабаразнілі маршчакі незадаволенасці і турботы.

— Чулі, на Карамаўскай паваротцы жанчына замерзла? — дэфектаскапіст адкрывае козыры, ляпае калодай па валізе.

Мы сядзім на ложках, а замест стала ў нас фібравая валіза, якую сувязіст трымае на каленях.

— Яе да павароту мой братан падвозіў, — падае голас Гофман. — Падабраў у Наябрску, ну і высадзіў на паваротцы, бо жанчына ў Мураўлі ехала. Вахтоўка мураўленкаўская праз гадзіну пад'ехала, а яе ўжо снегам прыцерушыла. Братана потым у пракуратуру выклікалі.

— Храп! — рашуча гракае Мішка.

Я разгортваю карты. У Шошына на руках казырны туз. Бо ў мяне кароль і казырная васьмёрка для падтрымкі.

— Дапамагаю, — кажу з той жа рашучасцю ў голасе.

Мяркуючы па кіслай Мішкавай гіморы, спадзеўкі на прыкуп не спраўдзіліся.

— Ідыётка… перціся немаведама куды ў саракаградусны мароз, — выдыхае дэфектаскапіст і ляпае пальцамі па фібравай валізе. У банку дзесяць рублёў, таму Мішка і хвалюецца. — Пасядзела б да раніцы ў Наябрску, а потым у мураўленкаўскую вахтоўку ўбілася.

— На марозе, ды з ветрыкам, заснеш толькі так, — Лёшка Лайзан бярэ першую бітку. — Летась на Вынгапуры рэлейную вышку ставілі. Ну выпілі, вядома, каб сувязь добрай была. Мароз таксама за сорак. Выйшаў папаліць, і тут жа, стоячы, заснуў. Чую, ляпае хтосьці па твары. Спрабую павекі раздзерці, а яны не раздзіраюцца. І галава як здзервянела. Занеслі мяне, карацей, у балок, расцерлі снегам. Ачуняў, дзякаваць богу. Толькі нос абмарозіў.

— У нас на Урале маразы таксама лютуюць, — Мішка з адчаем ляпае па валізе званковым тузам. — Мой бацька Свярдлоўскі палітэх закончыў, дык казаў — у 59-м годзе цэлая турыстычная група замерзла. Восем чалавек.

— Там увогуле цёмная гісторыя, — сувязіст раскідвае банк, адсоўваючы ў мой бок трульнік і два пакамечаных рублі.

Дагэтуль я пяць рублёў прайграў. Так што застаўся пры сваіх.

— А ты, Латыш, дзе чуў пра гэта? — пытаецца Мішка, выцягваючы з кішэні грошы.

Лайзан нарадзіўся ў Свярдлоўскай вобласці, але дзеда свойчас выслалі з Латвіі, таму яго і называюць Латышом. А вось Гофмана, немца па нацыянальнасці, жартам завуць Камандантэ — як Чэ Гевару. Праўда, яму гэтая мянушка не падабаецца.

— У мяне цесць з Іўдзеля. Пару гадоў таму памёр. Ён распавядаў.

— А больш падрабязна, — Мішка Шошын прайграўся, і ў голасе чутны з'едлівыя ноткі.

— Карацей, пайшлі ў паход на Паўночны Урал. Дарэчы, іх было не восем чалавек, а дзевяць: сем хлопцаў і дзве дзеўкі. Пайшлі і зніклі. Толькі праз месяц знайшлі пад снегам, за кіламетр ад намёту, а сам намёт быў нажом пакрэмзаны.

— Самае дзіўнае, што на іх не было цёплай вопраткі. Некаторыя наогул былі ў шкарпэтках, — устаўляе слова Гофман.

Я ўпершыню чую гэтую гісторыю і да таго ёю ўражаны, што карты, якія ператасоўваю, выслізгваюць з рук і падаюць на падлогу.

— А чаму яны, распранёныя, з намёту выбеглі? — звяртаюся да Гофмана.

— Калі б я быў у тым паходзе, я б табе адказаў, — камендант з краканнем лезе пад ложак, куды зляцелі карты. — У майго бацькі абласная газета захавалася — пажоўклая, немаведама калі надрукаваная. Там пра гэта напісалі. А яшчэ напісалі, што ў намёце захаваўся парадак. Усе рэчы на месцы, толькі ліхтарык ляжаў звонку. І агнястрэльных раненняў не было.

Мішка Шошын устае з ложку, сунецца ў канец вагончыка, ставіць на плітку чайнік.

— Бацька казаў так: цэлы дзень ехалі на лыжах, увечары разбілі намёт, а ўначы іх штосьці так напужала, што давялося рэзаць брызент і сігаць па цаліку, хто ў чым быў.

— А навошта брызент рэзалі? — не сунімаюся я.

— А ты ўяві, што ў намёт мядзведзь пысу ўпіхнуў, ці наогул снежны чалавек у госці завітаў.

— Калі б мядзведзь завітаў — ён бы ўсё пашкуматаў. А там жа, кажаце, парадак быў, — я патрабавальным зіркам гляджу на каменданта.

— Калі ў Свярдлоўску вучыўся, у нас адзін выкладчык тую справу не адзін год вывучаў, — Латыш тасуе карты, спрабуе раскласці пасьянс. — Высветліў, што турыстаў лавіна напалохала. Намёт паставілі на схіле гары, снежны пласт пачаў рухацца, вось і вылецелі насустрач халоднай смерці.

Чайнік азываецца свістам і Шошын здымае свістуна з пліткі.

— У газеце пра лавіну не згадвалі, — Гофман прыпальвае цыгарэту, махае рукой, разганяючы дым.

— Я ж кажу: яны напужаліся сходу лавіны, таму і адбеглі, — гугніць Латыш, не адрываючы вачэй ад карт.

— Ну напужаліся… ну адбеглі… убачылі, што ніякай лавіны няма, і назад вярнуліся, — Мішка дастае з паліцы поліэтыленавую торбу з цукрам. — А яны немаведама з якой халеры па марозу ў адных шкарпэтках пабеглі.

Гофман са свістам, як той чайнік, выпускае праз сцятыя вусны струмок шызага дыму:

— Хадзілі чуткі, што там непадалёку ракета выбухнула. А яшчэ плявузгалі пра нейкія чырвоныя кулі, што ў небе лёталі. Ды ўсё гэта лухта.

Гофман змаўкае, і мы ўтрох глядзім у ягоны бок. Камандантэ, аднак, уласную версію агучваць не спяшаецца.

— Ну а што тады не лухта? — з іроніяй у голасе пытаецца Мішка.

Камандантэ чарговым разам зацягваецца цыгарэтай.

— Па-першае, іх забілі. — Гофман збівае цыгарэтны попел у бляшанку з-пад тушонкі.

— Дык жа агнястрэльных раненняў не было, — Мішка з гучным бразганнем боўтае лыжкай у конаўцы.

— А я казаў, што ў іх стралялі? Выпусці цябе на мароз у шкарпэтках — тут ніякай стрэльбы не спатрэбіцца. Праз пятнаццаць хвілін бараду задзярэш.

— Ну добра, забілі, — дэфектаскапіст драпежна варушыць носам — заўсёды так робіць, калі хвалюецца. — Гэта мы і без цябе зразумелі. Ты лепш скажы — хто забіў?

— Хто? Тыя, якія ішлі па следу.

Мы ўтрох неадрыўна глядзім на Гофмана. Чакаем — што цікавага распавядзе. Камендант пасёлка зацягваецца цыгарэтай, нахіляецца да вакна, выглядаючы — колькі градусаў на тэрмометры.

— О… ачко дадалося. Ужо сорак два.

— А чаму яны іх адразу не прыкончылі? — гарбата апальвае нёба, і я з шумам хапаю паветра. — Навошта перціся на лыжах немаведама куды?

— Чакалі прыдатнага моманту.

— Якога моманту? — Мішка Шошын пачынае мераць вагончык нервовым крокам: чатыры крокі ў адзін бок, столькі ж у адваротны.

— Чакалі, калі студэнты заедуць у такія нетры, дзе іх не хутка знойдуць. Таму і ехалі следам.

— А калі б іх знайшлі на наступны дзень… што б змянілася? — дэфектаскапіст заўсёды ўраўнаважаны, а тут нават голас здрыгануўся ад хвалявання.

Гофман няспешна, выдыхаючы рэшткі дыму, здушвае ў бляшанцы недапалак.

— Працавалі прафесіяналы, якія ўсё прадугледзелі. Калі б студэнтаў знайшлі на наступны дзень, засталіся б сляды, якія вывелі на злачынцаў. А так за тры тыдні ўсё снегам занесла. І сляды, і забітых студэнтаў, і іхны намёт.

Шошын спыняецца пасярод пакою, чыркае запалкай, задуменна глядзіць на столь, і вогнік жоўтай плямай варушыцца на глюгастым носе.

— Значыць, так… сярод ночы хтосьці пастукаў лыжнай палкай па брызенце…

— Хутчэй, руляй карабіна — удакладняе Гофман.

— Хай будзе па-твойму… руляй карабіна. Студэнты бачаць людзей ля ўваходу, і тыя, якія ляжаць у канцы намёту, рэжуць брызент, намагаючыся ўцячы…

— Ну як ты ўцячэш, — перабівае Камандантэ, — намёт жа не кіламетровай даўжыні. Хутчэй за ўсё разанулі самі забойцы. Адагналі студэнтаў і назад пайшлі. Адзін грэўся ў намёце, — там жа, відаць, печка была, — другі адсочваў сі-

туацыю. Праз пару гадзін праверылі «пацыентаў». Тым, хто варушыўся, пад дых далі. Потым зноў да намёту вярнуліся, паспалі да раніцы і, перад тым, як задаць лататы, паласнулі нажом па брызенту. На выпадак, калі нейкі напаўжывы небарака прыпаўзе.

Я ўжо год жыву на Поўначы і за гэты час чуў шмат розных легенд і плётак. І ні адна не ўразіла. Тут жа, слухаючы аповед пра свярдлоўскіх студэнтаў, баюся нават дыхаць, і, расшпільваючы верхні гузік кашулі, задаю пытанне, якое спее на канцы языка:

— А чаму іх забілі?

У вагончыку робіцца ціха і я чую біццё ўласнага сэрца.

— Ёсць розныя версіі, — перарывае наструненую цішыню Камандантэ. — Мая такая: нехта з іх, пад час паходу, уведаў нейкую тайну ці нейкі надзвычайны сакрэт.

— Якія ваенныя тайны могуць быць у тайзе? — хмыкае Шошын. Мішка стаміўся сноўдаць па вагончыку і плюхаецца на ложак.

— А чаму тайна можа быць толькі ваенная, — азываецца Латыш. Ён адсоўвае карты ўбок, ставіць на валізу конаўку з гарбатай. — У тых мясцінах была скразная зона. Вось мой цесць распавядаў, што адзін начальнік лагеру абклаў тамтэйшых тубыльцаў — хантаў, ці мансі, чорт іх ведае, хто там па тайзе блукаў, — ясаком. Мусілі здаваць вавёрчыны шкуркі. А за гэта пляшку гарэлкі атрымлівалі. Праўда, гэта адразу па вайне было. Але ж пушная мафія, думаю, і сёння жывая. Так што да Іўдзеля цягніком даехалі, а далей на лыжы сталі. Пакуль ехалі, у лагерных пасёлках спыняліся, на стойбішчах… Ну і пачулі нешта такое.

— А як мафіёзнікі даведаліся пра ўцечку інфармацыі? — дэфектаскапіст ізноў падхопліваецца на ногі.

— Ды неяк даведаліся. І следам двух ці трох увішных лыжнікаў паслалі, — паведамляе, перабіраючы пальцамі гарачую конаўку, сувязіст. — Хаця маглі б проста настрашыць.

— Настрашыш іх. Хлопцы маладыя, гарачыя. Раззванілі б па Свярдлоўску, — азываецца, сёрбнуўшы гарбаты, камендант.

Прыйшла мая чарга падхапіцца на ногі.

— Дык следства ж, відаць, праводзілі. Няўжо нічога не высветлілі? — пытаюся ў Гофмана з інтанацыяй абурэння.

— Ну праводзілі… ну прыехалі следчыя, сталі народ распытваць. Ды хто што скажа. На зонах закон — тайга, а мядзведзь — пракурор. Я наогул думаю, што «следакам» з Масквы пазванілі, каб тыя глыбока не капалі, а збіралі мэтлахі і дахаты выпраўляліся.

— А чаму з Масквы?

— Дык а дзе па-твойму верхаводы мафіі сядзелі? У Іўдзелі?

Разам змаўкаем, і Мішка спрабуе адчыніць фортку, бо ў вагончыку не прадыхнуць ад цяжкога тытунёвага дыму. Тая, аднак, намёртва прымерзла. Уздыхнуўшы, Мішка дастае з-пад ложку манціроўку і з яе дапамогай адчыняе фортку. Марозная пара ўрываецца ў вузкую пройму, у твары б’е пякучы холад, і мы гамузам гарлаем: «Зачыняй!»

— Можа, пульку распішам? — пытаецца Латыш, аднак браць у рукі карты няма ніякай ахвоты, і я надзяваю бушлат.

Стылае, працятае пахам машыннай алівы паветра перацінае дыханне. Дыхаць цяжка не толькі з-за марозу, але і з-за выхлапных газаў. Вакол стаяць машыны, якія не глушаць на ноч, і яны малоцяць змучанымі рухавікамі, смуродлівай аблачынай накрываючы пасёлак. Пад нагамі аглушальна рыпіць снег, а ў вышыні гараць пералівістым вясёлкавым святлом калючыя зоркі.

Апрануўся лёгка і пакуль дабег да свайго вагончыка, дарэшты скарчанеў. Ключ не лезе ў шчыліну, і даводзіцца чыркаць запалкай ды разаграваць замок.

Я займаю палову вагончыка. У другой палове жыве той самы начальнік участка Галадзец. Ён мае кватэру ў Наябрску і на выхадныя з’язджае да хаты. У маім катуху цёпла і душна. Насупраць вакна стаіць кацельня, якая халоднай парой працуе на ўсе застаўкі. Надоечы павесіў на батарэю кашулю прасушыць, дык яна ад гарачыні брунатнай стала. Траха не загарэлася.

Не запаляючы святла, распранаюся, плюхаюся на ложак, падбіўшы пад патыліцу падушку са струхлелым пер'ем. Пер'е тое даецца ў знакі. Кожнай раніцы вычэсваю з чупрыны.

Гісторыя пагібелі студэнтаў зачапіла не на жарты. Я нават уявіў прыцемны дзень, густую замятуху і цуг лыжнікаў. Колькі іх, нават не магу пералічыць, бо тыя, якія ідуць наперадзе, губляюцца ў снежнай смузе. Апошняй брыдзе, з цяжкасцю налягаючы на лыжныя палкі, дзяўчына ў гаматнай штармоўцы. Яна крыху адстала і ўвесь час азіраецца. Адчувае: нехта шыбуе следам. За спінай віруе завіруха, і лыжны след адразу ж зліваецца з белым мроівам. Дзяўчына трасе галавой, адганяючы дзіўнае насланнё, але яно не мінае. Студэнтка не слыхам, а сэрцам чуе, як ззаду шорхаюць па снезе лыжныя палкі ды ляпаюць канцы лыж. І ўжо ноччу, лежачы ў намёце, дзяўчына доўга не можа сагрэцца, і ёй здаецца, што нехта ходзіць непадалёку. Яна тыцкае ў бок хлопца, які спіць поруч: «Чуеш? Нехта ходзіць ля ўваходу!» Хлопец прыўзнімае галаў. «Спі, гэта вецер», — мармыча прыспаным голасам. Вецер усхадзіўся не на жарты. З панылай жарсцю гудзе, шпурляе снежныя крупы ў напяты брызент, варушыць зашпілены на вялікія гузікі ўваход. Ствараецца ўражанне, што хтосьці цішком, пад гуд ветру, торкаецца ў намёт. Дзяўчына хвіліну ляжыць, а пачуўшы рыпенне снегу, перапаўзае праз хлопца, мацае рукой, шукаючы ў цемры ліхтарык, які звычайна кладуць ля ўваходу. Кола знобкага святла слізгае па снезе, натыкаецца на шэры вайсковы кажух, перакрэслены чорным ценем карабіна… Я адчуваю, што мне не хапае паветра, і падхопліваюся з ложку. У вагончыку пануе задуха. На дыбачках, бо падлога страшэнна халодная, падбягаю да дзвярэй і ўпускаю свежага, прыпраўленага куслівым сібірскім марозам паветра.

# ЧУЖЫ ТВАР

На дварэ панаваў красавік, самы яго пачатак. Снег кагадзе сышоў, пазначыўшы ходнікі зыркімі люстрамі лужын. У лужынах мыліся і адчайдушна цвыркалі вераб'і, на пачарнелых шкілетах дрэваў, якія стаялі ўздоўж вуліцы, гракалі вароны, падставіўшы пукатыя грудзіны зыркаму сонцу, і грай гэты сведчыў аб набліжэнні сапраўднай вясны.

Сцяпан Галабародзька міжволі прыслухаўся да бязладнага вераб'інага цвыркання і, азірнуўшыся, узбег па сходах. Дзверы з адчайным рыпам падаліся, і ў нос патыхнула кіслым пахам падлівы. Сцяпан скрывіў гімору, пастаяў крыху, звыкаючыся з агідным духам, і пайшоў мыць рукі.

Сталоўка, куды лагодным красавіцкім днём завітаў наш герой, была самай таннай у акрузе. У ёй звычайна абедалі студэнты, рабацягі трамвайнага дэпо, якое месцілася непадалёку, і небаракі-пенсіянеры. Збіраліся тут і апівуды, бо на касе прадавалі піва. Сядзелі яны ў дальнім куце, і касірцы даводзілася раз за разам сунімаць наведнікаў пагрозлівай фразай: «Зараз міліцыю паклічу!» Не дзіва, што герой азіраўся, узбягаючы па сходах. Сорамна ўсё ж вядомаму пісьменніку сілкавацца ў прасмярдзелай кіслай падлівай ядальні, якую мясцовыя жыхары называлі «мардоўняй». Варта, аднак, адцеміць, што Галабародзька быў вядомым пісьменнікам за даўнім часам. Цяпер жа ніхто і не згадваў ягоных празаічных зборнікаў і двух раманаў, якія калісьці з цяжкасцю напісаў і з яшчэ большай цяжкасцю выдаў.

Прысеўшы за вольны стол, пісьменнік агораў талерку гарохаўкі, падхапіў відэлец, збіраючыся распалавініць секунец,

і замёр. Ля касы стаяў, трасучы рэдкай бародкай, калега — паэт Мішка Жабаедаў. Паэт праз тую бародку атрымаў мянушку Хошымін, але пагаліцца рашуча адмаўляўся.

«Прыгнаў нячысцік», — падумаў Сцяпан, увагнаўшы галаву ў плечы. Кволілася надзея, што Мішка яго не заўважыць і сядзе дзе-небудзь здалёк, але паэт, уквеціўшы твар блазнаватай усмешкай, ужо ішоў да ягонага стала.

— Сцёпа, і ты тут?! — гучна выдыхнуў паэт, і празаік яшчэ больш сцяўся. — Ці не з жонкай развёўся? — калега-літаратар сеў поруч.

— Да сястры паехала, — няўцямна, пхнуўшы ў рот кавалак секунца, прагугніў Сцяпан, і ў сваю чаргу запытаўся: — А сам чаго па сталоўках швэндаешся?

Хошымін адказаў не адразу. Пастукаў лыжкай па стале, куснуў акраец чэрствай скібкі, нарэшце прамармытаў:

— Мая ў Трускавец падалася. На апошнія грошы.

Колькі часу елі моўчкі, утаропіўшы буркалы ў талеркі.

Жонка ў Жабаедава была зграбнай, прыгожай, насіла даволі рэдкае імя Антаніда і мела рэпутацыю непрыступнай жанчыны. Сцяпану яна здавён падабалася. Калісьці нават чыніў залёты, і ў выніку паскакаў ад той Антаніды кульгавым драздом.

— Марушка прыйшла! — закрычалі тым часам на раздатачнай, і да суседняга стала, вінавата лыпнуўшы вачанятамі, прымасцілася прыгорбленая бабуля. Неўзабаве да яе падышла касірка, паставіла перад порхаўкай талерку малочнага супу.

— Сорак гадоў на кухні адпрацавала. Прыходзіць калінікалі. Супам пакормім, — паведаміла, ні да каго не звяртаючыся, касірка. — Пенсія маленькая, і тую сын-п’янтос адбірае.

Порхаўка, няйначай, была глухаватай, бо жанчына прамаўляла занадта голасна.

— Дажыліся людзі да пустога канца, — паэт боўтнуў лыжкай у талерцы, ледзь чутна спытаў: — Што-небудзь пішаш?

Празаік насупіў бровы. Ён і ў лепшыя часіны, калі давалі ганарары, пісаў з натугай. Колькі ні сядзеў за сваёй раздзяў-

банай «Эрыкай», а больш старонкі ў дзень нашкрамболіць не даваў рады. І заўсёды з зайздрасцю пазіраў на калег, якія ў дзень выдавалі па дзесяць, а то і болей старонак. З кожным годам Сцяпан пісаў усё менш і менш, і ўрэшце, пару гадоў таму, задаў сабе пытанне: «А на якую халеру пішу?» — пасля чаго закінуў літаратурную творчасць. Прозвішча ягонае, праўда, зрэдзьчасу пракідвалася ў літаратуразнаўчых артыкулах, а аднойчы, ідучы па горадзе, Сцяпан пачуў здушаны шэпт: «Пісьменнік», — і такі ж здушаны смех за спінай. У вачах навачаснага пакалення пісьменнікі былі чымсьці накшталт блазнаў. І калі нехта пытаўся: ці не той ён Галабародзька, творы якога некалі вывучалі ў школе, літаратурны расстрыга крывіўся, усім сваім выглядам паказваючы, што занятак прыгожым пісьменствам быў памылкай маладосці.

— Пішаш? — удругарадзь запытаўся суразмоўнік, і Сцяпан, ачуўшыся, адмоўна страсянуў чупрынай.

— Я таксама завязаў, — паэт з утрапеннем зірнуў на шклянку з кампотам. — А для каго пісаць? Для іх?! — Жабаедаў гнеўна-ўзрушанымі вачыма агледзеў сталоўку.

Пакуль літаратары елі, народу прыбавілася, а ў дальнім канцы хтосьці парываўся зацягнуць песню з рэпертуару Піліпа Кіркорава.

— Ёсць каму і без мяне пісаць, — Сцяпан сёрбнуў кіслага на смак кампоту. — Вунь, у вашым хаўрусе, аж шэсцьсот штыхоў. Цэлы полк. І дзе столькі набралі?

Мішка Жабаедаў працаваў у рэдакцыі газеты і вымушаны быў уступіць у афіцыйны пісьменніцкі звяз.

— Ды дзе… — Мішка спахмурнеў, глянуў гэтым разам на порхаўку, прычым з такім абурэннем, што тая застыла з лыжкаю ў зубах. — Запісалі туды бібліятэкарак, загадчыкаў аддзелаў культуры, графаманаў з рэгіёнаў, гуманітарыяў акандыдачаных…

Глухаватая бабуля ікнула, падвяла вочы, паволі апусціла галаву ў талерку з недаедзеным супам. Вакол зашумелі, касірка падбегла да самлелай гаротніцы і вывела старую на свежае паветра.

— Можна да вас прычаліць? — пляшывы, з тыднёвымі «ліхтарамі» пад вачыма, тыпус, трымаў тацу з талеркай малочнага супу. На другую страву грошай, відаць, не хапіла.

— Ваш брат вунь дзе сядзіць, — Жабаедаў паказаў бародкай у дальні канец сталоўкі.

— Дык там усё занятае, — пляшак паставіў тацу на стол, з насцярогай, як тая порхаўка, сеў на край крэсла.

— Кажаш, завязаў, а сам зборнік выдаў, — незадаволена прабурчаў Сцяпан праз хвіліну. Празаік змучыўся чакаць, калі калега дап'е свой кампот. А той усё цадзіў і цадзіў, не адрываючыся ад шклянкі і звёўшы вочы да пераносся.

— Дык вершы немаведама калі напісаныя. І выдаў за свае кроўныя. Нават у цешчы грошы пазычыў. Не тое, што гэтыя, — паэт тарпануў бародкай у бок апівуд. — Зайшоў днямі ў кнігарню… во такія таміны выдаюць, — Жабаедаў расчаперыў пальцы, дэманструючы таўшчыню тамін. — І ўсё за дзяржаўны кошт.

— Вы пісьменнікі? — пацікавіўся пляшак, але творцы на яго нат не зірнулі. — Мы калісьці аднаму пісьменніку лецішча рамантавалі. Той таксама ўвесь час на калег лаяўся.

— А хто такі? Як прозвішча? — Сцяпан падхапіў тацу з посудам, збіраючыся ўстаць.

— Прозвішча не памятаю. Лысы, як я, і нос бульбінай.

— У нас, у літаратараў, амаль усе лысыя, — рагатнуў Жабаедаў, прылашчыўшы плех. Хацеў нешта сказаць, але тут — рашуча, з нервовай інтанацыяй, — загаварыў Сцяпан:

— Добра табе… на працу ходзіш… зборнікі выдаеш. А ты на маю пенсію пражыві. Кампутар не магу набыць, — празаік з намогай падняўся на ногі.

— Знайшоў каму зайздросціць. Убіся ў маю шкуру ды пасядзі дзянёк у рэдакцыі. Вомігам аблысееш. Учора ледзь стрымаўся, каб не агрэць рэдактара дзіраколам. Уяўляеш, выклікае ў кабінет…

— Хочаце ў чужую шкуру ўлезці? Гэта можна, — перабіў Жабаедава сусед па стале.

— Як гэта? — ускінуў брыво паэт. Ён гэтаксама падымаўся на ногі, але прысеў на хісткае сталоўскае крэсла.

— А так… памяняецеся шкурамі, дакладней, тварамі, і высветліце — каму жыць лягчэй.

— Чуеш, Сцёпа? Вось табе і сюжэт. Уяўляеш, які вэрхал пачнецца, калі людзі тварамі абмяняюцца?

За сваё жыццё Сцяпан Галабародзька чуў шмат рознай лухты, але такога чуць не даводзілася.

— І доўга будзем з чужымі пысамі хадзіць? — запытаўся, расцягваючы зыкі.

— Думаю, дні тры-чатыры, — сусед даеў суп і, узняўшы талерку, выліў рэшткі сабе ў рот.

Творцы мелькам пераглянуліся, Хошымін з вясёлым дакорам кракнуў, пабег да касы і вярнуўся з трыма пляшкамі «Аліварыі».

Піва ўдарыла ў нос п'янлівым духам, і ў Сцяпана закружылася галава. «Сапраўды ніштаваты сюжэт. Такога, здаецца, у сусветнай літаратуры не было», — Сцяпану заманулася зараз жа пабегчы да дому, выцягнуць з антрэсоляў друкарку, заправіць у яе чысты аркуш. Ён нават пацёр далоні, утаймоўваючы прызабытае ўжо творчае натхненне.

— Ну а як гэта будзе тэхналагічна выглядаць? — з блазенскай усмешкай пацікавіўся Жабаедаў. — Хірургічным чынам будуць мардасіны мяняць, ці як?

— Не хвалюйцеся, усё надарыцца натуральным чынам. У сне. Будзеце спаць, а рысы вашых твараў пачнуць паволі мяняцца. Перш-наперш знікне бародка, — сусед кіўнуў на Жабаедава, і той міжвольным рухам крануўся падбароддзя. — А ў вас пачне адрастаць, — пляшак скасіўся на Галабародзьку. «Толькі казлінай барады мне і не хапала», — падумаў празаік, адрыгнуўшы піўным духам.

Жабаедаў са смяшком на вуснах напоўніў півам пластыкавы кубак.

— Выходзіць, калі мы са Сцёпкам сёння не заснем, дык ніякага ператварэння не адбудзецца?

— Нават калі адзін з вас не засне — нічога не адбудзецца, — пляшак схапіў бутэльчыну, дапіў піва з рыльца.

— Чуеш, Сцёпа? Спім сёння, як венікі прадаўшы, — пажартаваў Хошымін. — А галасы нашы зменяцца, ці будзем сваімі гаварыць?

— Вось заўтра прачнецеся — і аб усім даведаецеся, — суразмоўца зыркнуў у бок касы.

Паэт адкінуўся на прыслон крэсла, сплёў пальцы на карку.

— Ну абудзіліся раніцою, зірнулі ў люстэрка. Сцёпка ўбачыць мяне, я Сцёпку… і што нам параіш рабіць? — у голасе паэтавым не чулася ранейшай іроніі.

— Адранку сустрэнецеся, памяняецеся вопраткай…

— Добра, што поруч жонак не будзе, — падаў голас Галабародзька, — а то прачнуліся б кабеты з чужымі мужыкамі ў абдымку. А што яшчэ параіш зрабіць перад зменай аблічча?

Суразмоўца зноў зыркнуў у бок касы.

— Параіў бы ўзяць пару пляшак.

І літаратары, пераглянуўшыся, палезлі ў кішэні па грошы.

Ноччу Сцяпан ляжаў, закінуўшы рукі за патыліцу, і зацята ўглядаўся ў цёмную столь. Ад выпітага піва злёгку нудзіла, а ў нетрах страўніка нараджалася пякотка — праява застарэлага гастрыту. Але не гастрыт быў прычынай бессані. Балачкі лысага п'янтоса не на жарты ўсхвалявалі. Вось бы напісаць апавяданне, а можа і цэлую аповесць пра ўсе тыя жарсці! Ужо і назву прыдумаў: «Чужы твар». Але мусіў ад яе адмовіцца. Не надта арыгінальная. У Абэ Коба такі раман ёсць. А нядаўна з такой назвай серыял круцілі. Жонка глядзела, разявіўшы рот, бо ў фільме здымаўся ўлюбёны актор. Дымагарны, ці як яго там…

З чаго пачаць твор? Відаць, з таго, што на двары панаваў красавік і ў лужах адчайдушна цвыркалі вераб'і. Герой аповеду будзе ісці па вуліцы, прагавіта ўдыхаць пах таполевых пупышак, і сэрца ягонае парывіста заб'ецца ў прадчуванні нечага надзвычайнага. Потым герой зойдзе ў рэстарацыю з італійскай кухняй, замовіць пляшку ружовага «Argiolas» (бачыў тое віно на рэкламным праспекце), сядзе ў куце і будзе летуценна смактаць даўкае, з выразнымі фруктовымі ноткамі віно ды ўдыхаць пах ружаў гатунку дэ Рансар, якія будуць стаяць на стале. Малады кельнер пстрыкне запальнічкай, герой прыпаліць «Black&Gold» з залатым фільтрам і ў клубе

шызага дыму ўбачыць Мішку Жабаедава. Прозвішча, вядома, давядзецца змяніць. А што потым? Потым у рэстаране з'явіцца… Хто ж там з'явіцца? Не сталоўскі ж алканаўт. Ды не. Гэта будзе высокая, падобная на жабаедаўскую жонку, кабета ў чорным капелюшы. Яна і раскажа пра тыя дзіўныя ператварэнні. А можа адкінуць недарэчны гламур і напісаць так, як яно было на яве? Згадаць кухонны смурод, старую порхаўку, таго самага лысага алканаўта… Сцяпан крутнуўся на правы бок, заплюшчыў вочы, і ўваччу паўстала карціна: абмяняўшыся тварамі, яны з Жабаедавым стаяць у скверы насупраць сталоўкі і мяняюцца штанамі. Пранізлівы вясновы вецер працінае навылёт, і сіняя Мішкава лытка прыкметна дрыжыць ад холаду. Пузень у Хошыміна як у бегемота, таму даводзіцца прытрымліваць чужыя штаны абедзвюма рукамі. І вось так, трымаючы неабсяжныя порткі, ён ідзе ў рэдакцыю Мішкавай газеты, адчыняе нагой кабінет галоўнага рэдактара, хапае са стала важкі дзіракол. «Чаму без стуку?» — пытаецца рэдактар. «Прынёс матэрыял на першую паласу». «Нумар ужо вярстаецца». «Спыніце вёрстку». «А пра што матэрыял?» «Пра тое, як са стапеля Балтыйскага заводу імя Сярго Арджанікідзе сышоў атамны дзіракол «Ленін»!» Пры слове «Ленін» ён б'е дзіраколам рэдактара па галаве, штаны спаўзаюць долу і за спінай улякнута гойкае сакратарка — ці то ад таго, што шэф ляжыць пад сталом, ці то з тае нагоды, што супрацоўнік рэдакцыі стаіць без портак. Сцяпан павярнуўся на спіну. І прымроіцца ж такая чмура. Паправіўшы падушку, бяссоннік зноў углядаецца ў столь. А сапраўды, калі б такое надарылася, і ён, Сцяпан, паўстаў у Жабаедаўскім аблічча. Што б перш-наперш зрабіў? Вядома, што… падкаціўся да Антаніды. Цяпер ужо на правах законнага мужа. Ды як падкоцішся, калі ягоная сімпатыя з'ехала ў Трускавец. Прыгадаўся даўні, поўны камароў і шашлычнага дыму вечар у Доме творчасці. Пісьменніцкая сябрына адзначала на беразе ракі юбілей аднаго з класікаў прыгожага пісьменства. Бяседны стол, як заўжды, ладзілі на даўжэзным цыратавым абрусе, і атрымалася так, што яны прыселі на дубовы корч разам з Антанідай. Мужа якраз не было — паехаў з дэлега-

цыяй ва Украіну, — і Сцяпану сам лёс наканаваў падкаціцца да кабеты. Пагатоў яе крамянае сцягно пругка краналася локця. Яны адышлі ўбок папаліць, і апанаваны гарачлівым юрам Сцяпан абхапіў рукой спакуслівыя сцёгны. Кабета, аднак, ухілілася ад пацалунку і пагардліва выдыхнула: «Ніколі гэтага не рабіце!» Пякучая крыўда ахапіла тады Сцяпана. Бедалака пайшоў да бяседнага абруса, выпіў нагбом шклянку гарэлкі, а калі, праз паўгадзіны, выпадкова ўгледзеў, як недатыка цалуецца ў кустах з вядомым бабздыром, нарысістам Маскалёнкам, кульнуў пад бурныя воплескі прысутных яшчэ шклянку і ўбіўся галавой у расяны мурог. Пасля той п'янкі Сцяпана і пачаў даймаць гастрыт. Дзіўна, але рысы твару Антаніды дарэшты выпетрыліся з памяці, і калі высілкам волі паспрабаваў іх згадаць, дык убачыў пляму, якая з кожным імгненнем набывала рэзкасць, і з нетраў свядомасці выплыла азызлая пыса апівуды. Пазначаныя зялёнымі «ліхтарамі» вочы свяціліся злавесным агнём, а на бяскроўных, цёмна-ліловага колеру вуснах, ліпела падступная ухмылка. «Хочаце чужы твар займець? Гэта можна». Страшная здагадка перахапіла дыханне, напяла скуру на лабаціне. Там, у «мардоўні», з ім гаманіў Воланд! І на раніцу, зірнуўшы ў люстра, ён пабачыць не сваю фізіяномію, а казліную пысу Жабаедава! Уражаны, прыўзняўся на локці, пацёр падбародак ды тут жа адагнаў бязглуздыя думкі. Сталоўскі апівуда, ясны перац, вёрз лухту, але, пазіраючы на ўтвораны не зацягнутымі шторамі прастакутнік вакна, вырашыў на ўсякі выпадак не спаць. У цёмным прастакутніку гарэла самотная зорка. Нечакана яна задрыжэла, стала размытай, і гарачая далонь змахнула з вачэй няпрошаную слязіну. Бяссоннік убачыў раптам сябе самога, але на трыццаць гадоў маладзейшага. Седзячы ў паўзмроку «маласямейнай» кухні і паклаўшы на засланы газецінай стол агульны сшытак, ён пісаў сваё першае апавяданне. Пісаў прагна, натхнёна, штораз абломваючы грыфель алоўка. «Кінь дурное, — хацеў крыкнуць сабе самому, — твая пісаніна нікому не патрэбная! Ты скончыш жыццё, як тая порхаўка, — увагнаўшы нос у дабрачынную

сёрбанку». Аднак, не крыкнуў, а толькі ўголас загадаў ужо сабе сённяшняму: «Не спі, не спі, браток».

Раніца выдалася пагоднай, і ў пакой урываліся сонечныя промні. Сцяпан з цяжкасцю раздзёр павекі, задаволена, да храбусцення ў костках, пацягнуўся, але тут жа вылез з-пад коўдры і пабег на нягнуткіх нагах да люстра. Перавёўшы дых, выціснуў прышч на носе і рушыў у прыбіральню, гучна пляскаючы па падлозе босымі нагамі.

# МАРСКАЯ ДУША

Падхоплены гаманкім натоўпам, Юрка рушыў па платформе. Пасля вагоннай задухі людзі цяжка дыхалі, зморана аддзімаліся, хтосьці керхаў над самым ягоным вухам і ціха мацюкаўся. Усё пнуліся хутчэй вырвацца на прастор, а таму шыбавалі шырокім крокам, кранаючыся плечукамі і стукаючы мыскамі чаравікаў па пятках папярэднікам. Юрку наогул наступілі на пятку, але ён нават не азірнуўся. У вакзальных дзвярах утварыўся невялікі затор, Юрка налёг грудзінай на спіну мажной цётухны і, амаль не кранаючыся нагамі парога, заехаў у вакзал. Ля выхадных дзвярэй таксама была штурханіна, і ўжо Юрку давялося везці некага на сваім гарбу.

Калі ехаў у цягніку, ліў нясхлынны дождж, цяпер жа з-за хмар выслізнула сонца і, адбіўшыся ў лужах, сляпіла вочы. Юрка паставіў між ног цяжкую сумку, прылашчыў бараду, з задавальненнем прыпаліў цыгарэту і, задзёршы галаў, пусціў напорлівы струмок насустрач сонцу. Нехта кранууся локця. Так звычайна просяць агеньчыку, і ён прыўзняў цыгарэту. Чалавек, які прасіў прыпаліць, спяшаўся на цягнік, нецярпліва дрыгаў рукой, але надарылася неспадзеўка: з гзымсу вакзала, пад якім цвыркалі вераб'і, сарвалася кропля і патрапіла на распалены канец цыгарэты. Юрка ляпнуў далонню па сцягне, шукаючы запальнічку, і застыў, як саляны слуп. Пшанічныя, злёгку пракураныя вусы; спалавелыя валасы, што спадалі на высокі лоб; віхлявы позірк вішнёвых вачэй з-пад густых броваў.

— Лёша?! Пупсік?! — вырвалася з грудзіны.

Той, каго назвалі Пупсікам, адхінуўся, выхапіў з роту цыгарэту.

— Семінар маладых літаратараў, — выдаў Юрка, заўважыўшы недавер у вішнёвых вачах.

Твар Пупсіка вомігам прасвятлеў і стары знаёмца, усё яшчэ з недаверам, працягнуў руку. Рука ягоная была прыемнай навобмацак — сухой і халаднаватай.

— Праз бараду не пазнаў. Колькі мы не бачыліся?

— На цягнік спяшаешся? — спытаў Юрка, у думках падлічваючы гады.

— Так… праз дзесяць хвілін выпраўляецца, — падаў голас Пупсік. Хаця ў кутках вуснаў і кволілася вінаватая ўсмешка, калега, выглядала, быў не надта задаволены сустрэчай.

Адчуўшы такі настрой, Юрка вытрымаў паўзу.

— А як у нашых краях апынуўся? У камандзіроўку прыехаў?

— У камандзіроўку, — Лёшка мелькам азірнуўся.

Размова не клеілася.

— А я ад цешчы еду, — Юрка торкнуў нагой сумку і змяніў тэму: — Штосьці пра цябе нічога не чутна. Завязаў, відаць, з вершамі?

— Завязаў, — выдыхнуў дымную аблачыну Пупсік і закашляўся.

— За дзесяць хвілін не пагамоніш, — Юрка зыркнуў на гадзіннік і нечакана акрыяў голасам: — А ты вельмі спяшаешся? А то б пайшлі да мяне. Пасядзелі. Якраз пайшоў адпачынак, і жонкі няма — сядзіць у цешчы.

Хвілю Пупсік разважаў над такой прапановай, пыхнуў цыгарэтай і на знак згоды ляпнуў калегу па плячы.

Апошнім часам ён часцяком згадваў маладосць: пра тое, як сядзеў начамі ў кухні, пад кволай, заседжанай мухамі лямпачкай, і пісаў свае першыя апавяданні. Душа тады поўнілася творчым натхненнем, і адзінае, што дакучала, гэта маці, якая раз-пораз заходзіла ў кухню і парывалася выключыць святло, ды тлустыя плямы, якія праступалі на паперы, бо пісаць даводзілася на кухонным стале. Там, у цеснай кухні,

Юрка уяўляў сябе сапраўдным пісьменнікам. Нічога ягонага дагэтуль не было надрукавана, але два невялічкіх апавяданні ўжо ляжалі ў рэдакцыі літаратурнага часопіса. А неяк пад Новы год прыйшоў ліст з пісьменніцкага звязу. Яго запрашалі ўзяць удзел у семінары маладых літаратараў. Ці трэба казаць, з якім душэўным трымценнем рыхтаваўся ён да той паездкі. На згаданым семінары маладых творца і пазнаёміўся з Лёшкам Пупсікам. Лёшка хоць быў пачаткоўцам, але ўжо меў на сваім творчым рахунку часопісную падборку, а адзін верш, пад назваю «Заштарміла» нават пераклалі на расейскую мову і выдалі ў маскоўскім паэтычным альманаху. Семінар ладзілі ў драўлянай, немаведама калі рубленай двухпавярховай будыніне, якая звонку нагадвала адрыну. Семінарыстаў пасялілі ў трох вялікіх пакоях, а ім з Пупсікам далі асобны пакой на другім паверсе. У першыя дзве ночы яны амаль не спалі. Гаманілі пра ўсё на свеце, распавядалі адно другому розныя жыццёвыя хохмы і чыталі ўслых свае творы. Зрэшты, Юрку чытаць асабліва не было што, а вось калега прывёз з дому таўсценны сшытак — з такімі завіхаюцца кладаўшчыкі, — і чытаў адтуль вершы, слінячы палец і з шумам перагортваючы старонкі. Вершы тыя здаваліся геніяльнымі і былі ў асноўным пра мора. Водная стыхія захапіла Лёшку, паводле ягоных слоў, яшчэ ў дзяцінстве, а скончыўшы восем класаў, ён паступіў у Рыжскую мараходку. Праўда, правучыўся толькі месяц. Дакладней, зусім і не вучыўся: іх, курсантаў, выправілі ў калгас нарыхтоўваць буракі, там пабіліся з мясцовымі латышамі, і Лёшку адлічылі з вучэльні. Пасля семінару яны цэлы год ліставаліся, дамаўляліся сустрэцца, ды так і не спаткаліся. А неўзабаве і кінулі ліставацца. Колькі часу прозвішча Лёшкі Пупсіка пракідвалася ў паэтычных калонках, а потым знікла без следу. І вось праз шмат гадоў калегі сустрэліся на вакзальным ганку і цяпер шыбавалі да бліжэйшага ўніверсаму.

«Пастарэў ты, Лёха», — Юрка скоса зіркнуў на калегу. Той і сапраўды пастарэў. Пукаты лабешнік прабаразнілі глыбокія маршчакі, скура на шыі абвісла, адно вочы па-ранейшаму свяціліся вішнёвым агнём. Юрка ўздыхнуў і памацаў сваю бараду, якая за апошні год прыкметна ссівела.

Ва ўніверсаме Юрка ўзяў з паліцы пляшку «Сапераві» — ён любіў грузінскае віно, — а калі падышоў да касы, вярнуўся і прыхапіў яшчэ адну. Бутэлькі пхнулі ў Пупсікаву сумку, якая вісела на плячы: Юрчына сумка была набітая капустай ды морквай.

— Ну а чаму пісаць кінуў? Ганарары скончыліся? — запытаўся, спрабуючы надаць голасу жартаўлівы тон, Юрка, выходзячы з універсаму.

— Не, Юрась, усё складаней, — такім жа жартаўлівым тонам адказаў калега, прыпальваючы цыгарэту (Юрась набыў яму запальнічку на касе). — Уяўляеш, раптам адчуў, што мне зусім не цікава — чытае мяне хто, ці не чытае, а па-другое, я ніколі не парываўся стаць першым сярод калегаў. А без здаровага славалюбства сапраўдным паэтам не станеш.

Юрась задумаўся над гэтымі словамі, ды так, што спатыкнуўся на роўным месцы. Надта ж мудрагеліста выказваўся калега.

— Можна падумаць, за савецкім часам камусьці з пісьменнікаў было цікава — чытаюць іх ці не. Кнігу выдаў, ганарар атрымаў, а наклад хоць у печ кідай, — Юрась перакінуў з левай рукі ў правую сумку з капустай.

— Савецкая літаратура спецыфічная. Там пісьменнікаў і паэтаў вызначалі ўлады. Яны ж прызначалі класікаў, — Пупсік знянацку прыклаў далонь да сэрца, як гэта робяць амерыканцы, калі спяваюць гімн, дастаў з нутраной кішэні «мабільнік» — мабільныя тэлефоны тады толькі ўваходзілі ва ўжытак, — прыціснуў да вуха.

— Я тут крыху затрымаюся, — Пупсік заклапочана зыркнуў на калегу.

Лёха адышоў метраў на дзесяць і некалькі разоў паўтарыў: «Гэта не тэлефонная размова». — Нарэшце, гукнуўшы: «Хутка буду ў вас», — адключыў «мабілу» і мацюкнуўся.

«Нейкай цёмнай справай займаецца», — мільганула ў Юрчынай галаве.

— А ў цябе ёсць «мабіла»? — Лёху, відаць, стала няёмка, што мусіў адысці ўбок.

— Даўно збіраюся набыць, ды ніяк не збяруся.

— Пазыч грошай, але набудзь. Карысная рэч. Ты, дарэчы, дзе працуеш?

У Юркі, як ад цытрыны, перакрывіўся твар. Ён чакаў такога пытання.

— Паперу марную.

— І дзе?

— У раённай газеце.

Калега іранічна ўсміхнуўся, і гэта не спадабалася Юрку. Ён ужо шкадаваў, што запрасіў Лёху да сябе.

— А ты чым на хлеб зарабляеш?

— Начным вартаўнікам уладкаваўся, — паведаміў Лёха, — а да таго два гады без працы гібеў.

«Вартаўнікі з «мабіламі» не ходзяць», — падумаў Юрка і зноў пашкадаваў, што звязаўся з былым калегам.

Пакуль гаспадар кватэры збіраў на стол, госць ўзяўся аглядаць кніжныя паліцы. Схіліўшы набок галаву, вадзіў пальцам па карэньчыках і, выгукнуўшы: «Ого!» — дастаў адну з кніг.

— Твая апошняя?

Гаспадар кіўнуў, шпокнуў вінным коркам.

— А грошы дзе ўзяў?

— Піўзавод дапамог. Жонка там галоўным бухгалтарам працуе.

Госць цмокнуў языком.

— Як думаеш — пісаў бы Чэхаў свае гумарэскі на безганарарнай аснове?

— Ты мяне з Чэхавым параўноўваеш? — гаспадар напоўніў келіхі.

Госць у адказ дакорліва хмыкнуў.

— Я цябе параўноўваю з зацятым ідэалістам.

Лёха падхапіў келіх і, прагна варушачы коўцікам, яго асушыў.

— Гэта для былых савецкіх паэтаў адсутнасць ганарараў — галоўная праблема літаратуры. Насамрэч праблема больш глыбінная, — госць разрэзаў напалам памідорыну. — Памятаеш, манголы пераляцелі з феадалізму ў сацыялізм.

Так і беларусы — пераляцелі масавым парадкам з калгасаў у свет «мабілаў» ды патрыманых іншамарак. Кніжкі як прадмет спажыву імі рашуча ігнаруюцца.

Юрка ўжо чуў такія размовы, таму вырашыў не распачынаць дыскусіі. Моўчкі напоўніў Лёхавы келіх, і яны чокнуліся.

— Адкажы мне на пытанне: дзеля чаго ты пішаш? — спытаў праз хвіліну госць, смачна чмякаючы жоўтай, густа пасыпанай соллю, памідорынай.

Гаспадар задуменна патузаў бараду.

— Нашы супараты думалі — варта пазбавіць літаратуру дзяржаўнай падтрымкі, і яна загавее душой. А вось жа не загавела…

— Ой, ну каму ты і што хочаш даказаць сваім энтуазізмам? — перабіў госць. — Машэраў хоць кніжкі чытаў, а гэтыя… — закарузлы палец тыцнуў угору, — зроду нічога не чыталі і іншым не раяць.

Хвілін праз дзесяць гаспадар адкаркаваў другую пляшку.

Лёха кульнуў чарговы келіх з усё той жа прагнасцю, і Юрка, пазіраючы на госця, бязгучна прашаптаў: «Апівуда».

— Ну а крытыкі штосьці пішуць? — Лёха пстрыкнуў пальцам па кнізе, якую кінуў быў на стол.

— А дзе ты бачыў крытыкаў? — гаспадар таксама куснуў памідорыну, але з агідаю на твары: аб'еўся імі ў цешчы.

— Ніводнага водгуку?

— Быў адзін, — празаік з цяжкасцю праглынуў едзіва. — Напісалі, што ў мяне падабенства сюжэтаў. І практычна адны і тыя ж героі.

— Не перажывай. У Рэмарка тая ж праблема, — язык у Лёшкі заплятаўся. — Неабходна шукаць новых герояў. Напішы ведаеш пра каго… — былы паэт у задуменні задзёр падбароддзе.

— Пра цябе?

— А хаця б і пра мяне, — пажвавеў госць. — І пачні з таго, як падшыванца Лёху захапіла мора, — госць разліў па келіхах рэшткі віна. — Уяві, у сёмым класе ведаў усе марскія тэрміны. Усе тыя бушпрыты ды брашпілі.

Юрка доўга слухаў бязладны аповед пра карабельны такелаж, урэшце, падняўся на ногі і кіўком галавы запрасіў госця выйсці на гаўбец папаліць.

Яны ўкінулі ў рот па цыгарэце, моўчкі налеглі на балконныя парэнчы. Хаця ліхтары не запалілі, наўкол панаваў прыцемак, і дахі навакольных будынін афарбавала трывожная палымніца.

Колькі часу маўчалі, і гаспадар, каб перарваць маўчанне, спытаў:

— Ну а як назваць?

— Каго?

— Апавяданне пра тваё дзяцінства.

— Назаві «Марская душа».

— Не арыгінальна, — зазначыў Юрка, — заезджаная назва.

Пупсік такой заўвагі як і не чуў. Смактануў цыгарэту, пусціў дым некуды ўбок.

— Ці не зазірнуць?

У тым баку, куды дзьмухнуў госць, зыркаў рознакаляровымі агнямі рэстаран, і Юрка зразумеў, што двума бутэлькамі «Саперaві» яму ад «марской душы» не адбіцца. Дапаліўшы цыгарэту, гаспадар пайшоў да кніжнай паліцы, выцягнуў дзясяты том збору твораў Дастаеўскага. Там была прыхаваная заначка.

Юрка ўжо і забыў, калі апошнім разам сядзеў у рэстарацыі. Таму ўваходзіў у залу няпэўным крокам, уабраўшы галаву ў плечы. Затое напарнік ішоў хадою рэстараннага заўсёдніка — няспешна і стомлена. Яны селі за вольны столік. Па дарозе ў рэстаран Пупсік апавядаў пра свае літаратурныя пачаткі, а плюхнуўшыся ў крэсла, працягнуў распавед.

— Паслаў я, карацей, невялічкую падборку, а з рэдакцыі ніякага адказу. Вырашыў сам туды з'ездзіць. Заходжу ў рэдакцыю, кажу: «Я вам творы надсылаў». Пацiснулі плячамі, пачалі шукаць. У іх нібыта ад цяжару паліца абрынула — рукапісы і пераблыталіся. Нарэшце, знайшлі. Тут жа, пры мне, прачыталі. «Ну-у, — чую, — што ты нам пра дзявяты вал напісаў. Трэба штосьці на вытворчую тэму. Скажам, пра

ліцейку, ці пра вогнедышную вагранку». Я тады і падумаў: ці можа псіхічна нармальны чалавек чытаць вершы на вытворчую тэматыку?

— Што будзем замаўляць? — перабіў наведніка падхорцісты кельнер з запісной кніжкай у руках.

Лёха адкінуўся на прыслон крэсла, загаварыў тонам сталічнага дэндзі:

— Так… нам бутэлечку армянскага каньяку… і цытрыну парэжце.

— Цукрам пасыпаць?

— Ні ў якім разе!

— Што будзем есці?

— Два салаты з крабамі… секунцы па-кіеўску…

— І на гэтым паставім кропку, — уставіў слова Юрка, намацаўшы ў правай кішэні заначку. Вартаўнік, відавочна, разжыўся на «бабкі», але калі глушыць армянскі каньяк — ніякіх грошай не хопіць.

Чарнявы, падобны на армяніна саксафаніст, зайграў нешта блюзавае, і міма іх століка прайшла ў суправаджэнні нізенькага, падобнага на грузіна, кавалера, кабеціна з велізарнымі, абцягнутымі бліскучым блузонам цыцкамі. Пупсік праводзіў кабету дапытлівым позіркам і нат прыўзняўся, каб лепей разглядзець жаночы азадак, які паволі віхляўся ў такт музыцы.

Прынеслі каньяк. Кельнер хацеў напоўніць кілішкі, але Пупсік адвёў ягоную руку і пляснуў «каніны» непасрэдна ў фужэры.

— Ну, — выдаў начны вартаўнік, — за твой літаратурны поспех!

Пупсік неадрыўна казеліў вочы на кабету. Яе кавалер быў на паўметра ніжэйшы, і танцаваў, убіўшы нос між важкіх цыцак.

Вартаўнік наліў з каптуром армянскага трунку, і калі кабета яму ўсміхнулася, прыўзняў фужэр. Маўляў, п'ю за вас, прыгажуня!

Пасля двух фужэраў у Юрчынай галаве бомкнулі званы, і саксафаніста, а разам з ім і ўсё навокал накрыў густы туман. Юрка пацёр далонямі глядзелкі, а калі зірнуў на свет, дык не

ўбачыў напарніка. Кагадзе сядзеў поруч, і раптам знік. Але праз імгненне ўзнік. На танцавальным майдане. І не адзін, а ў абдымку з кабетай у бліскучым блузоне. З-за вялізных цыцак Пупсік не даваў рады прыціснуцца да партнёркі, таму танчыў, сагнуўшыся як склюд, спрабуючы прыціснуцца ўлоннем да жаночага чэрава. Юрку ад агіды перасмыкнула. Нечакана танцоры паглядзелі ў ягоны бок і твары іхныя расплыліся ад усмешак.

«Пра мяне звягае, сволач», — нядобра падумаў Юрка, даядаючы секунец па-кіеўскі. Секунец раставаў у роце як марозіва.

Саксафон аціх, і танцоры падышлі да іх століка. Элегантна адсунуўшы крэсла, Юрка запрасіў кабету сесці.

— Пазнаёмся, Люся. Гэта той самы празаік, пра якога я казаў. І не толькі празаік, але і лепшы сябар.

Юрка на знак знаёмства кіўнуў.

Пупсік выпрастаў руку ў напрамку афіцыянта:

— Бутэльку ружовага шампану!

І калі афіцыянт падаўся выконваць замову, гракнуў услед:

— І абавязкова ў вядзерцы!

«За вядзерца, відаць, трэба плаціць», — Юрка чарговым разам памацаў тое месца ў штанах, дзе пукацілася заначка.

— Вось пабачыш, — звярнуўся Пупсік цяпер ужо да лепшага сябра, — не сёння, дык заўтра Люся пачне чытаць твае кнігі.

Зайграў саксафон і да іх падляцеў каўказскі недаростак.

— Можна вас, — каўказец запрашаў патэнцыйную чытачку на танец.

— Яна не танчыць, — сказаў, як адрэзаў, былы літаратар.

Каўказец штосьці сказаў па-свойму, падаўся да свайго стала, і Пупсік працягнуў даме руку, запрашаючы на танец.

З’явіўся афіцыянт з тым самым вядзерцам, з якога тырчала серабрыстая галоўка шампану.

— Адкаркаваць?

Наведнік баднуў галавой. Думаў, корак гучна шпокне, узляціць да столі, аднак афіцыянт адкаркаваў бутэльку бязгучна, паставіў на стол новыя, з залатым абадком, келіхі.

— Ну а што было потым? — спытала Люся, вяртаючыся да стала.

— Што — потым? — не зразумеў Пупсік.

— Ну, што вы рабілі, як зайшлі ў Кейптаўн?

— Люся, якія расказы, калі шампан награваецца, — Пупсік пацягнуўся да вядзерца.

Глынуўшы шампану, Пупсік з Люсяй зноў падаліся танчыць, а Юрка, падпёршы шчаку далонню, заплюшчыў павекі.

«У які гэта ён Кейптаўн заходзіў? Відаць, так рэстаран называецца?» — нарадзіліся ў глуздах асавелая думка. Сон і ява дарэшты пераблыталіся. Да вушэй даляталі ўсхліпы саксафона, Пупсікавы балачкі пра 10-бальны шторм у Біскайскай затоцы і пра тое, як набываў у мурынаў нейкіх экзатычных птушак. Неўзабаве ўсе гукі ператварыліся ў няўцямны шум, і хтосьці стукнуў яго па карку.

— Я Люсю крыху правяду, — выдыхнуў на вуха напарнік.

— Хутчэй вяртайся! — з інтанацыяй панікі крыкнуў Юрка.

Юрка салодка пазяхнуў, дапіў шампан з келіху, панурыўся ў дрымоту і абудзіўся ад штурхаля ў плячук.

— Гдэ он? — за спінай стаяў каўказец.

— Папаліць пайшоў, — паведаміў Юрка і сцяўся. Уявіў, як каўказец, з кінжалам у руцэ, кінецца на Пупсіка.

Каўказец вылаяўся па-свойму і, перакуліўшы па дарозе крэсла, рушыў да выхаду.

Прайшло паўгадзіны, гадзіна, а «лепшы сябар» ўсё не вяртаўся. Зразумеўшы, што яму давядзецца аднаму расплачвацца за багаты пачастунак, Юрка працверазеў, умольна зірнуў на афіцыянта, і той, па-свойму зразумеўшы такі зірк, прынёс лісток з рахункам.

Юрка паднёс да носу паперку і працверазеў канчаткова. Кінуўшы на стол заначку — грошай тых не хапала, — зняў выхадны пінжак. Хацеў пакінуць у якасці закладу. Маўляў, грошы зараз прынясу, бо жыву непадалёку. Аднак кельнер з такім варыянтам не пагадзіўся. Прапанаваў пайсці па грошы разам. Пагатоў, усе наведнікі ўжо расплаціліся.

На вуліцы народжаныя блядым святлом ліхтароў цені варушыліся пад нагамі, і яго злёгку хістала. Добра яшчэ, кель-

нер падтрымліваў за локаць. Невядома, праўда, з якой прычыны: каб даўжнік не збег, ці каб не грымнуўся на ходнік.

Ноччу доўга не мог заснуць. Крутнуўшыся на правы бок, бяссоннік уявіў рэакцыю жонкі, калі тая даведаецца, што муж прапіў палову адпускных; павярнуўшыся на левы бок, уявіў нерухомае цела Пупсіка ў лужыне крыві, а крутнуўшыся на спіну, даў зарок завязаць з літаратурнай творчасцю. Ад рэстаранных секунцоў апанавала пякотка. Да таго ж, ён скаланаўся ад кожнага зыку, якія далятаў знадворку. Чакаў Пупсіка. Але той не ішоў. Можа, яго і папраўдзе забілі? А можа завіхаўся з грудастай кабетай? Безліч разоў крутнуўшыся, Юрка вырашыў, што былы калега з'ехаў дахаты начным цягніком, а паглядзеўшы на Пупсікаву сумку, якая стаяла ў куце, у задуменні пацёр лабаціну. Не мог жа залётнік з'ехаць, пакінуўшы свае рэчы. Вочы зноў утаропіліся ў сумку. «А раптам у ёй наркотыкі!», — працяла свядомасць ліхаманкавая думка. Бяссоннік ускочыў на ногі, запаліў святло, дрогкімі пальцамі тузануў «маланку». У сумцы ляжалі электрабрытва «Харків» з трэснутым корпусам, бутэлька піва, звязаныя вузлом шкарпэткі і пацёханы нататнік. Юрка пазяхнуў у жменю і пайшоў на кухню выпіць вады з содай.

Пупсік з'явіўся на трэці дзень, ад самага ранку. Быў ён страшэнна стомлены, усё адно як пажаваны, з падбітым вокам і з саламянай пацярухай у валасах.

— Ранавата ты… Чакаў цябе на наступным тыдні, — жартам выгукнуў Юрка.

— Муж заявіўся, — каротка выдыхнуў госць, прайшоў на кухню, змучана плюхнуўся на ўслон.

Юрка наліў небараку талерку гарачай капусты — кагадзе згатаваў, — сеў насупраць.

У бедачыны, як выглядала, гэтымі днямі макулінкі ў роце не было, бо ён еў з такім імпэтам, што зекры пукаціліся і нос угінаўся. Пры гэтым узмакрэў і пару кропель поту зляцелі

з канца варушкога носа і ціўкнулі ў талерку. Знячэўку госць знерухомеў.

— Слухай, Юрась, грошай не пазычыш? Да хаты даехаць. А то ўсе «бабкі» на тую сучку спусціў.

Юрась дастаў з кішэні грошы, паклаў на край стала, і калі Пупсік падносіў лыжку да роту, міжволі мыліў вуснамі, чакаючы — калі госць даесць капусту ды выкуліцца з хаты.

Праз тры дні ў калідоры абудзіўся тэлефон.

— Добры дзень, — азвалася ў слухаўцы крыху сіпаватае кантральта.

— Добры, — буркнуў Юрка.

— Паклічце, калі ласка, Аляксея.

— Якога Аляксея?

— Капітана далёкага плавання.

Юрка, па старой звычцы, тузануў бараду, цямячы — пра каго гаворка, — а ўцяміўшы, страсянуў чубам:

— Не, яго тут няма.

— Капітан грошы пазычыў і абяцаў праз вас перадаць. А яшчэ павінен быў вам перадаць тукана ў клетцы.

— Якога істукана? — з лёгкай трывогай перапытаў празаік.

— Тукан. Птушка такая… з вялікай дзюбай. Аляксей яе з Бразіліі прывёз.

Празаік зморана пераваў дых.

— Ведаеце, мая дарагая, капітан мне нічога не перадаваў.

— А дзе ён зараз?

— Адклікалі з адпачынку. Тэрміновы рэйс у Гавану. Вернецца на Новы год.

Празаік кінуў слухаўку на вагар, і тэлефон ізноў зазваніў. Душу кранула трывожнае трымценне. Ці не з міліцыі тэлефануюць? Затрымалі Пупсіка дзе-небудзь на мытні, а той усю віну зваліў на «лепшага сябра». Дрогкія пальцы намацалі слухаўку.

— З кім там балбочаш? — гукнула на другім канцы дроту жонка, і муж пераваў дых.

— З працы званілі.

— Заўтра а трэцяй гадзіне прыйдзі да цягніка. Хатулі рукі адрываюць.

Пагаманіўшы з жонкай, празаік прайшоўся ля кампутара — раз, другі, — потым яго ўключыў, і калі экран загарэўся, спехам, з памылкамі, напісаў: «Марская душа». Гэта была назва новага апаведу.

# СЕЛІГЕР

— Куды гэта ты збіраешся? — спытала цётка Лёля пляменніка, дваццацідвухгадовага студэнта Вадзіма. Пляменнік не паспеў прыйсці дахаты, як зноў, на хаду жуючы здобную булку, нацягнуў на плечы гаматны, у дробную палоску, пінжак.

— Бягу да рэцэнзента, — няўцямна, з набітым ротам, адказаў пляменнік.

— Дзевяць гадзін вечара. Рэцэнзент хутка спаць ляжа.

— Падыму з ложку. Мне заўтра на цягнік.

Хлопец паправіў каўнер кашулі, абцягнуў пінжак, збіраўся ісці да дзвярэй, ды цётка схапіла за рукаво.

— Пачакай хвілінку, — Лёля пайшла на кухню, грукнула дзверцамі шафкі і неўзабаве выйшла з пляшкаю грузінскага каньяку ў руцэ. — На во… аддасі рэцэнзенту. А то напіша абы-што.

— Ды не трэба. Ён, кажуць, не п’е.

— Бяры-бяры… бачылі мы тых рэцэнзентаў. П’яніца на п’яніцы.

Вадзім паскроб патыліцу, падхапіў бутэльку. «Сапраўды, чорт яго ведае… можа і адмоўнае штосьці напісаць. А то і наогул скажа, што ноч на двары, раніцай прыходзь», — апанаваны такімі думкамі, пляменнік пхнуў бутэльмент у палатняную торбу.

Вадзім быў студэнтам 5-га курса політэхнічнага інстытута, але не ленінградскага, а правінцыйнага. Аднак пераддыпломную практыку праходзіў у горадзе на Няве, на заводзе «Рускі Дызель». І вось дыпломны праект быў гатовы, зане-

сены рэцэнзенту, інжынеру з таго самага «Рускага Дызеля», і засталося толькі атрымаць рэцэнзію.

Жыў інжынер даволі далёка, ля станцыі метро «Ламаносаўская». Дабіраўся да «Ламаносаўскай» добрых паўтары гадзіны, а калі падышоў да запаветнага дзевяціпавярховіка і зірнуў на гадзіннік, дык нават рот разявіў. Думаў, няма дзясятай, а тым часам маленькая стрэлка падбіралася да адзінаццаці. Панавалі белыя ночы, было светла як днём — гэта і збіла з панталыку.

Інжынер — таўставаты, ускудлачаны, з сівымі валасамі, што выбіваліся з-пад саколкі, дзядзька, — відочна ўскочыў з ложку. Палашчыўшы віслае чэрава, прагугніў:

— Ну ты даеш. Мы з жонкай ужо спаць леглі. Заўтра прыходзь.

— Ды я заўтра ў Полацк з'язджаю. Ужо і квіток узяў.

Рэцэнзент уздыхнуў і, паківаўшы пальцам, маўляў, жонка спіць, на дыбачках пайшоў па калідоры, прыхапіўшы па дарозе халат, які вісеў на вешаку.

Дыпломны праект Вадзім занёс рэцэнзенту чатыры дні таму. Але той яго наўрад ці праглядаў, бо тубус з чарцяжамі стаяў у куце пакоя — там, дзе хлопец і паставіў.

— Што тут у нас? — інжынер падхапіў важкую тлумачальную запіску.

— Апрацоўка хадуна рухавіка Д-30, — бадзёра патлумачыў Вадзім, і гаспадар кватэры прыклаў палец да вуснаў. Зачыніўшы дзверы пакою, інжынер раскінуўся ў фатэлі, перагарнуў старонкі.

— Та-ак… рухавік дызельнай падводнай лодкі. Калісьці ўся дакументацыя была засакрэчаная.

Добрую хвіліну інжынер вывучаў напісанае, нарэшце спытаў — як мацуецца загатоўка.

— Шрубакрут з рэверсам, — па-ранейшаму бадзёра, але ціха выдыхнуў дыпломнік.

— Шрубакрут, браток, учорашні дзень. Ты ж малады камандзір вытворчасці і мусіш задзейнічаць перадавыя тэхналогіі. Тут патрэбны пнеўматычны, а яшчэ лепш — гідраўлічны клямар.

— Дык у вас жа на заводзе шрубакрутамі карыстаюцца.

— Даражэнькі, на нашым заводзе нямецкае абсталяванне. І не трафейнае, а даваеннае.

— Гідраўліку з пнеўматыкай задзейнічаюць на серыйнай вытворчасці. А тут рухавік падводнай лодкі, якіх за год тры штукі са стапеля спускаюць, — парыраваў дыпломнік і рэцэнзент, чарговым разам уздыхнуўшы, паставіў на палях чырвоную птушачку.

— Якая чысціня апрацоўкі рабочай паверхні? — было наступнае пытанне.

Вадзім адказаў.

— А на якім варштаце ідзе апрацоўка?

Вадзім ізноў адказаў.

— На гэтым варштаце такой чысціні не дасягнеш.

Паслініўшы палец, рэцэнзент перагарнуў старонку.

«Праз паўтары гадзіны метро зачыняць», — падумаў студэнт, зыркнуўшы на гадзіннік.

Калі на палях з'явілася дзясятая птушачка, студэнт дастаў з торбы бутэльку.

— Гэта што?

— Каньяк.

— Схавай! — сувора выдыхнуў рэцэнзент, і ў дыпломніка зашчымела пад сэрцам. А калі гэты зануда напіша адмоўную рэцэнзію? Што тады рабіць?

Між тым зануда пачаў гартаць старонкі, не праглядаючы.

— А што за каньяк?

— Грузінскі. Тры зорачкі, — акрыялым голасам паведаміў дыпломнік.

— Ну, тут заўвагаў няма… тут таксама ўсё добра, — замармытаў інжынер, не пасляваючы слініць палец, неўзабаве адклаў тлумачальную запіску і сеў за пісьмовы стол.

На рэцэнзіях, відаць, інжынер даўно набіў руку, бо пісаў хутка, не адрываючы позірку ад паперы. Вадзім неўпрыкмет падышоў да яго з-за спіны, выцягнуў шыю і прачытаў: «Нягледзячы на дробныя заўвагі, дыпломная праца заслугоўвае адзнакі «выдатна».

Мудрагеліста распісаўшыся, рэцэнзент выслізнуў з пакою і з'явіўся з двума кілішкамі.

— Я не буду! — рашуча выдыхнуў студэнт, але інжынер ляпнуў па плячы:

— Па кроплі. Каб добра абараніўся.

У метро ўсё ж такі паспеў, вылез на станцыі «Лясная» і шырокім крокам пашыбаваў па праспекце Энгельса ў кірунку Дрэздэнскай вуліцы, на якой жыла цётка. Душа Вадзімава прасіла песні. Можа ад выпітага каньяку, можа ад таго, што вакол буяла белая ноч, а магчыма таму, што ў панядзелак абароніць дыпломны праект і развітаецца з інстытутам.

На рагу Манчэстэрскай яго пераняў.

— Эй, куды канаем?

Тры чувакі цёмнымі прывідамі выслізнулі з-пад дрэва, і ў Вадзіма чарговы раз сцялася сэрца. Такія сустрэчы а першай гадзіне ночы нічога добрага не лёсілі. Вадзім прыціснуў да грудзіны тлумачальную запіску. А як падзяруць ды пусцяць па ветры?

— Студэнт? — запытаўся чувак у пацёханых джынсах.

Вадзім кіўнуў.

— Адкуль?

— З Аўтава, — ён наўмысна назваў далёкі раён, з якім тутэйшыя «каралі» не варагавалі.

— А чаго па нашым раёне швэндаешся?

— Да цёткі іду. На Дрэздэнскай жыве.

— Капуста ёсць?

— Ды якая капуста. Бегаю па горадзе, ногі ў рукі ўзяўшы. На метро эканомлю.

Начныя прывіды пераглянуліся. Зразумелі, што са студэнта капейчыны не выб'еш.

— Ладна, адказваеш на маё пытанне — валі з вачэй. А не адкажаш — будзем з табой разбірацца, — з пагрозаю ў голасе выдаў чувак у пацёханых джынсах.

Вадзім наструніўся.

— Як згуляў «Зеніт» у апошнім туры?

— Адзін-адзін з маскоўскім «Дынама».

— А хто забіў?

— У дынамаўцаў Гершковіч, у «Зеніта» Маркін, — Вадзім быў аматарам футболу і глядзеў гульню на кіраўскім стадыёне.

— Табе, можна сказаць, пашанцавала. Больш па начах не швэндайся. Уцяміў?

— Уцяміў! — гукнуў студэнт, сарваўшыся з месца. Спачатку проста ішоў, потым рушыў подбегам, нарэшце, пусціўся на ўсе застаўкі. Баяўся, што прывіды кінуцца наўздагон. Прыпыніў крок, толькі павярнуўшы на Дрэздэнскую вуліцу. «Як гладка ўсё ў жыцці ідзе. Рэцэнзію ў апошні момант займеў. Цяпер вось ад футбольных заўзятараў адбіўся. Але ж давядзецца дзесьці і спатыкнуцца», — Вадзім выцер пот з ілба і ўбачыў асветленае вакно на сёмым паверсе. Цётка не спала і чакала ягонага вяртання.

Назаўтра студэнт-дыпломнік сеў у цягнік Ленінград-Полацк і выехаў дахаты. Гэта быў дзіўны цягнік. Напачатку амаль без прыпынкаў ехаў у кірунку Масквы, і толькі даехаўшы да станцыі Балагое паварочваў ў бок Полацка. На двары сярэдзіна сямідзясятых, стальныя магістралі даўно апанавалі электравозы з цеплавозамі, а тут, на станцыі Балагое, да цягніка чаплялі курадымны паравоз. Расцягнуўшыся на ніжняй паліцы, студэнт адразу ж заснуў, і прачнуўся ад апраметнай цішыні. За вакном стаялі таварныя вагоны і будынку вакзала не было бачна.

— Дзе мы? — спытаў хлопец у кабеты, якая сядзела насупраць.

— У Балагім, — выдыхнула спадарожніца і, падумаўшы, паправілася: — У Балагом, — а, памацаўшы пальцам скронь, паведаміла: — Не, назва, здаецца, не скланяецца. — А вы студэнт?

— Так, у панядзелак абарона дыплому, — Вадзім пстрыкнуў пальцам па тубусе.

Яны разгаварыліся. У кабеты, як высветлілася, сын летась скончыў інстытут і быў накіраваны па размеркаванні ў Вялікія Лукі. Цяпер маці штомесяц ездзіла да сына і падвозіла хар-

чы, бо ў Луках крамы пустыя. Неўзабаве спадарожніца пазяхнула і, як і Вадзім надоечы, легла на паліцу, прыкрыўшы ногі цёплай кофтай.

Цягнік падчапілі да паравоза, і за вакном паляцелі пасмы грывастага дыму, паплылі балацявіны з люстэркамі азярын, рэдкія вёскі са збуцьвелымі хатамі, такія ж рэдкія станцыі і паўстанкі — спрэс драўляныя, даўно не фарбаваныя, — і стараверскія, з пахілымі крыжамі, могілкі, якія падступалі да самай чыгункі. Потым цягнік заехаў у вусцішны лес, які стамляў вочы бясконцай чарадой бярозавых стаўбуроў, доўга ехаў у лясной зацені, на нейкі час вырваўся на прастор шырокага, пазначанай зялёнымі купамі кустоў поля, і зноўку панурыўся ў лясны гушчар.

«Як мала тут жыве народу і як тут усё занядбана», — думаў Вадзім, прыціснуўшы нос да вагоннай шыбы. У Піцеры метро, машыны, крамы, людзі, здобныя булкі, а ў гэтым лясным краі ні людзей, ні нармальных дарог. Адны балоты ды могілкі. Вадзім лёг, ізноў панурыўся ў сон, і прачнуўся ад штуршка ў пятку. Па праходзе прайшлі дзядзькі ў штармоўках і з рыбацкім прычындаллем у руках. Пад’язджалі да Селігеру — вялізнага возера, якое замілавалі ленінградскія рыбакі. А вось і яно само выплыла з-за кустоў — бясконцае, серабрыстае, злёгку падфарбаванае на небасхіле вечаровай палымніцай. На беразе возера туліўся горад Асташкаў. Цягнік тут стаяў сямнаццаць хвілін, і Вадзім вырашыў размяцца, бо ад мулкага лежака балелі косткі. Папрасіўшы спадарожніцу прыгледзець за ягонымі рэчамі, хлопец скочыў на пасыпаны паравозным жужалем перон, стукнуўшы пры гэтым гадзіннікам аб вагонны поручань. Шпацырнуць выйшла некалькі пасажыраў, і ўсе яны спехам, на паўсагнутых нагах, пашыбавалі да вакзалу. Туды ж пайшлі і рыбакі, якія ехалі ў суседнім купэ. Вадзім прымружыўся і ўгледзеў дзеда з сівой барадой, які стаяў ля вакзалу і здзімаў пену з піўнога кухля.

У вакзальным буфеце было ладна народу, і буфетчыца поўніла кухлі ручной помпай непасрэдна з бочкі. У родным Полацку такой архаікі ўжо не пабачыш.

Піва было крыху кіславатае і пахла дубовай бочкай.

— Ну як, смакуе? — да століку падсунуўся дзядзька ў зрэбнай, расцягнутай на шыі цяльняшцы.

Не адрываючыся ад кухля, хлопец выставіў вялікі палец.

— Добра, гарадскія не набеглі. А то б да прылаўка не падступіліся. У нас з півам цяжка, — дзядзька нешта без перапынку казаў, але Вадзім не слухаў. Галава ягоная злёгку круцілася і вочы міжволі заплюшчваліся ад задавальнення. Ачуўшыся, Вадзім ліхаманкава глянуў на гадзіннік. Цягнік стаяў яшчэ пяць хвілін. Кіўнуўшы на развітанне дзядзьку ў цяльняшцы, ён рушыў да выхаду і знянацку схаладнеў. Знадворку, усё больш імпэтна, рухаліся асветленыя квадраты вокнаў. Небарака вохнуў, пхнуў у спіну сівабародага дзядка, выбег у калідор і ўзбіўся на вакзальную прыбіральшчыцу. У адной руцэ яна трымала швабру, а ў другой вядро з вадой. Студэнт матлянуўся ўлева, цётка з перапуду хітнулася ў той жа бок. Урэшце схапіў цётку за руку, паспрабаваў пераскочыць цераз швабру і, зачапіўшыся за дзяржак, стукнуўся каленам ад цэментавую падлогу. Калі ж выбег, накульгваючы, на перон, дык угледзеў чырвоныя ліхтары апошняга вагону і скручаны сцяжок у руцэ правадніцы.

— Стой! Стой! — крыкнуў не сваім голасам, ды правадніца не пачула, бо сцяжок нават не здрыгануўся. Хвіліну бег па перону, урэшце спыніўся і, аблашчыўшы вачыма чырвоныя агні і пасмы чорнага паравознага дыму, бязгучна прашаптаў: «Ну і ўліп!» Торба з тлумачальнай запіскай і тубус з чарцяжамі паехалі ў Полацк без гаспадара. Студэнт страсянуў «Камандзірскія». Секундная стрэлка не рухалася. Стукнуў гадзіннік, як скакаў з вагону — час і спыніўся. Бедачына зацкавана зірнуў у той бок, дзе заціхала рэха вагонных колаў. Уся надзея была на спадарожніцу, якая ехала ў Вялікія Лукі. Павінна сказаць правадніцы, што сусед па купэ знік, а рэчы засталіся. А калі не скажа?

— Ад цягніка адстаў? — пачуўся жаночы голас.

Пасярод перона стаяла цётухна ў чырвонай фуражцы — дзяжурная па станцыі.

— Ці не кожны дзень стоп-краны зрываюць. А ўсё з-за піўнушкі. На мінулым тыдні, якраз у маё дзяжурства, таксама адзін адстаў. Дык бег за цягніком з кухлем у руках.

Вадзіму такія балачкі не спадабаліся.

— Такой бяды. Заўтра паедзеце. Дзянёк у нас пагасціце, у возеры пакупаецеся.

— Дыпломны праект з'ехаў. Так што, выбачайце, мне не да жартаў, — буркнуў студэнт у адказ.

— Пайшлі, — ужо сур'ёзным тонам выдала дзяжурная і рушыла да вакзалу.

«Абарона ў панядзелак. За гэты час тлумачальную запіску можна перапісаць, пагатоў, засталіся чарнавікі. А чарцяжы трэба як мінімум два тыдні аднаўляць. Атэстацыйная камісія дзеля мяне аднаго збірацца не будзе. Давядзецца праз год абараняцца», — Вадзім сядзеў у станцыйнай дзяжурцы, прыслухоўваючыся да біцця крыві ў скронях, і ў галаве, як тыя жароны на млыну, круціліся цяжкія і трывожныя думкі.

— Які вагон? — спытала дзяжурная. Жанчына сядзела за перагародкай, пад брэжнеўскім партрэтам, і размаўляла па тэлефоне.

— Вагон трэці, месца пятнаццатае, — студэнт падхапіўся з хісткага крэсла.

— Што з сабой было?

— Палатняная торба з тлумачальнай запіскай і тубус.

— Торба і нейкі турбус, — гракнула, ціснучы да вуха слухаўку, жанчына, і студэнт паправіў:

— Тубус, а не турбус!

— Не хвалюйся, атрымаеш свае рэчы, — дзяжурная кінула слухаўку на вагар. — Зараз звяжуцца з начальнікам цягніка, той скажа правадніцы, каб рэчы забрала. У Полацку адразу да начальніка станцыі ідзі. Там і атрымаеш свой турбус.

Выкуліўшыся з дзяжуркі, студэнт прайшоўся па пероне. Цягнік на Полацк ішоў праз суткі — трэба было недзе пераначаваць. Ён хацеў вярнуцца ў дзяжурку і спытаць, ці будзе адчынена ўначы вакзальная пачакальня, але передумаў. Вырашыў перш-наперш зазірнуць у буфет ды ўзяць чаго на зуб. Цэлы дзень нічога не еў.

У буфеце яго пераняў той самы дзядзька ў цяльняшцы.

— О! Стары знаёмы! Адстаў ад цягніка?

— Пачакальня ноччу працуе? — спытаў студэнт.

— Першы цягнік ад ранку пойдзе. На ноч зачыняюць.

Студэнт-дыпломнік з адчаем уздыхнуў.

— Хочаш — пайшлі да мяне. Я недалёка жыву, — сказаўшы так, уладальнік цяльняшкі зірнуў на буфетчыцу, якая ківалася, налягаючы на корбу піўной помпы.

Вадзім стаў у чаргу. З едзіва ў буфеце прадавалі адно плаўленыя сыркі ды кансервы, кілька ў тамаце, але іх не было чым адкрыць. Пхнуўшы сыркі ў кішэнь, Вадзім падхапіў два кухлі.

— Я ў сваёй хаце жыву. Каля самага возера. Выдатная мясціна. Штолета сястра з Ленінграду гасцюе, з дзецьмі. Сёлета, праўда, не прыедзе. Сыну аперацыю робяць. Карацей, ляжаш на кушэтку — і нараніцу ўстанеш як агурок.

Прагавіта прыклаўшыся да кухля, дзядзька, на знак знаёмства, працягнуў шурпатую далонь:

— Мікалай.

З буфету выкуліліся густым прыцемкам. Перад вакзальным будынкам стаялі прысады чэзлых таполяў, а ўдалечыні цьмяна вымалёўваўся белы помнік.

— Хто там у вас, Ленін? — пацікавіўся студэнт.

— Ды не, Заслонаў.

— Наш партызан, — пажвавеў палачанін.

— Нарадзіўся тут. Бацька мой яго ведаў, — асташкавец прыпаліў «беламорыну».

Вадзім ступаў па няроўным бруку і ўтрапёна круціў галавой. Стваралася ўражанне, што тут, у Асташкаве, час, як і на ягоных «Камандзірскіх», спыніўся. Прычым, недзе ў сярэдзіне мінулага стагоддзя. З прыцемку выглядалі старыя, здаўна не рамантаваныя камяніцы, наўзбоч тырчалі рудыя ад іржы водаразборныя калонкі, а пры канцы вуліцы нехлямяжай патарочай паўставала напаўразбураная царква.

— У вас можна фільмы здымаць… пра рэвалюцыю, — жартам выдаў студэнт, пераскочыўшы ручай, які цёк ад калонкі.

— Дык здымаюць жа. Нядаўна іду ў цырульню, а з-за павароткі тачанка вылятае… з кулямётам. Аслупянеў ад нечаканасці. Завярнуў за рог, а там натоўп і нейкі лысы на слуп узлез ды гарлае: «Таварышы, сацыялістычная Айчына ў не-

бяспецы!» Мой сваяк у тых здымках удзельнічаў. Надзелі на яго падштанікі, галаву крывавай анучай абкруцілі і паставілі да сценкі. Расстрэл камуністаў здымалі. Кіншчыкі тры рублі далі. Мы іх разам і прапілі.

Вуліца нечакана закончылася, і наперадзе, на колькі хапала вачэй, разлілося бязмежнае возера. Возера свяцілася дзіўным сіняватым святлом, зліваласяся на даляглядзе з такім жа сінім небам, таму здавалася, што яно заліло цэлы сусвет.

— Дзіўная назва — Селігер, — Вадзім тупаў па сцяжыне, не адрываючы вачэй ад азёрна-нябеснай бяздонніцы.

— У гэтых мясцінах калісьці фіны жылі. Яны так назвалі, — Мікалай прыпаліў чарговую папяросу.

— А што за агеньчыкі? — Вадзім паказаў рукой на гронку агнёў, якія калыхаліся на вадзе.

— Гэта на востраве. Ваенны завод. Рухавікі для ракет робяць.

— А туды нельга заплыць?

— Пропуск патрэбны. А сам востраў калючым дротам абкручаны. Не пралезеш.

«Неверагодна, — падумаў Вадзім, пазіраючы на гронку агнёў, — тут, поруч са зруйнаванымі цэрквамі і пашарпанымі камяніцамі з праселымі дахамі, робяць ракеты».

Тупкая сцяжына вывела на пагорак і ўдалечыні, ці не на другім канцы возера, заквеліласяя некалькі рознакаляровых агнёў.

— А там што?

— Турбазу нядаўна адкрылі. Раней манастыр быў. Нілавым называўся. У рэвалюцыю раздзяўблі. А зараз турыстаў запусцілі. П’юць там дзень да ночы.

— А хто ён такі, гэты Ніл?

— Святы нібыта.

Наперадзе залуналі відарысы вясковых хат. Нечакана Мікалай паляпаў далонямі па кішэнях, нібыта шукаючы штосьці.

— Слухай, пару рублёў не пазычыш? Трэба да сваяка забегчы… якога белагвардзейцы расстрэльвалі.

Праз імгненне асташкавец кінуўся да хаты, у двары якой заходзіўся ад брэху сабака.

— Каштан… фу! — пачулася ў цемры. Сабака кінуў брахаць, адно ледзь чутна гыркаў.

Мікалай выплыў з цемры, трымаючы заткнутую папяровым пыжом бутэльку.

— Як сляза. Для сябе гоніць. Ленінградцы гасцявалі, казалі — лепшая за гарэлку, — голас Мікалая радасна звінеў. — Жонка мая страшэнная звяга. Магчыма, і зараз завядзецца. Але ты не звяртай увагі.

Пасля такіх слоў Вадзім пашкадаваў, што пацягнуўся сярод ночы немаведама куды і немаведама з кім. Ішлі ўжо хвілін дваццаць, а да Мікалаевай хаты так і не дайшлі.

— Сядзяць на маёй шыі, ды мяне ж і ўпікаюць, — змяніў радасць на злосць спадарожнік.

«Хто яго там, апроч жонкі, дапякае?» — падумаў Вадзім і тут жа пачуў адказ:

— Цешча з намі жыве. Восемдзесят сем гадоў размяняла. І паміраць не збіраецца.

Калі ўваходзілі ў хату, госць затрымаўся на парозе, нясмела пераступаючы з нагі на нагу.

— Зноў нейкага п’яніцу вядзеш? — пачуўся з глыбіні хаты звяглівы жаночы голас.

— Які п’яніца?! Гэта студэнт. Ад цягніка адстаў.

Госць збіраўся ўжо шмыгнуць за дзверы, ды гаспадар махнуў рукой, запрашаючы заходзіць, і таму нічога не заставалася, як прайсці па рыпучых масніцах у святліцу.

— Пазнаёмся, мая цешча, — гаспадар з годнасцю паставіў на сярэдзіну стала няпоўна налітую пляшку самагонкі.

Цешча — дробненькая, пахілая, з нядошлай, падобнай на пацучыны хвост касой сівых валасоў на плячы — тулілася на жалезным ложку з нікеляванымі біламі і з цікаўнасцю лыпала вачанятамі.

Госць паклаў на стол два плаўленых сыркі.

— А адкуль жа вы? — прашамкала бяззубым ротам старая.

— З Полацку. Чулі пра такі горад?

— Як жа… чула. Мая маці да вас ездзіла.

— А навошта? — запытаўся зяць, выціраючы ручніком малянкоўскую шклянку.

— Як навошта… мошчам святой Ефрасінні пакланіцца.

— Прыдумалі — за свет перціся. Быццам у нас сваіх святых мала. Раскажы лепш пра Ніла… чалавек цікавіцца.

Старая перахрысцілася на трохражковае люстра, але нічога расказваць не стала. Тым часам Мікалай наліў самагонкі. Няшмат, дзесьці на два пальцы, паднёс шклянку цешчы. Вадзім думаў, тая адмовіцца, але бабуля выпіла, прычым без закускі.

Мікалай наліў госцю. Самагонка была даволі моцнай, аж у горле перахапіла, і амаль не смярдзела.

— Пра святога Ніла? — ачулася раптам старая і, уздыхнуўшы, пачала аповед. — Нарадзіўся Ніл каля Ільмень-мора, і, як малым быў, прыйшоў да яго анёл і кажа: «Як вырасцеш, ідзі ў манастыр». І вось вырас, пайшоў у Пскоў-град і пастрыгся там у манахі. І пачаў рабіць дзівы дзіўныя…

— Якія дзівы? — запытаўся зяць, наліваючы самагонкі.

Госць махнуў рукой, паведамляючы, што больш піць не будзе.

— А вось якія… усчалася раз страшэнная навальніца, з маланкамі. Манастыр драўляны быў, пажару баяліся, манахі і звярнуліся да Ніла: «Ратуй нас ад агню нябеснага!» Стаў ён пад дажджом, узняў рукі да хмараў і як крыкне: «Разыдзіцеся!» Хмары і разышліся.

— Цяжкі выпадак, — прамармытаў зяць, нюхнуўшы хлебную скарынку.

Бабуля выцерла рукавом сцятыя вусны.

— І пачалі ў манастыр людзі прыходзіць ды прасіць у Ніла заступніцтва. Доўга так хадзілі, гадоў, мабыць, дзесяць. Цяжка яму стала людскія просьбы выслухваць, таму і збег з манастыра. І пасяліўся ў лесе, ля невялічкай ракі. Зрабіў сабе келлю і стаў з Богам размаўляць. І тут нехта пусціў чутку, што ў Ніла ў келлі золата схаванае, і заявіліся да яго злодзеі. Абрабаваць хацелі. А Ніл зняў са сцяны абраз, узняў над галавой, злодзеі глянулі на абраз і аслеплі.

— У нас, калі ў дэпо працаваў, двое метылкі навярнулі. Таксама аслеплі, — падаў голас зяць, і цешча вытрымала невялічкую паўзу.

— Стаў у той лес народ хадзіць, каб убачыць святога. А яму тое не надта падабалася, бо прагнуў пустэльнікам жыць. І тут ізноў з'явіўся анёл і мовіў: «Ідзі, Ніле, на Селігер. Там уратуеш душу».

— Анёл хадзіў, як я да сваяка на пахмелку, — выдаў зяць і госць дакорліва перакрывіўся. Маўляў, не перабівай, дай паслухаць.

— І прыйшоў ён на Селігер-возера і сказаў сабе: «На востраве буду жыць». Папрасіў рыбакоў, каб пераправілі на які востраў, вылез з чоўна і стаў зямлянку капаць.

— Не, людзі лес валілі, зямлю аралі, рыбу лавілі — яны не святыя. А гэты сядзеў у яме, хрысціўся на сонца — і ён святы?

Мікалай кепска варочаў языком і,наліваючы самагонкі, праліў міма шклянкі.

— Жыў на самоце, — працягвала бабуля, скоса пазіраючы на зяця. — Да яго адны рыбакі зрэдзьчас наведваліся. Рыбай частавалі. Ніл людзей наскрозь бачыў. Калі даваў рыбу грахаводнік, ніколі не браў, а калі бязгрэшны чалавек — браў і дзякаваў маліцьвенна.

— Колькі ведаю мясцовых рыбакоў — усе грэшныя. І дзе ён бязгрэшных бачыў? — перабіў цёшчу зяць.

Госць зноў перакрывіўся.

— А аднойчы прыплылі на востраў людзі з Асташкава. З сякерамі. Хацелі хвоі пасекчы. А Ніл выйшаў да іх і як гукне: «Згіньце!» — бабуля, наследуючы святому, гаркнула як мае быць, і госць з гаспадаром спалохана адхінуліся. — Небаракі сякеры з рук выпусцілі і на зямлю паваліліся.

— Я сам траха не паваліўся, — зяць выліў у шклянку рэштки самагонкі, — гарлаеш як апантаная.

Апавядальніца пакрыўджана надзьмулася і працягнула аповед толькі пасля таго, як госць даў ёй палову плаўленага сырка. Старая хуценька зжавала пачастунак.

— Увесь час святы праводзіў у малітвах і ніколі не клаўся ні на бок, ні на спіну. Нават спаў, седзячы.

— Як гэта? — уражана выдыхнуў госць.

— А так. Былі ў яго мыліцы зробленыя, ён на іх седзячы абапіраўся і спаў. Казаў — у дамавіне адлежыцца. А яшчэ казаў, што некалі на Селігер жаўтатварыя людзі прыйдуць. І будзе іх шмат.

— Усё правільна, — пракаментаваў зяць, — жылі фіны, цяпер мы, а пасля нас кітайцы заявяцца.

— А як Ніл памёр? — пацікавіўся госць.

— Як памёр… прыплылі рыбакі, а ён ім кажа: хай святар прыйдзе, мне прычасціцца трэба, бо праз пяць дзён памру. Прыехаў святар, прычасціў, а дакладна на пяты дзень святы Ніл памёр. Праз колькі часу на месцы келлі манастыр пабудавалі. Прыгожа выглядаў. Асабліва раніцою. Гарэў на сонцы залатымі макаўкамі. А як прыйшлі камуністы, манастыр зачынілі, і манахаў разагналі.

— І правільна зрабілі. Абрыдлі ўсім гэтыя дармаеды, іх і разагналі, — Мікалай з цяжкасцю падняўся на ногі, паказаў на кушэтку і, прамармытаўшы: — Кладзіся, — падаўся са святліцы ў бакоўку, дзе спала жонка.

— У манастыры потым калонію зрабілі. Для малалетак. Яны адтуль часцяком збягалі. І да нас аднойчы дванаццацігадовы хлопец прыбіўся. Брудны, галава ў гузаках. Памыўся ў двары, маці яго накарміла. А наступным днём у дарогу выправіўся. Сказаў — у Таржок пойдзе. Радня там нейкая жыла. Не ведаю, ці дайшоў да Таржка, ці міліцыя злапала. А перад вайной у манастыр палякаў прывезлі.

Госць ускінуў брыво.

— Якіх палякаў?

— А Бог іх ведае. Палякі — і ўсё тут. Мы на тым беразе жылі, і іх праз нашу вёску вадзілі. Валакуцца, бедныя, а вакол салдаты са стрэльбамі. І ўсё есці прасілі. А што мы ім маглі даць, калі самі галодныя.

— А куды іх вадзілі?

— На працу ў Асташкаў. Царкву разбіралі. І друз на калёсах падвозілі ды ў ваду кідалі. Насып рабілі паміж востравам, дзе манастыр, і берагам. А потым іх не стала.

— А куды іх звезлі?

— А хто ж ведае. Пасадзілі ноччу ў таварныя вагоны ды павезлі.

Старая яшчэ нешта казала, ды Вадзім не стаў слухаць. Пстрыкнуў выключальнікам, паваліўся на кушэтку. Спаў не распранаючыся. Толькі пінжак зняў ды павесіў на спінку крэсла. Бабуля крыху пабалбатала ды аціхла. На бок, аднак, не кульнулася. Можа яна, як святы Ніл, звыкла седзячы спаць? За сценкай натужна хроп на пару з жонкай гаспадар, а пад кушэткай зацята спяваў цвыркун. Вадзім згадаў, як пасля першага курса іх паслалі «на бульбу» ў Глыбоцкі раён, і ён жыў у такой жа старой хаце. Там, за печчу, таксама спяваў цвыркун, і гаспадыня хаты, цётка Яніна, казала, што той спявае на пагоду. На сцяне хаты вісеў партрэт хлопца ў рагатай польскай фуражцы. Ён, вядома ж, пацікавіўся — хто такі? «Брат мой, — патлумачыла цётка Яніна, — памежнікам служыў у Друі. Саветы забралі ды ў Расею павезлі. Толькі аднаго ліста і атрымалі. Напісаў, што жыве ў манастыры на беразе вялікага возера, і што хутка павінен вярнуцца. Але не вярнуся. Саветы забілі». Ён яшчэ тады абурыўся. Як гэта — забілі? Яны што, фашысты нейкія, каб у палонных страляць?

Амаль не бачная ў цемры бабуля па-ранейшаму сядзела нерухома і — Вадзім адчуваў гэта, — неадрыўна на яго глядзела.

— Чаму не спіцё? — спытаў нарэшце, безліч разоў крутнуўшыся на прадушанай кушэтцы.

— А я, добры чалавек, ноччу рэдка сплю. Удзень на гадзінку прыкархну — і мне хапае.

Спаць пад бабульчыным позіркам было не надта прыемна, таму Вадзім доўга не мог заснуць, але вось павярнуўся тварам да сценкі, і яму прымроіўся святы Ніл. Той сядзеў у глыбокай яме, загорнуты ў чорны хітон з капюшонам. На капюшоне бялеў вышыты праваслаўны крыж. А калі прымружыў вочы, убачыў, што гэта не святы Ніл, а рэцэнзент.

— Згубіў дыпломны праект? — прасіпеў рэцэнзент. — А ён вось дзе, у маіх руках. Зараз ты ў мяне, бляха, аслепнеш! — рэцэнзент узняў тэчку з тлумачальнай запіскай і давялося ў жаху адступіць ад краю ямы. Ён азірнуўся. Бабуля, якая дагэтуль моўчкі сядзела на ложку, скінула на падлогу

сінія ногі і, выставіўшы кашчавыя пальцы, рушыла ў ягоны бок. Пры тым яна не ішла, а паволі плыла, не датыкаючыся нагамі маснічын. Бязгучны лямант захрас у горле і ён размежыў павекі. Зыркае святло адбірала вочы. Сэрца стукала шалёным дзятлам і збіралася вылецець з грудзіны. Вадзім выцер далонню ліпучы пот з ілба, перавёў дых. Бабуля ціха сапла. Самагонка ўсё-такі яе змагла. Вадзім пасунуўся да дзвярэй, потым вярнуўся, прыхапіў пінжак і выкуліўся з хаты. Доўга стаяў ля куста, дыхаючы ранішняй прахалодай, затым падышоў да возера. Яно мела ружовы колер і на водным люстры белым вэлюмам ляжаў празрысты туман. У хату вырашыў не вяртацца. «Застанешся, а Мікола ад ранку пачне грошы прасіць на пахмелку, — мільганула ў тлумнай галаве. — Лепш прайдуся па ранішнім горадзе, пасяджу ў якім парку, знайду сталоўку, бо з галадухі ў чэраве бурчыць». Ён пашыбаваў па вясковай, шчыльна застаўленай старымі хатамі вуліцы. Ля хат, што самае дзіўнае, не было гародаў. «І як яны тут жывуць?» — падзівіўся Вадзім, і ў гэты момант ля крайняй хаты залівіста забрахаў сабака.

— Каштан! Свае! — крыкнуў ён сабаку і той, спыніўшы брэх, выбачальна заскавытаў.

Сцежка збегла да самай вады. Вадзім скінуў пінжак, штаны, кашулю, застаўся ў адных трусах, потым і іх скінуў ды рынуў у ваду. Дух заняло ад гаючай халадзёнкі. Студэнт адчайна грakнуў. Спачатку пайшоў брасам, а затым перайшоў на сажонкі, змываючы з сябе дарожны пыл і ліпучы, народжаны начнымі патарочамі пот.

# КАНЕЦ СВЕТУ
*Каляднае апавяданне*

Саракагадовы Вася Кныш ішоў па галоўнай вуліцы пасёлка, з задавальненнем грукаючы па тонкім лядку разбітымі кірзачамі. Учора пад нагамі чвякала брудная слата, а мінулай ночы падмарозіла, выпаў завірушлівы снег, які намёў апраметнай чысціні гурбы. Але не толькі снег лагодзіў Васьчыну душу. Лагодзіла душу і тое, што заўтра Каляды, вольны ад працы дзень, і тое, што за пазухай мерна булькала гарэлка — па дарозе дахаты зайшоў у краму і прыхапіў пляшку. Увечары ён сядзе за стол разам з жонкай Валянцінай і цешчай, кульне чарку, а потым выспіцца да схочу, накрыўшыся сваім улюбёным, дзедавым яшчэ, кажухом.

Вось так, са здаволенай усмешкай на вуснах, прыстасоўваючы бадзёры крок да булькацення гарэлкі за пазухай, Вася падыходзіў да сваёй хаты, і нечакана ўсмешка зляцела з вуснаў, а крок міжволі запаволіўся. З весніц імклівым ценем выслізнула кабета, перабегла дарогу і знікла ў суседскім двары.

—Варывончыха! — вырвалася з грудзіны.

Варывончыха даўно размяняла сёмы дзясятак і даўно займела годнасць галоўнай тутэйшай пляткаркі. У старой коргі, як казалі, не хапала алею ў галаве, а апошнім часам ён выпетрыўся дарэшты. Пляткарка бегала па наваколлі і пераконвала цётак свайго веку, што хутка надарыцца канец свету. Шмат хто з недарэкі смяяўся, але сёй-той даваў ёй веры і рыхтаваўся да згаданай падзеі. Вось і Васьчына цешча, наслухаўшыся тых балачак, набыла сто дваццаць тоўстых свечак, скрыню запа-

лак і сорак кавалкаў гаспадарчага мыла. Мыла цяпер ляжала пад ложкам і поўніла хату ядучым духам.

Пераступіўшы парог, Вася ababіў кірзачы, наструніў вуха.

— Мама, кінь дурніцца, — казала жонка, — звалішся яшчэ…

Стоячы на крэсле, цешча здымала з шафы вязанкі тоўстых свечак і кідала ў сумку, якую трымала Валянціна.

— Куды сабраліся? — спытаў Вася, ды цешча з жонкаю нават не азірнуліся.

Кныш з трывогай глянуў на хісткае крэсла — цешча важыла блізу сямі пудоў і яно магло не вытрымаць, — і ў думках мацюкнуўся. Завітаўшы на кухню, павёў чуўшым носам — на пліце варылася грыбная поліўка, — а пабачыўшы на стале місу з кіслай капустай, схапіў ладную жменю.

— Не хапай! Да першай зоркі нельга жэрці, — жонка забегла на кухню, вырвала з рук місу.

Муж праглынуў капусту не жуючы, торгнуў носам, паказваючы на цешчу.

— Да канца свету рыхтуецца, — з уздыхам паведаміла Валянціна. Цешча была глухаватая, і можна было не сцішваць голас.

— Ну і калі ўжо векам накрыемся?

— Сёння ўвечары, а восьмай гадзіне.

Вася ўражана прысвіснуў.

— Ты б хоць распрануўся. Ходзіш па хаце як вахлак.

Муж ужо скідваў ватоўку, але, намацаўшы бутэльку, зноў нацягнуў на плечы.

— Ну дык што, Іванаўна, куды хавацца будзем? — гучна, з жартаўлівымі інтанацыямі, спытаў зяць, і цешча са злосцю прабубніла:

— Разумныя дужа ўсе сталі. Як цямрэча наваліцца — тады я на вас, разумных, пагляджу.

Зяць з дакорлівай ухмылкай страсянуў галавой і рушыў да выхадных дзвярэй.

— Трэба да аднаго чалавека зайсці, — прамовіў муж у адказ на дапытлівы жончын позірк.

На двары сутоньвалася і з неба падаў рэдкі снег. Кныш выйшаў да вясніц, выцягнуў пачак цыгарэт, і ўбачыў сусе-

да — Міцьку Лазаковіча, — хата якога стаяла праз дарогу. Падышоў да суседа, пачаставаў таго цыгарэтай.

— Варывончыха заходзіла?

— Яна і зараз у нас, — сусед са свістам пусціў дым, — з маткай перамаўляюцца. — Міцькава матка не ўставала з ложку.

— І што цікавага кажа?

— Кажа, а восьмай гадзіне, як скончыцца служба ў царкве, цемрадзь абрыне. Нічога не будзе бачна. Во! — Міцька выставіў перад носам рашчаперания пальцы, — далонь да носу паднясеш — і яе не ўбачыш. Сонца, карацей, больш не ўзыдзе.

— Яно што, на тым баку Зямлі захрасне? Толькі амерыканцам свяціць стане? — са здушаным смяшком запытаўся Кныш.

— Ты ў Варывончыхі спытай — як яно там надарыцца, — парыраваў Міцька, зацягнуўшыся цыгарэтай.

— Ну і дзе будзем хавацца?

— Пляткарка параіла ў падвал лезці. Але ж матку паралюш разбіў. На тапчане будзе канец свету сустракаць.

Парукаўшыся з суседам, Кныш шырокім крокам пашыбаваў на суседнюю вуліцу, дзе жыў стары сябрук Генка Катаводаў. Па дарозе дастаў з кішэні штаноў мабільнік, збіраючыся пазваніць сябру, але перадумаў. Генка мог сказаць, што адпачывае, ці яшчэ што, і планы маглі сарвацца.

Пра канец свету балбатала не адна Варывончыха. Пра тое казалі і па тэлебачанні. Надоечы паказвалі нейкіх сектантаў, якія залезлі, ратуючыся ад таго канца, у пячору разам з дзецьмі, і іх не давалі рады адтуль выцягнуць. А калі, урэшце, выцягнулі, сын адной з сектантак агрэў паленам па галаве завадатара закалотаў — мясцовага папа-расстрыгу. І хто б гэта агрэў паленам Варывончыху?

Хата сябрукова тулілася наводшыбе. Там намяло даволі вялікія гурбы і, прабіраючыся праз іх, Кныш чарпануў снегу халявай. На двары яго сустрэў сабачы брэх, які хутка абарваўся: сабака пазнаў сваіх.

— Ну, Чарныш, гаспадар дома?

Чорны, з белым «гальштукам» на шыі сабака, каротка дзяўкнуў і палез у будку. Стоячы на ганку, Кныш сцягнуў з

нагі кірзач, выбіў снег і, агледзеўшыся, пхнуў пляшку ў сумёт. Гарэлка нагрэлася на грудзіне і яе трэба было ахаладзіць.

Катаводаў спаў на канапе, прычым у рабочай вопратцы. Прачнуўшыся, ён працёр зекры, не даючы рады ўцяміць — хто там завітаў у госці.

— Ты што, з перапою? — хмыкнуў Васька.

— Які перапой… два дні лінію рамантавалі, языкі высалапіўшы. Змерзлі дашчэнту, — сябрук працаваў манцёрам у раённых электрасетках і яму часцяком даводзілася завіхацца ў голым полі. — Ты па справе, ці проста так?

Генка з вохканнем падняўся з канапы, пайшоў на кухню і доўга піў ваду, праўдападобна, з чайніка.

— Па справе, — выдыхнуў госць.

Гаспадар паставіў чайнік на пліту.

— Якая б ні была да мяне справа — два дні з-пад коўдры не вылажу.

— Ты святло можаш адключыць? — перабіў Васька.

— Дзе?

— Дзе-дзе… у пасёлку.

— Магу, але давядзецца новую працу шукаць, — няўцямна, жуючы нешта, прагугніў работнік электрасетак, і выйшаў з кухні, трымаючы талерку са стосам навіснікаў.

Госць падхапіў наліснік.

— Не на суткі ж, а на пяць хвілін. Нібыта ніколі святла не адключаеце. На тым тыдні, памятаю, прыбег на абед, а электрыкі няма.

— Дык то ж удзень. Планавае адключэнне. Блок-замок мянялі і кантакты пачысцілі.

— Ты канкрэтна скажы: можаш тузануць рубільнік, ці не?

— Табе зараз тузануць?

— Ды не зараз, — перакрывіўся Васька. — А восьмай вечара.

— Краму збіраешся рабаваць? За пяць хвілін не справішся, — паспрабаваў пажартаваць манцёр, і госць, пхнуўшы ў рот чарговы наліснік, ужо зусім няўцямна прамармытаў:

— Ладна… выйдзі на ганак, пашнар каля прыступак.

Пакуль манцёр выходзіў з хаты, галодны госць з’еў тры бліна.

— О! Дык гэта зусім іншая размова! — выгукнуў ад парога Генка, выціраючы прыполам кашулі мокрую бутэльку. — Давай па сотцы, у тэмпе хуткага танца. Жонка павінна прыйсці.

Дадому Кныш вярнуўся прыцемкам.

— Ці не дзюбнуўшы ты? — сустрэў на парозе звяглівы жончын голас.

Буркнуўшы штосьці ў адказ, ён нат не зайшоў у святліцу. Лёг на тапчан, што стаяў у сенях, з галавой накрыўся дзедавым кажухом. Пад кажухом бракавала паветра, і яго апанавалі цяжкія сны. Катаводаў, як кулялі чарку, распавядаў, як у маладосці тушыў пажар на электрападстанцыі. Падстанцыя была магутная, на 110 кілавольт, сілкавала нафтаперапрацоўчы завод, а таму трэба было не проста патушыць агонь, але і як мага хутчэй тую падстанцыю адрамантаваць. Шызы дым засціў вочы, з трансфарматараў сыпаліся фіялетавыя іскры, лілася гарачая аліва, якая тут жа ўспыхвала і лілася як вулканічная лава, і небарака ад тых жарсцяў здушана мармытаў і дрыгаў нагамі. Неўзабаве на падстанцыі абвалілася столь, і Кныш адарваў галаву ад падушкі. Прымружыўшы левае вока, націснуў кнопку мабільніка. Да канца свету заставалася дзесяць хвілін.

«Ледзь не праспаў», — бязгучна прашаптаў Вася і зазірнуў у святліцу. Цешча, апранёная ў зімовы палітон, з пуховай хусткай на галаве, сядзела пасярод пакою і неадрыўна глядзела на будзільнік, які трымала ў руках. Ля яе ног стаяла ладна напханая сумка.

«Хоць зараз вязі ў вар'ятню», — з гэтаю думкай наш герой накінуў на плечы кажух і на дыбачках, каб не рабіць груку, выслізнуў на двор папаліць. Герой хуценька збегаў у прыбіральню, укінуў у рот цыгарэту і згадаў сваё маленства. Маці на Каляды заўсёды рыхтавала багатую вячэру і яны, перад тым, як сесці за стол, выбягалі на ганак, удыхалі на поўныя грудзі марознае, прапахлае яловай ігліцай паветра, і глядзелі на зоркі. Сёння зорак не было. Вася прыпаліў цыгарэту і, не ведаючы, на чым засяродзіць позірк, утаропіўся на праста-

кутнік жоўтай яснасці пад вакном. Мароз суняўся, і снег не ззяў, а свяціўся як рассыпаны нафталін. На прастакутнік лёг цень — гэта жонка завіхалася ля вакна, — потым снег зноў нафталінава заззяў, і раптам знік, панурыўшыся ў густую, сіняватай водцені цемру.

— Што такое? — сцепануўся Вася, ды тут жа парывіста перавёў дыханне.

Колькі часу панавала не толькі апраметная цемра, але і гнятлівая ціша, якую перарвала скавытанне шчанюка ў Міцькавым двары ды квахтанне азалелай курыцы ў адрыне.

Вася скочыў на ганак, прачыніў дзверы, прыслухаўся. У хаце нешта грукнула і пачуўся роспачны лямант:

— Мама, ты што, ашалела?!

Кныш кароткімі зацяжкамі дапальваў цыгарэту, як здрыганулася зямля пад нагамі. Ён зачапіўся за парог, пайшоў, выставіўшы, як самнамбула, наперад рукі, і наляцеў на штосьці цёплае і мяккае.

— У падвал праваліліся! — не сваім голасам выгукнула жонка, схапіўшы мужа за рукаво. — Палезла туды ратавацца, ды, відаць, лесвіца не вытрымала.

Муж намацаў адчынены лаз, чыркнуў адразу некалькі запалак, зыркнуў у падмосце. У твар патыхнула гнілой бульбай і яшчэ нейкай агідай. Верхняя папярэчына была зламаная. У падвале сыра, вось дрэва і падгніла.

— Іванаўна! — стоена выдаў зяць, мружачы вочы.

На доле ціхенька заенчылі.

— Свечку дай! — Вася зноўку чыркнуў запалкамі.

— Няма, — здушана ўсхліпнула Валянціна, — усе ў сумку запхнула.

— А сумка дзе?

— З сабой прыхапіла.

Запалкі патухлі, Вася вылаяўся і, зірнуўшы на нябачную ў цемры люстру, прамармытаў:

— І калі ўжо ўключыць?

Навобмацак стаў спускацца ў падмосце, а ступіўшы на земляную падлогу, паслізнуўся на нечым вязкім і аслізлым. Гэта была пазалеташняя гнілая бульба. Цешча ляжала на

баку, ён павярнуў яе на спіну. Локаць наткнуўся на сумку. Ён запусціў руку ў нутро, папоркаўся ў нейкіх трантах, выцягнуў тое, што шукаў: тоўстую сувенірную свечку. Кволы агеньчык асвяціў вільготныя, складзеныя з бітай цэглы сцены і вялізнага пацука, які сядзеў непадалёку.

«Добра, цешча не бачыла. А так бы дакладна не апрытомнела», — Вася шпурнуў у пацука запаленай свечкай і, задзёршы голаў, гракнуў:

— Бяжы да Лазаковіча! Удвух не выцягнем!

Над галавой нарадзіліся і сціхлі жончыны крокі, а ён, змораны, стаяў, прыціснуўшы гарачы лоб да халоднай лесвіцы, і ні аб чым не думаў. Галава была на дзіва пустой і лёгкай. Стаяў так, здаецца, цэлую вечнасць і збіраўся вылазіць з падмосця, як раптам на гары затупалі і прывыклыя да цемені вочы заплюшчыліся ад зыркай яснасці. Далі святло, і ў асветленым квадраце паўсталі спалоханыя твары Міцькі Лазаковіча і ягонага дваццацігадовага сына Юркі. Юрка хуценька спусціўся ў падвал, яны паднялі Іванаўну на ногі, прыхінулі тварам наперад да лесвіцы.

— Мы будзем за рукі цягнуць, а вы ззаду пхайце! — крыкнуў Юрка, выбіраючыся з падвалу.

Бацька з сынам звесіліся, падхапілі самлелую цётку за рукі, а Вася налёг плечуком на важкі азадак. Трымаць на плячы сем пудоў не было як, у Васіля ад напругі нават паветра пайшло з-пад ніжніх павекаў. І вось адолена першая прыступка, нага намацала другую, трэцюю, у гэты момант штосьці гучна храснула і ён, зачапіўшыся калашынай за цвік, зваліўся долу. Бацька з сынам кароткі міг трымалі Іванаўну, але потым адпусцілі, і тая абрынула на зяця, заехаўшы чаравікам ў скронь. Зяць адчуў, што яму не хапае паветра і астатнім высілкам скінуў з сябе ўдушлівы цяжар. Ніжняя частка нагі — там, дзе выступае костка, страшэнна шчымела. Ад болю заклала вушы і падступіла млосць да горла. Хвіліну бедачына сядзеў у халоднай жыжцы і безуважна пазіраў на перапуджанага пацука, які лётаў ад сценкі да сценкі. Увушшу шумела і ён па-ранейшаму не чуў, што крычаў Лазаковіч. Тым часам драбіны ўзняліся ўгору, зніклі ў светлым атворы,

а замест іх апусцілася новыя — з пляскатымі папярочкамі і прапахлыя хваёвай жывіцай. Сусед прывалок са свайго падворку. Паставілі іх з вялікім нахілам. Увішны Юрка спусціўся долу з тоўстай вяроўкай у руцэ.

— Ну як вы, дзядзька Васіль?

— Нагу пабіў. Устаць не магу.

Хлопец узваліў Іванаўну на драбіны, спінай уніз, спрытна абвязаў вяроўчыну пад пахамі, вылез з падмосця, і яны з бацькам, адчайдушна выдыхнулі: «Эх!» Азадак Іванаўны пераехаў на адну папярочку ўгору. «Эх!» — прагучала ўдругарадзь, і азадак падаўся яшчэ на адну папярочку.

Кныш выбіраўся з падвалу таксама з дапамогаю вяроўкі. Самлелая цешча ляжала пасярод святліцы і Міцькава жонка, якая калісьці працавала фельчаркай, рабіла ёй штучнае дыханне.

Штаны былі дарэшты завэдзганыя, і Вася, скоса глянуўшы на былую фельчарку, тузануў маланку і штаны спаўзлі на падлогу. Потым сцягнуў мокрую шкарпэтку. Над ступаком, на самай костцы, злавеснай сінечай наліваўся пухір.

— Паварушы! — з веданнем справы гукнула былая фельчарка, цiснучы далонямі на грудзіну Іванаўны.

Вася паварушыў пальцамі на правай назе.

— Пералому няма. Перабіў капіляр, гузак і ўскочыў. Трэба лёд прыкласці, — кабета кіўнула на дзверы і сын пабег на двор.

— Стаіш, як бусел, — скрозь слёзы выдала Валянціна. — Выклікай «хуткую»! Мама памірае.

— Твая мама мяне пераживе, — прашаптаў муж, задзёр голаў, згадваючы — дзе ў яго «мабільнік», — і той азваўся пад нагамі.

Кныш падняў штаны з падлогі, выцягнуў «мабілу».

— Ну, як там у вас? — пачуўся з тэлефонных глыбінь вясёлы воклiч Катаводава.

— У нас тут канец свету, — адказаў Вася і, кінуўшы: «Пераразваню», стаў дрыготкім пальцам набіраць нумар «хуткай дапамогі».

# ЗІМОВЫЯ СНЫ

> — Пошел вон!! — гаркнул вдруг посиневший и затрясшийся генерал.
> — Что-с? — спросил шепотом Червяков, млея от ужаса.
> — Пошел вон!! — повторил генерал…
>
> *А. Чехов. «Смерть чиновника»*

Прамень сонца, што вырваўся з палону ружовай смугі, зрабіў снег невыносна бліскучым. Глядзець пад ногі не было як, таму ён прымружыўся, прыкрыў твар рукавіцай. Уваччу паплылі шэрыя плямы, а разам з імі паплыў, гнаны халоднымі слязьмі, размыты відарыс трактара. Трактар стаяў на ўзлеску, і там таксама былі забітыя, бо конь увесь час круціў галавой і пырхаў.

Ён выпусціў з рук аброць, скінуў з плечука вінтоўку і, уторкнуўшы прыклад у востры грэбень сумёту, папраставаў па цаліку, правальваючыся ў снег па самыя сцёгны.

Па полі змяілася дуйка. Дуйка ляцела некуды, вочы чапляліся за канцы віхурыстых пасмаў, і ён збіваўся з кірунку, забіраючы ў той бок, куды дзьмуў вецер.

Калі да трактара заставалася не болей дваццаці метраў, снег стаў такім глыбокім, што давялося паўзці плазам, і гэта адбірала астатнія сілы. Знясілены, тыцнуўся носам у сумёт, колькі часу ляжаў нерухома, а ўзняўшы галаў, правёў рукавом па пераноссі.

Гусенічны «сталінец» — дакладна такую гаргару прыгналі напярэдадні вайны і ў іх полк, — стаяў, наехаўшы на вячыстую хвою, на медзяным стаўбуры якой праглядаліся меціны ад куляў.

«Зязюлі»... Забілі, відаць, трактарыста... Ехаў самапасам, пакуль на дрэва не ўзбіўся», — з гэтымі думкамі яшчэ раз агледзеў узлессе і, стаўшы вокрач, папоўз да трактара.

Поўз доўга, да поўнай змогі, нават не падымаючы вачэй, аж пакуль не стукнуўся лбом аб трактарную гусеніцу.

Над трактарам, над тым месцам, дзе павінен сядзець трактарыст, высілася паветка, на якой грувасцілася гурба снегу. Гурба мела даволі дзіўную форму, нагадвала ўзбітую падушку, а калі ён узняў вочы, дык убачыў Мікіту Пустасвята — механіка іхнага палка. Так! Таго самага Пустасвята, які ўвосень скраў з палкавой стайні казённы хамут і які, як казалі, падчас калектывізацыі забіў свайго бацьку-падкулачніка. Галаву Мікітаву пакрыў іней, а шырока расплюшчаныя вочы са здзіўленнем пазіралі на трактарныя вагары.

Улякнуты, ён зрабіў крок назад, наткнуўся на штосьці, плюхнуўся на гэтае «штосьці» азадкам і зразумеў: наляцеў на жалезныя сані, на якіх вазілі гарматы. Па хрыбеціне казытліва збягалі кроплі халоднага поту. Ён таргануў плечукамі, напяў кашулю, і адчуў непрыемны сверб ля лапаткі. За спінаю тырчала, кранаючыся шыняля, кашчавая рука з паабгрызанымі пальцамі. Рука машынальна капнула снег, і пад рукавіцай агалілася шчака са знаёмай радзімкай і клок рудых валасоў. Твар нябожчыка быў страшэнна знявечаны: ваўкі, а мо лісы адгрызлі нос, ад'елі верхнюю вусну, але ён пазнаў свайго камандзіра і, правёўшы рукавом па заінелых пятліцах, з халодным спакоем убачыў палкоўніцкія «шпалы».

Дзесьці ўдалечыні стомлена і цьмяна бухнула гаўбіца, і з трактарнай паветкі ценькім раўчуком пасыпаўся снег.

«Фінская!» — апаліла трывожная думка. Ён размежыў зліплыя ад марозу веі і панурыўся ў цёплую цемру роднае хаты.

Сэрца білася так, як ніколі дагэтуль: захлыналася гарачай крывёй, ірвалася з грудзіны, і Яўхім зразумеў, што памірае, ды ў горле булькнула і ён, глынуўшы паветра, перавёў дых.

На кухні тахкалі ходзікі, пад бокам сапла Агата, і да гэтых суладных гукаў далучаўся яшчэ адзін, глухі і няўцямны, які далятаў знадворку. Гэта біўся рагамі ў сценку хлява баран Мікіта.

«Так і памерці можна», — Яўхім кульнуўся на бок, прыціснуўся халодным чэравам да цёплай жончынай спіны.

Ужо каторым разам прысніўся той сонечны марозны дзень, калі ён поўзаў па знямелых палях, выцягваючы са снежных магіл на дарогу скарчанелыя трупы. Сон гэты сніўся траха не кожнае ночы, і траха не кожную ноч ён боўтаўся ў пульхным снезе, мружыўся на зыркае сонца, крычаў нешта сваім таварышам, якія засталіся на дарозе.

За сорак гадоў шмат якія падзеі забыліся. Вайна ператварылася ў штосьці цьмянае, балючае і шэрае, такое ж шэрае, як столь у сестрарэцкім шпіталі, на якую калісьці глядзеў заплаканымі вачыма. У снах забытыя фарбы і гукі ажывалі, і зноўку бухалі гарматы, і заінелыя елкі адбівалі нябесны блакіт, і вятрыска гудзеў у хвоях, адпяваючы занесеных снегам чырвонаармейцаў. У снах нават згадваў мянушку каня, на якім вазілі трупы, але, прачнуўшыся, забываў, і рэха конскага імя блукала ў спратах памяці, цвелячы сваёй невыразнасцю.

Паляжаўшы на левым баку, небарака кульнуўся на спіну, у ходзіках тым часам штосьці стрэльнула, і Агата, пакінуўшы сапці, прыспана запыталася:

— Чаго ты?

Муж, як заўсёды, прамаўчаў, а жонка з вохканнем вылезла з-пад коўдры і, прыкрыўшы зяхлівы рот, няроўнай хадой пасунулася на кухню.

— Забіў некага на вайне — вось і сняцца нябожчыкі. Трэба свечку ў царкве паставіць. Яно б і адлягло... — за сценкай пачуліся ўздыхі і гучны, як да ночы, бразгат лыжкі аб конаўку. Жонка дала папіць саладжавай вады, перахрысцілася на цёмны кут і спрытна падбілася пад коўдру. — Мо не паедзеш? А то зноўку сэрца схопіць, — Яўхім нічога не сказаў, адно закінуў рукі за патыліцу.

Баран Мікіта больш не бухаў у сценку, Агата заціхла і не сапла пад вухам, навокал стала ціха, адны ходзікі мерна тахкалі ўпоравень з біццём неспакойнага сэрца.

«А мо сапраўды не ехаць?» — падумаў Яўхім, але тут жа згадаў пра ўнука ды пра наладаваную салам валізу, і ў думках прамовіў: «Паеду».

Ходзікі зноў стрэльнулі, ківач затахкаў часцей, а разам з ківачом гэтак жа імпэтна забілася сэрца. Неўзабаве тахканне запаволілася. А што будзе, як ходзікі спыняцца? Думка гэтая не давала спакою. Старому прымроілася, што жонка забылася падцягнуць гіру, і тая вось-вось кранецца падлогі. Павярнуўшыся колькі разоў са спіны на бок і наадварот, ён урэшце пералез цераз жонку і ў адказ на сіплы вокліч: «Куды ты?» — буркнуў: «На вядро».

Гіра, вядома, вісела дзе трэба. Падцягнуўшы яе на адно звяно, стары ціха вылаяўся, пайшоў, абмацваючы цямноту, у сені і там, наткнуўшыся на валізу з салам, вылаяўся — галасна і брыдка.

Да ложку вяртаўся на дыбачках, на шасці ацалелых пальцах. У сенцах панаваў холад, і пяткі ўраз скарчанелі. Залезшы пад коўдру, прытуліўся чэравам да жончынага азадка, і Агата, якой абрыдла ягоная бессань, рашуча адсунулася на край пасцелі.

— Зноў ціснеш свае сцанікі!

Падштанікі былі мокрыя. Яўхім адвярнуўся да сценкі, падсунуў да жонкі акалелыя пяткі:

— Спі ты, халера!

— Заснеш тут… Пяты раз будзіць, — прамармытала жонка, і праз пару хвілін заснула, засопшы як і раней — салодка і залівіста.

На фінскай вайне, якая снілася па начах, Яўхім, можна сказаць, ні разу і не стрэльнуў. Пра тое, чым давялося займацца ў складзе дзеючай арміі, стары ніколі не расказваў, а калі хто пачынаў роспыты, адводзіў вочы і гугнііў:

— Ды так… ваявалі…

Нічога не казаў ён і Агаце. Ды тая, зрэшты, не надта і цікавілася ягонымі подзвігамі. Жонка па-свойму тлумачыла такое маўчанне і штораз пасмейвалася, пабачыўшы жоўтыя медалькі, якія муж чапляў на дзень Перамогі. А аднойчы, калі да іх прыйшла маладая настаўніца, каб запрасіць ветэрана фінскай вайны на школьную вечарыну, грымнула чыгунамі і жартам заўважыла:

— Знайшлі героя… Сядзеў у балоце, усёршыся, і абмёрз увесь. Пальцы на руках і нагах адрэзалі.

Няма чаго казаць: крыўдныя былі словы. Але ветэран і брывом не павёў. У душы нат падзячыў Агаце, бо настаўніца хуценька развіталася і збегла з хаты. Выступаць перад школьнікамі ён зусім не ўмеў, ды і пра што мог расказаць? Як цягаў адубелых нябожчыкаў? Бо менавіта гэтым і займаўся на вайне з белафінамі. Праўда, была адна падзея на векапомнай вайне, пра якую зрэдзьчасу апавядаў: ці то зяцю, калі прыязджаў у горад, ці то суседу Андросаву, узяўшы з ім па чарцы. Нават не падзея, а так — дробны эпізод. Аднак Яўхім расказваў пра гэта з хваляваннем у голасе, а на добрым падпітку і са слязой на вачах. І апавядаў ён пра сустрэчу з камандармам Сямёнам Канстанцінавічам Цімашэнкам.

— Выйшаў з машыны… высокі такі… у кажуху — і побач ардынарац…

Глухаваты Андросаў слухаў тыя балачкі, не да месца ківаў, а ўпіхнуўшы ў рот жменю кіслай капусты, жвава, як той заяц, варушыў сківіцамі.

Пілі звычайна ў суседавай хаце і кожнага разу, пачуўшы Яўхімавы байкі, на кухні ўсхліпвала старая Андросіха. У старой на фінскай ваяваў родны брат, якому ампутавалі абедзве нагі. Брат застаўся жывым і дагэтуль смуродзіў свет недзе на Урале, але суседка бедавала па ім як па нябожчыку.

— Гаварыў… выкінулі, бедненькіх, на лёд… Мароз сорак градусаў, а яны ў бацінačках. Так і памерзлі ўсе.

Бабскія румзы псавалі настрой. Яўхім тушыў у кансерувавай бляшанцы недакурак і панура цягнуўся за бутэлькай.

Камандарма Цімашэнку Яўхіму лёсіла ўбачыць у студзені 1940 года, на ўскраіне Сестрарэцку. Таго дня іх санітарная каманда, змардаваная і вашывая, шыбавала ў лазню, як раптам старшына Дабіжа ўлякнута выгукнуў:

— Камандуючы франтам!

Усе замёрлі, стаілі дыханне, і Яўхім пачуў, як недзе наперадзе загула і сціхла легкавушка. Ён ішоў ззаду і нічога не бачыў, а як стаў на дыбачкі ды выцягнуў шыю, дык згледзеў фарбаваную ў белае «эмку». Яна буксавала на ўзмежку да-

рогі, па самы бампер патануўшы ў снежнай калатушы. Ля легкавушкі стаялі двое — перацягнуты рамянямі маладзён у наваксаваных ботах і яшчэ нехта — мажны, шыракаплечы, які, раскінуўшы крыссе кажуха, паліваў снежны бруствер узбочыны.

На марозе чуваць далёка, таму да вушэй даляцеў пошум струменя, які свідраваў зляжалы снег, два рэзкія выхлапы, якія прыглушыў рыплівы тупат маладзёна і ягоны кароткі загад:

— Давай сюды!

Старшына Дабіжа выгукнуў прозвішчы трох чырвонаармейцаў, кінуўся да машыны, а следам, рупячыся ісці нага ў нагу, рушыла пакліканая ім тройца. На статутнай адлегласці старшына прыклаў руку да скроні, пайшоў парадным крокам, ды той, у кажуху, таргануў галавой і зашпіліў прарэх.

— Цімашэнка! Без аховы… — шапталіся злева і справа, і Яўхім стаяў, збянтэжаны і зачараваны, і рой бязладных думак гарачымі іголкамі калоў патыліцу. «Няўжо гэта Цімашэнка? Славуты камандарм першага рангу, пра якога пішуць у газетах і які прыехаў даць дыхту нахабным белафінам?»

І вось «эмка», пханая санітарамі, выехала на сярэдзіну дарогі, перацягнуты рамянямі маладзён адчыніў дзверцы, а камандарм, сказаўшы штосьці Дабіжу, падышоў да легкавушкі. У першых шыхтах заварушыліся, захінулі відасяг, і як ён не цягнуў шыю, выглядаючы Цімашэнку, анічога больш не ўбачыў. Пачуў толькі, як легкавушка, стрэльнуўшы выхлапнымі газамі, скранулася з месца, загула і завярнула ў завулак.

Да лазні маршыравалі з паходнай песняй, а датупаўшы да камяніцы, на фасадзе якой вісеў кавалак фанеры з надпісам «Санобработка», сталі, перабіваючы адно другога, дзяліцца ўражаннямі ад сустрэчы з камандармам.

«Што ён вам сказаў?» — пыталіся ўсе чырвонаармейца Сівалапа, якому пашчасціла пхаць «эмку», і Сівалап, вытрымаўшы паўзу, паведаміў:

— Спасіба, хлопцы.

«Спасіба, хлопцы», — выдыхнуў Яўхім, і прытоена-шчаслівая ўсмешка кранула вусны. Ён паўтарыў гэтыя два словы безліч разоў: калі здымаў брудныя споднікі, калі, па загаду

акулярыстага санітара, змазваў ліпучым квачом пэўныя мясціны на целе, і потым, калі вадзіў пляскатым змылкам па драбах. Спавіты валаснёй змылак дрэнна мыліўся, але ён не заўважаў гэтага, і з твару ягонага не знікала анёльская ўсмешка.

«Гэта ж трэба — самога Цімашэнку пабачыў», — думаў Яўхім, і свет брыніў уваччу, і зыкі, якія даляталі з парыльні — ляскат венікаў, сыканне распаленых камянёў, лямант чырвонаармейца Сівалапа, які расціраўся прынесеным знадворку снегам, — аддаляліся, ператвараліся ў аднастайны гул, і сэрца ягонае раставала, не раўнуючы, як снежны камяк на сівалапавым азадку ад невыказнай любові да камандарма.

Ён і сам не мог зразумець — чым так зачараваў яго Цімашэнка, але пачуццё, якое нарадзілася ў той міг, не мінала, набываючы рысы ціхага шаленства. Праз гадзіну, ідучы бадзёрым крокам на станцыю, Яўхім спрабаваў угледзець тое месца, дзе стаяў камандарм, але было ўжо прыцемна, ды і ўзбочыну тую замілаваў не толькі камандуючы. А праз пару тыдняў, патрапіўшы ў шпіталь, кожнага дня прасіў медсястру прынесці яму «Красноармейскую правду», і ў змроку зімовага дня гартаў забінтаванымі рукамі газеціну, шукаючы на старонках прозвішча камандарма. Ну а ў траўні таго ж саракавога году, вяртаючыся са шпіталю дахаты, Яўхім пачуў па радыё паведамленне аб прызначэнні Цімашэнкі Сямёна Канстанцінавіча наркамам абароны і цёплая хваля пачуцця падкацілася да грудзіны. Было гэта на станцыі Дно. Яўхім туліўся на мулкай энкапээсаўскай лаве, глядзеў на чорны квадрат рэпрадуктара, і з сардэчным клёкатам у горле казаў бязногаму кавалерысту, які сядзеў з ім на лаўцы:

— Бачыў яго, як цябе зараз.

І кавалерыст, які таксама вяртаўся з фінскай кампаніі, ціхенька вылаяўся ў адказ.

Наступным годам пачалася яшчэ адна вайна, на якую яго не ўзялі з прычыны адсутнасці трох пальцаў, потым, па вайне, была страшная галадуха. І тым часам, як у іхных Бычках скончылася апошняя бульба, Яўхім надумаў напісаць Сямёну Канстанцінавічу ліст. Дзеля той мэты сцягнуў употай аркуш

паперы ў сельсавеце. Але, сеўшы пры стале і тыцнуўшы ручкай у каламар, зразумеў: пісаць, уласна кажучы, няма пра што.

У сорак дзявятым маршала Цімашэнку перавялі з Паўднёвага Уралу ў Беларусь — камандаваць акругай. Прачытаўшы пра гэта ў газеце, наш герой ізноў сеў пісаць ліста, а крыху пазней стаў садзіць за стол і дачку Анюту. Пыхкаючы цыгаркай, звычайна дыктаваў адзін сказ: — Здравствуйте, Семён Константинович, — потым змаўкаў, мружыўся на заседжаную мухамі лямпу і асуджана махаў рукою. А гадоў дзесяць таму, убачыўшы ў «Известиях» маршальскі партрэт у жалобнай асадзе, бядак ледзь не самлеў і, не апрануты, — а быў пачатак красавіка, — пабег у бычкоўскую краму. Гарэлкі ў продажы не было, але магазіншчыца, з трывогай зірнуўшы на не апранутага наведніка, выдала пляшку з уласнага запасу, і цёткі, якія таўкліся ля прылаўка, зашморгалі насамі.

Цэлы дзень сядзеў на кухні і глядзеў у вакно, за якім мільгалі жаночыя галовы і чулася адно і тое ж пытанне, якое задавалі жонцы: — Ці не зяць ваш памёр? — і напаўголаса спяваў «Красноармейскую походную». Увечары, дапіўшы гарэлку, Яўхім выцяў з газеты маршальскі партрэт і з дапамогаю мыла прыляпіў над рукамыйнікам.

— Зусім здзяцінеў… Чорта лысага лепіць… — прамовіла той хвіляй Агата, і ён так зыркнуў на жонку, што старая выпусціла з рук абярэмак дроў і спехам выкулілася з хаты.

І цяпер, падстаўляючы далоні пад носік рукамыйніку, касіў вока на пажоўклы здымак, пасля чаго плюхаў на твар халадзёнкі.

На вайсковую службу Яўхіма мусілі ўзяць увосень 1934 года, ды не ўзялі па здароўі. Заняпаў з галадухі. Два гады хаваўся недалуга ад грэблівых дзявочых позіркаў, а потым убіўся на працу ў эмтээсаўскую сталоўку. Мыў там талеркі, сек дровы ды насіў ваду з калодзежу. Ад'еўся на дармавых харчах і неўзабаве быў узяты ў войска. Служыў у артылерыйскім палку, які стаяў у мястэчку Ідрыца. Да гаўбіц яго, аднак, не падпускалі — тры гады завіхаўся ля коней на палкавой стайні. Ну а ўвосень трыццаць дзявятага, адслужыў-

шы прызначаны тэрмін, пачаў рыхтавацца да дому. Цішком сушыў сухары, прыхаваў на гарышчы стайні кіло цукру, але тут белафінская ваеншчына ўсчала правакацыі на граніцы, і пэўнай ночы іхны полк узнялі па трывозе. Станцыя Ідрыца — маленькая, хаця і вузлавая, — за ўсю сваю гісторыю не бачыла такога вэрхалу, які панаваў тае ночы. Цягам некалькіх гадзінаў чырвонаармейцы ўсперлі на платформы цяжкія гарматы, загналі ў цяплушкі коней, загрузілі фураж і на двух эшалонах выехалі ў кірунку Пскова.

У апошнім вагоне «конскага» эшалону выправіўся ў далёкі свет і чырвонаармеец Яўхім. Цэлыя суткі ляжаў на мяхах з аўсом, пацепваўся ад халадэчы і сумнымі вачыма пазіраў на пралом у даху старога пульмана. У праломе шарэла аслізлае неба, дрыжэлі цьмяныя зоркі, гарэла ранішняя палымніца, чорны паравозны дым засціў халодную чырвань, і душа не знаходзіла прытулку ў стылай грудзіне. Яна, душа, трымцела ў чаканні невядомага, прагла вырвацца вонкі, і вось, дзесьці пад Ленінградам, калі небарака канчаткова змёрз і ад халадэчы пачаў трызніць, вырвалася з грудзі, сiганула ў пралом і паляцела разам з барвова-чырвоным дымам назад у Ідрыцу. Яўхім убачыў хвост цягніка, убачыў аснежаную станцыю, доўгі шыхт пакгаузаў і салодкае здранцвенне, — падобнае на тое, якое зведваў у дзяцінстве, калі маці перабірала пальцамі яго валасы на макаўцы, — па край напоўніла разняволеную душу. Удалечыні гучалі людскія галасы, глуха грымела і бухала, гуло і стагнала. Ён наструніў слых і аднекуль — ці то з бочкі, ці то з таго свету — прастуджана гракнуў сяржант Хамук:

— Ты шчо там, вмэр? Выгружай фураж!

Душа вярталася ў цела з неахвотай, але тут нейкая магутная сіла страсянула яго, паставіла на ногі, і праз імгненне скалелы небарака вылецеў з пульману, стукнуўшыся лбом аб край дзвярнога вушака. Гэта Хамук выкінуў яго з вагону.

У галаве гуло і шумела. Усе навакольныя гукі — конскае ржанне, надрыўныя паравозныя гудкі, мацюгі сяржанта — зліліся ў адзін працяглы гул, і Яўхім, узваліўшы на карак

мех з аўсом, аніяк не мог уцяміць — дзе ён, і якая халера ўсперлася на спіну.

Потым, аглухлы і невідушчы, цягаў мяхі з вагону, сяржант Хамук біў яго нагой пад зад — каб хутчэй варушыўся, — пасля шостага ці сёмага выспятку Яўхім упаў у снег, і ў гэты момант слых і зрок праяснелі. Ён пачуў, як недзе непадалёку ўдарылі капыты па сходнях, як ля вуха чхнуў сяржант Хамук, і як на другім канцы эшалону па-хахляцку закрычалі:

— Хлопці, шчо за станція?

— Белавостраў… Белавостраў… — шматкроць паўтарылі навокал, і камандзірскі воклік прымусіў падняцца.

— Эй, Хамук, давай сюды трох чалавек, — крыкнуў ад суседняй цяплушкі палкоўнік Хаміцкі.

Палкоўнік стаяў на пагорку, а поруч завіхаўся, махаючы рукамі, дзядок у белым халаце.

— Бярыце маіх людзей і выносьце раненых… — паспеў крыкнуць кампалка, перш чым голас ягоны пакрыў сіпучы паравозны гудок. Хаміцкі нешта крычаў — вялікая радзімка дрогалася на няголеным твары, — але паравоз гудзеў як апантаны, і ад таго гуду скалаланалася зямля пад нагамі.

… Яны беглі ўздоўж доўгага шыхту вагонаў, следам трухаў сівы дзядок, і наўздагон ім ляцеў ваяўнічы палкоўніцкі лямант:

— Даю вам трыццаць хвілін! Праз паўгадзіны дарога павінна быць вольнай!

У будынку станцыі покатам ляжалі раненыя. Бедачыны гучна стагналі, скрыгаталі зубамі; паветра працінаў пах крыві і карболкі, і ў Яўхіма закружылася галава, і даўкі камяк падкаціў пад горла. Ванітаваць, на шчасце, не было чым і не было калі. Ён змучана вякнуў, пракаўтнуў агідны камяк і, ухапіўшыся за ручкі насілак, патупаў да выхаду, утаропіўшыся на спіну напарніка — нізенькага каржакаватага санітара.

Праз гадзіну, дарэшты змучаны, ён праводзіў вачыма санітарны цягнік, у які заносілі раненых, следам за ім міма праехалі платформы са спавітымі ў брызент гарматамі, затым вагоны з конскімі пысамі ў проймах разнасцежаных дзвярэй,

і з жахам праводзіў позіркам свой пульман, які шарым прывідам праплыў у вечаровым паўзмроку.

— Чаго стаў? Раненых прывезлі! — крыкнулі за спінаю, потым ляпнулі між лапатак, нарэшце далі па карку, а ён усё стаяў, атарапелы, неадрыўна пазіраючы туды, дзе асядаў паравозны дым, дзе тырчаў семафор і дзе ляжалі, зваленыя ў кучу, мяхі з фуражом.

Адстаць-адбіцца ад сваіх — справа не жартоўная. Усё адно як дэзерціраваць. У вачох Яўхімавых паўстаў плакат, які вісеў у палкавой сталоўцы і на якім быў намаляваны той самы дэзерцір, і левую нагу працялі нервовыя дрыжыкі. Магчыма, усё цела б закалацілася, ды тут напарнік-санітар агрэў яго па спіне насілкамі і роблена-бадзёрым голасам выгукнуў:

— Не сумуй, артылерыя… Далёка не з’едуць. Праз тры кіламетры граніца.

Там, з боку граніцы, штосьці бухала, па-чалавечы стагнала і рыкала, а стылае неба раз-пораз асвечвала барвовая палымніца. «Сёння пацягаю раненых, а заўтра даганю сваіх», — з гэтаю думкай і пабег за напарнікам, на хаду спавіваючы абрыўкам бінту намазоленую руку.

Даганяць сваіх, аднак, не выпадала. Ад ранку выгружаў раненых з вазоў і машын, заносіў у будынак вакзалу, адтуль — у санітарны цягнік; спаў па чатыры гадзіны ў суткі і, нагледзеўшыся людскіх пакутаў ды наслухаўшыся страхаморлівых аповедаў, зусім не прагнуў кідацца на штурм лініі Манергейма.

Грымнулі маразы. І такія лютыя, што і сібірак Кармунін, яго напарнік, дзівіўся такой халадэчы, і на станцыю пачалі падвозіць абмарожаных. У асноўным, гэта былі чырванафлотцы, якія выправіліся на вайну ў бушлатах ды закарэлых чаравіках, і Яўхім, цягаючы абмарожаных балтыйцаў, у душы слаў падзякі сівому дзядку, ваенлекару 2-га рангу Прыбышэўскаму, які не даў яму памерці на марозе.

Блізу месяца завіхаўся каля параненых, а пасля Новага году, калі на фронце ўсталяваўся зацішак, яго і яшчэ двух санітараў паслалі збіраць на лясах трупы забітых чырвонаармейцаў.

Да месца прызначэння ехалі ў кодабу інтэнданцкага грузавіка, у абдымку з кажухамі і валёнкамі, а прыехаўшы ў разбураны фінскі пасёлак, атрымалі па пяць сухароў, кудлатага каня-«мангола» і аператыўны загад: агледзець навакольны лес і выцягнуць адтуль усіх забітых, — як нашых, так і фінаў. А выявіўшы сярод трупаў камандзіраў, тэрмінова паведаміць пра гэта камандаванню.

Там, на ўзлессі, Яўхім і наткнуўся на палкоўніка Хаміцкага, і ад тае пары палкоўнік, а дакладней, яго знявечаны лісамі труп прыходзіў у сны, спыняючы збалелае сэрца.

Зімовымі ранкамі вочы самі сабою мружацца ад святла, якое цэдзіцца з кухні, і адзінае, што лагодзіць зрок, гэта малінавыя блёскі — адбіткі агню ў печы. Блёскі бягуць па цёмнай столі, дрыжаць і мітусяцца, не раўнуючы як месячнае сяйво на неспакойнай вадзе, і калі доўга глядзець на тое мігценне, губляецца адчуванне часу, і асавелая галава не можа ўцяміць: якая пара на двары — позні вечар, ноч альбо раніца.

Гэтым разам галава была светлаю, і малінавыя блёскі, што мітусіліся на столі, выклікалі лёгкае раздражненне. Раздражнялі не толькі яны, але і тупы боль у сэрцы, трэск асінавых дроў ды шапатлівыя галасы на кухні: апошнім часам суседка Андросіха займела звычку завітваць у хату з цёмнага ранку. Сама яна яшчэ працавала — гатавала супы ў сталоўцы. Але сталоўка адчынялася а дзявятай, а да таго часу балбатуха бегала па суседках.

Ён збіраўся рыпнуць ложкам, даючы зразумець, што прачнуўся, ды перадумаў і, паклаўшы далонь на тое месца, дзе грукала сэрца, прыслухаўся.

— У талерку з поліўкай дзве сталовыя лыжкі. У кашу нельга. Другую лыжку будзе ўліваць — хай перахрысціцца і скажа: «Спрахні, зелле! Адчапіся, гарэліца праклятая!»

— Ці дапаможа? — азвалася Агата.

— Дапаможа. Хай толькі кожны дзень дае… У Халімоніхі сын ушчэнт спіўся. Ужо і на людзей кідаўся. Казала: дала два разы, дык за ўвесь месяц кроплі не ўзяў.

На кухні запанавала ціша, аж неўзабаве ў печы засіпелі мокрыя дровы і жонка чарговым разам уздыхнула:

— Баюся і выпраўляць. Мінулы раз паехаў, дык сэрца схапіла. І цяпер во жаліцца. Кульнецца дзе-небудзь… І сон дрэнны сніла. А як пайшла да рукамыйніку… ці паверыш… вунь той… лысы з газеціны… нібыта жывы глянуў. У мяне ўсё абарвалася.

Слухаць далей гэтую лухту не было як, таму Яўхім кашлянуў у жменю і рашуча сеў на ложку. Старыя спружыны жаласліва застагналі, Агата бразнула засланкаю, а суседка падхапілася і гучна, каб пачуў Яўхім, прамовіла:

— Ну дык збірайцеся. Васька запраўляцца паехаў.

Калі жанчыны падаліся на падворак, Яўхім споўз з ложку, пасунуўся, хістаючыся, да рукамыйніка. Набраўшы халадзёнкі ў прыгаршчы, па старой завядзёнцы зірнуў на пажоўклы здымак, і маршал хітнуў галавой і па-змоўніцку падміргнуў.

Васілёва малакавозка загула ля весніц, калі ўжо развіднела. Яўхім выйшаў на ганак, прывязаў да ручкі валізы канапляную шворку — цягнуць валізу трыма пальцамі не зручна, таму даводзілася абкручваць вяроўчыну вакол цэўкі рукі і такім чынам можна было несці не толькі аполец сала з вянком цыбулі, але і цэлага кабана, — і пад неадчэпнае мармытанне Агаты: «Ідзі ж ты жвавей… на «дызель» спознішся», — рушыў да весніц.

У кабінку залез з дапамогаю Васіля, а перавёўшы дых, паставіў між ног валізу.

— Ды не цягай левай рукой, а то млосна стане… Чуеш?

— Чую! — адмахнуўся ён ад жончыных парадаў і з нецярплівасцю кіўнуў кіроўцу.

— Ваду замоўленую адразу ж і аддай. Ды глядзі, каб Хведзька не бачыў… — паспела сказаць Агата, перад тым як Васіль, наваліўшыся яму на калена, бразнуў дзверцамі, націснуў на газ і старая, сілячыся перакрычаць гудзенне рухавіка, заварушыла вуснамі.

Да станцыі яго падкідваў Андросішын сын Васька, які шторанку вазіў малако ў Азярышча. Васька быў хлопцам маўклівым і дзікаватым. Абмяняў трыццатнік, але дагэтуль

халасцякаваў, не піў гарэлкі, не паліў, і ў вёсцы яго называлі Баптыстам. З Баптыстам можна даехаць да Азярышча, а то і да самога Віцебска, куды зрэдзьчасу ганялі малакавозку, і не пачуць ад яго аніводнага слова. Сама Андросіха тлумачыла сынава маўчанне і непітушчасць тым, што падчас радзінаў павітуха цюкнула, па неасцярожнасці, немаўля галоўкаю аб тапчан, і дзіцё тры дні не смактала малака і не плакала. Андросіха распавядала пра ўсё гэта не без гордасці, шкадуючы, што і астатніх Васілёвых аднагодкаў, якія ўсе чыста спіліся, свойчас не цюкнулі галовамі аб край тапчану. Хоць з Ваські Андросава і пасмейваліся ды называлі Баптыстам, але і паважалі. За лагодны характар. Баптыст нікому не адмаўляў у дапамозе, прычым рабіў людзям дабро моўчкі, з вінаватай усмешкай на вуснах. Вось і цяпер, пад’ехаўшы да клуба, спыніў машыну, вылез з кабінкі, пабег да кінабудкі, ля якой стаялі бляшанкі з кінастужкай. Бляшанкі тыя трэба было завезці ў кінапракат, здаць па акце і атрымаць наўзамен новы фільм. Выглядаючы ў люстэрцы задняга агляду Баптыста, які прытарочваў скрыні да борту малакавозкі, Яўхім міжволі згадаў Юрку Раднёнка, з якім дабіраўся да Азярышча мінулым разам. Юрка, Васьчын зменшчык і горкі п’янюга, ледзь не штовечар піячыў у кінабудцы, ды ўсё адно, мацуючы скрыні да борту, мацюкаўся, і да самага Азярышча гамзаў, як яму ўстыла важдацца з гэтымі «кінамі».

Убіўшыся ў кабінку, Баптыст працёр анучкаю запацелую шыбу, кінуў анучку ў «бардачок», націснуў на понаж газу. Па вясковай вуліцы праехаліся лецьма, уздымаючы парошу, а завярнуўшы на азярышчанскі бальшак, паехалі павольней. За шыбаю праплылі вясковыя хаты, прыцярушаныя парошай яблыні і калгасная сталоўка, на ганку якой стаяла Андросіха і поркалася з непадатным замком.

Натужлівае выццё матора спарадзіла ў душы неспакой. Яўхім прыпаў шчакой да бакавой шыбы, спрабуючы ўгледзець родную хату, але нічога не ўгледзеў, апроч узнятай коламі замятухі, і перавёў позірк на дарогу.

Машына агорала пад’ём, паехала жвавей. У скронь ударыла халодная дуйка, выпетрыўшы з глуздоў тужлівыя дум-

кі. Сэрца застукала часцей, а каля гатаўскай павароткі, калі з-пад колаў выскачыў ашалелы заяц, забілася так адчайна, што давялося пацерці схаладнелыя грудзі гарачай далонню. Васька пасігналіў услед вушастаму дуроніку, а Яўхім ашчадна кашлянуў і з невядомай прычыны прыўзняў і апусціў валізу.

Дарога ад Бычкоў да Азярышча на дзіва аднастайная: кусты, слупы, рэдкія масты праз ручаіны і на ўсім працягу толькі адна вёска, ды і тая на тры хаты. За гатаўскай павароткай бальшак забірае ўлева, бяжыць берагам Гатаўскага возера, і змучаны бясконцым мільгаценнем кустоў зрок апаноўвае снежная роўнядзь. Упоперак белага цаліку віецца працярэбленая рыбакамі сцяжына. Вочы чапляюцца за яе, потым губляюць, веі зліпаюцца; у замарачным гудзе малакавозкі чуецца зморанае конскае пырханне. Гэта цяжка сапе Рыжык. Ён азіраецца, махае рукой старшыне Дабіжу. Старшына выбіўся з сіл. Стаіць, ухапіўшыся за дугу і, панурыўшы галаў, пускае густую сліну.

Зранку танкеткі прабілі дарогу, але пасля завірухі ад дарогі не засталося і следу, і яны не маглі даць рады прабіцца на супрацьлеглы бераг возера. Ён яшчэ раз азірнуўся і пачуў, як на супрацьлеглым беразе бабахнула, і прастора напоўнілася злавесным свістам. Хваля пругкага ветру ўдарыла ў спіну і, падаючы, ён угледзеў шэры слуп вады, які ўзняўся на тым месцы, дзе стаяў Дабіжа. Снег набрыняў вадой; ён паспрабаваў устаць і новы выбух убіў тварам у пакрышаны лёд. Ён вомігам узмакрэў — спачатку ад гарачага поту, а потым ад сцюдзёнай вады, і калі апаў снежны пыл, вушы напоўніліся адчайдушным конскім ржаннем. Небарака Рыжык чабохтаўся пасярод вялікай палонкі, а ўскінуўшы ўгору абрубак нагі, знік з відавоку. Адзін аглабель застаўся тырчаць у калыхлівым шарашу, паволі хістаючыся на бакі.

— Рыжык! — хацеў ён крыкнуць, але не змог удыхнуць паветра і, змагаючыся з удушшам, стукнуўся скронню аб бакавую шыбу.

Сэрца шалёна калацілася. Ён хапнуў ротам паветра і перавёў дых. Малакавозка гула паныла і бязрадасна. Васіль торгнуў падбародкам, маўляў — заснуў, дзядзька? — і па-

сажыр расшпіліў трыма пальцамі верхнія гузікі кашулі і пасля глыбокага ўздыху бязгучна прашаптаў: «Рыжык».

Хаця час і прыспешваў, але да вакзалу не паехаў, — вылез ля канторы кінапракату. Вырашыў, па старой звычцы, зазірнуць на базар. Прычакаўшы, пакуль Васіль адвяжа бляшаныя скрыні, развітаўся з вадзілам, дастаў з кішэні пачак «Паміру», у якім была адна-адзіная цыгарка, прыпаліў на каляным ветры і пайшоў, рассоўваючы, як марак на сушы, адседжаныя ногі.

Наведванне базару было Яўхімавай жарсцю. Як дазваляў час, ён сноўдаў між базарных радоў, слухаў людскую гамэрню, дзівіўся на даўжэзны нос каўказца — каўказец узімку і ўлетку прадаваў там гваздзікі, — і яму карцела таксама стаць пад паветку, расклаўшы сякі-такі тавар. Аднаго разу не вытрываў. Даведаўся, колькі просяць за слоік мёду базарныя цёткі, стаў поруч і прадаў за тры рублі шклянку крупчастага ліпцу, які вёз унуку. Пра той выпадак ён апавядаў кожнаму стрэчнаму і кожнага разу заканчваў аповед нязменнай фразай: «Гэта ж мёд, а не брыдота, якую там прадаюць».

Яшчэ гадоў пяць таму па суботах і нядзелях на азярышчанскім базары збіралася процьма народу. Хадзіла пагалоска, што гандлёвы майдан будуць некуды пераносіць, бо гамана ды парсючыны віскат заміналі рабоце ваенкамата, які месціўся праз дарогу. Аднак апошнім часам базар заняпаў. Вяскоўцы калі і ехалі ў горад, дык не дзеля таго, каб нешта прадаць, а каб купіць якіх харчоў. Парсюкоў сталі прадаваць ля аўтастанцыі, а апусцелыя гандлёвыя рады апанавалі п’янтосы. Балазе крама стаяла поруч, а закуску — вялізную карэйскую цыбулю, ім давалі ўвішныя бабулі, забіраючы ўзамен пустыя бутэлькі.

Прымацаваны да шэрай ваенкаматаўскай сцяны гадзіннік паказваў палову дзясятай. Гарэлачная крама ад раніцы не працавала, і базар здзіўляў сваёй пустэльнасцю. Адно ля крайняй паветкі варушылася некалькі постацяў.

Яўхім спыніўся пад аркай з надпісам «Колхозный рынок», маракуючы — ці заходзіць на рынак, ці рушыць на вакзал, — і да яго падбег лядашчы сабака. Сабака задраў пысу, учуўшы

пах сала, і зычны лямант, які прагучаў непадалёку, прыціснуў цюцьку да зямлі.

— Сэмэчкі! Сэмэчкі бэрытэ! — гракнулі за калонаю, на якой мацавалася арка, і перад вачыма паўстала дзябёлая баба ў навюткай ватоўцы. Ад таго ляманту ў Яўхіма заварушыліся рэшткі валасоў пад шапкай, а цюцька, сагнуўшыся склюдам, адрывіста брахнуў.

— Ну, шчо трэсэш яйцамы? — баба тупнула кірзачом, і цюцька пабег, падкурчыўшы хваста, па базарным пляцы.

Пад крайняю паветкай сядзелі тры спавітыя ў цёплыя хусткі кабеты. Ля першай з іх стаяў, цьмяна бліскаючы бакамі, вялізны алюмініевы бітон; перад другой грувасцілася пірамідка цыбулін — кабеціна, відаць, чакала п’янтосаў, — а перад трэцяй, хвастамі ўгору, ляжалі два прывялыя буракі.

Увадначас да паветкі падышла цыбатая цётухна. Глянула на буракі, пагрозліва спытала:

— Пачом ваша свікла?

— Дваццаць капеек, — адказала кабеціна, лускаючы двума ацалелымі зубамі гарбузовыя семкі.

— А пашалелі людзі, — гукнула цыба, зыркнуўшы на Яўхіма, — дваццаць капеек за бурак!

Сказаўшы так, цыба ўтаропілася на бітон, да яе падбег лядашчы сабака, і цётка, замахнуўшыся пустой сумкай, прасіпела:

— Кыш, паскуда!

Адчуваючы сваю далучанасць да гэтай дзеі, Яўхім муляўся, не ведаючы як сысці з базару, і калі цыба счапілася з уладальніцай бітону і ўжо не кідала на яго ястрабіных зіркаў, спачатку прыстаўным крокам, а потым як ветрам гнаны, кінуўся да выхаду. Мінаючы арку, скасіў вока на прадавачку семак, а пачуўшы лаянку цыбатай бабы ды сабачае скавытанне, увабраў голаў у плечы і выцер узмакрэлую лабаціну.

Да вакзалу шыбаваў подбегам — баяўся спазніцца на «дызель», — а ўбіўшыся ў вагон, абамлеў. Сэрца палезла вонкі і захрасла ў глотцы, у вачах замітусіліся мятлушкі, увушшу зазвінела і свет перакуліўся потырч нагамі. Яго падхапілі, знялі з мокрай галавы шапку, пасадзілі на лаву.

— Храмугу адкрыйця, а то затахленне! — вісклiва крыкнулі над вухам, і ён раскрыў вочы. Людзі, якія збіліся ля лавы, пачалі разыходзіцца, у тую ж хвіліну цягнік скрануўся з месца і пасажырка, якая патрабавала адчыніць фрамугу, узрушана паведаміла:

— У нас у Лужасне вынеслі аднаго. Так і памёр на станцыі.

Па целу разлілася хваравітая стома. Цела зрабілася бязважкім, а сэрца схаладнела і, як падалося, пакінула біцца. Скронь прытулілася да халоднай шыбы, і праз хвілю хтосьці крануўся калена.

— С вами всё в порядке?

Сівы ягонага веку мужчына, сядзеў насупраць і спачувальна на яго паглядаў.

— Нармальна, — буркнуў Яўхім, мерачыся панурыцца ў млявую замарач.

— Вам необходимо выпить кофе. У меня хороший, с коньяком, — спадарожнік выцягнуў з сумкі вялікі размаляваны ў кветкі тэрмас і, сціснуўшы нагамі, спрытна адкруціў пластмасавую накрыўку. Яўхім узяў накрыўку дрыжачаю рукою і заўважыў: у спадарожніка няма рукі. Пустое рукаво, выбіўшыся з-за паса скураной курткі, бездапаможна матлялася ў паветры.

Кава апаліла паднябенне, хмельнай цеплынёй напоўніла цела. Здавалася, піў гарачую гарэлку, але прыемную на смак і такую пахкую, што суседзі закруцілі насамі, а жанчына з Лужасна запытала:

— І чым эта пахніць такім укусным?

Рэшткі гаючай асалоды ўліў у глотку і нават застагнаў ад задавальнення.

— Ну как? — спадарожнік прыняў з яго рук пасудзіну, і Яўхім замест адказу аблізнуў саладжавыя вусны.

Галава злёгку кружылася, вагон паволі гайдаўся, цётка з Лужасна больш не балбатала за спінай, і Яўхім, пазяхнуўшы, прымасціў галаву да шыбы. Сон, аднак, не ішоў. Пасядзеўшы з заплюшчанымі вачыма, ён злёгку прыўзняў павекі і стаў цішком разглядаць спадарожніка. Мужчыну, мяркуючы па ўсім, было за семдзесят і, як вылічыў Яўхім, гэта быў адстаў-

нік, бо ж гэта адстаўнікі гавораць гарадскою моваю, ходзяць у лётчыцкіх куртках ды выцвілых дыяганалевых брыджах. Але найбольш цікавіў у адстаўніцкім уборы атласны чорны гальштук, які выбіваўся з-пад шаліка. Цікавіў не сам гальштук, а тое, якім чынам аднарукі яго завязвае. Паразважаўшы на гэты конт, Яўхім вырашыў, што завязвае жонка, ці, можа, якія ўнукі.

— Грыбачы… следуюшчая Бычыха, — прагучала з дынамікаў і цягнік, тузануўшыся, запаволіў хаду.

— Да-а, — выдыхнуў Яўхім, правакуючы адстаўніка на размову, потым, з той жа мэтаю, керхануў у жменю, але адстаўнік маўчаў, з адсутным выглядам пазіраючы ў вакно.

Хацелася пагаманіць з гарадскім чалавекам, але не ведаў — як пачаць размову. Доўга круціўся на лаве і, нарэшце, калі цягнік загайдала на стрэлках, набраўся смеласці, кіўнуўшы на пустое рукаво:

— Руку гдзе паціралі?

Сусед лыпнуў веямі.

— Руку, гавару, гдзе паціралі?

Адстаўніка такое пытанне не на жарты ўсхвалявала. Ён ліхаманкавым рухам запхнуў рукаво за пасак курткі і ледзь чутна прамармытаў:

— Да так, было дело…

Звычайна Яўхім прыхоўваў ад чужых вачэй свае рукі, а тут паклаў іх на калені, расчаперыў абрубкі пальцаў:

— Я вот тожа на фінскай… пастрадал.

— Были на финской? — ажывіўся адстаўнік.

— Быў, — каротка адказаў Яўхім і насупіў бровы.

— В сороковом, помню, холодрыга была о-ё-ёй. Я в то время в Архангельске служил, — шёл на Новый год к товарищу, так, поверите, в кармане бутылка водки от мороза лопнула, — суразмоўца ўсміхнуўся, керхануў, прыпаў да вакна.

Такія размовы Яўхіму не спадабаліся. І не дзіва. Ён пра вайну, і абмаражэнні, а яму пра бутэльку гарэлкі. Не па п'янцы ж абмарозіўся, а пасля артабстрэлу. І абстралялі свае артылерысты. Яму згадаліся шалёныя, налітыя крывёю бельмы

Рыжыка, калі той правальваўся пад лёд, і сэрца зноў пачало біцца з перабоямі.

— Мужики на переезде… напились — один двоих тащит, — з вясёлым смяшком выдаў сусед, а заўважыўшы перамену ў Яўхімавым настроі, сумеўся і паправіў гальштук.

Чвэрць гадзіны яны паглядалі ў вакно, наперамэнку ўздыхалі, і нечакана спадарожнік стоена запытаў:

— Вы там, среди пленных финнов, женщин не встречали?

Палонных фінаў ён бачыў толькі здалёк, таму і прамаўчаў, а суразмоўнік, наблізіўшыся бліжэй, ужо зусім прытоеным голасам паведаміў:

— Я недавно книжку прочёл, не у нас изданную, так там написано, что если молодого финна убивало, на фронт его жена шла.

— Да-а… ваявалі не горш за немцаў, — мусіў падтрымаць суразмоўцу Яўхім, — у лініі Маняргейму цэлы месяц стаялі. Эта ўжэ як Цімашэнка прыняў камандаванне, так пашлі ў наступленне, — узбіўшыся на любімую тэму, пацёр далоні. — Я, знаяця, ево як вас відзеў… Вышаў з машыны…

— Кто вышел? — перапыніў суразмоўнік, адкінуўшыся на прыслон лавы. — Тимошенко?! Эта жопа с ушами?! — Яўхім са спалохам назіраў, як лоб суразмоўніка рабіўся гэткім жа белым, як і валасы.

— В сорок втором… под Харьковом… десять тысяч положили… Командующие сраные…

Ратуючыся, ад такіх слоў, Яўхім сцяўся, забіўся ў кут, захінуў твар рукамі. «Шпіён!» — апаліла жахлівая думка, а вочы, у пошуках паратунку, зачапіліся за дахі бычыхінскіх хат, якія праплывалі міма. Шпег штосьці казаў, аднак Яўхім яго не чуў. Рупячыся не глядзець на спадарожніка, намацаў валізу і падаўся ў тамбур.

Хацеў сысці тут жа, на станцыі Бычыха, ды ногі панеслі ў канец цягніка, і там, у паўпустым вагоне, сцішыўся на лаве, кідаючы спалоханыя позіркі на ўваходныя дзверы. Было адчуванне, што шпег зараз прыйдзе мучыць ягоную душу, але аднарукі не з'яўляўся. Замест яго ў вагон ўбіліся дзве кабеціны — адна рабая, што тая рапуха, другая з прыкметным

сіняком пад вокам. Селі насупраць, дасталі з хатулёў па яйку і цюкнулі аб лаўку.

— Клава! — прамовіла, калупаючы шалупайкі і скоса пазіраючы ў вакно, рабая кабета. — Ты йішчо не старая… найдёш чылавека… А эты чорт цібе ў гроб загоніць.

— Кожны ж дзянёчак п’яненькі, — казала, як бы не чуючы сяброўкі, другая — з падбітым вокам. — Учора на палу заснуў і ўвесь чыста абасцаўся.

— Я вот выгнала свайго п’янтоса — ціпер жыву ў сваё удавольсьцьвіе, — рабоха паправіла збітую на лоб махеравую шапку і дробна, як Андросаў, заварушыла пашчэнкамі.

Яечны смурод казытнуў у носе, Яўхім паморшчыўся і, працяты цікаўнымі позіркамі кабет, перабраўся на другі канец вагону.

«Страшны чалавек. Цімашэнку лае. Няйначай, шпіён», — з гэткаю думкаю ўладкаваўся на новым месцы, але, паглядзеўшы ў вакно і памазгаваўшы, вырашыў, што на шпега аднарукі не цягне. Бо шпегі — людзі асцярожныя, лішняга слова не скажуць, а гэты абы-што вярзе.

На новым месцы схаладнелая душа ўраз адагрэлася, абмякла, сэрца пачало біцца суладна мернаму грукату колаў; ён ужо не казеліў вочы на дзверы, а безуважна паглядаў у вакно, і толькі на міг, калі колы затахкалі часцей, сэрца страпянулася, і ў белым мроіве заваконня прымроіўся жаночы твар, прыкрыты пасмамі светла-русых валасоў. У наступны міг відмо незваротна знікла, і ў густым цеплавозным гудзе, які скалануў імглісты прасцяг, выразна пачуліся словы аднарукага: «Женщин, случайно, не встречали?»

Мароз перахопліваў дыханне, прабіраў да мазгоў. Мазгі паволі стылі, і заставалася адно сядзець незварушна, наваліўшыся на хваёвы камель, анічога не бачачы і нічога не чуючы. Час ад часу спрабаваў паварушыцца, растульваў павекі, а, зірнуўшы ўгору, угледзеў варон, якія ўзняліся над лесам. Ён не чуў стрэлу, але птушыны грай сведчыў за тое, што ў лесе стралялі. Нехлямяжым рухам ссунуў з вуха будзёнаўку і сярод граю і пошуму хвояў пачуў працяжны і, як здалося, страшэнна далёкі голас старшыны. Ногі дарэшты скалелі, да

таго ж плесціся давялося на зламанай лыжыне, якая ўвесь час занурвалася ў снег, і старшына Дабіжа, выехаўшы насустрач, крыкнуў:

— Что ползёшь, как усравшись?!

Старшына спрытна, як бы дэманструючы свой спрыт, павярнуў лыжы ў адваротны бок, і яны пайшлі ўздоўж узлеску.

Ехаць па лыжні было лягчэй. Ён рупіўся не адставаць ад Дабіжы, і калі той спыніўся, наехаў мыском зламанай лыжы на дабіжаву пятку.

— Вон, видишь «кукушку»? Третье дерево справа, — старшына нахіліўся, каб падцягнуць на пяткі п’ексы — лямцавыя фінскія апоркі, у якіх надта зручна было хадзіць на лыжах. — Я в него пустил пулю, да зря. Замёрз, гад… вон и карабин на суку болтается.

Хоць і зірнуў у той бок, але «зязюлі» не бачыў, а пад’ехаўшы да вілаватай хваіны згледзеў сярод аснежанага вецця чалавечую фігуру.

— Заснул, наверное, — старшына, кіўнуўшы на знак таго, што трэба лезці на дрэва, дадаў: — х… белофинский.

Хаця мароз і блукаў па скуры, мусіў скінуць шынель ды зняць рукавіцы. Старшына сагнуўся, падставіў плячук; ён папляваў на далоні, успёр калена на дабіжаву спіну.

— За сук хватайся, — выбухнуў напарнік; ён з цяжкасцю дацягнуўся да сука, ушчаперыўшыся ў яго азалелымі пальцамі, матлянуўся ў паветры, не раўнуючы як на палкавым турніку.

— Подтягивайся… йоп… — гукнуў старшына.

Трэба было падцягнуцца, аднак сіл не ставала. Елі два дні таму, ды і цяглiцы ад холаду спруцянелі, і ён добрых тры хвіліны боўтаўся між небам і зямлёй, аж пакуль не згубіў валёнак, і толькі тады здолеў уперціся нагой у хваёвы стаўбур і налёг на сук.

— Возьми! Привязан, небось, — ужо лагодным голасам азваўся напарнік, з падскокам перадаўшы яму фінку, а потым згублены валёнак.

На хвою лез сцярожка, намагаючыся не хістаць стаўбур. Баяўся, што мярцвяк абрыне на яго з верхатуры. Але мярцвяк, дзякуй богу, сядзеў ціха, і нават калі ён перарэзаў сырамятны рэмень, якім той быў прывязаны да стаўбура, застаўся сядзець, зацiснуты ў вілавацiне. Давялося, з лёгкай дрыготкай у руках, тузануць белафіна за крысо кажуха. З вершаліны абрынула гурба калючага снегу. Захiнаючыся ад снежнай лавiны, махнуў рукой, і намацаў сумку, якая вісела на абламаным суку.

З дрэва злазіў спехам, не чуючы ні рук, ні ног. Здавалася, што там, у вышыні, хтосьці ёсць, хтосьці сочыць за ім драпежнымі зекрамі. Пальцы не слухаліся, таму, перш чым скокнуць на снег, абхапіў рукамі сук, глянуў долу ды так і застаўся вісець, боўтаючы нагамі ў паветры. На доле, галавой да камля, ляжала маладая жанчына. Вецер шкуматаў валасы, гнаў завірушны струмок па лобе, матляў зялёны, у дробны гарошак, шалік на тонкай шыі.

Ад нечаканасці памкнуўся зноўку лезці на дрэва, але, злавіўшы суворы позірк старшыны, няўклюдна плюхнуўся ў сумёт. Снег заляпіў твар. Ён зірнуў левым, не залепленым вокам, на Дабіжу. Старшына, гідліва паморшчыўшыся, здымаў з нябожчыцы гадзіннік.

— Шынель одень. Замёрзнеш н-нах..! — лаянка прагучала глуха і няўцямна: вушы гэтаксама былі залеплены снегам. Вокраччу падпоўз да шыняля, не спускаючы вачэй з камлюкаватага дабіжавага карку. Старшына латашыў трафейную сумку. Вецер вырываў з рук нетутэйшыя грошы, дробна спісаныя аркушы. Дабіжа ўсё гэта пхаў у кішэні, нарэшце, выцягнуўшы з сумкі цупкую паперку, замёр на хвіліну. У пасінелых пальцах трапятала, намагаючыся вырвацца на волю, маленькая фотакартка. Яўхім падняўся з каленяў, зірнуў Дабіжу цераз плячук. Маладая дзяўчына са збітымі набакір валасамі, сядзела, нахіліўшы голаў да плечука русявага хлопца, і шчасна ўсміхалася.

— С-сука, — здушана працадзіў Дабіжа, падраў фотакартку, шпурнуў шматкі ў зледзянелы твар, і іх адразу ж падхапіў вецер.

Душу ягоную, ці не ўпершыню ў жыцці, апанавала лютая нянавісць. Ён замахнуўся шынялём і, уклаўшы ўсю моц самлелых цягліц, ляснуў казённай апранахай па хваёвым камлі. Снежны пыл крануўся твару, насунулася цемра і дзесьці зусім побач нарадзіўся жаночы голас:

— Уставай, п'янюга.

Старая кабета, сёрбнуўшы вады са слоіку, пырснула на падлогу, прыкра зашоргала каляным дзеркачом.

— Падыміся, дай падмесці, — кабета падхапіла крысо чыгуначнага шыняля, стала месці пад лаўкаю.

З вохканнем устаў на ногі, рушыў да выхаду, і ўжо ў тамбуры пачуў гаўклівы воклік вагоннай прыбіральшчыцы:

— Чумудан вазьмі, п'янюга!

Надвор'е сапсавалася. У паветры вісела імжа, шэрыя хмары плылі нізка, хаваючы ад вачэй кроны высокіх дрэў і дах вакзалу, а сам вакзал жоўтай плямай дрыжэў у сутонні змрочнай каламуці.

Гэткім надвор'ем яму заўжды блажыла. Шчымела патыліца, хваравлівая млосць апаноўвала цела і сэрца амаль не білася. Сёння ж яно, сэрца, не білася зусім. Выбіраючыся з чыгуначнага тупіка, куды загналі «дызель», сюд-туд спыняўся, сядаў на валізу і лез рукою пад кашулю, мацаючы тое месца, дзе павінна было стукаць сэрца. Расціраючы пад кашуляй казытлівыя кроплі поту, ён з дзіўным спакоем разважаў: ці дабярэцца да вакзалу, ці памрэ тут, між вагонаў, убіўшы нос у мёрзлы жужаль?

Апошнія метры цягнуў валізу на вяроўчыне, а, датупаўшы да вакзальнага скверу, абрынуў на крайнюю, няўтульна-мокрую лаўку. Шапка звалілася з галавы, закацілася ў лужыну, і ветрык ахаладзіў змакрэлую лысіну. Хвілін дзесяць ляжаў, амаль непрытомны, а калі ачуўся, убачыў у шарым тумане дзве чорныя плямы. Адну нерухомую і адну рухавую. Нейкі задужа гаспадарлівы грак хадзіў вакол шапкі, шкадуючы, відаць, што яе нельга зацягнуць на дрэва і прыстасаваць пад гняздо. Рухавая пляма знікла — грак адляцеў упрочкі, — і перад вачыма матлянулася даўгая спадніца.

— Во напіўся чалавек. І шапка ў лужыне, — зумкнуў пісклявы жаночы голас, і шапка халоднай рэхвай абхапіла голаў.

— Піва даюць вуньдзека. Дык яны тутака і п’юць, і спяць, і сцаць, — азвалася другая, падобна, зусім старая кабета.

Старая кабета кашлянула, збіраючыся нешта сказаць, ды ў гэты міг да вушэй даляцеў асіплы мужчынскі голас:

— Ой, бля-а…

Плячысты здаравіла лез па кустах, глытаючы піва з бутэлькі. Квадратны кадык прагна варушыўся, піва завілым цурком збягала з падбароддзя, і Яўхіму ад такога відовішча стала крыху не па сабе. Здаравяка дапіў трунак, пацёр пустой пляшкай па чэраве, задаволена прастагнаў:

— Ой, бля-а…

Ногі Яўхімавы падкурчыліся. Здаравіла задаволена адрыгнуў, плюхнуўся на лаўку, пляснуў па дрогкай Яўхімавай галёнцы:

— Что, батяня, хоря давим?

Яўхім яшчэ больш скурчыўся. Неўзабаве затрашчалі кусты, і да лавы падышлі два мальцы, якія трымалі ў руках некалькі піўных бутэлек.

— Потом, короче, Талян принёс пузырь, — грымнуў здаравіла, працягваючы перарваную размову і, пасунуўшыся на сярэдзіну лаўкі, прымусіў Яўхіма сесці. — Потом ещё самогоняры замандячили. Тут я и в-вырубился н-нах-х… — апошнія зыкі захраслі-зашэрхлі ў луджанай глотцы.

Адзін з хлопцаў — той, што быў маладзейшым, — прысеў на кукішкі, а другі — чалавек дашчэнту схуднелы, з лёгкай сівізной у чарнявых валасах, — без ахвоты прымасціўся на краю мокрай лавы. Здаравіла зубамі адкаркаваў пляшку, выплюнуў корак, прыпаў губамі да рыльца. Пры гэтым кадык яго нат не зварухнуўся: піва лілося ў нутро, раз-пораз уздымаючы ў бутэльцы хлапякі белай пены. Апаражніўшы пляшку, каторым разам выдыхнуў: «Ой, бля-а!» — адкаркаваў новую, але піў паволі. Рабіў глык і зморана аддзімаўся.

Пазіраючы на тройцу, Яўхім адчуў нясцерпную смагу. Яму да свербу ў пятках закарцела прыпасці да рыльца бутэлькі і, самкнуўшы вочы, глытнуць гаючага пітва. Ён пакруціў гала-

вой, выглядаючы — дзе там даюць піва, — і сусед па лаўцы скасіў на яго асалавелыя буркалы:

— Что, батяня, тяжко?

Бацяня лыпнуў вачыма і сусед працягнуў вільготную бутэльку, у якой было ладна пітва.

— Добивай.

Піва цёплай хваляй разлілося па целе. Паказваючы ўсім сваім выглядам, што яму і сапраўды цяжка пасля ўчарашняга, Яўхім з робленай цікаўнасцю слухаў здаравілу, які расказваў анекдот, і апавядальнік, натхнёны такой увагай, тыцнуў яго кулаком у плячук і захоплена гракнуў:

— Прорвёмся, батяня-а!

Скончыць показку апавядальніку не давялося. Маладзён, які сядзеў на кукішках, пачаў раптам ікаць — кожнага разу гучней і залівісцей, — і здаравіла дакорліва прасіпеў:

— Тебе что, Лёха, по кумполу пузырём… чтоб полегчало?

Лёха пакрыўджана пусціў між кален густую сліну.

Сусед па лаўцы дапіў піва, выцер вусны, прымірэнча-запытальна выдаў:

— Слышь?! Лёх!

Лёха перасмыкнуў плячыма, а перахапіўшы хітраваты погляд старэйшага таварыша, наставіў ашклянелыя вочы на чарнявага худабзея.

— Васильевич… Ты как? Сотку возьмешь?

Васілевіч шмыгнуў носам, натапырыўся і прамармытаў:

— Базевич…

— Да х…ля нам твой Базевич, — выбухнуў здаравіла, чыркаючы запалкаю па пушцы. — В прошлом месяце по скольку тебе закрывал? По трульнику в день? Да я за такие деньги и срать не сяду.

Худабзей прамаўчаў, і здаравіла ляпнуў яго па спіне:

— Да что ты сцышь. Возьмём три пузыря. В обед ё…нем. Базевич ни хера и не заметит.

Хвілінку худабзей вагаўся, але ўрэшце падняўся на ногі, і Лёха, выцягнуўшы са штаноў край ліхенькай цяльняшкі, стаў кідаць у прыпол пустыя бутэлькі.

Покуль Лёха здаваў посуд, здаравіла з худабзеем стаялі ў кустах, перакідваліся незласлівымі мацюгамі, а потым усе

трое пашыбавалі па ходніку, матляючы калашынамі шырокіх штаноў.

Мальцы ўжо былі далёка, калі Яўхім, з дзіўным для сябе спрытам ускочыў з лаўкі і, ухапіўшыся за канец вяроўкі, закінуў на спіну валізу.

«Трэба ж бутэльку ўзяць… Пасядзім з зяцем, пагамонім», — гнаны такімі думкамі, Яўхім пашыбаваў па снежнай хлюпоце і за спінаю ягонай надрыўна і адчайна булькацела замоўленая вада.

Задыханы, ён выбег на перакрыжаванне вуліц, спыніўся, прапускаючы трамвай, і нечакана абодва трамвайных вагоны з чырвоных зрабіліся шэрымі і заскакалі ўваччу. На шчасце, ён не паваліўся на рэйкі, а толькі хітнуўся; трамвай ізноўку стаў чырвоным і на другім баку вуліцы, сярод людской гурмы, мільганулі знаёмыя постаці.

У краме давалі «чарвіўку» па руб-сямнаццаць. Народ тут тоўкся цёмнай хмарай. Змагаючыся з задышкай, пастаяў ля ўваходу, збіраўся падацца назад, але, атрымаўшы штурхаля ў спіну, пераступіў парог.

Людзі душыліся ў чарзе, бязладна лаяліся, а ў куце — там, дзе грувасціліся скрыні і вісеў вымпел «Лучшему продавцу», — наогул усчыналася бойка. Бязладны шум прарэзаў воклік худабзея:

— Вон, Бурзачила стоит… Сейчас брать будет.

Лёха выцягнуў шыю, гракнуў: «Передадите «капусту», — і знік у натоўпе.

Ад задухі закружылася галава, але ён перадумаў выкульвацца з крамы. Яму заманулася пагаманіць з хлопцамі, каб хоць на хвілю-другую далучыцца да іхнага вясёлага і бестурботнага жыцця. Стары прыціснуў валізу да чэрава, прасунуўся наперад. У нетрах натоўпу пачалі лаяцца, і гамэрню пакрыў злавесны Лёхавы воклік:

— ВэДэВэ, блядь!

Ён спалохана адхінуўся, наехаў каркам на здаравілу. Той, расклаўшы на пяцярні манеты, лічыў драбязу і аднатонна гугнявіў:

— Руб-двадцать, руб-тридцать, руб-сорок…

Яўхім стаяў поруч, шморгаў носам і, асмялеўшы, папрасіў папяроску. Худабзей, не адрываючы буркал ад сяброковай далоні, працягнуў пачак. Знявечаныя пальцы не давалі рады падхапіць «беламорыну», папяросы сыпанулі долу, і худабзей нагнуўся, каб іх сабраць.

— Фу ты, йоп, — мацюкнуўся здаравіла і ўзяўся лічыць па-новай.

Яўхім стаяў, аслупянелы, у душы праклінаючы сваю няўклюднасць. Мальцы, вядома ж, не ведалі дзе, ён абмарозіўся. Карцела распавесці пра лютыя карэльскія маразы, пра адубелую «зязюлю» на хваіне і пра тое, як загінуў Рыжык.

— Мальцы, я ж на фінскай ваяваў. Цімашэнку як вас бачыў…

— Тимошенку?! Сашку?! Он же на зоне! — ачуўся худабзей, а здаравіла, перапыніўшы лік, тыцнуў таго локцем у чэрава і, пырскаючы асцой, прасіпеў:

— Не сбивай, йоп…

Кроў прыліла да твару, балюча загрукала ў скронях.

— Мальцы, ды я ж нічога. У мяне тут зяць на заводзе робіць. Хведзька Ліхаманаў. Можа ведаеце?

— Руб-двадца-ать… руб-тридца-ать, — праспяваў, расцягваючы зыкі, здаравіла, але, забыўшы, відаць, апошнюю лічбу, сціснуў кулакі, роспаччу заенчыў:

— Ну что его — вырубить н-нах-х…?

— «Капусту» передавайте! — гракнуў Лёха, здаравіла паднёс далонь да носу, збіраючыся лічыць «капусту», у гэты момант нехта стукнуў яму па локцю, і капейкі з дробным звонам сыпанулі на цэментавую падлогу.

— Мальцы… ды я ж нічога… — зацкавана пралепятаў Яўхім, і здаравіла, утаропіўшы на яго налітыя крывёю вочы, страшным голасам заенчыў:

— Уйди н-нах-х…, казлина старая…

Уваччу пацямнела. Выпусціўшы з рук валізу, ён падаўся да дзвярэй, ступіў на парог і, губляючы прытомнасць, налёг на дзвярны вушак. Пастаяў так, а затым стаў саслізгваць па вушаку, апускаючыся ўсё ніжэй і ніжэй, пакуль не знайшоў

сабе прытулак на аслізла-халодных прыступках. Да яго падышоў малады міліцыянт, уладна схапіў за руку:

— Что… нажрался?

Яўхім раздзёр павекі і ўбачыў палкоўніка Хаміцкага. Ці то ваўкі, ці то лісы адгрызлі бедалаку нос, адʼелі верхнюю вусну, і палкоўнік пасміхаўся яму з іншасвету, выставіўшы пракураныя жоўтыя зубы.

Ён правёў рукавом па заінелых пятліцах, і, замест палкоўніцкіх «шпалаў», уваччу задрыжэлі чатыры рубінавыя сукоснікі. Страшная здагадка працяла свядомасць. Ён сцепануўся ад жалезнага спохвату. Нехта ўшчаперыўся ў руку вышэй локця, і Яўхім, з жахам зірнуўшы на сувора-бязлітасны, колеру зжоўклага газетнага фотаздымку твар, бязгучна прашаптаў:

— Таварыш камандарм… Сямён Канстанцінавіч… пусціце!

Клюшня з двума адʼедзенымі пальцамі яшчэ ямчэй ушчаперылася ў руку, навец закапыліў ніжнюю вусну, і душа, ратуючыся ад той усмешкі і ад тых шчымётаў, вылецела, як і сорак гадоў таму, з грудзіны, і ўзнялася ў паветра. Хвіліну яна вісела па-над ганкам, потым пакружляла разам са сняжынкамі і, даўшы развітальнага кругаля вакол ускудлачанай галавы здаравілы, які выйшаў з крамы і ляпаў па сцёгнах, шукаючы запалкі, паляцела ў шэрае прадонне — туды, дзе нараджаўся і адкуль падаў долу цёплы беларускі снег.

*1996*

# ВУШАНКА

На прафсаюзным сходзе Мішку Зябліка, хаця ён і рабіў самаадвод, абралі ў мясцовы камітэт. Мішка было засмуціўся, але калі яго паляпалі па плячы, маўляў, не перажывай ужо так, перавёў дых.

Напачатку грамадская праца не надта турбавала. Даводзілася, праўда, хадзіць на розныя паседжанні, наведаць у складзе камісіі моладзевы інтэрнат, а пад Новы год падпісаць нязграбным почыркам некалькі віншавальных паштовак заводскім ветэранам. Усе прафсаюзныя справы цягнуў на сваіх плячах старшыня мясцкаму Манучаранц. Але нечакана старшыню паклалі ў бальніцу з гнойным апендыцытам, і Мішка вымушаны быў ачоліць на нейкі час прафсаюзны «стол заказаў» і размеркаваць сярод работнікаў семдзесят слоікаў маянэзу. Занятак гэты даволі непрыемны: дэфіцыту, што паступаў у «стол заказаў», на ўсіх не хапала, і кожнага разу яго размеркаванне суправаджалася сваркамі і звадамі. Нядаўна размяркоўвалі 150 слоікаў зялёнага гарошку, дык жанчыны Манучаранца ледзь не пабілі. Адна патоля — «маянэзны спіс» ужо даўно складзены і перагляду не падлягаў.

Пад час абедзеннага перапынку Мішка завітаў у манучаранцаўскі кабінет, плюхнуўся на крэсла, падхапіў змацаваныя канцылярскай зашчэпкай аркушы, якія ляжалі на стале, і заклапочана спахмурнеў. Першая старонка была пазначана словам «Маянэз» і далей ішоў даўгі, адбіты на разладжанай друкарцы, спіс. Першыя дваццаць прозвішчаў былі рашуча падкрэслены, і на палях размашыста напісана: «Шматдзетныя сем’і». Мішка перагарнуў старонкі, прымружыў вочы, згад-

ваючы, чаго ён прыпёрся ў кабінет, і палез у кішэнь пінжака. Там ляжаў непрачытаны ліст. Выцягнуў з паштовай скрыні, як бег на працу. Ліст быў ад сябра, Лёшкі Вярыгі, з якім калісьці працавалі ў аўтакалоне, і які летась падаўся на Поўнач. Дастаўшы капэрту, Мішка агледзеў яе з усіх бакоў, прыклаў да носу, уцягнуў ноздрамі паветра. Хацеў адчуць водар сібірскіх кедраў, але ліст пах ці то сургучам, ці то клеем, ці яшчэ якой халерай. Паволі надарваў капэрту. Прабег вачыма колькі сказаў і, адкінуўшыся на прыслон працёртага манучаранцаўскім азадкам крэсла, сашчапіў пальцы на макаўцы. Сябрук прапаноўваў кінуць усё і ехаць да яго ў Мегіён. Апошнія два месяцы пасля разводу Мішка толькі пра гэта і думаў. Далонь выпрастала крыху пакамечаны ліст. «Ты напісаў, што развёўся з жонкай. І што? Так і будзеце з ёю валтузіцца на трыццаці шасці квадратах? Трэба, братан, пачынаць новае жыццё. А дзе пачынаць, як не на Поўначы», — амаль услых, варушачы вуснамі, прашаптаў Зяблік, і ў гэты момант рыпнулі дзверы, і ў вузкай пройме заміргала цікаўнае вока.

— А дзе Аркадзь Армэнакавіч? — даляцеў з-за дзвярэй здушаны жаночы голас.

— Я за яго, — прамармытаў Мішка, і ў кабінет увалілася сяміпудовая Аўдоцця Сарока са зборачнага цэху. Яна жыла ў суседнім доме і ведала Зяблікаву жонку.

Сарока памахала ў паветры аркушыкам паперы.

— Што ў вас?

— Спіс на атрыманне маянэзу.

— Спіс складзены і падпісаны Манучаранцам, — сябар прафкаму ляпнуў далонню па змацаваных зашчэпкай лістках.

— У нас шкодны цэх, а далі ўсяго дваццаць слоікаў. І тое не тым, каму трэба, — засакатала Сарока. — Мінулы раз Марымоніха зялёнага гарошку аж тры бляшанкі схапіла. І зноў у спісе..

— У яе шматдзетная сям’я, — прамовіў прафкамавец нізкім барытонам, не ведаючы, як адчапіцца ад назолай бабы.

— Шматдзетнай… як жа… яна свайго малодшага матцы аддала, а старэйшай дачцэ два гады спісала. Там ужо вялікая кабыла, а вы ёй усё яшчэ навагоднія падарункі даяце…

— Добра… добра… — Мішка падхапіўся на ногі, — давайце вашу паперу, разгледзім.

— Армянін ваш хвастом накрыўся. А хто будзе разглядаць?

— Я буду разглядаць, — сказаў, як адрэзаў, Зяблік і прычыніў дзверы. — Выбачайце, канец абедзеннага перапынку, а мне трэба ў абласны камітэт прафсаюзаў патэлефанаваць.

— Разгледзіце вы… як мінулым разам, — буркнула Сарока, выкульваючыся за парог.

— Прынёс нячысцік, — ледзь чутна выдаў услед наведніцы Зяблік.

Пасля разводу ў Мішкі усхадзіліся нервы. Ён сеў за стол, узяў дрыготкімі пальцамі сябрукові ліст.

«Напішы, чым займаешся», — пісаў сябрук. «Я гэты месяц завіхаюся на трубавозе. Развозім трубы па трасе. А ўсё лета працаваў на адсыпцы. Пад Мегіёнам страшэнныя балоты, і, калі будуецца нафтаправод, паралельна адсыпаецца дарога для праезду тэхнікі. Колькі атрымліваю — нават не паведамляю, каб цябе не засмучаць. Больш нас атрымліваюць толькі зварныя. Прыязджай, і твая мара ажыццявіцца — збярэш грошы на «жыгулі»…»

Рыпліва заспявалі завесы, і ў кабінет зазірнула мурзатая кабета сярэдняга веку. Твар кабеты быў цёмны ад сажы, і Мішка вырашыў, што яна з ліцейні.

— У вас будуць маянэз раздаваць? — спытала кабета, дробна залыпаўшы вейкамі.

— У нас, — незадаволена адгукнуўся Мішка.

— У мяне тут спіс, каму з нашага цэху выдаць.

— А вы з ліцейнага?

— З гальванічнага! Марымонава маё прозвішча, — з крыўдай у голасе адказала наведніца.

— Ад вас ужо прыходзілі, — сябар прафкаму паказаў паперыну, якую прынесла Сарока.

— Гэта ж хто прыходзіў? Ці не Сарока? Ганіце гэтую шалахвостку ад парога! Спіс яна склала… запісала туды сябе, сваю сястру, сябровак сваіх паганых, з якімі пляткарыць… І мяне, відаць, нядобрым словам згадала?

— Не… аддала спіс і адразу ж сышла, — паведаміў прафкамавец, аднак кабета таму не дала веры:

— Як жа… сыдзе яна проста так… толькі і робіць, што на ўсіх плявузгае, падла лупатая. А сама… — работніца гальванічнага цэху азірнулася на прачыненыя дзверы і сцішыла голас, — трох мужоў памяняла, а цяпер перад начальнікам цэху спадніцу задзірае…

Добрых дзесяць хвілін Зяблік слухаў жаночую балбатню, пасля чаго схапіўся за выратавальны тэлефон і стаў набіраць нумар сваёй кватэры.

— Прашу прабачыць, мне трэба тэрмінова звязацца з абласным камітэтам прафсаюза.

«Яшчэ адна наведніца — і мяне адсюль вынесуць», — падумаў сябар мясцовага камітэту і зноў уторкнуў нос у Лёшкіна пісьмо. Рукі прыкметна дрыжалі, таму ён паклаў паперыну на стол, прыціснуў пальцамі.

«Я ўжо за цябе слова закінуў. Сказаў, што ты вадзіла першага класа, маеш дзесяць гадоў шафёрскага стажу. «Татру», праўда, не абяцаю. Напачатку КрАЗ асядлаеш…»

Дзверы зноў рыпнулі — гэтым разам натужліва і трывожна — і з цёмнай праёмы выплыла пахілае стварэнне ў пацёхканым ватным палітоне. Мішка прымружыўся і пазнаў Капіталіну Гуляйнагу — старшыню заводскай ветэранскай арганізацыі. Гэтую арганізацыю старая порхаўка стварыла сама, і цяпер яе па святах запрашалі ў прэзідыум урачыстых сходаў.

Мішка запытальна ўскінуў брыво.

— Прынэсла спысок для «столу заказів», — ветэранша гаманіла з прыкметным украінскім акцэнтам, і яе з тае нагоды называлі Хахлушкай. — На атрыманне маёнэзу.

Кроў гарачай хваляй ударыла ў твар і ўвушшу спачатку загуло, а потым зазвінела. Сябар прафкаму павольна, як самнамбула, падняўся на ногі.

— Хто шчэ скажэ слово «маёнэз», тому буду робыты маёнэзны маскы, — страшным голасам, таксама з украінскім пранонсам, выгукнуў Зяблік. Ён служыў артылерыстам у Цярнопалі, так што ўкраінскую мову збольшага ведаў.

Дэманструючы, як будзе рабіць маскі, былы артылерыст пакруціў рашчаперанымі пальцамі перад наведніцай. Тая збялела, падалася задам да дзвярэй, на парозе сутыкнулася з некім і кульнулася на падлогу, мільгнуўшы падэшвамі стаптаных апорак. Зяблік спалохана выцягнуў шыю і зразумеў: гэта Марымоніха стаяла на каленях ля дзвярэй ды падслухвала. На яе ветэранша і наляцела.

… Зяблік ужо дачытваў ліста, калі поруч абудзіўся тэлефон.

— Аркадзь Армэнакавіч? — пачулася з слухаўцы. Гэта тэлефанавала дырэктарская сакратарка.

— Ён на бальнічным, — прамармытаў Мішка і здушана адкашляўся.

— А гэты вы размаўлялі з Капіталінай… — сакратарка на імгненне змоўкла — спытвала ў ветэраншы імя па бацьку, — … з Капіталінай Мікалаеўнай?

— Я, — з натхненнем выдаў Мішка.

— Што вы сабе дазваляеце… — паспела выдаць слухаўка, перш чым бразнуцца на вагар.

«Да чаго дажыўся, — Зяблік са злосцю адсунуў ад сябе тэлефон, — ужо сакратуткі адчытваюць. Заўтра ж ад ранку падаю заяву на звальненне».

Пасля працы Мішка ляжаў у спальні на канапе — пасля разводу яны з былой жонкай жылі ў асобных пакоях — і гартаў часопіс «Новыя тавары». Дастаў цішком з паштовай скрыні. Часопіс выпісвала жонка. Там у кожным нумары змяшчалі фоткі дзевак у вязаных кофтах ды рознае кухоннае начынне, таму жанчынам ён быў цікавым. Нездарма яго прыносілі пакамечаным, а то і з плямамі на вокладцы. Відаць, паштаркі чыталі. Было там што паглядзець і мужчынам: на старонках пракідваліся электрабрытвы, матацыклы, аматарскія кінакамеры і стэрэапрайгравальнікі. Вось і ў гэтым нумары на вокладцы лагодзіў зрок двухкасетны магнітафон «Рамантык». Хаця айчыннаму магу далёка да японскага «Шарпа», які прывёз з Поўначы Лёшка Вярыга, аднак займець такую рэч было зусім не кепска. Ды як займееш, калі тавары, якія дэ-

манстраваліся ў часопісе, у крамах не прадавалі. Мішка перагарнуў пару старонак і стаіў дыханне. Мадэрнізаваны ВАЗ-2107! Ягоная мара! Ужо пяты год збірае грошы на машыну, а назбіраў толькі дзве тысячы. Капот мадэрнізаванай мары падпірала азадкам бялявая прыгажуня. Мішка закінуў за патыліцу правую руку і самкнуў вочы. Лёшка пісаў, што можна, як эканомна жыць, за паўтары гады сабраць патрэбную суму. У продажы, праўда, ніякіх машын няма, але цесць абяцаў дапамагчы. Інвалід вайны, можа ўзяць новы «жыгуль» без чаргі. Цесць наогул класны мужык. Заўсёды абараняў зяця. І выгнаў дачку з дому, калі тая вырашыла парумзаць у бацькавай хаце пасля разводу.

У замковай шчыліне зашоргаў ключ. Гэта вярталася з працы былая жонка, і былы муж пхнуў часопіс пад канапу. Увечары зноўку пагартае, а зранку ўкіне назад у паштовую скрыню.

Цягнік запаволіў ходу, ліхаманкава задрыжэў і спыніўся. Ды так рэзка, што Мішка стукнуўся плечуком аб вагонную перабойку. Правадніца ў тамбуры адчыніла дзверы, і ў твар ударыла марозная свежасць.

Цюмень вітала пасажыраў змяістай дуйкай і ядраным ветрам, які балюча біў снежнымі крупамі. Мішка скасавурыўся, наставіў каўнер палітону, борздым крокам патупаў да вакзалу.

Лёшка Вярыга раіў ляцець самалётам, аднак у касе папярэдняга продажу квіткі аж на месяц наперад прадалі, і давялося ехаць да Цюмені цягніком Масква-Барнаул.

У вакзальнай пачакальні сядзела, хадзіла і падпірала сцены плечукамі процьма народу. Мішка паныла і пакорліва агледзеў натоўп, паставіў ля ног сумку, хукнуў на скалелыя далоні і, схамянуўшыся, падышоў да акенца даведкі.

Цягнік да Мегіёну ішоў адвячоркам. Трэба змарнаваць дзевяць гадзін, а ў пачакальні нават не было дзе сесці — усе крэслы занятая.

Немаведама колькі часу стаяў ён з тварам зморaным і злёгку напужаным, ля халоднай сценкі, раз-пораз прыціскаючыся да яе, каб даць дарогу іншым пасажырам — людзям з такі-

мі ж стомленымі тварамі. Пасажыры увесь час, прычым без усялякай мэты, сноўдалі ўзад і ўперад ды ціха мацюкаліся. Пасля абвесткі пра цягнік, які павінен падысці да станцыі, натоўп пачынаў мітусліва варушыцца, бязладна гаманіць і нехта падымаўся з крэслаў. Але пакуль Мішка хапаў сваю непад'ёмную сумку і рабіў пару крокаў да вольнага месца, яго ўжо займалі больш увішныя пасажыры.

Поруч таўкліся сібіракі — у тлустых кажухах, унтах і кудлатых сабачых аблавухах. Пазіраючы на такое ўбранне, наш герой сціпла патупаў чаравікамі са штучнай скуры, паправіў на галаве шапку — тую самую, якую падараваў на вяселле цесць, цяжкую і каляную, як вайсковая каска. Белы трус, з якога яе сшылі, пазеленеў ад вільгаці, і на добры лад шапку варта было закінуць на вышкі, але ж новую днём са свечкай не знойдзеш.

Агойтаўшыся, герой стаў прыслухоўвацца да людскіх размоваў. Сібіракі, якія стаялі непадалёку, спрачаліся за палітыку.

— Анічога ў Гарбатага не атрымаецца, — барытоніў дзядзька ў кашлатай, што той каўказскі малахай, шапцы. — Расеі патрэбны цар з бізуном. А які з Гарбатага цар. Так… мінеральны сакратар. — Дзядзька ў малахаі меў наўвеце Гарбачова.

Мішка адсунуўся ад «малахая». На радзіме за палітыку таксама гаманілі. Напаўголаса, дзе-небудзь на кухнях. А тут гарлалі на ўвесь вакзал. Мішка з трывогаю перавёў дых і схапіўся за сумку. Убачыў вольнае крэсла.

Падмерзлыя пяткі гулі, як высакавольтны трансфарматар. Мішка пацягнуўся, пашоргаў падэшвамі чаравікаў па цэментавай падлозе. Калі ў памяшканні пяткі мерзнуць, дык што з імі будзе ў Мегіёне. Апанаваны невясёлымі думкамі, Зяблік пазяхнуў, зірнуў на гадзіннік. Душа прагла вырвацца з вакзальнай таўкатні ў шырокі свет. Яму прыйшла думка прайсціся па горадзе. Але куды пойдзеш, калі ногі і так скалелі. Ён змежыў павекі і стаў слухаць навакольныя зыкі — жаночага ляманту ля білетных кас, немага плачу немаўляці на другім канцы залы і здушанага храпу за спінай. Гукі пачалі зліваціа

ў адзін аднастайны гул, і Зяблік адчуў раптам, што ўзняўся ў паветра і ляціць некуды ў прадонне.

— Не налягай, — тлустая, з тварам як у хворай малпы, цётка штурхнула яго ў драбы. У Цюмені, як заўважыў Мішка, нават да незнаёмых людзей звярталіся на «ты».

Ехаў цэлыя суткі, спаў кепска, таму і пацягнула на сон. Прыспеў час адліць. Але ж пакуль будзеш адліваць, месца зоймуць. Ацірай тады сцены. З левага боку сядзеў стогадовы дзядок, які драмаў, паклаўшы сівую бараду на грудзіну, а з правага — незадаволеная цётка з малпіным тварам.

— Я на хвілінку, — выгукнуў, ні да каго не звяртаючыся, схапіў сумку і, падумаўшы, кінуў на крэсла вушанку. Калі яе тут пакінуць, месца дакладна не зоймуць.

У прыбіральні смярдзела хлёркай. Смурод быў такі, што слязіліся вочы, і небарака не бачыў, куды кіруе струмень, вызначаючы кірунак па цурчанні. Не абабіўшы апошніх кропель, Зяблік выбег з прыбіральні, налёг плячуком на сценку, каб аддыхацца, адчуваючы патыліцай халодную пройму. Усё ж дарма зняў шапку. На вакзальных скразняках магло і вушы надзьмуць. Па дарозе набыў у шапіку мясцовую газету — «Цюменскую праўду». Раз прыехаў у гэтыя мясціны, трэба быць у курсе тутэйшых падзеяў. Ляпаючы згорнутай газетай па сцягне, наблізіўся да таго месца, дзе сядзеў, і знерухомеў: крэсла было занятае. Там груваесціўся вусаты тыпус у даўгім кажусе.

— Гэта маё месца, — выдыхнуў, махнуўшы, нібыта адбіваючыся ад мух, газетай.

Тыпус зварухнуў прусачынымі вусамі.

— Ты што, яго… набыў?

— Я тут шапку пакінуў, на крэсле… — ужо з лёгкай панікай прамовіў Зяблік.

— Не было тут ніякай шапкі. Вызвалілася два месцы, мы з мужам іх і занялі, — азвалася такая ж мажная, як вусач, кабеціна.

«Малпа!» — працяла свядомасць пякучая здагадка. «Яна сцягнула!»

— Шапку не бачылі? — звярнуўся Мішка да барадатага дзядка, але дзядок не ўзняў галавы.

Усё ж была надзея, што вушанка кудысьці закацілася. Зяблік плюхнуўся на калені, пачаў шнарыць рукой па халодным цэменце, і мажная кабета, войкнуўшы, скочыла на ногі.

Вакол сталі збірацца людзі.

— У мужчыны шапку сцягнулі! — скалануў прастору сіпаты жаночы лямант.

Ён папоўз вокраччу уздоўж крэслаў і наткнуўся на вайсковыя боты. Перад ім стаяў міліцыянт.

— Што тут адбываецца? — пагрозліва спытаў міліцыянт, і ўсе аціхлі.

— Шапку скралі, — госць з Беларусі зірнуў знізу ўверх на міліцыянта.

— З галавы знялі?

— Ды не. Пакінуў на крэсле, каб не займалі, а сам у прыбіральню пайшоў. Вярнуўся, а шапка знікла.

— Ёсць сведкі? — праваахоўнік агледзеўся. — Хтонебудзь штосьці бачыў?

Натоўп адказаў зацятым маўчаннем.

— Не было тут ніякай шапкі, — удругарадзь гракнула жонка вусача, але міліцыянт на яе не звярнуў увагі, страсянуў за плячук сівабародага дзядулю. Той абудзіўся, павёў асавелымі вачыма.

— Нельга спаць у пачакальні! — буркнуў міліцыянт і, павярнуўшы галаву, кіўнуў Зябліку, які ўсё яшчэ стаяў вокрач: — Пройдзем у апорны пункт.

У апорным пункце — цёмным катуху з пісьмовым сталом, груваcткім сейфам і рагатай вешалкай у куце — міліцыянт каротка запытаўся:

— Дакументы маеце?

Давялося выцягнуць пашпарт.

— Та-к… Зяблік… Міхаіл Іванавіч, — міліцыянт зірнуў на фотку ў пашпарце, а потым на ўладальніка пашпарта. — І што вы тут у нас робіце, Міхаіл Іванавіч?

— У Мегіён еду.

— У камандзіроўку?

— Не, сваім ходам. Сябар там працуе. Хачу на працу ўладкавацца. Я шафёр першага класа…

— Шапка хоць добрая? Можа, пыжык?

— Ды не… трус.

— Шукай цяпер… На вакзале па радыё кожную гадзіну папярэджанне: «Не пакідайце асабістых рэчаў без нагляду». А ты… кінуў шапку і пайшоў?

Мішка развёў рукамі.

— Хтосьці ёсць на падазрэнні?

— Сядзела адна цётка побач…

— Асабістыя прыкметы запомнілі? — у голасе міліцыянта нарадзілася інтанацыя пагрозы.

— Ды я на яе дужа не глядзеў… сярэдняга веку, страшнаватая з твару…

— Ведаеш, колькі іх, страшнаватых з твару? — перабіў міліцыянт, і ўжо дабрадушным тонам запытаў:

— Пісаць заяву будзеш?

Мішка перакрывіўся, маўляў, якія заявы, узяўся за дзвярную ручку.

— Дзе ў вас можна вушанку набыць? — спытаў на астачу.

— Не ведаю. Мне форменную выдалі.

Выкуліўшыся з апорнага пункту, наш герой пацёр схаладнелыя скроні. Неабходна было набыць вушанку — хоць з фарбаванага ката, хоць з сабакі, хоць проста на ваціне. Ён выйшаў з будынку вакзала і галава адразу ж загула ад халадэчы. Урэшце нацягнуў на макаўку махеравы — яшчэ адзін цесцевы падарунак — шалік і пашыбаваў па рыпучым снезе. Мінакі на яго ўважліва глядзелі, вызначаючы — хто гэта: мужчына ці жанчына? А некаторыя нават спыняліся і пазіралі ўслед. Шукаць універмаг, на шчасце, не давялося. Стаяў непадалёку. У фае ўнівермагу доўга грэў рукі ля батарэі, што беглі ўздоўж сцяны, і прыпадаў да іх то адным вухам, то другім. І толькі потым рушыў у аддзел, дзе прадавалі галаўныя ўборы.

Паліцы ўражвалі сваёй пустэльнасцю. Вісела адно некалькі пакамечаных капронавых капелюшоў.

— А зімовыя шапкі ёсць? — звярнуўся Мішка да прадавачкі, якая цішком грызла кедравыя арэшкі.

— Не бывае, — прадавачка змахнула з вусны шалупайку.

Перамераўшы капелюшы — у спёку ў іх хадзілі глыбокія пенсіянеры — узяў самы вялікі. Каб можна было абвязаць голаў шалікам і наверх нацубіць пенсіянерскі ўбор. У капелюшы ён усё ж падобны на мужчыну, а не на кабету.

Пакуль бег да вакзалу, людзі ад яго кідаліся ў бакі. Яно і не дзіва! На вуліцы мароз за дваццаць, а бедачына бяжыць у капронавым, у дробную сетку, галаўным уборы. Калі ж заляцеў у будынак вакзалу і пачаў церці азалелыя вушы, дык пачуў пагрозлівае:

— Вашы дакументы!

Ля ўваходу пераступаў з нагі на нагу малады міліцыянт.

Давялося ізноў лезці па пашпарт.

— Краіну да ніткі расцягваюць, дык гэтага не бачаць. А прыйдзеш на вакзал — тры разы пашпарт спытаюць, — бухнуў знаёмы барытон. Ля сценкі стаяў той самы дзядзька ў малахаі, які надоечы абгаворваў Гарбачова.

— Куды ты ў пчалярскім капелюшы выпраўляешся? — пацікавіўся «малахай» праз хвілю.

— У Мегіён.

— Я, братан, толькі што адтуль. Там учора было сорак, а сёння, думаю, яшчэ больш. Пакуль даедзеш — мазгаўня ў лёд ператворыцца.

«Пчаляр» хацеў спытаць, ці ведае праўдашукальнік Лёшку Вярыгу, але дзядзьку паклікалі, і той, падхапіўшы вялізны заплечнік, пабег у бок буфету. Мішка скалануўся ад забытага да часу пачуцця голаду і пасунуўся следам. На асветленых цьмяным аптэчным святлом паліцах грувасціліся падазронага выгляду пончыкі ды раўнюткай чарадой стаялі бутэлькі ліманаду. Між тым душа і страўнік патрабавалі чагосьці наварыстага і гарачага.

Нябачны рэпрадуктар крахтануў і пасля паўзы паведаміў: прыйшоў прыгарадны цягнік з нейкай Таліцы. Падлога здрыганулася, і Зяблік апынуўся ў эпіцэнтры людскога збою. Людзі рушылі да выхадных дзвярэй, і ён пасунуў разам з імі, круцячы галавой і вызначаючы, у каго б спытаць пра сталоўку. На спіну яму налегла, шумна дыхаючы, старая цётухна.

— Дзе тут у вас бліжэйшая сталоўка? — спытаў у цётухны, калі яны выйшлі з вакзалу.

Тая ўважліва паглядзела на ягоны галаўны ўбор, але нічога не сказала.

— Шапку скралі, а ў вашым універмагу адны летнія капелюшы прадаюць.

Цётухна дакорліва страсянула галавой.

— Тут толькі «пельменная» побач. Ву-нь… у канцы вуліцы. Якраз туды іду.

Старая цётка несла цяжкі хатуль, Зяблік хацеў ёй дапамагчы, ды тая адмовілася. Надта ж падазроны, відаць, у яго быў выгляд.

— І адкуль ты такі з'явіўся? — старая цюменка падцягнула на вусны пуховую хустку.

— З Беларусі, — з неахвотаю буркнуў Зяблік.

— З Беларусі?! А з якой вобласці?

— З Віцебскай.

Старая спынілася, паставіла ля ног хатуль.

— А з якога горада?

Мішка назваў горад.

— А я з Оршы, — цётчын голас здрыгануўся.

Узрадаваўшыся, што сустрэў зямлячку, небарака пацёр змерзлае вуха.

— А вы зараз у Цюмень прыехалі?

— Ды не, у 41-м годзе. Я з Таліцы еду. Ад дачкі. У паліклініцы працуе.

Зямлячка зноў глянула на капялюш.

— Пайшлі, я табе шапку дам. Ад мужа засталася. Жыву непадалёку.

На радасцях Мішка падхапіў цётчын хатуль і пашыбаваў па аснежанай вуліцы, ды так, што спадарожніца за ім траха паспявала. Ісці з двума хатулямі ў руках нават зручней, чым з адной сумкай. Адно дрэнна: мерзлі вушы, і ныла ад холаду макаўка.

— А чаму вы з Оршы з'ехалі? — спытаў Мішка, спыніўшыся, каб пацерці вушы.

— Вайна пачалася. Муж памочнікам машыніста працаваў. З апошнім цягнікам з Оршы з'ехалі. У Вязьме захраслі. А як станцыю немец разбамбіў, яго ў Свярдлоўск перакінулі, затым у Цюмень. Тут мы і аселі.

Метраў праз сто, адчуўшы, што можа адмарозіць вушы, бедачына паставіў рэчы на абледзянелую лаўку, насунуў на голаў шалік і наверх нацубіў капялюш.

— Ну хаця б так, — задыхана прамовіла спадарожніца, — а то ж можна менінгіт падхапіць.

Колькі часу ішлі моўчкі.

— У цябе жонка ёсць? — перарвала маўчанне спадарожніца.

— Развяліся, — прабурчаў Зяблік.

— А чаго?

Давялося пякельна паморшчыцца. Не распавядаць жа незнаёмаму чалавеку пра тое, як злапаў жонку з суседам.

Хаця цюменка і казала, што жыве непадалёку, але канца дарогі не было бачна. Вуліца, па якой ішлі, называлася Першамайскай. Зяблік рупіўся запомніць дарогу. А раптам бабуля завядзе ў якія нетры? Выбірайся тады, не ведаючы ў які бок падацца.

— Вунь у завулак завернем — і там мая хата, — прамовіла нарэшце спадарожніца. — На беразе ракі жыву.

— А што за рака? — парна выдыхнуў Мішка.

— Тура.

Такая назва падалася дзіўнай і таямнічай.

Старая жыла ў хаце з высачэзным падмуркам і гэткім жа высокім і пакручастым ганкам.

— У нас такіх ганкаў няма, — на апошняй прыступцы Мішка ababiў чаравікі ад снегу.

— Старая хата. Купец цюменскі ставіў. А па вайне мужу, як лепшаму машыністу, далі, — азвалася цётухна з прысенку. — Увесь свой век тут і адвекавала.

У хаце пахла мышамі, а пад нагамі жаласліва рыпалі масніцы.

— Два дні мяне не было, хата выстыла, — гаспадыня, не скінуўшы палітону, чыркнула запалкай у печы, і на старэчых

руках заскакалі ўвішныя агеньчыкі. — Зараз што-небудзь згатую. Галодны ж, раз сталоўку шукаў.

Распаліўшы печку, гаспадыня, згадаўшы пра штосьці, выставіла ўгору палец, адчыніла шафу, доўга там поркалася, аж пакуль не выцягнула шыкоўную андатравую шапку.

— Прыкінь. Муж толькі адну зіму і аднасіў, — старая пакутліва ўздыхнула. — Пяць гадкоў прамінула, як памёр.

Шапка была як па ім сшытая. Гаспадыня паднесла настольнае люстэрка, і госць, насунуўшы вушанку на самыя бровы, задаволена ўсміхнуўся ўласнаму адлюстраванню. У такім уборы ніякія маразы не страшныя.

Не здымаючы з галавы вушанкі, дастаў са штаноў загорнутыя ў паперку грошы, плюнуў на палец.

— Не, грошы не вазьму, — махнула рукой бабуля. — Ты лепш пасячы дровы, калі можаш. Суседа прасіла, а ён некуды з’ехаў.

Госць памкнуўся бегчы на падворак, але гаспадыня схапіла за рукаво.

— Пагрэйся, паеш, гарбаты выпі, а тады ўжо бярыся за сякеру.

Распешчаны ад сытнага абеду і гарачай печкі, Мішка няспешна сышоў з высокага ганку. Бярозавыя цурбакі бязладнай кучай ляжалі каля дрывотні. Іх, відаць, прывезлі ўвосень, бо былі пакрытыя коркай лёду. Зяблік зняў з рукі гадзіннік, паклаў у кішэнь, правёў пальцам па лязу сякеры. Сякера была вострай. Ці не цётчын сусед навастрыў? Змахнуўшы з тоўстай калоды снег, паставіў на яго абледзянелы цурбак.

Ён не пачуў болю. Толькі кальнула ў скроні, калі пабачыў рассечаны мысок чаравіка, адкуль выбівалася на снег нешта страшнае і чорнае. Слых напоўніўся замарачным шумам, і самлелая рука выпусціла сякеру.

— Што? Што здарылася?! — прарваўся праз шум перапужаны воклік.

— Нага, — прастагнаў небарака і кульнуўся на снег.

Ён ляжаў з заплюшчанымі вачамі і, як і ў вакзальнай пачакальні, слухаў навакольныя зыкі. Яны ўвесь час паўтараліся.

Напачатку шамацелі карты, потым па ўслону ляпала калода, і хтосьці гучна называў масць, потым карты ціха ляпалі пад гучныя воклічы: «А во табе! А мы твайго ніжніка тузам!», урэшце адзін з гульцоў каротка лаяўся і з захапленнем выдыхаў: «А гэта на пагоны!»

У невялічкай, спрэс застаўленай ложкамі палаце, было, апроч яго, сем чалавек. Адзін, зусім малады хлопец, ляжаў без нагі; другі, чыгуначнік, без правай рукі — патрапіў у аўтамабільную аварыю, — яшчэ адзін быў увесь забінтаваны і не ўставаў з пасцелі, а астатнія — тыя, хто мог варушыцца — дзень да ночы рэзаліся ў дурня.

Усю ноч мучыў боль. У маладосці за тую ж нагу яго хапануў зубасты сабака, і сэрца зайшлося ад болю. Тое ж самае і цяпер. Адно што «сабака» не адпускаў палец нагі ні на хвіліну. Ад раніцы боль крыху суняўся, і ў галаве, спачатку паволі, як тыя жорны, потым усё хутчэй закруціліся панічныя думкі.

Нічога ў ягоным жыцці не атрымалася. Ні жонкі няма, ні дзяцей. І прайшло яно, жыццё, усё адно як у прыцемнай бальнічнай палаце. Хацеў урэшце дыхнуць свежага паветра. Падаўся на Поўнач. Але і да Поўначы не даехаў. Зараз давядзецца вярнуцца, без капейкі ў кішэні, з кульбакай у руцэ і з капронавым капелюшом на галаве. Прыедзе, плюхнецца, як блудны сын, перад Манучаранцам, торкнецца носам таму ў калені і заплача як бабёр. А хто будзе стаяць поруч? Вядома хто: Гуляйнага ды Марымоніха з Сарокай. А яшчэ бялявая дзеўка з часопісу «Новыя тавары». У Марымоніхі з Сарокай у руках будуць спісы на маянэз, а ў Гуляйнагі на твары маянэзная маска. Мішка ўявіў тую карціну і нечакана для сябе заліўся нервовым смехам. Спачатку здушаным, ледзь чутным, а потым зарагатаў на ўсе застаўкі, пры гэтым параненая нага балюча тузанулася.

— Ці не паехаў дах у хлопца? — прамовілі ў дальнім куце палаты.

Адзін з карцёжнікаў, тасуючы карты, падышоў да яго ложка, нахіліў галаву. Зыркнуўшы на нязголеную, з застарэлым «ліхтаром» пад вокам, пысу, Зяблік заліўся ўжо дарэшты шалёным смехам.

— А далібог ненармальны, — уздыхнуў карцёжнік.

Зяблік шморгнуў прастуджаным носам, адвярнуўся тварам да сценкі.

«Цяпер зразумела, чаму людзі зашмаргу на шыі зацягваюць. Каб адпомсціць уласнаму жыццю», — паспеў падумаць небарака перад тым, як у палату зайшоў нехта, спавіты ў гаматны белы халат. Ён не пазнаў бабулі, задужа нізенькай і старой яна падалася.

— Ну як ты? — бабуля з цяжкасцю села на ўслон.

Зямляк няўцямна перасмыкнуў плячамі:

— Костку на назе рассек.

— Ты што, плакаў? Глядзелкі чырвоныя.

— Ды не, рагатаў на ўсю палату, — падаў голас карцёжнік — той самы, з «ліхтаром» пад вокам.

— Ну і добра. Лепш смяяцца, чым плакаць, — старая дастала з торбы закручаны ў махнаты ручнік рондаль. — Пельмені адранку зрабіла. Падмацуйся. А заўтра шанішкі прынясу, — госця вытрымала паўзу. — Грошы твае мне перад аперацыяй перадалі. І гадзіннік. У тваю сумку паклала. Так што не хвалюйся. А з бальніцы выйдзеш — у мяне пажывеш. Каб костка зраслася і рана загаілася. І навошта я тую сякеру давала…

— Я сам вінаваты, — прашаптаў Зяблік. — Цурбаны заледзянелі. Трэба было на тарцах лёд адбіць.

Калі бабуля выйшла з палаты, Зяблік з палёгкай уздыхнуў, зазірнуў у рондаль. З’явілася нітка, якая злучыла яго з жыццём. Што гэта ён, сапраўды, пра самагубства падумаў? Сekanuў па назе — і раскіс як пельмень. Вунь хлопцу нагу аднялі да калена. І анігадкі. У зашмаргу не лезе. Ляжыць і кніжку чытае. Яму раптам згадаўся стары фільм, герой якога таксама ляжаў у бальніцы і, прачнуўшыся ранкам, выдыхнуў: «Будзем жыць!»

— Будзем жыць! — міжволі прамовіў Зяблік.

— Як набяжыць, — азваўся карцёжнік з «ліхтаром» і, лізнуўшы палец, зашамацеў картамі.

# КАЗКА ДЗЯЦІНСТВА

— Бачыш лясок? За ім ужо была Польшча.

Мішка Марыновіч зацягваецца цыгарэтай, цісне на газ, і спіна Сцяпанава ўціскаецца ў прыслон сядзення.

Цёмна-зялёная сцяна, якая здалёк выглядала ўзлессем пушчы, паўстала паласой высозных елак.

Мішка перахоплівае Сцяпанавы позірк, торгае галавой.

— Палякі ўздоўж мяжы лес садзілі. Не ведаю нават, дзеля якой халеры. Відаць, каб Саветаў не бачна было. Тыя ўздоўж мяжы на трактарах ездзілі ды песні спявалі. Аматары былі… пускаць чмуру ў вочы.

Мішка мацюкаецца і апавядае пра свайго дзеда Ахрэма, які ў маладосці садзіў тыя самыя елкі і за атрыманыя грошы справіў сабе новы гарнітур.

Дагэтуль машыну — чорны «Jeep Commander» — добра трэсла, а тут раптам паехалі па раўнюткай шашы, і матор ужо не азываўся абуранымі абертонамі на пад’ёмах дарогі.

— Мяжа і цяпер адчуваецца, — Мішка яшчэ больш топіць понаж газу, і стрэлка спідометра паўзе да адзнакі 110 кэмэ. — Іншы раён, іншыя гаспадары, іншыя дарожныя службы.

Сцяпан салодка пазяхае, стульвае павекі і згадвае: калі апошні раз выпраўляўся на рыбалку? Варушыць вуснамі, затым пальцамі, рахуючы гады, і рашуча схамянаецца:

— Дык, кажаш, і язі вядуцца, і акуні?

Мішка, не адрываючы вачэй ад дарогі, пстрыкае запальнічкай — ніяк не можа прыпаліць затухлую цыгарэту.

— Калі на вуду не зловім, у швагра сетка ёсць. Так што не хвалюйся — без рыбы не вернешся.

Марыновіч не першы год запрашае парыбаліць. І не абы куды, а ў сваю родную вёску. Там, на беразе возера, жыве ягоная родная сястра, у якой муж прафесійны браканьер. Неяк на Сёмуху Сцяпан завітаў да Марыновіча, і пабачыў поўную ванну рыбы. «Швагрусь прывёз», — буркнуў тады сябар і накідаў яму цэлае вядро акунёў. Было яшчэ пару важкіх падлешчыкаў. Юшку з жонкай цэлы тыдзень елі.

На роўнай шашы Сцяпана стаў адольваць сон. Нават не сон, а лёгкая замарач, калі нібыта спіш, але пры тым чуеш ўсе павароты і спускі дарогі. На чарговым павароце ён ачуўся і ўтаропіўся на дзіўную драўляную спаруду, якая праплывала за вакном. Шэрая, стромкая, яна пнулася ўгору сваім вострым дахам, і вечаровае бясколернае неба мякка свіцілася ў шчылінах збуцвелых дошак.

— Што гэта? — запытаўся Сцяпан, і Марыновіч, не павярнуўшы галавы, прамармытаў:

— Вятрак. Згніў увесь — не сёння, дык заўтра паваліцца.

— А ну спыні! — Сцяпан схапіў кіроўцу за локаць, і той, на поўнай хуткасці, ударыў па гамульцах.

Джып матлянуўся ў бок і, заехаўшы пярэднім колам у прыдарожную канаву, спыніўся.

— Цьфу, бляха… ледзь не перакуліліся, — Мішка даў задні ход, выцер лабаціну.

— Паглядзець хачу, — вінавата прамовіў спадарожнік, вылазячы з машыны.

Млын стаяў на пакручастым пагорку, і Марыновіч, які ішоў ззаду, злёгку засопся.

— Па вайне… бацька казаў… яшчэ малолі… А потым збуцвеў… закінуты, — гукаў Мішка, не дабіраючы розуму — на якую халеру сябру спатрэбілася гэтае ламачча. — Летась адно крыло неяк трымалася, а цяпер і яно адвалілася.

Крыло ляжала ўпоперак пагорка і нагадвала пяро аграмаднай дагістарычнай птушкі.

— Падлеткамі, памятаю, на іх круціліся. Схопішся за крыло, цябе і падымае ўгору. Аднойчы вось так ўзняўся на самую верхатуру, а сябрукі другое крыло затрымалі — я і захрас наверсе, нагамі боўтаючы. Стаў спускацца. А дрэва гнілое —

усе пальцы ў стрэмках, — задыхана, хуткагаворкай, распавядаў Марыновіч, тым часам як Сцяпан, прыпаўшы на калена, мацаў рукою трухлую дранку, якой было ababітае крыло.

У самім млыне панаваў мяккі прыцемак і пахла мышамі. На доле дошкі дарэшты згнілі, пазбавіўшы вятрак апірышча, і даводзілася толькі дзівіцца — якім чынам ён яшчэ стаіць на зямлі.

— Галоўны вал, — Мішка паляпаў далонню па таўшчэзным стаўбуры, — на ім усё і трымаецца. А вунь драўляныя шасцерні, — сябрук тыцнуў пальцам угору, — крылы іх круцяць, а яны вал варочаюць. А пасярэдзіне вала — вунь, зірні — галоўная шасцярня, якая жарон круціла.

Каля самай сцяны ляжаў расколаты напалам каменны блін. Сцяпан прысеў на кукішкі, змахнуў далонню пыл, і на шурпатай паверхні яскрава адбіліся лічбы: «1914».

— Год вырабу. Жарнасек выбіў, — Марыновіч таксама прысеў на кукішкі, правёў рукой па камні. — Ніжні жарон. Ён быў нерухомы. Круціўся верхні.

— Шкада, раскалоўся, — з жалем уздыхнуў Сцяпан.

— Збіраешся млын запусціць? — хмыкнуў Марыновіч і абабіў далоні. — Калі жарон расколваўся, яго жалезнай рэхвай сцягвалі і далей малолі. А новы зрабіць не так і проста. Не ўсякі камень падыходзіў. Скажам, з граніту не рабілі — шукалі кварцавы, мяккі. Уяўляеш, колькі працы было жарнасекам? Знайдзі камень, прывязі — і не на машыне, а на конях, — абчашы ды яшчэ на рабочую паверхню барозны нанясі. Памацай жарон знізу… там павінны быць разоркі набітыя.

Хвілін праз пяць яны вылезлі з млына.

— Хочаш перацягнуць на аграсядзібу? — Мішка укінуў у рот цыгарэту — паліў ён выключна «данхіл» у зялёных пачках.

Суразмоўнік не адказаў. Памружыўся на зыркае сонца — вочы, пакуль былі на млыне, прывыклі да прыцемку, — ды так і замёр, пазіраючы з-пад рукі на абрубкі млынавых крылаў. Сцяпан пра штосьці думаў, а можа пра штосьці марыў, — і

ачуўся толькі тады, як сябар, ужо стоячы ля джыпа, засвістаў у чатыры пальцы.

Ноч выдалася цёплай і душнай. Сястра паслала брату на вышках, а госцю ў хаце, але госць, узяўшы бялізну ў ахапак, таксама падаўся на вышкі. Выпілі, вядома, як мае быць, але на свежым паветры хмель вомігам выпетрыўся. Спаць, праўда, заставалася нейкіх тры гадзіны: а палове пятай марыновіцкі швагер паабяцаў іх абудзіць.

Сцяпан ляжаў, закінуўшы рукі за патыліцу, раз-пораз біў далонню па лбе, забіваючы камароў, і згадваў, як у далёкім дзяцінстве быў апанаваны ветранымі млынамі. Цяжка сказаць — як нарадзілася гэтае дзіўнае захапленне. Яму нават здавалася, што немаўлём, яшчэ не ўсведамляючы сябе жывой істотай, пабачыў вятрак, і тая няўклюдная гаргара захрасла ў спратах памяці. А мо проста ўбачыў малюнак млына ў дзіцячай кніжцы. Як бы там ні было, але ветракі не давалі спакою юнай душы. Ён па некалькі разоў запар глядзеў фільмы, дзе іх паказвалі, распытваў пра ветракі бацькоў, нарэшце пра такое захапленне даведаліся аднагодкі і пачалі з яго кпіць. Аднойчы, на навагоднім ранішніку, аднакласнікі атачылі шчыльным колам і, б’ючы ў ладкі, заспявалі: «Ветряная мельница, попляши, попляши…» А яшчэ набыў альбом для малявання і стаў наклейваць туды малюнкі млыноў, якія выразаў з часопісаў і кніжак. Прыгожыя былі малюнкі. Яны і зараз стаяць уваччу… прысадзістая казлоўка — яна паварочвалася насустрач ветру ўсім корпусам; шатроўка — высокая будыніна з даўжэзным паваротным вагаром; галандка — каменная вежа з празрыстымі, як у страказы, крыламі… Асабліва падабаўся нехлямяжы, выразаны з дзіцячай кніжкі вятрак, які нагадваў хаціну Бабы-карготы.

Дзіўна, але за ўсё сваё доўгае жыццё так і не пабачыў дзейнага млына. Ды і закінутых не сустракаў, бо яны, як казалі бацькі, згарэлі падчас вайны, а тыя, якія захаваліся, людзі разабралі на дровы.

Забіўшы чарговага камара — цяпер ужо не на лбе, а на правым вусе, — Сцяпан пачаў прыкідваць — ува што абыдзец-

ца перавозка і аднаўленне ветрака. Сякія-такія грошы ў яго вяліся, ды, відаць, давядзецца яшчэ пару тысяч даляраў пазычаць. Бяссоннік пакасіўся на Мішку, які хроп поруч. У Мішкі «бабак» — сабакі не ліжуць. Тры крамы мае, а надоечы і кавярняй разжыўся.

Марыновіч быў ягоным даўнім сябрам. Разам вучыліся ў політэхнічным інстытуце і жылі ў адным інтэрнацкім пакоі. Пасля інстытуту аднагрупнік размеркаваўся на «Гарызонт», а затым пайшоў па камсамольскай лініі. На пачатку дзевяностых, калі ўсё ў краіне развальвалася, хапануў камсамольскую касу і разгарнуўся як кааператар. Гэта толькі дзякуючы інстытуцкаму сябру Сцяпан і заняўся агратурызмам. Мішка з некім там дамовіўся, дапамог узяць крэдыт. Можа, і зараз дапаможа.

Ратуючыся ад камарэчы, Сцяпан з галавой накрыўся прасцінай, уявіў на імгненне млын, што махаў крыламі побач з ягонай аграсядзібай, і шчасна заплюшчыў павекі.

Раніцою марыновіцкі швагер спрабаваў іх абудзіць — нават тыцкаў вяслом у пяткі, — але марна. Гараджане спалі як пшаніцу прадаўшы, і на рыбалку выправіліся а восьмай гадзіне.

З хворай галавой, з азызлым, пакусаным камарамі тварам, Сцяпан залез у пласкадонку і змучана перавёў дых.

— Нічога, на вадзе пахмялюга хутка развеецца. Ведаю з асабістага досведу, — выгукнуў Мішкавы швагрусь, адпіхнуўшы лодку ад берага, і памахаў ім рукой. Сам рыбаліць адмовіўся, сказаўшы, што такой парой рыба не бярэцца.

Мішка сеў на вёслы, і Сцяпан, пад мерны рып качотаў, праваліўся ў сон, але тут жа ачуўся, здрыгануўся ад ранішняга халадку. Каб разагнаць соннае мроіва, падхапіў у прыгаршчы вады, пляснуў на твар.

— Як ты думаеш, ён дзе-небудзь на балансе значыцца?

— Хто? — азваўся Мішка і агледзеўся, маракуючы, ці не пара закідваць вуды.

— Ды вятрак, — з ноткамі незадавальнення прамармытаў Сцяпан.

— Ды які там баланс. Прагніў навылёт, і крылы адваліліся. Пад'язджай на трэйлеры, пажадана ўночы, загружай — і дуды ў торбу.

— А калі гэта помнік архітэктуры і знаходзіцца пад аховай дзяржавы? А цягнуць давядзецца ў іншую вобласць. Гаспадарам можа не спадабацца.

— Ты што, не ведаеш, як такія справы ўлагоджваюцца? Цюку ў руку, і вятрак твой. — Папляваўшы на чарвяка, Мішка закінуў вуду і паківаў узнятым пальцам, патрабуючы цішыні.

— Ну а калі рабіць па закону, — напаўголаса, амаль шэптам, спытаў Сцяпан, размотваючы лёску, — куды трэба звяртацца?

— Напачатку ў сельсавет, — адказаў сябра, свідруючы вачыма плавок. — Але там анічога не вырашаюць. Накіруюць у раён, бо сельсавет дзіравае вядро без санкцыі зверху спісаць баіцца. У раёне цябе ўважліва выслухаюць, запішуць тваю просьбу ў перакідным календары і прапануюць у Міністэрства культуры звярнуцца. Каб высветліць — ці не з'яўляецца вятрак аб'ектам культурнай спадчыны. Потым… — Мішка асекся, увабраў голаў у плечы, тузануў вудзільна, і ля самага ягонага носа мільганула, бліснуўшы срэбнай луской, ладная рыбіна. — Йоп… сарвалася! А ўсё праз тваю балбатню, — Мішка падскочыў на ногі, і лодка, небяспечна нахіліўшыся, чарпанула вады. — На дно пойдзем з тваім ветраком, — Мішка з пахмелля быў не ў гуморы.

Колькі часу сядзелі моўчкі, паныла паглядаючы на рухавыя плаўкі, якія ўвесь час даймалі ўвішныя верхаводкі. Урэшце Мішка, зірнуўшы на насупленага напарніка, закінуў плавок на другі бок лодкі, прымірэнча зазначыў:

— Марны гэта занятак — хадзіць па дзяржустановах. Яны гэты вятрак хутчэй спаляць, чымся некаму аддадуць. Для іх ты хто? Уладальнік аграсядзібы? Ды не — ты міраед, куркуль, які прагне прысабечыць народную ўласнасць. Я ж табе расказваў, як хацеў са старой камяніцы піўбар зрабіць. Дакументацыю падрыхтаваў, усё скрозь узгадніў, пячаткі сабраў. А выканкам — опс! — не дае дазволу. Кажуць, паводле генплана дом на знос ідзе. І што ты думаеш — знеслі!

Сярэдзіна дзевятнаццатага стагоддзя, кожная цагліна з тычковым кляймом…

— Давай застанемся да заўтра, — перапыніў Сцяпан Мішкаву балбатню. — Я ў сельсавет забягу. А там і ў раён злётаем. Тут жа недалёка.

— Эх, Сцёпа… ведаў бы ты, якіх я круцялёў у сваю кавярню набраў! На хвілю адвядзі вочы — сталы з крэсламі павыносяць. А за тры дні і мётлы пакрадуць, — уладальнік кавярні знянацку змоўк, гламаздаватая галава ягоная падалася наперад, дрогкія рукі рванулі вуду, і над вадой шалёна затрапятаў, натапырыўшы плаўнікі, вялізны акунь.

Наступнай раніцы сябры заехалі ў суседні аграгарадок, дзе месціўся сельсавет, і ўвайшлі ў цагляны дамок з выцвілым чырвона-зялёным сцягам над уваходам.

Тамтэйшы старшыня, мужчына сярэдняга веку ў пакамечаным пінжаку, дарэшты рабацiністы і са слядамі пахмелля на твары, выслухаў наведнікаў, памацаў няголенае падбароддзе.

— Я толькі другі тыдзень працую. Так што вам лепш у райвыканкам звярнуцца.

Парукаўшыся са старшынём, сябры выйшлі ў пусты калідор, і Марыновіч, не шчыльна прычыніўшы дзверы кабінету, тузануў напарніка за пінжак і прыклаў палец да вуснаў. Кампаньёны замёрлі, наструнілі слых і пачулі, як рабацень, керхануўшы, стаў некаму дакладаць па тэлефоне.

— Іван Іванавіч? Фандзюшын турбуе. Тут да мяне зараз прадпрымальнікі прыходзілі… Не, не нашы… аднекуль з-пад Слуцка… Прыгледзелі вятрак… хочуць у свой раён перавезці… дык я іх да вас накіраваў…

Старшыня на хвіліну аціх — слухаў Івана Іванавіча, — пасля чаго па-вайсковаму гучна выдаў: — Слухаюся! Усё зробім!

Марыновіч дакорліва перакрывіўся, і сябры на дыбачках, каб не рабіць шуму, рушылі па калідоры.

— Чуў? — запытаўся Мішка, калі селі ў джып. — Казаў жа — наймай людзей, падганяй трэйлер — і наперад.

— Паехалі ў раён, — голас Сцяпанавы здрыгануўся.

— Які раён?! Я ж кажу: бяры людзей, падганяй трэйлер…

— Дык мы ж сябе выдалі. Рабацень адразу ўцяміць — хто вятрак скраў.

— Ну ўцяміць, і што? Па-першае, мы ніякіх сваіх рэквізітаў не пакінулі, а па-другое, ніхто нас з-за той кучы гнілых дошак шукаць не будзе, — Мішка пляснуў сябра па калене. — Сцёпа-а, кепска ты ведаеш выканаўчую вертыкаль. Там без дай прычыны і саломіны не пераломяць, — Марыновіч завёў рухавік. — Давай яшчэ вуды закінем. А то прыехалі на рыбалку, а рыбы на палову патэльні не злавілі.

Наступным днём а пятай раніцы яны былі на возеры. Спачатку лавілі на вуду, а неўзабаве і сетку закінулі. Справа для іх была новай, і Сцяпан, выбіраючы акунёў з мярэжы, траха не кульнуўся за борт, а Мішка, калі хапаў сябра за каршэнь, утапіў у возеры «мабільнік». Затое ўлоў быў такі, што забілі акунямі ўвесь багажнік.

Дахаты гналі з ветрыкам: стаяла спёка, і рыбу трэба было тэрмінова кінуць у лядоўню. Кіламетраў пяць ехалі моўчкі, а потым, чытаючы Сцяпанавы думкі, Мішка паддаў хуткасці і прамовіў:

— Добра, дапамагу табе з фінансамі. Але ж ад таго праекта ніякага прыбытку. Ну паставіш ты млын на аграсядзібе, ну прыедуць людзі… ну прывязуць дзяцей ды ўнукаў… паглядзець — як тое прадзедаўскае дзіва працуе. І што? Будзеш з іх грошы браць за ўваход?

— Ды не, браце, я іншы варыянт нарыхтаваў. Буду муку, якая намелецца, прадаваць.

— Як, цэлымі мяхамі?

— Не мяхамі, а дэкаратыўнымі мяшэчкамі, з далонь велічынёй. І на кожным мяшэчку відарыс ветрака і надпіс «Гайцюкоўскі млын».

— А чаму Гайцюкоўскі?

— Як чаму, аграсядзіба ж мае «Гайцюкі» называецца.

— А гэта ідэя. Я б да такога ніколі не дадумаўся, — Марыновіч скінуў хуткасць, бо пад’язджалі да млына.

Прамінуўшы мост, сябры павярнулі галовы, і Мішка, як і мінулым разам, рэзка загамаваў і выдыхнуў:

— Опа-а…

Млына на пагорку не было. Цяпер на тым месцы, дзе ён яшчэ пазаўчора падпіраў спічаком гарачае неба, вуркатаў «Беларус» з прычэпам, вакол якога завіхаліся нейкія людзі.

Сябры ўзняліся на пагорак.

Усё наўкол было закідана ашмоццем гнілых дошак, а пасярод пясчанага квадрата — месца, дзе стаяў вятрак — ляжала бензапіла «Shindaiwa».

— До-обрыя дро-оўцы, — дрыготкім голасам казаў вусаты бамбіза, што завіхаўся на прычэпе, прымаючы важкія цурбаны.

— А каму дровы? — запытаўся Марыновіч бамбізу.

— Германенку, — вусач падхапіў чарговы цурбан.

— А хто такі?

Бамбіза зыркнуў на Мішку са здзіўленнем і лёгкім дакорам, маўляў, як гэта так — жыць і не ведаць, хто такі Германенка?

— Наш участковы.

— Зразумела, — буркнуў Марыновіч, ступіў пару крокаў і прыпаў на калена.

— Бывай, брат, — ляпнуў ён па расколіне жарона.

На зямлі ляжала палова каменя, другая палова, відаць, некуды закацілася.

Хуткім крокам, не азіраючыся, пайшлі да машыны.

Сцяпан думаў, Мішка пачне дакараць. Маўляў, дарма паперліся ў сельсавет і ўсчалі вэрхал. Але сябар змаўчаў, і толькі як праехалі пару кіламетраў, перадражніваючы вусатага здаравілу, заенчыў:

— До-обрыя… дро-оўцы… цьфу, бля… што за людзі, — Мішка прыпаліў цыгарэту, дыхнуў духмяным дымам. — Продкі пабудавалі — дык захавай, перадай нашчадкам. Не… спаляць, распілуюць і спляжаць. У суседзяў вунь — усё захавана… і замкі, і касцёлы, і ветраныя млыны. Памятаеш, я па размеркаванні на «Гарызонце» працаваў. І вось паехала дэлегацыя да калегаў — на Шаўляйскі тэлевізійны завод. Ну і

мяне ўзялі, як камсамольскага сакратара. Удзень пахадзілі па заводзе, а ў вечары павезлі на банкет у кавярню. І ведаеш, дзе кавярня месцілася? У ветраным млыне! Млын, праўда, вялікі, каменны. Сядзім, піва п'ем, а пад бокам жарон круціцца. Я і назву таго пасёлка запомніў, дзе вятрак стаяў — Шэдува.

Галава Сцяпанава была пустой і лёгкай. У ёй не было ніякіх думак. Ён слухаў Мішку, але не разумеў — аб чым той балбоча. Сябар між тым загаманіў пра спляжаную камяніцу, у якой калісьці месцілася першая ў горадзе аптэка, пра старую вадавежу на вакзале, якую ўзарвалі пазалетась, неўзабаве голас Мішкавы пацішэў, аддаліўся, машына тым часам прамінала былую мяжу, злёгку страсянулася, і Сцяпан, расплюшчыўшы вочы і змагаючыся з рэшткамі сну, схапіў сябра за рукаво. Яму падалося што зараз, з-за бліжэйшага павароту, вытыркнецца, махаючы крыламі, нехлямяжая, падобная на хату Бабы-карготы напаўзабытая казка дзяцінства.

# ПАКОЙ № 47

Лёшку Казарэза, маладога інжынера-электрыка, выклікалі ў аддзел кадраў і загадалі ехаць на курсы падвышэння кваліфікацыі. Ехаць не было ахвоты, а тут яшчэ перціся даводзілася ў далёкую і нязнаную Уфу.

І вось бліжэйшай суботай адстаяўшы тры гадзіны ў авіякасе, Лёшка ўзяў квіт да Уфы, а па дарозе да хаты зазірнуў у бібліятэку. Хацеў пачытаць, у якія віры едзе. Бібліятэкарка выдала каляровую кнігу з помнікам Салавату Юлаеву на вокладцы, і ён, сеўшы за апошні стол у разлеглай чытальні, стаў знаёміцца са славутымі мясцінамі башкірскай сталіцы. Галоўнай славутасцю, як вынікала, быў дом, дзе цягам трох тыдняў жыў У.І. Ленін; парк імя Матросава, у якім правадыр сустракаўся з мясцовымі сацыял-дэмакратамі, а таксама скала, з якой Ленін і Крупская з замілаваннем глядзелі на раку Белую. Паглядаючы на фотаздымак скалы, Казарэз уявіў правадыра, уявіў, як варожыя віхуры варушаць рэшткі валасоў на гламаздаватай ленінскай галаве, і перарывіста перавёў дых. Уфа падалася яму горадам змрочным і непрытульным.

А яшчэ праз тыдзень ён спускаўся па заінелым трапе і без усялякага замілавання пазіраў на шкляны паралелепіпед уфімскага аэравакзала. Скочыўшы з прыступкі, Лёшка няўклюдна паслізнуўся, дзяўчына ў куртатай аэрафлотаўскай шынельцы машынальна схапіла яго за руку і вінавата ўсміхнулася. Дзявочая ўсмешка ласкавай цеплынёй азвалася ў грудзіне, і Лёшка, шыбуючы ў натоўпе прыгорбленых ад марозу людзей, пару разоў азірнуўся, выглядаючы ў прыцемках студзеньскага адвячорка дзяўчыну ў сіняй шынельцы.

Хаця да «паралелепіпеду» было колькі сотняў метраў, пякучы аэрадромны вецер паспеў прыхапіць правае вуха, і Лёшка, убіўшыся ў цяпло, доўга цёр яго далонню, ужо з ленінскім замілаваннем глянуў на табло з раскладам палётаў. Карцела зараз жа ўзяць квіт на зваротны рэйс і вылецець дахаты.

Напачатку памкнуўся зайсці ў буфет і выпіць якой гарбаты, але за разлеглымі шыбамі сутоньвалася і марнаваць час не выпадала. Не цягацца ж у поцемках па незнаёмым горадзе, шукаючы… — інжынер-электрык нервовым рухам дастаў нататнік і зірнуў на адрас, які яму напісалі ў аддзеле кадраў.

Ляцеў ва Уфу з трывожным пачуццём у душы: а раптам там усе гамоняць па-башкірску? Аднак наўкол гучала расейская мова, і госць башкірскай сталіцы, перавёўшы дух, спытаў у цётухны ў норкавай шапцы — як даехаць да вуліцы Камарова?

— Сто першы аўтобус, — грэблівым тонам адказала кабета, і ў госця канчаткова сапсаваўся настрой.

Аўтобус даволі доўга ехаў па шашы. Вочы мружыліся ў памкненні ўбачыць святло вялікага горада, ды ў сутонні прадзёртага ад намаразі лапіка вакна адно страхотлівымі патарочамі плылі аснежаныя таполі. Нарэшце ў цёмным мроіве задрыжэла гронка агнёў, і Лёшка з нецярплівасцю прыўзняў і зноўку апусціў дарожную сумку, якую трымаў на каленях.

Поруч з ім сядзеў насуплены, па-зімоваму тоўста апранены дзядзька. Скуласты твар і смалістыя бровы выдавалі яго за мясцовага тубыльца.

— А ці хутка вуліца Камарова? — звярнуўся ён тубыльца.

— Да Чарнікоўкі яшчэ ехаць ды ехаць.

— Якая Чарнікоўка? Мне Уфа патрэбная, — паведаміў Казарэз, і чарнабровы, роблена рагатнуўшы, патлумачыў госцю, што Чарнікоўка — гэта гарадскі раён, які да 1956 году быў асобным горадам.

— Паедзем зараз па галоўным праспекце, які даўжынёй аж дзевяць кіламетраў. Так што не спяшайся выходзіць.

— А вы башкір? — спытаў госць.

Суразмоўніку такое пытанне, як бачна, не спадабалася. Ён насупіў дрымучыя бровы:

— Мы татары. Башкір у горадзе наогул няшмат. Апошнім часам панаехалі.

Малады інжынер хацеў яшчэ спытаць — ці надта розняцца башкірская ды татарская мовы, — але выраз твару суразмоўцы сведчыў: лепш памаўчаць. Мясцовыя татары, падобна, не любілі, калі іх блыталі з башкірамі.

Праз гадзіну з каптуром госць башкірскай сталіцы, заклапочаны і крыху збянтэжаны, шыбаваў па вуліцы Камарова, выглядаючы ў кволым святле ліхтароў патрэбны нумар дома. Снег аглушальна рыпеў пад нагамі, мароз даваўся ў знакі і казытаў знямелыя пяткі, а той дом як перуном спаліла. Да таго ж і спытаць не выпадала: навокал не было ні душы. Нумары дамоў пайшлі на другі дзясятак, Лёшка пашыбаваў у адваротны бок і тут, на шчасце, убачыў нехлямяжую постаць. Чалавек ішоў па ходніку ўлукаткі, шырокім крокам, у маршавым рытме махаючы рукамі. Відаць, быў нападпітку.

— Вы не ведаеце, дзе дом нумар дзевяць? — запытаўся змерзлы цуцык гамзатым ад холаду голасам.

— Не ведаю, братан, я не тутэйшы, — азваўся мінак, дыхнуўшы ўстойлівым гарэлачным перагарам.

Пасля такіх слоў «братан» скурчыўся, утрапёна зыркнуў услед мінаку, і той, ужо ладна адышоўшы, выгукнуў з цемры:

— А ты не на курсы?

— На курсы! — парна дыхнуў скарчанелы небарака.

— Я таксама, як прыехаў, доўга не мог прышвартавацца, — паведаміў мінак, перакрыкваючы злавесны рып снегу пад Лёшкавымі чаравікамі. — Табе, брацельнік, пашанцавала. Казалі, мінулай зімой адзін наогул замерз. Бегаў сярод ночы, інтэрнат шукаў, ну і прысеў на лаву адпачыць…

Шырокія плечы мінака абхопліваў флоцкі бушлат, пры гэтым верхнія гузікі былі расшпілены і з прарэху выглядала цяльняшка.

«Марыман», — падумаў Казарэз, паспяваючы на нягнуткіх нагах за сваім ратаўнікам.

— Я тут, на курсах, трэці тыдзень. З татаркай адной пазнаёміўся. Ад яе іду, — задаволена выдыхнуў мінак, падставіўшы ледзяному ветру абцягнутую цельнікам грудзіну.

Дванаццаціпавярховы гмах інтэрнату стаяў у двары, наўзбоч ад праспекту. Усе вокны ў ім, апроч першага паверху, гарэлі; некаторыя форткі на вокнах былі адчынены і разам з правіднай парай з іх вырываўся гучны жаночы смех, п'яныя песні, брынканне разладжанай гітары, а наваколле скаланалася ад бразгату дзвярэй на лоджыях-пераходах: каб патрапіць з аднаго паверху на другі, мусіш выбегчы на свежае паветра. У інтэрнаце, відаць, не працаваў ліфт, і насельнікі вымушаныя былі бегаць па лесвічных маршах.

— Да нас засяляйся, у сорак сёмы пакой. Ёсць вольная шконка. Батарэі такія, што ў трусах ходзім, — пачуўшы пра гарачыя батарэі і не даючы веры свайму шчасцю, Лёшка з імпэтам схапіўся за металёвую, ліпучую ад марозу, дзвярную ручку.

Ліфт сапраўды не працаваў, і Лёшка, з цяжкой сумкай на плячы і са спавітай у коўдру падушкай, якую выдала вахцёрка, паволі тупаў па цёмных усходах, а на балконных пераходах намагаўся не ўдыхаць марознай стыласці.

Пакой, у які яго пасялілі, месціўся на чацвёртым паверсе. Калі марыман разнасцежыў дзверы, там бразнулі шклянкі і нейкі чырванатвары мацак нахіліўся, штосьці хаваючы пад сталом.

— Спакуха… новага курсанта ў кубрык прывёў, — гракнуў марыман, і чырванатвары выцягнуў з-пад стала недапітую бутэльку.

— Камендант, нібыта, збіраецца абыход рабіць. З участковым. Казаў, высяляць будзе, — прамовіў кірпаносы недаростак, які сядзеў поруч з мацаком.

— Я б усіх адстаўнікоў-камендантаў да нас на РКТ накіраваў. Дзеля перавыхавання, — сказаўшы так, марыман тыцнуў Лёшку пад драбы: — Падай вунь на тую шконку.

Шконка стаяла ля батарэі. Лядашчы, у жоўтых плямах, сяннік быў зняты і прыхілены да той самай батарэі.

— Мы так зніжаем тэмпературу, — падаў голас недаростак, успёршы сяннік на ложак.

Новы пастаялец зняў палітон, зморана перавёў дых. У пакоі на імгненне запанавала ціша, і яго насельнікі наставілі на новага пастаяльца нецвяроза-дапытлівыя буркалы. Той па-свойму зразумеў такія позіркі і, адчыніўшы сумку, дастаў з яе нетраў непрыемна-халодную бутэльку.

— О-оо! Гэта па-нашаму! — гойкнуў чырванатвары бамбіза і захоплена ўдарыў у ладкі. — Ты адкуль?

— З Полацка, — новы пастаялец плюхнуўся на ложак, пасунуўся да батарэі і, адчуўшы спінай прыемную цеплыню, шчасна звёў павекі.

Піць не хацелася, ды мусіў кульнуць пяцьдзясят грамаў за знаёмства.

У сорак сёмым пакоі жылі трое: марыман, які лавіў крабаў на РКТ — рыбалоўным крабалоў-траўлеры, а да гэтага служыў на Ціхаакіянскім флоце; чырванатвары мацак, які назваўся Равілем, і яшчэ адзін пакаёвец, якога звалі Хахлом, і якога зараз не было: пайшоў на пошту тэлефанаваць дахаты. Кірпаносы недаростак па мянушцы Басурманін, як высветлілася, кватараваў за сценкай.

— Ну як там мая зямлячка? — Равіль напоўніў рознакаліберныя чаркі і шклянкі.

— Замучыла дарэшты, — з робленай пакутай прастагнаў крабалоў, падхапіўшы мутную шклянку. — Давай ёй і давай… прычым, не на ложку, а на падлозе. У татар што, такая завядзёнка?

Равіль пачухаў рыльцам скронь, збіраючыся годна адказаць на пытанне, але тут на парозе паўстаў хлопец з заледзянелымі вусамі і з ліловым ад холаду прышчом на лбе.

— О-о… Хахол! Даўно чакаем, — выгукнуў крабалоў. — Да нас новы пастаялец прыбыў. Пазнаёмся.

Той, каго звалі Хахлом, нагадваў натапыранага ад холаду вераб’я. Такое падабенства надавала куртатая апранаха са штучнага футра. На сініх вуснах «вераб’я» блукала падступная ўсмешка.

Лёшка падхапіўся, працягнуў далонь, каб парукацца, і яго тузанула электрычным токам. Бедалака адскочыў, і грамада выбухнула вясёлым рогатам.

— Хахол як тая Брацкая ГЭС. Б’е токам напавал, — жартануў марыман.

— Дома ніякай электрастатыкі. А тут ні з кім не паздароўкаешся. Іду па калідоры — усе разбягаюцца, — прабубніў Хахол, здымаючы наэлектрызаваную апранаху.

— Дома клімат іншы. А ў Башкірыі паветра сухое, бушлат са штучнага ворсу, вось і набіраеш вольтаў, — з веданнем справы патлумачыў марыман.

Кульнуўшы другую чарку, Лёшка Казарэз захмялеў і паціху пануры ўся ў мулкі і хваравіты сон. Зрэшты, некаторыя словы і фразы ўсё ж такі прарываліся ў свядомасць.

«Ты хоць бачыў камчацкага краба? 20 кэгэ вагі», — чуўся скрозь сонную замарач голас крабалова. «Варта зазяваецца — і нос адчыкрыжыць. А можа і палец адхапіць». «Ох, заліваеш», — гэта ўжо Равіль. «Ты што, абрэзаны, мне не верыш?» «Я не абрэзаны. У мяне бацька партыйны, а дзядзька наогул у абкаме завіхаецца. Магу паказаць…» «Урологу пакажаш», — буркнуў крабалоў, і прастору напоўнілі адчайныя глыкі.

Сярод ночы яго абудзіла храпенне. Храплі так, што, здавалася, дзынкалі шыбы на вокнах. Ён дашчэнту ўпрэў, бо спаў не распранаючыся, прытуліўшы азадак да батарэі. Лёшка спехам распрануўся, паспрабаваў адчыніць фортку, ды яе, падобна, прыхапілі цвіком, лёг, не накрыўшыся, на голы сяннік, а пакруціўшыся гадзінку, накрыў гарачую батарэю коўдрай — каб не так пякла. Гэта не дапамагло. Было горача і душна, да таго ж, храпенне не толькі не аціхла, але стала больш натужным. Так да ранку і пракруціўся на мулкім інтэрнатаўскім сенніку. Заснуў ужо на світанку і абудзіўся ад рыпу дзвярных завесаў.

— Суслаў памёр! — пазнаў па голасе Басурманіна.

— Які Суслаў? — спалохана і не пракерхана выбухнуў марыман.

— Член Палітбюро.

— Тфу, бля… перапужаў, — марыман заварушыўся ў сваім куце. Гэта ён усю ноч дзёр тхары. — Суслаў? Той, які Брэжнева ўзнагароджвае? Чупрыну звесіць, і носам па паперыне водзіць?

— Ён. Галоўны ідэолаг, — прабачальным тонам прамовіў Басурманін.

— Новага знойдуць. У нас на траўлер механіка знайсці не могуць. А ідэолагаў — як той гразі на выспе Ітуруп.

Ад пачутага Лёшку нават дыхалку заняло. Так бэсціць члена Палітбюро! Хай і памерлага. «Трэба выбірацца з гэтага пакою, — падумалася той хвіляй, — а то з гэтымі балабонамі не толькі ў міліцыю, але і ў больш сур'ёзную кантору патрапіш».

На занятні Лёшка сунуўся з болем у патыліцы, паціраючы прыспаныя, як жвірам зацярушаныя, вочы. Зарэгістраваўшыся ў канцылярыі, пайшоў на лекцыю па грамадзянскай абароне, заснуў там, паклаўшы лабешнік на рукі, і неўзабаве яго абудзіў незадаволены вокліч: «Хто гэта храпе?» Казарэз ачуўся, павёў асавелымі вачыма. Усе наўкол глядзелі ў ягоны бок, а лектар, сямідзесяцігадовы адстаўнік, пастукаў па стале ўказкай і працягнуў перарваны аповед пра агрэсіўны курс імперыялістычных дзяржаў.

Пасля заняткаў Лёшка завітаў у студэнцкую сталоўку, заўважыў у чарзе Хахла і прымасціўся поруч. Яны ўзялі гарохавы суп, азу па-татарску і кампот з чарнаслівам. У сталоўцы не было жытняга хлеба, а таму давялося прыхапіць шэрага — крохкага і, мяркуючы па выглядзе, нясмачнага.

— Ну, што чуваць на Украіне? — спытаў малады інжынер, управіўшыся з гарохавай сёрбанкай.

— Ды я там ніколі не быў, — адказаў суразмоўнік.

— А чаму цябе Хахлом завуць?

— З-за ўкраінскага пранонсу. Не даю рады пазбыцца. Сам я з Росашы Варонежскай вобласці. У нас у вёсках па-ўкраінску балакаюць, а старыя дзяды Расею Кацапшчынай называюць.

Варонежац хоць і быў у пінжаку, пакінуўшы верхнюю вопратку ў шатні, але валасы ўсё роўна электрастатычна стаўбурыліся, не раўнуючы як у рэжысёра Эйзенштэйна.

— Мяне, дарэчы, Маратам завуць, — суразмоўнік адсунуў талерку з недаедзенай гарохаўкай: — Бацька ў вайну на лінкоры «Марат» служыў. Таму і даў такое імя. А Хахлом сахалінец назваў. Ну гэты… марская душа. Усіх мянушкамі ахрысціў. Грошай поўныя кішэні. Мы як прыехалі, у першы ж дзень у рэстаран завіталі. Сахалін раскашэліўся. Там і Земфіру падчапіў, да якой цяпер цягаецца.

— А хто такая?

— Развядзёнка. Жыве недзе ў прыватным сектары.

Азу па-татарску елі моўчкі, а сёрбнуўшы кампоту і выплюнуўшы на талерку сліваваю костку, Марат рашуча выдаў:

— Мне тут толькі Басурманін не падабаецца. У рот сахалінцу зазірае ды за гарэлкай бегае. «Шасцёрка», карацей. Ты з ім асцярожней.

— А што такое? — Лёшка ўражана закашляўся.

— Трульнік у мяне скраў, — з інтанацыяй лаянкі мовіў жыхар Росашы і, азірнуўшыся, прылашчыў устаўбураныя валасы.

Лёшка з Маратам да цёмнага блукалі па горадзе і доўга тупалі на парозе нагамі, абабіваючы чаравікі і слухаючы спрэчку між Равілем і сахалінцам. Басурманін пры гэтым сядзеў насупраць і з невідушча пазіраў то на аднаго, то на другога спрачальніка.

— А-аа… Хахол, — з насмешлівай ухмылкай выдаў марыман і з гартаннымі ноткамі заспяваў: — На разрадку, на разрадку, на разрадку, на разрадку… станавіся!

Марат падхапіў са стала відэлец, паднёс да трубы цэнтральнага ацяплення і ў паветры цыркнула фіялетавая іскра.

Пакуль прыяцелі цягаліся па горадзе, пакаёўцы паспелі добра заправіцца.

— Дык, кажаш, ведаеш татарскую мову? — з’едліва пытаўся марыман.

— Канешне, ведаю, — Равіль падчапіў на відэлец, якім разраджаўся Марат, скрылёк кіслага агурка.

— А не хлусіш?

— Бляха! — бяседнік грукнуў па стале кулаком, ды з такім адчаем, што ўсе сцепануліся, а скрылёк агурка спалохана прыліп да ягонага падбароддзя.

Равіль падскочыў на ногі, вылецеў за парог.

— Няйначай, пабег татарскую мову вучыць, — сахалінец адкінуўся на прыслон рассохлага інтэрнатаўскага крэсла, палез у кішэнь, кінуў на стол спачатку рубель, а затым пакамечаны трульнік, здушана прамармытаў: — Гані да Чачэна.

Не паспелі аціхнуць капытлівыя крокі Басурманіна, як у пакой заляцеў Равіль.

— У чырвоным кутку ўзяў… на татарскай мове… «Кызыл тан» называецца… леташняя, праўда, — газеціна была выдрана з падшыўкі. — Які артыкул прачытаць?

Марыман адмахнуўся, маўляў, чытай што хочаш, і татарын кашлянуў для прачысткі голасу.

— Слухай: «Работнікі Сцерлітамацкага завода сінтэтычнага каўчуку сталі на працоўную вахту ў гонар 26-га з’езду КПСС. Новымі працоўнымі здзяйсненнямі… ээ-э… — Равіль на хвіліну запнуўся, падбіраючы прыдатнае расейскае слова, і ў пакой, з тым жа імпэтам, як і ён, але з бутэльчынай ў руцэ, уваліўся Басурманін.

— Чачэн сказаў, што пасля сямі будзе па шэсць рублёў браць за бутэльмент.

— Я гэтага спіртавоза хутка ў міліцыю здам, — з няўклюдным абурэннем паведаміла «марская душа», з прафесійным спрытам адкаркоўваючы бутэльку. — Першая чарка, як заўсёды, Басурманіну, — бутэлечнае рыльца дробна застукала па шклянцы.

— Колькі можна казаць: я не басурманін, а бесермянін, — у голасе недаростка гучала крыўда.

— А хто гэта такія? — пацікавіўся Марат.

— Народ. Мы прамыя нашчадкі волжскіх балгар.

— Ды ў цябе напісана, што ты ўдмурт. Бачыў тваю картку ў канцылярыі, — падключыўся да размовы Равіль, праціраючы ручніком пацямнелую ад гарбаты шклянку.

— Запісалі ўдмуртамі, а насамрэч мы бесермяне.

— Ладна, бесермянін, цягні, — мовіў марыман і, памаўчаўшы, дадаў: — Якіх толькі народаў няма на свеце. Са мной, прыкладам, на караблі вепс служыў.

— З Афрыкі прыехаў? — Равіль падставіў сваю да бляску памытую шклянку.

— З якой Афрыкі… з Ленінградскай вобласці, — незадаволена паведаміў сахалінец.

Ад паху гарэлкі стала млосна. Лёшка падняўся, тузануў падбародкам, паказваючы, што яму трэба ў прыбіральню, выйшаў у калідор. Пастаяў крыху, прыціснуўшы лоб да дзвярнога вушака, і скіраваў на лесвіцу. На лоджыі глынуў прахалоды. Камяк млосці, які падступіў да глоткі, адступіў і растаў пад дыхніцай. Хоць і холадна стаяць на марозе ў адной кашулі, але затрымаў позірк на зырkіх агнях Чарнікоўкі і на асветленым пражэктарамі пасе белага дыму, які слаўся з высокага, нябачнага ў цемры коміну.

Пустэльны хол на першым паверсе праціналі халодныя проймы і гукі жалобнай музыкі. Гукі далятали з чырвонага кутка. У самім «кутку» сядзеў каля тэлевізара самотны глядач, і ў паўзмроку вымалёўваліся ягоная лысая галава. Тужлівыя мелодыі, якімі поўнілася прастора, здавалася, спынялі сэрца, а на экране даўжэзным шыхтом ішлі людзі, з насцярожлівай цікаўнасцю пазіраючы некуды ўбок. «Бясконцая людская плынь…» — пачуўся ўрачысты голас дыктара, і толькі цяпер Лёшка ўцяміў, што па целеку паказваюць развітанне з Суславым. «Непрыхаваны смутак ляжыць на тварах тых, хто прыйшоў развітацца з верным ленінцам і выпрабаваным байцом партыі…»

— А што на другой праграме? — гукнуў Лёшка, плюхаючыся ў крэсла, і лысы паныла прабурчаў:

— Тое ж самае.

Людская плынь на экране і папраўдзе выглядала бясконцай, аднак твары тых, хто прыйшоў развітацца, асаблівага смутку не выяўлялі.

Камера паказала змену ганаровай варты: жаўнеры ў дыхтоўных ботах з бліскучымі халявамі і з тэатральнай зброяй у руках прайшліся да гары жывых кветак, прыставілі да нагі

бутафорскія карабіны, застылі ў нерухомасці. Потым паказалі апраненую ў чорнае радню памерлага і хударлявага тыпуса, які стаяў перад імі, сагнуўшыся, млява цягнучы руку то аднаму, то другому сваяку.

Жалобная музыка цвяліла нервы, казытлівымі мурашкамі бегала па спіне. Лёшка заціснуў далонямі вушы і з гідлівай усмешкай зыркаў на пагорак жывых кветак, на партрэт галоўнага ідэолага, на шырокі праспект, уздоўж якога стаяла чарга прагных развітацца з нябожчыкам. Неўзабаве паказалі мітынг у цэху завода «Серп і Молат», дзе выступоўцы натхнёна зяхалі бязгучнымі ратамі. Лёшка заплюшчыў павекі, а калі зноў расплюшчыў, дык пачуў абураны вокліч вахцёркі — той самай, якая засяляла яго ў інтэрнат.

— Спіш?!

Лысага ля тэлевізару ўжо не было, а на экране нейкія вусатыя цёткі гралі на скрыпках пахавальныя мелодыі. Глядзець і слухаць такое на цвярозую галаву і сапраўды немагчыма. Вахцёрка шаргатлівай хадой пайшла выключаць тэлевізар, і малады інжынер з цяжкасцю ўстаў на ногі. Хацеў запытацца — ці ёсць вольныя ложкі на іншых паверхах, — ды кабета штосьці бурчэла пад нос па-башкірску, а мо па-татарску, таму нічога не спытаў.

У пакоі яго сустрэла ўпітае мармытанне сахалінца.

— Карацей, прыходзім ва Уладзік… фрахтуем шынок… — няўцямна, са страшэннымі паўзамі, марыман апавядаў пра свае марскія і сухапутныя прыгоды. Яго слухаў, асавела тузаючы чупрынай, адзін Марат. Равіль з Басурманінам спалі за сталом.

Новы пакаёвец кулём паваліўся на ложак. Лямпачка-сотка, што вісела пад столлю, рэзала вочы. Небарака намацаў на падлозе газету «Кызыл тан» і накрыў ёю твар.

На заўтра, нядзельным ранкам, яны з Маратам ішлі ў сталоўку.

— Яшчэ адна такая п’янка — і сыду з дыстанцыі, — прастагнаў прыяцель, часта і парна дыхаючы. — Галава як цэбар.

Прыяцель паныла агледзеўся і нечакана хворая галава ўехала ў плечы.

— Глянь! Піва!

Па ходніку дробным трушком дыбаў дзед з поліэтыленавай торбай, поўнай гаючага напою. Лашчачы позіркам рухавую, амаль жывую торбу, Лёшка нават прысвіснуў, бо ўпершыню бачыў, каб піва цягалі ў поліэтыленавых торбах.

— Дзе даюць? — скалануў прасцяг Марат.

— На Арджанікідзе!

Прыяцель захваляваўся.

— Пайшлі, тут непадалёку.

— А як жа сталоўка?

— Якая сталоўка. Мазгаўню трэба падлячыць.

Каля палаткі, дзе налівалі піва, віраваў народ. Марат уплішчыўся ў натоўп і стаў прасіць грамаду, каб пусцілі без чаргі, бо ён камандзіраваны, завітаў ва Уфу на два дні, і сёння мусіць выбірацца да дому, так і не пакаштаваўшы мясцовага півасу. Палатка тулілася на пазаддзі грандыёзнай спаруды, і Лёшка вырашыў паглядзець — што ў ёй месціцца.

Аказалася, гэта палац культуры імя Арджанікідзэ, і ў ім, як сведчыла каляровая рэклама, сёння круцілі мастацкі фільм «Вазьму твой боль» беларускай кінастудыі.

«Вось куды можна збегчы ад апівудаў», — падумаў малады інжынер, утаропіўшыся на суворы твар акцёра Гасцюхіна, і ў гэты момант з-за рогу будынка выбег, трымаючы торбу з півам, шчаслівы кампаньён.

— Без чаргі пусцілі, і торбу далі, — урачыста абвясціў кампаньён і рушыў па ходніку, ды так, што за ім цяжка было ўгнацца.

Завярнуўшы на Камарова, прыяцель памацаў калашыну, узняў торбу і таксама прысвіснуў. З ражка піўнога бурдзюка сцыкаў маленькі струмок.

— Во, йоп… дзіравую ўплішчылі, — з інтанацыяй лёгкай панікі пралепятаў Марат і прыпаў да струмка прагнымі вуснамі.

Давялося сцягваць пальчаткі і несці торбу аберуч, заціснуўшы дзірку пальцамі. Рукі ў «лінкораўца» зусім акалелі, і апошнія сто метраў ён не ішоў, а бег.

Ля ўваходу ў інтэрнат манеўраваў «газон», які прывёз у буфет прадукты. Машына то ад'язджала, то давала задні ход. Нарэшце матор заглух, і Лёшка, прыбягаючы міма, выцяў кулаком па блясе, якая накрывала кодаб.

— Я камусьці пастукаю! — са злосцю выбухнуў вадзіла.

На лесвічнай пляцоўцы Марат па чарзе пахукаў на чырвоныя ад марозу пальцы, жартам прагугніў:

— Ампутуюць.

На лоджыі спыніліся, каб перавесці дых, ды тут расчыніліся дзверы, з іх вылецелі задужа вясёлыя дзяўчыны, і Лёшка не адразу, а толькі па капяжы, які нарадзіўся на ніжніх паверхах, зразумеў, што надарылася непапраўнае: дзверы стукнулі варонежцу па локці, і спруцянелыя пальцы выпусцілі торбу.

— Эй, што вы там… сцыце? — крыкнуў вадзіла. Той стаяў, трымаючы на чэраве скрыню з малочнымі бутэлькамі, і глядзеў угору.

— Піва разлілі! — гракнуў Марат, пхаючы ў штаны азалелыя рукі.

Па калідоры ішлі ў маўчанні строгім — як тыя працоўныя Масквы на развітанні з галоўным ідэолагам, — а калі зайшлі ў свой катух, аслупянелі. Іхныя сумкі стаялі на стале, і ў іх поркаўся Басурманін. Усё адбылося вокаімгненна. Басурманін адкінуў сумку, рынуў, згубіўшы тэпаць, да дзвярэй, а ў калідоры баднуў галавой марымана, які ішоў з душа. Казарэзу падалося, што ў кулаку Басурманін трымае чырвонец.

— Стой, гад! — вырвалася з глоткі.

Малады інжынер кінуўся за злодзеем, у тры крокі прамінуў лесвічны марш і сэрца ягонае абарвалася: за парэнчамі лоджыі мільганула нага ў ірванай шкарпэтцы і на доле штосьці цяжка бухнула.

Ён спыніўся на прыступках, і толькі калі на лоджыю, паслізнуўшыся на поліэтыленавай торбе, выбег мармыман, падаўся следам і глянуў долу.

Басурманін ляжаў на прагнутай будцы «газона» і злёгку варушыўся.

— Жывы! — прашаптаў марыман.

Да машыны збягаліся людзі, і цётка ў белым халаце, няйначай, буфетчыца, немым духам загаласіла.

Калі выбеглі на ганак, недаростка ўжо знялі з будкі, вялі ў інтэрнат і на розныя галасы пыталіся: «Рэбры хоць цэлыя?» Ён накульгваў на левую нагу і з пякельнай гіморай на твары трос указальным пальцам.

— «Хуткую» выклікайце, а заадно і міліцыю! — вадзіла, мацюкнуўшыся, палез у кодаб.

— Чаго туманны равун уключыў? — дакорліва бухнуў марыман. Ён быў у сваёй лінялай цяльняшцы і з мокрай галавой, ад якой уздымалася пара. — Разбярэмся без міліцыі. Нейкая сволач піва разліла. Чувак і паслізнуўся.

— Разбярэ-эмся, — перадражніў вадзіла. — А хто мне будзе будку рамантаваць? — кіроўца памацаў падгнілы брус на даху бляшанай будкі.

Брус быў надламаны, а сам дах у двух мясцінах увагнуты.

— Які там рамонт?! — марымана пачалі прабіраць дрыжыкі. — Раскляпаеш адзін край, адрыхтуеш кіянкай бляху, новы брус паставіш. Гэты ўсё адно падгніў, — марыман скочыў на прыступкі, махнуў вадзіле рукою:

— Не адчальвай, я зараз.

«Да Чачэна пабег», — Лёшка выцер рукавом халодны пот з лабаціны. Пастаяўшы дзеля прыліку каля машыны, прыстаўным крокам адышоў убок, потым сігануў за вугал інтэрнату і, убіўшы голаў у плечы, патупаў па замеценым снегам ходніку.

«А як памрэ… ці стане інвалідам? Міліцыя пачне высвятляць — хто разліў піва на пераходным гаўбцы, і хто за бесермянінам гнаўся». Апанаваны гнятлівымі думкамі, Лёшка да вечара блукаў па галоўнай вуліцы Чарнікоўкі, некалькі разоў заходзіў пагрэцца ў крамы, пакуль не адчуў, што правая нага не адчувае холаду. А калі глянуў, узняўшы нагу, на падэшву чаравіка, з пакутаю ўздыхнуў: падэшва трэснула ад марозу.

Ужо прыцемкам узбег на інтэрнацкі ганак і ўзбіўся на сахалінца.

— А-а, Лёха… дзе ты ходзіш? — марыман зняў пальчатку, працягнуў руку. — Трымай, братан, краба. Мяняю порт прыпіскі. Выгналі з інтэрнату. Буду ў Земфіры кантавацца.

— Як там Басурманін? — крыкнуў Лёшка, калі былы пакаёвец адбег ад ганку. Той нешта сказаў, але голас заглушыла рыпенне ачарсцвелага снегу.

Сцярожка, на ватных нагах, пераступіў парог. Тры ложкі стаялі прыбраныя, а на чацьвёртым ляжаў Марат і чытаў кнігу.

Зняўшы шапку, Лёшка шматзначна паказаў пальцам на сценку.

— Жывы. У паліклініку вазілі. Палец зламаў ды плячук вывіхнуў. Ляжыць цяпер ды вохкае, — Марат пачухаў бульбяністую нюхаўку. — А ўяўляеш, калі б разбіўся? Нас бы з табой па міліцыях зацягалі.

— Уяўляю, — буркнуў Лёшка і прыпаў на калена. — Ён выцягнуў з-пад ложку сумку, дрогкай рукой намацаў пашпарт. Укладзеныя між старонак чырвонцы былі на месцы.

— Пры сваіх?

— Пры сваіх.

— Не паспеў скрасці, — сусед адклаў кніжку.

— А дзе Равіль?

— Яму асобны пакой далі, з тэлевізарам. Камендант з участковым прыходзілі. Пустыя пляшкі лічылі. Марыману адразу ж загадалі высяляцца, а Равіля хацелі ва ўчастак забраць за знявагу міліцыі. А той і кажа: «Заўтра ліфт не адрамантуеце — дзядзьку пазваню». У яго, аказваецца, родны дзядзька ў абкаме партыі працуе.

— Ну а як шафёр? Супакоіўся? — Лёшка сцягнуў левы чаравік, прыціснуў акалелы ступак да батарэі.

— Супакоіўся. Сахалін дзве пляшкі ў кабінку закінуў.

Сагрэўшыся, Лёшка перанёс пасцельныя рэчы на шконку, дзе спаў крабалоў.

— Цікавая кніжка? — Казарэз баксёрскімі рухамі ўзбіў падушку.

— «Гісторыя Уфы». Набыў на вакзале, як сюды прыляцеў.

Яны крыху памаўчалі і сусед, адгарнуўшы старонкі, запытаў:

— Ты ж, казалі, з Полацку? Я тут вычытаў, што першымі будаўнікамі Уфы была полацкая шляхта — Бурцавы і Курчэевы.

«Куды маіх землякоў занесла, — Казарэз расцягнуўшыся на ложку, — сюды на самалёце абрыдла ляцець, а шляхта ж на конях дабіралася».

…Варонежац даўно соп у куце, а Лёшка ўсё ніяк не мог заснуць, неадрыўна пазіраючы на прастакутнік вакна, за якім ападала ў месяцавай яснасці снежнае сяйво. Непадалёку гучала жалобная музыка: за сценкай, дзе жыў недаростак, глядзелі пахаванне Суслава. Страшная музыка мацнела, убіралася ў сілу. Каб яе пазбыцца, прыўзняўся на локцях і раптам убачыў, як за вакном мільганулі нечыя голыя пяткі. Гэта Басурманін кульнуўся праз парэнчы. Лёшку заняло дыханне, і ён адчуў, што яго трасуць за плячо.

— Крычыш, — буркнуў пакаёўца.

Лёшка змучана вохнуў і праз імгненне заснуў ціхамірным сном шчаслівага чалавека.

# СУПРАМАТ

У кожным студэнцкім інтэрнаце ёсць пакой, які жартам называюць «кают-кампаніяй» і куды вечарамі любяць завітваць суседзі па паверху. У інтэрнаце, пра які тут размова, гэта сорак першы пакой. У ім жывуць студэнты будфака: ленінскі стыпендыят Сцёпка Аўчыннікаў — стрыжаны пад «бобрык» мацак, што, дзякуючы сваёй фрызуры, атрымаў мянушку Вожык; нізенькі і вечна смаркаты Мішка Таляронак, а таксама цельпукаваты і падслепаваты малец з дзіўным прозвішчам Дрыль. Менавіта так, па прозвішчы, яго ўсе і клічуць. Сама па сабе тройца нічым асабліва не вылучаецца, і сорак першы пакой наўрад ці займеў бы статус «кают-кампаніі», калі б туды не наведваўся Лёшка Пілімон. Лёшка быў іхным аднакурснікам, жыў з бацькамі ў цэнтры горада і амаль штовечар завітваў у інтэрнат, каб перапісаць лабараторную работу альбо заданне па тэарэтычнай механіцы. Апроч таго, згаданая тройца рабіла яму курсавыя працы. Не за так, вядома. Лёшка звычайна прыносіў «чарніла» і што-небудзь з закусону. Аднойчы нават прынёс пляшку шатландскага віскі. Яно і не дзіва. Бацька Лёшкавы працаваў у гандлёвым прадстаўніцтве за мяжой, таму ў сына і джынсы былі на азадку, і грошы адразу ва ўсіх кішэнях.

Зазірнем і мы ў тую «кают-кампанію». Зараз там чужых людзей няма. Ідзе экзаменацыйная сесія, і ўсе пашыліся ў свае пакоі ды рыхтуюцца да іспытаў. Вось і Вожык з Мішкам Таляронкам сядзяць за сталом і, заціснуўшы далонямі вушы, чытаюць канспекты. Пры гэтым ленінскі стыпендыят чытае моўчкі, а Таляронак услых. Праз два дні ў хлопцаў іспыты

па супрамаце. Прымае іх Барыс Пятровіч Пыр’еў — звяруга, а не выкладчык. Пазаўчора здавала раўналежная група, дык ён аж пятнаццаць чалавек выправіў на пераздачу. Нездарма Барыса Пятровіча ў студэнцкім асяродку завуць Вупыр’евым.

Іхны сябрук Дрыль таксама ўзяўся было штудыяваць задачы па супрамаце, але неўзабаве паклаў на крэсла акуляры, накрыў твар разгорнутым задачнікам і захроп. Ды так гучна, што сябры заціснулі вушы. Надоечы Дрыль здаў на «выдатна» іспыты па электратэхніцы і ўсю ноч піячыў з дзеўкамі-аднагрупніцамі.

Спаў небарака на голай сетцы, падклаўшы пад галаў гадавую падшыўку часопіса «Комсомольская жизнь» за мінулы, 1973 год, якую сцягнуў з чырвонага кутка. Небарака ўжо два месяцы не плаціў за інтэрнат, і камендантша забрала сяннік з усімі пасцельнымі рэчамі.

Дрыль хаця і хроп, але спаў чуйна, і да ягоных вушэй далятала шморганне Таляронкавага носа і panылае мармытанне: «Цвёрдасць стрыжня пры выгінанні ўяўляе сабой каэфіцыент прапарцыйнасці паміж момантам выгінання і крывізной восі стрыжня». І ў сне з’явіўся той стрыжань, які ртутна свяціўся і злёгку трашчаў ад нагрузкі, пагрозліва выгінаўся, нарэшце, пад гучны Пілімонаўскі вокліч: «Вітаю, зубрылы!» са шкляным храбусценнем пераламаўся. Дрыль размежыў павекі. Ну вядома… гэта Пілімон плюхнуўся азадкам на крэсла і раздушыў акуляры.

— Куды ты, йоп, успёрся! — выдыхнуў Дрыль, падхапіўшыся на ногі.

Абодва шкельцы трэснулі на павучыную сетку. Дрыжачыя пальцы падхапілі зламаную дужку.

Госць вінавата пачухаў патыліцу, адразу ж палез у нутраны кішэнь пінжака па грошы.

— Не перажывай ужо так. Куплю я табе новыя «фары». І бутэльмент прастаўлю. Зараз Мішка прынясе.

Дрыль, уздыхнуўшы, зноўку лёг, закрыўшы твар задачнікам.

Тым часам Таляронак — ён заўсёды бегаў за паддачай, — схапіў вялізны тубус, што стаяў у куце. Вахцёрка часцяком

правярала студэнцкія сакваяжы, а вось тубусы ніколі не правярала.

— «Чарніла» браць?

— Не, з такога выпадку вазьмі «вогненнай вады». І штонебудзь на зуб, — сын гандлёвага прадстаўніка перадаў Таляронку «капусту».

— І шампану! — здушана прасіпеў Дрыль, і цяжка было зразумець — усур'ёз ён кажа ці жартуе.

Пілімон дакорліва хітнуў галавой, кінуў на стол пакамечаны трульнік і, лісліва кракнуўшы, нахіліўся над аднагрупнікам.

— Гульчатай, пакажы тварык…

— А пайшоў ты… — зласліва гыркнуў Дрыль з-пад задачніка і крутнуўся на левы бок.

— У яго ў тумбачцы старыя акуляры ляжаць, таксама пабітыя, — паведаміў Вожык, не адрываючы вачэй ад канспекта.

Пілімон палез у тумбачку, папоркаўся там і ўзрадавана выгукнуў:

— О, дык мы дужку заменім — і будуць як новыя.

— Як но-овыя, — расцягваючы зыкі, перадражніў Дрыль, не павярнуўшы галавы. — У іх правае шкельца трэснула.

— Ты з гэтым шкельцам, здаецца, паўгода хадзіў. І цяпер пару дзён паходзіш, — сын гандлёвага прадстаўніка прыцішыў голас: — У вас шыла няма?

Пілімон выйшаў на калідор і вярнуўся з шылам і малатком у руках. Пасля чаго, выкарыстоўваючы ў якасці кавадла біла ложка, стаў малаціць малатком па канцы шыла, спрабуючы зрабіць мініяцюрную адкрутку.

Мружачы адно вока і сапучы, Лёшка доўга важдаўся з акулярамі, адкручваючы ды закручваючы малюпасенькія шрубкі, урэшце задаволена адсопся.

— Зрабіў з двух адны. Насі свае глядзелкі і мяне нахвальвай.

Дрыль спачатку адмахнуўся локцем, ды потым усё ж насунуў «глядзелкі». Адна дужка была даўжэй за другую, правае вока муляла расколіна, і самі акуляры не трымаліся на пераноссі і спаўзалі на канец носа.

— Дужкі гумкай за патыліцай звяжы. Спадаць не будуць. У маёй бабулі такія, — жартаўліва параіў Вожык, у гэты момант ад парогу грымнулі: «Прывітанне сакурснікам!» і ў дзвярной пройме паўстала прыгорбленая постаць Ваські Хмыза з суседняга пакою.

Васька меў дзіўную звычку: заяўляцца да суседзяў якраз тады, калі Таляронак выпраўляўся за «чарнілам». Пабачыўшы, што ў куце няма тубуса, сусед стрымана керхануў.

— Ну, распавядай, — Пілімон натхнёна паціраў далоні. Згламэзданыя ім акуляры былі няўклюдныя, але ж неяк трымаліся на носе.

— Што?

— Як супрамат здавалі.

Васька Хмыз на імгненне пасур'ёзнеў.

— Што распавядаць. Лютуе Вупыр'еў. Пятнаццаць чалавек завярнуў, — Васька закінуў у рот «прыміну», нервова чыркнуў запалкай і, звяртаючыся да Вожыка, паведаміў: — Надта ў тэорыю не ўлягай. Галоўнае — задачу рашыць. Адзінае, што спытвае з тэорыі, гэта закон Гука.

— А вось і мы! — гэтым разам у пройме намаляваўся Мішка Таляронак. Падышоўшы да стала парадным крокам, ганец выцягнуў з тубусу бутэльку шампану і бутэльку «Пшанічнай».

— Яшчэ пачак пельменяў узяў, — крыкнуў Мішка, шыбуючы на кухню. Смажаныя пельмені былі фірмовым студэнцкім закусонам.

— Сір, кліко на стале, — выгукнуў Пілімон, ляпнуўшы Дрыля па плячы.

— Колькі можна піць! Трэба да іспытаў рыхтавацца, — з панікай у голасе адрэагаваў на Пілімонаўскую іронію Сцёпка Аўчыннікаў.

— Ідзі да нас. Там цішыня. Усе насы ў канспекты ўбілі, — кіўнуў ленінскаму стыпендыяту Васька Хмыз.

Таляронак прынёс з кухні патэльню, на якой сквірчэлі смажаныя пельмені.

— Слухай, Лёха, — у Дрылёвым голасе па-ранейшаму гучалі ноткі незадаволення, — спрачаемся на бутэльмэнт.

— Ну…

— Давай я зараз, не адкаркоўваючы пляшкі, вып'ю з яе пяцьдзясят грамаў вадзяры.

— Як гэта? — запыталіся ўсе гамузам.

— Вып'еш? З закаркаванай? — уразіўся Таляронак і нават перастаў шморгаць носам.

— А калі не вып'еш? — запытаў Лёха, разважаючы, якім чынам можна выпіць гарэлкі з закаркаванай бутэлькі.

— Тады я прастаўляю.

— А «капусту» дзе возьмеш?

— У дзевак пазычу, — выдыхнуў Дрыль, падымаючыся з ложка.

Тры бяседнікі застылі як ў фінальнай сцэне «Рэвізора». Штукар па-гаспадарску рупліва працёр насоўкай выемку на дне бутэлькі шампану, адкаркаваў пляшку «Пшанічнай», наліў у выемку пад завязку — туды дакладна лезла пяцьдзесят грамаў — і выпіў нагбом.

— Э-ээ… ты казаў — гарэлкі вып'еш, — азваўся Лёха.

— А я ваду выпіў?

— Дык з іншай жа пляшкі піў, — уставіў слова Таляронак.

Штукар зыркнуў на смаркача, які заўсёды стараўся падлабуніцца да Пілімона.

— Ах, так… тады б'емся аб заклад, што я лязо праглыну!

— Якое лязо? — ускінуў брыво Пілімон.

— «Няву», ясны перац.

— А чаму «Няву»?

— Яна больш смакуе.

Аднагрупнікі разумелі, што ніякіх лёзаў штукар глытаць не будзе, але ў чым падвох, не дабіралі розуму. Памаўчаўшы і памыліўшы вуснамі, Пілімон урэшце схамянуўся, пачаў лічыць грошы, а налічыўшы тры з паловай рублі драбязой, кіўнуў Таляронку:

— Дванаццаць капеек у дзевак пазычыш.

Студэнты галіліся электрычнымі брытвамі, і «Няву» не так проста знайсці. Васька Хмыз прымружыў вочы, згадваючы, хто ў інтэрнаце голіцца дзедаўскім метадам, і неўзабаве яны з Пілімонам падаліся да дзвярэй.

Запанавала трывожная ціша. Дрыль задуменна пашкрабаў макаўку. Ён ужо шкадаваў, што ўблытаўся ў гісторыю з глытаннем ляза, і стаў абдумваць, як адмовіцца ад гэтай забавы, ды тут на калідоры капытліва затупалі, і ў пакой уваліўся добры тузін інтэрнатаўцаў. Пілімон з Хмызам, відавочна, раззванілі па паверсе, што іхны сябрук будзе глытаць лязо, народ і рынуў паглядзець на такое дзіва.

— «Нява»… якая табе смакуе, — Лёшка з падступнай усмешкай на вуснах памахаў маленькім пакецікам.

— Кіньце вы лухтой займацца, — з дрыготкай у голасе прамовіў Сцёпка Аўчыннікаў. Вожык пайшоў быў да суседзяў, але, пачуўшы пра небяспечны атракцыён, вярнуўся ў свой пакой.

Дрыль паволі вылузаў лязо з пакету, прадэманстраваў грамадзе, з урачыстай павольнасцю паклаў на высалаплены язык.

— Э-ээ… харэ барзець, — выдаў Пілімон з інтанацыяй лёгкай панікі. — Язык ці кішкі парэжаш, а мне адказвай.

Глытальнік лёзаў сядзеў моўчкі, з нерухома-адчужаным тварам. Ды і як будзеш штосьці казаць з вострым лязом на языку.

— Ты, відаць, перавучыўся, — не сунімаўся Пілімон, — завязвай са сваімі жартамі.

— Не хвалюйся. Ён жа не праглыне. Патрымае ды выцягне. Вырашыў з нас паздзекавацца.

Дрыль між тым зварухнуў сківіцамі.

— Ці не грызе ён лязіну?! — спалохана гракнулі ад парогу.

Дрыль ізноў паварушыў пашчэнкамі, і Пілімон наблізіў вуха да вуснаў лёзаглытальніка. Пачуўшы кволы трэск, ён таргануўся, выцер вільготны лабешнік. Ля дзвярэй усчалася мітусня, і з гаманкога збою вылузаўся Мішка Таляронак. Цісначы да грудзей тубус, звычна шморгнуў носам:

— Ну як, праглынуў?

— Ты можаш хоць хвіліну не цягаць смаркаццё? — са злосцю вылаяўся Пілімон, і Мішка пакрыўджана панурыў вочы.

Дрыль сцярожка перакусіў лязо — раз, потым другі, — склаў языком надламаныя кавалкі і перакусіў яшчэ раз. Метал, на шчасце, быў крохкім. Штуку з праглынаннем ляза

ён бачыў у далёкім маленстве. Яе дэманстраваў п'яны айчым. Вясёлы дзядзька! Шкада, рана памёр, апіўшыся метылавым спіртам. Праўда, айчым, перад тым, як пакласці лязо ў рот, папярэдне тупіў наждаком. Не на людскіх вачах, зразумела, а цішком. Тут жа даводзілася храбусцець неўжываным лязом. Струшчыць метал трэба на мязгу, а таму штукар мерна варушыў сківіцамі, не чуючы размоў, і толькі аднойчы, калі нехта прапанаваў выклікаць «хуткую», насупіў бровы і рашуча страсянуў чупрынай. Цяжка сказаць, колькі часу жаваў лязіну. Відаць, доўга, бо сёй-той з гледачоў падаўся ўпрочкі. Аднак сябрукі — Пілімон, Таляронак, Вожык і Хмыз — стаялі поруч, лісліва сагнуўшыся, і ў такт яму варушылі вуснамі — так звычайна робяць бацькі, калі кормяць маннай кашай немаўля.

— Ну як ты? Нічога не адрэзаў? — запытаўся пасля доўгага маўчання Пілімон, і аднагрупнік высалапіў язык.

На языку цямнела чорная каша.

Дрыль паказаў пальцам на бутэльмент шампану, маўляў, запіць трэба, Пілімон спешна, непаслухмянымі пальцамі, адкруціў дроцік на рыльцы бутэлькі, пластмасавы корак шпокнуў у столь, і ўвішны струмень заліў ягоныя фірмовыя «Левісы».

Праз два дні, расціраючы прыспаныя вочы, Дрыль нерашучай хадою падышоў да аўдыторыі, дзе Вупыр'еў прымаў іспыты.

— З'еў з галадухі лязо і заганарыўся? Палкай носа не дастаць, — жартам сустрэлі яго дзеўкі-аднагрупніцы, і давялося тлумачыць, што акуляры падаюць з носа — вось і даводзіцца хадзіць, задзёршы галаў. Пакуль гэта тлумачыў, з аўдыторыі выкуліўся Лёшка Пілімон. Ляснуўшы па сцягне залікоўкай, ён каротка буркнуў: «Пераздача», а ўбачыўшы Дрыля, прасвятлеў тварам.

— Ну, як ты? — задаў Пілімон усё тое ж пытанне, але той, да каго звяртаўся, адмахнуўся і зайшоў у аўдыторыю.

Тэарэтычны білет выпаў адносна лёгкі: «Дэфармацыя металу пры павышаных тэмпературах», а вось зірнуўшы на аркушык з задачкай, Дрыль схаладнеў душою. Трэба было

зрабіць разлік шарнірнай бэлькі, наладаванай размеркаванай сілай. Паспрабуй разлічы. Ад адных формул робіцца млосна.

Дрыль здаваў апошнім.

— Чаго вы такі пакамечаны? — спытаў Вупыр’еў, і пытанне гэтае нічога добрага не абяцала.

— Сплю апранены. Камендантша сяннік з падушкай забрала.

Выкладчык зморана перавёў дых, глянуў у вакно, — згадаў, відаць, сваё безграшовае студэнцтва, — але вомігам сумеўся:

— Ну давайце, адказвайце.

Студэнт пачаў адказваць, але выкладчык яго перарваў і загадаў намаляваць дыяграмы паўзучасці для розных напругаў. Намаляваная дыяграма Вупыр’ева, здаецца, задаволіла, і ён папрасіў паказаць задачу. Пазіраючы на няўцямныя крамзолі, экзаменатар пацёр лабешнік, узняў на студэнта дакорлівыя вочы:

— Ну, а пра закон Гука чулі?

Дрыль напісаў дзве формулы, прычым з такой рашучасцю, што прадзёр асадкай паперу.

— Добра, хоць гэта ведаеце, — выкладчык адкінуўся на прыслон рыплівага крэсла.

— Кажуць, вы надоечы лязо з’елі.

Студэнт баднуў галавой.

— А на якую халеру?

Давялося пацепнуць плячыма.

— Якіх толькі дзівакоў няма на свеце, — Барыс Пятровіч узяў залікоўку і, пачухаўшы асадкай глюгасты нос, размашыста напісаў: «здавальняюча».

Дрыль падыходзіў да інтэрнату і пачуў за спінай дзявочы шэпат: «Лязо з’еў і не папярхнуўся».

Следам за ім ішлі дзве дзяўчыны, з выгляду першакурсніцы.

«Знайшлі чаму дзівіцца, — падумаў Дрыль, узяўшыся за ручку дзвярэй, — я дзесяць хвілін таму супрамат здаў з

першага заходу. Хай і на кволы «трайбан», але ж здаў! Вось гэта дзіва».

Разваліста́й хадою зайшоў у інтэрнат, зазірнуў у паштовую ячэйку пад нумарам «41», і выцягнуў адтуль грашовы перавод на сваё імя. Гэта маці адарвала ад сваіх нішчымных заробкаў сорак рублёў, каб падтрымаць сына.

— Мілая мама! — уголас прамовіў сын, і дзяўчынёхі, якія ішлі следам, уважліва на яго паглядзелі.

Дрылю, аднак, было не да іх. Зараз ён пойдзе на пошту, атрымае саракоўнік, з’есць у гарадской кавярні адразу два абеды, замовіць новыя акуляры, заплаціць за два месяцы інтэрнацкага жыцця і выспіцца дасхочу на свежых прасцінах. І ў прадчуванні ўсяго гэтага Дрыль сцепануўся ад шчасця.

# ПЕНСІЯ

Ніна Захараўна, кабета сталага веку, сядзела ў мяккім фатэлі і глядзела тэлевізар. Паказвалі кіеўскі майдан. І хаця на тэлеэкране людзі ў чорных шаломах стралялі па натоўпу, пасярод пляцу гарэлі кінутыя ў кучу скаты, і ў нетрах злавеснага куродыму нейкі маладзён махаў жоўта-блакітным сцягам, твар Ніны Захараўны быў абыякава-нерухомым. І толькі калі з'явілася белая машына з чырвоным крыжам і з яе выбеглі людзі з насілкамі, вакол вачэй зварухнуліся маршчакі. Яно і зразумела: дваццаць гадоў адпрацавала Ніна Захараўна медсястрой на «хуткай дапамозе». І цяпер, пабачыўшы «мерс» з чырвоным пасам уздоўж борта, прымружыла вочы, без патрэбы пацерла сухія, кранутыя старэчым рэўматызмам пальцы. Неўзабаве паказалі мужчыну, які ляжаў на асфальце, і Ніна Захараўна, уздыхнуўшы, стала пераключаць каналы. На экране адзін за адным мільганулі гумарыст Задорнаў, скандаліст Жырыноўскі і спявак Майсееў. Атачоны напаўаголенымі дзеўкамі, спявак бязгучна, як тая рыбіна, хапаў ротам паветра, выставіўшы наперад пукатае чэрава.

Тэлевізар працаваў без гуку, бо за сценкай спаў муж. Усю прамінулую ноч небараку балела сэрца. Давялося нават два разы калоць мілдранат. Толькі раніцой і заснуў. Таму жонка сядзела ціхенька, баючыся нават кашлянуць, безуважна пазіраючы то на маўклівы кіеўскі майдан, то на такога ж маўклівага, спавітага ў шэры фрэнч, вядоўцу ток-шоу, то на сівога, як лунь, спевака, які зяпаў нафарбаванымі вуснамі, і пры гэтым двайны падбародак ягоны прыкметна дрыжэў.

Рот перакрывіў даўкі позех, пасля якога Ніна Захараўна спехам перахрысцілася. Мінулай ночы таксама кепска спала, ад чаго кружылася галава і злёгку нудзіла. Размінаючы самлелую шыю, кранулася патыліцай сценкі. Позірк слізгануў па шэрай, пазначанай плямамі забітых камароў столі, па бляклых, упрыгожаных нетутэйшымі кветкамі шпалерах, урэшце засяродзіўся на здымку, што стаяў за шклом кніжнай шафы. Здымак быў савецкага часу, а таму размыты і невыразны. На ім, тулячыся адно да аднаго скронямі, сядзелі сын і нявестка з вясельным вянком на галаве. Яны даўно разышліся і завялі новыя сем'і, і лепш было б запхнуць той здымак куды далей, але Ніна Захараўна вельмі яго любіла і прыхоўвала толькі тады, як у бацькоўскую хату, раз на год, прыязджаў на пагасціны сын з новай нявесткай і ўнукамі.

Поруч, на тле выцвілых карэньчыкаў збору твораў Шамякіна, туліўся яшчэ адзін здымак. На ім былі сфатаграфаваныя маладая Ніна Захараўна і яе муж Іван Пятровіч — тады проста Ваня. Хтосьці з сяброў сорак пяць гадоў таму шчоўкнуў затворам ФЭДа. І не дзе-небудзь, а на вечарыне ў медвучэльні, якраз таго вечара, калі яны пазнаёміліся.

Над сівагаловым спеваком завіс народжаны спецэфектам маладзік. Маладзік гарэў блакітным агнём, пераліваўся, сінюшным водценем пазначаў спявацкі насень-бульбіну, і Ніна Захараўна на імгненне дадала гуку. «Голуб-бая!» — пракураным голасам выдыхнуў спявак і палец ліхаманкава націснуў кнопку на пульце. На канале ОНТ, як заўсёды такой парой, ішоў серыял. Кінагероі — мужчына з голена-бліскучай галавой і зусім маладая дзеўка са спаленымі пергідролем валасамі — сядзелі за столікам у рэстарацыі і аб чымсьці гаманілі. Затым, мяркуючы па выразу твараў, пачалі спрачацца, нечакана «пергідроль» выцягнула з сумачкі пісталет і, трымаючы аберуч, наставіла на лысага мужчыну. Ніна Захараўна са здушаным крахтаннем паднялася з фатэлю. Трэба будзіць мужа. А то што ж… выспіцца за дзень, а ноччу зноў не засне.

Перш чым ісці ў спальню, зірнула ў вакно.

Дагараў жаўталістам кастрычнік, і краявід за вакном выглядаў пахмурным і невясёлым. Макрэў пад ленай імжой ас-

фальт; нядошлы, брудна-малочнага колеру сабака грыз надоечы пасаджаныя кусты, а каля дваровых кантэйнераў стаяла кабета яе гадоў і поркалася ў смецці, сюд-туд пазіраючы на бокі. Ніна Захараўна не першы раз ужо бачыла гэтую гаротніцу. У шэрым, старога крою, плашчы, яна была падобная на настаўніцу, і зусім не выглядала алкагалічкай ці жабрачкай.

— Бедныя людзі, — прамармытала Ніна Захараўна, мелькам зірнуўшы на насценны гадзіннік.

Сёння павінны прынесці мужаву пенсію, ды паштарка чамусьці не прыходзіла.

— Ну дык будзеш уставаць? Абед даўно астыў, — прамовіла Ніна Захараўна, ляпаючы па падлозе заднікамі зношаных пантофляў.

— Іван! — выдыхнула ўжо з рашучасцю ў голасе, бо муж не адклікаўся, а ўвайшоўшы ў спальню, ледзь чутна пралепятала: — Ваня!

Муж ляжаў, задзёршы галаву. Левая рука ягоная ляжала на прыслоне канапы, а правая звісала да падлогі. Стваралася ўражанне, што той збіраўся ўстаць на ногі, ды так і знерухомеў — з шырока разяўленым ротам і заплюшчанымі вачыма.

— Ваня, — паўтарыла Ніна Захараўна тым насцярожлівым голасам, якім будзяць спячых.

Сэрца боўтнулася ў грудзіне, балюча сцялася, і слых напоўніўся густым і аднастайным звонам. Укленчыўшы перад канапай, Ніна Захараўна прафесійным рухам паспрабавала намацаць пульс, прыпала вухам да мужавай грудзіны, прыўзняла павекі. Потым схапіла кардонку з уколамі, якія ляжалі на ўслоне, і некалькі ампул бразнулі аб падлогу. Уколы былі не патрэбныя. Смерць ужо кранулася твару, сцягнуўшы скуру на лбе і завастрыўшы і без таго востры нос.

— Ваня… чаму ж ты мяне не паклікаў? — пралепятала, жаласліва і горка, жанчына.

Ніна Захараўна тыцнулася носам у падушку і здушана, як падбіты цюцька, заенчыла. Ёй карцела дыхнуць на поўныя грудзі і на поўныя грудзі залямантаваць. Аднак стрымала сябе. «Не цяпер», — з дзіўным для такой хвілі спакоем прашаптала Ніна Захараўна, прыўзняўшы галаў і кранўшы

пальцамі ссівелую Іванаву скронь. Не хацела, каб лямант пачулі суседзі, а галоўнае — паштарка, якая, магчыма, ужо падымалася па лесвіцы.

Чорнымі імгненнямі ў памяці звычайна ажывае штосьці далёкае і шчымлівае. Вось і Ніна Захараўна міжволі прыгадала іх першую сустрэчу — там, на навагодняй вечарыне. Іван запрасіў на танец, нясмела прытуліў да грудзей, шапатнуў на вуха, што ніколі не бачыў такой прыгожай кофты. А кофта была звычайная. Яна сама яе звязала. Маці, праўда, дапамагла прышыць гузікі. Успамін напоўніў грудзіну невыноснай тугой, які здушаным лямантам вырваўся з грудзіны, здзьмухнуўшы парушынку з пасінелых Іванавых вуснаў і абудзіўшы званок у калідоры. Ніна Захараўна з дзікаватым непаразуменнем прыслухалася, а калі бомкнула ўдругарадзь, ліхаманкава, з апошніх сіл, упраўляючыся не толькі рукамі, але і каленам, кульнула мёртвае цела тварам да сцяны, накрыла мужа коўдрай па самыя плечы — так, што быў бачны адно змярцвела-белы плех у атачэнні сівых валасоў, — і толькі тады рушыла да дзвярэй.

— Выбачайце, прыпазнілася. Столькі людзей сёння абышла! — даляцеў з прыцемку звінючы галасок, і ў калідор зайшла маладзенькая паштарка.

Маладзіца прыязна ўсміхнулася, але ўсмешка тут жа збегла з кірпатага твару.

— У вас штосьці здарылася?

— Сястра памерла, — Ніна Захараўна панурыла вочы, прыціснула сагнутым пальцам ніжнюю вусну, якая пачала нервова трымцець.

— Спачуваю, — прамовіла дзяўчына і злёгку прыўзняла падбародак.

— Спіць, — з інтанацыяй абарванага плачу прамовіла Ніна Захараўна, не падымаючы вачэй. — Усенькую ноч не спаў — сэрца балела. Цяпер вось адлягло.

Ніна Захараўна прайшлася на дыбачках ў спальню, падчапіла па дарозе згубленую пантофлю. Паштарка зазірнула ў атвор разнасцежаных дзвярэй.

— Дык, можа, заўтра зайду? — спытала маладзіца, да шэпту сцішыўшы голас.

— Чаго ж вам другім разам бегаць? Давайце я распішуся.

Дзяўчына хітнула галавой, няпэўным рухам панурыла руку ў кайстру, што вісела на плячы.

— Фінансавы дакумент. Уласнаручны подпіс патрэбны. У нас тут, ведаеце, розныя выпадкі бываюць. Зменшчыца мая прыйшла на мінулым тыдні да адных. Мужа няма, а жонка кажа: «Давайце за яго распішуся. Ён у ваннай мыецца». І праўда, у ваннай святло гарэла і вада лілася. А потым высветлілася, што муж у моргу ляжаў. За мёртвага хацела пенсію атрымаць.

— Ды ён і распісацца не можа. Пальцы не слухаюцца. Я за яго распісваюся, — паведаміла Ніна Захараўна, і паштарка, павагаўшыся, дастала ведамасць.

— Не хварэйце, — ужо вясёлым голасам выдала праз хвіліну дзяўчына, прычыніла дзверы, і Ніна Захараўна падсела да тэлефону.

Доўга не магла набраць кароткі нумар — раз за разам націскала не тыя кнопкі. Нарэшце пачула ў слухаўцы кароткае: «Хуткая» слухае», — і назвала свой адрас. Падняла вочы і ўбачыла, што не выключыла тэлевізар. Цяпер там ішлі «навіны». Паказвалі, як па нязвыкла пустэльным праспекце ехала кавалькада дарагушчых матацыклаў. Галава кавалькады якраз заязджала на Круглы пляц, поўнячы прастору шызай смугой.

Паволі, выставіўшы, як тая самнамбула, рукі, Ніна Захараўна прайшла ў пакой, намацала пульт, выключыла абрыдлы тэлевізар. Затым падышла да вакна. За вакном сутоньвалася. Там, у двары, дзве маленькія дзяўчынёхі шоргалі пластмасавымі рыдлёвачкамі па мокрым асфальце; іх маці паволі хадзілі па ходніку і гаманілі па мабільніках, а ў кантэйнеры для смецця поркалася скурчаная, апранеая ў чорную кацавейку бабуля. Ніна Захараўна прыціснулася лбом да халоднай шыбы і толькі тады дала волю пачуццям: спачатку затрымцела прыдушаным плачам, а потым зараўла — адчайдушна, па-бабску надрыўна, — сціскаючы ў кулаку мужаву пенсію — два мільёны дзевяцьсот тысяч старымі грашыма.

# ГОСЦЬ З ЁКАГАМЫ

Таго ранку Талян прачнуўся з хворай галавой і доўга ляжаў, утаропіўшы вочы ў нізкую столь, ды безуважліва слухаючы гаману, што далятала з кухні.

— Ну навошта табе гэты японец? — казала маці, бразгаючы посудам. — Табе што, сваіх хлопцаў мала? Вунь, Пецька Даўгалёў… аператарам уладкаваўся. Збіраецца, казалі, аднапакаёўку набываць. А гэты, што на маршрутцы робіць… ты ж з ім цэлы год хадзіла…

— Ой, мама, ну колькі можна, — азвалася Кацька. — Кожнай раніцы — адно і тое ж. Хіраюкі не на вяселле прыязджае, а пазнаёміцца, паглядзець, як мы жывем.

— І што, завядзеш гэтага Хера… як яго?

— Хіраюкі, — прамовіла Кацька.

— …да нас, каб пабачыў, у якой мы галечы жывем?

— Мама, ён спыніцца ў гасцініцы.

— Божухна… Хіраюкі… ад аднаго імя можна звар’яцець…

— А ты што, хочаш, каб я тут і памерла? У горадзе вялікай хіміі, — з інтанацыяй лаянкі ўсклікнула Кацька, і маці ўсхліпнула ў адказ.

Сястра Кацька ўжо амаль год перапісваецца па электроннай пошце з японцам, і цяпер гэты Хіраюкі ляціць да яе ў адведкі. Паслязаўтра трэба будзе ехаць з сястрой у аэрапорт — сустракаць госця.

Памацаўшы хворую патыліцу, Талян скінуў ногі на падлогу, падхапіў са століка пачак цыгарэт і выйшаў, не апранаючыся, на гаўбец. Перш, чым пстрыкнуць запальнічкай,

патрабавальна павёў носам. Паветра было працятае пахам гнілога часныка. Гэта смярдзеў хімкамбінат. Адсюль, з дзявятага паверха, былі бачныя вострыя дзіды комінаў і доўгая, на паўсвету, грыва фіялетавага дыму. Талян прыпаліў цыгарэту, чарговым разам памацаў патыліцу.

Учора з вечару сустрэўся са старым сябрам — Лёшкам Баўтрамеевым. Калісьці ў адным класе вучыліся і тры гады за адной партай сядзелі. Пасля школы, праўда, іх жыццёвыя пуцявіны разышліся. Пазнаёміўся сябрук з нейкім ліхадзеем, абрабавалі з ім пад Новы год пункт пракату і разам выправіліся на аршанскую зону. Пасля адседкі Лёха і дня дома не прабыў — зайшоў да маці, папіў гарбаты, пераапрануўся і з’ехаў да нейкіх крэўных у Расею. Восем гадоў не бачыліся, і вось учора выпадкова сустрэліся. Напачатку ён і не пазнаў былога аднакласніка: Лёха быў шчыгульна паголены, у гальштуку і ў мадняцкім гарнітуры. Талян, уражаны, нават памацаў штрыфель пінжака, і сябрук з усмешкай на вуснах прамармытаў: «Пол Сміт».

Потым яны аж да ночы сядзелі ў рэстарацыі — за Лёшкавы грошы, вядома, — і гаманілі за жыццё. У якім горадзе жыве былы сябрук і кім працуе, Талян так і не дачуўся. Лёха апавядаў пра краіны, якія давялося наведаць, пра розныя прыгоды, пра рыбалку на рэчцы Вуоксе, дзе яму аднойчы давялося злавіць цэлае вядро стронгі, а падпіўшы, паведаміў, што ён засакрэчаны, а таму не карыстаецца «мабілай». Выкуліўшыся з рэстарацыі, сябры дамовіліся сустрэцца назаўтра а дзясятай раніцы ў бары «Жывое піва», каб палекаваць галовы. Дапаліўшы цыгарэту, Талян зірнуў на гадзіннік, што вісеў на сценцы, каротка выдыхнуў: «Ох, бляа…» і стаў спехам нацягваць нагавіцы.

Сястра Кацька ўжо сядзела ля кампутару, і з дысплею на яе глядзеў усмешлівы японец.

— Ну дык мне што… падмяняцца? — запытаўся Талян, прылашчыўшы далонямі ўскудлачаныя са сну валасы.

— Так! — узбуджана выдыхнула праз плячо сястра, — прылятае. Ды надта не напівайся, увечары на працу!

Талян бязгучна, аднымі вуснамі, мацюкнуўся, узяўся за ручку дзвярэй і з дакорам хінуў галавой: на кухні з роспачнымі ўсхліпамі плакала маці.

Літровы кухаль «Аліварыі» выпіў нагбом, без перадыху, і потым, не выціраючы пену з вуснаў, пацёр далонню чэрава і задаволена выдыхнуў сваё ўлюбёнае: «Ой, бля…» Лёха таксама вохнуў, памкнуўся быў узяць яшчэ па кухлі, але Талян схапіў яго за руку.

— Хопіць. Мне ўвечары на працу.

— А дзе ты, дарэчы, працуеш? — Лёха храбуснуў салёным сухарыкам.

— Ды так… уладкаваўся часова вартаўніком на аўтастаянку, — прамовіў Талян, знянацку спахмурнеўшы. — Падмяніліся з напарнікам — цэлыя суткі буду вартаваць.

— А што так? — запытаўся Лёха, падымаючыся на ногі. Ён усё ж такі вырашыў узяць па келіху.

— Да Кацькі жаніх ляціць. Трэба сустрэць у аэрапорце.

— Кацюха?! Замуж выходзіць?! Ай, малайца! І за каго? Ці не за Пецьку Даўгалёва? — бадзёра-вясёлым голасам азваўся Лёха, ідучы да стойкі бару.

Зрабіўшы пару глыткоў з другога кухля, Талян дастаў цыгарэту, але тут жа згадаў, што паліць у бары забаронена.

— Дык хто жаніх? — перапытаў суразмоўнік, дзьмухнуўшы на белую шапку пены.

— Японец, — з высілкам прамовіў Талян.

— Нічога сабе. І дзе яна яго падчапіла?

— Ды дзе яны зараз жаніхоў чапляюць. У інтэрнэце. Перапісваюцца па-ангельску. Кацька цэлы год на платныя курсы ангельскай мовы хадзіла. Але, здаецца, так тую мову і не вывучыла.

— Вельмі правільны выбар, як кажуць у рэкламе. Я тут, на радзіме, ужо пяты дзень таўкуся. Пахадзіў па кірмашы, паглядзеў ваша тэлебачанне, з людзьмі пагаманіў. І ведаеш, што скажу? Бегчы трэба адсюль, пакуль малады.

Талян закінуў у рот сухарык, лена раскусіў і потым гэтак жа лена паморшчыўся.

— Ды яно ўсё так. Але ж маці перажывае. Не хоча, каб Кацька з азіятам пабралася. Слязьмі заходзіцца. А ў яе стэнакардыя, прычым у апошняй стадыі. Надоечы з бальніцы выйшла. Лекарка казала: толькі станоўчыя эмоцыі. А тут такое — дачка замуж за японца выходзіць.

— У мяне маці таксама ледзь жывая. Лекаў ёй прывёз, а то ў вас тут і лячыцца няма чым, — Лёха памаўчаў, глынуў піва, але тут жа рашуча адсунуў кухаль: пітво ўжо не лезла ў нутро. — Ну дык калі такі расклад, скажы сястры: «Вяселля не будзе!» Ты ж, бляха, старэйшы брат. А сам не можаш вяселля разладзіць — я дапамагу. Ты мне толькі жаніха пакажы.

— А потым разам на зону выправімся? — пажартаваў Талян і тут жа прыкусіў язык, зразумеўшы, што суразмоўніку гэтыя словы не надта спадабаліся.

Пару хвілін былыя школьныя сябры сядзелі моўчкі — Талян прыпадаў вуснамі да кухля, а Лёха ўтрапёна грыз сухарыкі.

— Я табе хачу дапамагчы, а ты мне старыя грахі прыгадваеш, — перарваў Лёха напятае маўчанне. Адкінуўшыся на спінку крэсла, ён ўздыхнуў — згадаў, відаць, свае аршанскія пакуты, — і рашуча ўскінуў брыво. — Дык калі там самалёт?

— Аб адзінаццатай, — лісліва адказаў Талян. Сябрук, выглядала, не жартаваў, а сапраўды збіраўся дапамагчы.

— Та-ак, — Лёха задзёр галаву, разважліва звузіўшы вочы, — аб адзінаццатай прылёт, гадзінка ў аэрапорце, потым дарога… і дзесьці а палове чацвёртай будзеш ля гасцініцы. — Колькі часу Лёха мыліў вуснамі, ці то штосьці згадваючы, ці то пра нешта маракуючы, пасля чаго ляпнуў далонню па калене і з вясёлым адчаем у голасе выдыхнуў: — Збіраўся заўтра з’язджаць, але давядзецца застацца.

Дакладна а палове на пятую — давялося нават зірнуць на гадзіннік — Талян падагнаў свой дабіты, 1990 году выпуску, «мерс» да ганку гатэлю. Вылез з машыны, мелькам азірнуўся і з палёгкай перавёў дых. Лёхі нідзе не было відаць. Ну вядома, нагаварыў немаведама чаго з пахмелля і дахаты

падаўся. Ды яно і лепш. А то сапраўды пабіў бы японца, ці яшчэ чаго ўчыніў.

Японец, які таксама вылез машыны і пужліва азіраўся, быў нізенькім і гадоў на дзесяць старэйшым ад Кацькі. Сястра, як толькі яго пабачыла, адразу змянілася з твару. Вядома… думала ўбачыць высокага маладзёна, а пабачыла старога японскага абгрыздыша. І хаця сястра ўсю дарогу з тым абгрыздышам балбатала, дакладней, спрабавала балбатаць, гартаючы ангельскі размоўнік, было бачна, што жаніх яе расчараваў.

Талян паднёс цяжкую валізу да рэцэпцыі, пакасіўся на барсетку, з якой японец выцягнуў дакументы, і замежны госць, злавіўшы гэты позірк, спехам барсетку прычыніў.

«Добра б было, сапраўды, шугануць гэтага жаніха», — падумаў Талян, прытапіўшы понаж газу, і тут жа ціскануў на гамульцы. На дарозе, немаведама адкуль узяўшыся, паўстаў Баўтрамей. Гэтам разам на ім быў ужо не шчыгульны гарнітур, а нейкая зношаная штармоўка.

— Я на ганку дзесяць хвілін паліў, думаў — аб'явішся, — з інтанацыяй незадаволення выдыхнуў Талян, — а ты, аказваецца, у прыдарожных кустах хаваўся.

— На ганку сустракацца не выпадае. Там камеры назірання. Фірмы «МодульІнжынірынг». Ды і ты, відаць, не зацікаўлены ў тым, каб нас бачылі разам?

«І собіла ж мне звязацца з гэтым Баўтрамеем. Цяпер зразумела, чым ён займаецца. Нездарма абазнаны ў тых камерах назірання», — падумаў Талян, націснуўшы на понаж газу.

— Паглядзеў на таго жаніха. Як казалі ў нашу маладосць, «не падбірай з тратуару». А галоўнае барсетка… Вось скажы, Талян, з'явіўся б за часамі нашай маладосці чувак з такой бабскай сумачкай? У лепшым выпадку атрымаў бы ў лабешнік.

Талян рагатнуў дзеля прыліку, прыпаліў цыгарэту.

— Слухай, сірэна па-ранейшаму гудзе?

Два разы на месяц горад, як калісьці блакадны Ленінград, скаланала сірэна аварыйнага апавяшчэння. Правяралі яе спраўнасць на выпадак аварыі на хімічным камбінаце. Праўда, што рабіць, калі такая аварыя надарыцца, ніхто не ведаў.

— Гудзе, — азваўся Талян. — А на якую халеру яна табе здалася?

— Здалася, братан, здалася, — мовіў сябра, зацягнуўшыся цыгарэтай, — і нам з ёю страшэнна пашанцавала. Акурат заўтра а дзясятай і загудзе.

Талян, скінуўшы хуткасць да 30 кэмэ на гадзіну, скасіў вока на спадарожніка, чакаючы, што той растлумачыць урэшце — прычым тут сірэна, але Баўтрамей загаварыў пра іншае.

— Засталося вырашыць адну праблему… Мне патрэбны процівагаз. У цябе выпадкам не захаваўся?

— Ёсць дзесьці на лецішчы, калі мышы не пагрызлі. Бацька, як жывы быў, насоўваў, калі хрэн цёр. Толькі яна без бляшанкі. Так, адзін шланг боўтаецца.

— Менавіта такі і трэба. Канец шланга ў кішэню запхнем. Так што паварочвай на лецішча. І не перажывай ужо ты так, — Баўтрамей жартам устаўбурыў Таляну валасы. — Усё бяру на сябе. А ты заўтра ад раніцы ў якую-небудзь шматлюдную мясціну завітай. Скажам, у бібліятэку. Калі што — скажаш, ад раніцы да абеду кніжкі чытаў. А бібліятэкаркі пацвердзяць.

Ноччу ён доўга не мог заснуць. Ліпучы, як восеньскі туман, непакой агарнуў душу, сон адляцеў немаведама куды, і давялося круціцца на прадушанай канапе, раз за разам паўтараючы ў думках адно і тое ж пытанне: «Навошта яму процівагаз?» Ну сапраўды, не вучэнні ж грамадзянскай абароны збіраўся зладзіць Баўтрамей? Тады навошта яму ўсе гэтыя дэкарацыі?

Сон прыйшоў толькі пад самую раніцу, і нават у сне душу Талянаву ўядаў неўсвядомлены страх. Яму сніліся людзі ў процівагазах, дымныя руіны гатэлю, у якім кагадзе пасяліўся японец, і сам усходні госць — ускудлачаны, перапужаны і, што самае дзіўнае, з барсеткай у зубах. Абудзіў Таляна надрыўны гуд аварыйнай сірэны. Ён расплюшчыў вочы, доўга слухаў ранішнюю цішу, якая панавала навокал і глядзеў на мядовага колеру ясноту, што коса асвяціла вакно.

Калі стрэлкі гадзінніка на сцяне выпрасталіся, паказваючы шостую гадзіну, Талян сцярожка вылез з-пад коўдры

і выйшаў на гаўбец. Раніца была прахалодная, і ў паветры пахла тухлымі яйкамі. Гэтым разам смярдзеў нафтаперапрацоўчы завод. Пацепваючыся, прыпаліў цыгарэту, але потым вярнуўся ў пакой і, не адшукаўшы нічога лепшага, накінуў на плечы матчын халат.

Спавітае ружовым туманком сонца вісела над даляглядам, пяшчотным святлом заліўшы сцены і дахі будынін. У носе засвярбела. Талян зірнуў на сонца, страсянуў галавой і чхнуў, гулкім рэхам абудзіўшы наваколле. Ён патузаў пальцамі свярблівы нос, але гэта не дапамагло: чхнуў яшчэ раз, ды так, што пазакладала вушы. Чхалка заўсёды не давала жыцця, калі ад раніцы смярдзела тухлымі яйкамі. Спехам дасмактаўшы цыгарэту, Талян вярнуўся да канапы, падбіўся з галавой пад коўдру і там ізноў алергічна чхнуў.

А дзявятай гадзіне, нават не паснедаўшы, Талян выправіўся ў бібліятэку.

Дагэтуль бываць у такіх установах яму не даводзілася, а таму, прачыніўшы масіўныя дзверы, застыў у непаразуменні, ліхаманкава маракуючы: а што ж ён тут будзе чытаць? Кіўнуўшы старой кабеце, якая сядзела ў шатні, Талян павольна-нерашучым крокам пайшоў па лесвіцы, а згадаўшы пра японца, рашуча затупаў па прыступках. А раптам Кацька ў Японіі атабарыцца? Трэба ж уведаць — што там ды як. Аднак, увайшоўшы ў чытальную залю, зноў запаволіў крок, бо забыў назву гораду, дзе жыў абгрыздыш.

Бібліятэкарка, бялявая дзяўчына ў белай кофце, узняла падмаляваныя веі, запытальна тарганула галавой.

— Мне б мапу Японіі паглядзець? — звярнуўся Талян да бібліятэкаркі, нясмела пераступаючы з нагі на нагу.

— Вы ў нас запісаны?

І Талян з гатоўнасцю выцягнуў з кішэні пашпарт.

Бібліятэкарка прынесла таміну Вялікай савецкай энцыклапедыі, ён перагарнуў старонкі, мелькам зірнуў на мапу Японіі, і адразу ж угледзеў патрэбны горад. Ёкагама! Кружок з кропкаю пасярэдзіне, якімі пазначаюць гарады-мільённікі, непадалёку ад Токіа. Потым папрасіў прынесці том, дзе напісана пры гэты горад і з цікавасцю прачытаў, што ў Ёкагаме

2 мільёны 238 тысяч жыхароў, што гэта адзін з самых буйных партоў Далёкага Ўсходу, а агульная даўжыня прычалаў складае аж 14 кіламетраў.

Трэба было неяк змарнаваць час, таму ён прачытаў артыкулы пра Каўказскую вайну, пра Казахскую чыгунку, Каліфорнію, Кандалакшскую затоку і пра нямецкага філосафа Канта. Неўзабаве яго пачало хіліць на сон, а агораўшы старонку артыкула пра квантавую тэорыю, паклаў голаў на 11-ты том энцыклапедыі і заплюшчыў вочы.

— Мужчына!

Талян са здзіўленнем ачуўся. Бялявая бібліятэкарка, якая трэсла яго за локаць, вярнулася да свайго стала і ўжо адтуль запытала:

— Вы заўсёды так храпяце?

— Ды не, толькі ў бібліятэцы, — пажартаваў Талян і агледзеўся. Чытальная зала была пустэльнай. Адно ў дальнім канцы самоцілася маладая чытачка.

Талян адчайдушна пазяхнуў і ўтаропіў асавелы позірк ў вялікі, пазначаны плямай асцы, артыкул пра квантавую тэорыю поля.

Каля ягонага пад’езду сядзелі два падазроныя тыпусы. Яны нервова палілі, круцілі галовамі, а, глянуўшы ў ягоны бок, разам кінулі цыгарэты і падхапіліся на ногі.

— Лабоха? Анатоль Іванавіч? — хуткагаворкай прамармытаў адзін тыпусаў — бамбіза ў цёмных акулярах — і, мелькам паказаўшы пасведчанне, прапанаваў прайсці да машыны, якая стаяла ў канцы двара.

Ураз схаладнелае сэрца падкацілa да горла і цела працялі гарачыя дрыжыкі. Галава была пустая і лёгкая, у ёй не было ніякіх думак, і ўжо стоячы ў міліцэйскай дзяжурцы, яго наведала страшная думка: «Баўтрамей, відаць, замачыў японца, а потым, калі злавілі на гарачым, паведаміў — хто яму ўсё гэта замовіў». Малады лейтэнант кіўком галавы загадаў узняць рукі, прафесійным рукам яго абшукаў і загадаў выкласці з кішэняў усё, што там ёсць. Потым яго павялі на другі паверх, адчынілі дзверы кабінету. Талян меркаваў пабачыць скурча-

ную постаць Баўтрамея, а ўбачыў загарэлага мацака ў цывільным гарнітуры, які сядзеў, адкінуўшыся ў крэсле, гартаў нейкія паперы і нават не зірнуў у ягоны бок.

— Для пачатку запоўні вось гэта, — уладальнік кабінету паклаў на стол аркушык з нейкай анкетай. У анкету трэба было ўпісаць сваё імя, прозвішча, месца працы і яшчэ нейкую халеру.

Дрыжачай рукой Талян стаў запаўняць графы, а дайшоўшы да сярэдзіны, спытаў:

— А мянушку трэба згадваць?

— Можаш паставіць прочырк, — буркнуў мацак, рыпнуў крэслам і, нібыта згадаўшы пра штосьці, акінуў Таляна дапытлівым позіркам. — Ну дык што… кепскія твае справы. Грамадзянін Японіі… ээ-э… — уладальнік кабінету зазірнуў у нататнік, — …Хіраюкі Накаяма паведаміў следству, што ты цікавіўся ягонай барсеткай.

— А дзе ён цяпер? — запытаўся Талян, і следчы, праглядаючы запоўненую анкету, з ноткамі пагрозы, прамармытаў:

— Тут мы задаём пытанні.

Следчы паклаў анкету ў тэчку.

— Дык вось першае пытанне: адразу ва ўсім прызнаецеся, ці будзеце аднеквацца?

— А ў чым прызнавацца? — запытаўся Талян, не пазнаючы ўласнага голасу.

— Значыць, будзем аднеквацца?

Талян перасмыкнуў плечукамі.

— Добра, тады яшчэ адно пытанне: дзе вы знаходзіліся сёння ад дзявятай да дванаццатай гадзіны? На шухеры стаялі?

— У бібліятэцы сядзеў.

— У бібліятэцы?

Талян баднуў галавой.

— Традыцыйнае месца падзельнікаў, якія хочуць забяспечыць сабе алібі, — хмыкнуў следчы. — Ну і што ж вы там чыталі?

— Адзінаццаты том Вялікай савецкай энцыклапедыі.

Следчы ўскінуў брыво.

— Пра Ёкагаму чытаў, дзе той Хіраюкі жыве. Трэба ж ведаць, куды малодшую сястру аддаю.

Дзверы кабінету прачыніліся, і ў іх зазірнуў той самы лейтэнант, што завіхаўся ў дзяжурцы. Лейтэнант моўчкі кіўнуў галавой, і следчы падхапіўся на ногі.

Неўзабаве Таляна ізноў завялі ў дзяжурку, дзе ўжо сядзела цётка-саракоўка. Падумалася, што яе таксама затрымалі, але следчы, кіўнуўшы ў ягоны бок, каротка спытаў:

— Гэты?

Цётка доўга вывучала ягоны твар.

— Ды я ў канцы калідору была, зблізку яго не бачыла. Ды і як ўбачыш, калі процівагаз на галаве. І летняя куртка, — мяркуючы па ўсім, гэта была пакаёўка з гатэлю.

— Ну, вопратку і замяніць можна, — прамовіў, з інтанацыяй незадаволення, следчы. — Вы скажыце — ці такой ён камплекцыі, ці такога росту.

— Не, той, здаецца, быў меншага расточку.

Праз пяць хвілін міліцэйская машына ўжо везла Таляна на другі канец горада. На чарговым перакрыжаванні машына павярнула налева, праехала квартал і спынілася каля бібліятэкі імя Мікалая Астроўскага. Талян хацеў вылезці, але следчы загадаў сядзець на месцы і лёгкім подбегам узбег на бібліятэчныя прыступкі.

— А што… японца таго абрабавалі, ці як? — запытаўся Талян кіроўцу.

Кіроўца па-старэчы керхануў, апусціў бакавое шкло, смачна сплюнуў керханіну.

— Абрабавалі. І так лоўка. Сірэна загула, а той і ўварваўся ў нумар з працівагазам на галаве. Рукамі замахаў, маўляў, катастрофа надарылася. Карацей, выбег самурай на калідор, — японцы ж пужлівыя, — ну і застаўся без грошай.

Тым часам да машыны ўжо шыбаваў следчы. І не адзін, а са старой цётухнай — той самай, што сядзела ў шатні. Следчы адчыніў дзверцы, і Талян вылез з машыны.

— Ён?

— Ён, ён! — з помслівай інтанацыяй засакатала бабуля. — Адразу падазроным падаўся. Зайшоў нячутна, як той кот…

— А калі ён прыйшоў? — перабіў бабулю следчы.

— У дзесяць хвілін на дзясятую. У нас над уваходам гадзіннік вісіць — дык я адмыслова паглядзела.

— А калі выйшаў?

— А вось дакладна не магу сказаць. Дзесьці, думаю, каля дванаццатай.

Бабуля памкнулася яшчэ нешта паведаміць, але следчы, на хаду падзячыўшы за інфармацыю, плюхнуўся на сядзенне. Даўшы кола на невялічкім пляцы, машына паехала ў адваротным напрамку.

— Працаваў, вядома, залётны прафесіянал, — з ноткамі захаплення ў голасе выдыхнуў следчы і, наваліўшыся бокам на сядзенне, зазірнуў Таляну ў вочы. На злодзея-прафесіянала Талян не быў падобны, таму мацак уздыхнуў і, пазіраючы на дарогу, прабубніў: — Але ж вывеў яго на аб'ект хтосьці з нашых. Згодны?! — гучна гракнуў следчы, ад чаго падследны спалохана сцепануўся. — Карацей, так… дасі падпіску аб нявыездзе, а потым напішаш — каму казаў пра прыезд японца.

Талян паглядзеў у вакно. За павалокай пылу, пакрэсленымі тлустымі адбіткамі пальцаў, плылі шэрыя будынкі. Згадаліся словы, сказаныя Баўтрамеем, калі яны ўчора гэтай жа дарогай ехалі на лецішча. «Гэта, Талян, не горад, гэта прастора, застаўленая буйнапанельнымі дамамі». Зараз яго ізноў прывядуць у кабінет, і ён павінен будзе казаць нейкія словы, адказваць на пытанні, штосьці пры гэтым прыдумляючы дзеля свайго апраўдання. А галоўнае, павінен будзе згадаць усіх, каму казаў пра японца. Згадае свайго зменшчыка… таго таксама пацягнуць да следчага… Баўтрамея, вядома, не згадае. А як таго зловяць? Што тады? Давядзецца сесці разам з ім на лаву падсудных? Ёсць жа адпаведны артыкул за ўкрывальніцтва.

Машына рэзка павярнула направа, скронь прытулілася да шыбы і Таляну падалося, што па ходніку, у бок міліцыі, хадою ўдачлівага злодзея ідзе Баўтрамей.

Шэрым дажджыстым ранкам, акурат апошнім днём верасня, Талян вяртаўся з начной змены. Усю ноч ішоў дождж, таму давялося седма сядзець у будцы, ад чаго зморана нылі цяглі-

цы, а шыю дык тую наогул было не павярнуць. І калі, ужо ля самага пад'езду, ззаду квакнула легкавушка, ён не павярнуў галавы, і толькі калі машына загула другім разам, азірнуўся.

Ззаду стаяў такі ж, як і ў яго, дабіты «мерс», а за рулём сядзеў ягоны школьны сябрук Баўтрамей. Сябрук адчыніў бакавыя дзверцы. Паволі, без асаблівай ахвоты, Талян падышоў да машыны, плюхнуўся на сядзенне.

— Чаму такі сумны? — запытаў Баўтрамей, калі яны парукаліся.

— Ты, гляджу, таксама не надта вясёлы, — парыраваў Талян, дастаючы з кішэні пачак «балканкі».

Яны запалілі.

— Ну, распавядай, як ты тут? — Баўтрамей скіраваў струмок дыму на ветравое шкло.

— Ды што распавядаць… — Талян ладную хвіліну маўчаў — …тры разы выклікалі, падпіску даваў…

— Ну а мяне ж не выдаў? — Баўтрамей паспрабаваў надаць голасу вясёлыя ноткі. — Не выдаў, па вачах бачу! — былы сябрук паспрабаваў па старой завядзёнцы ўскудлаціць Талянавы валасы, але той адвёў руку.

— Ну а як там Кацька?

— Замуж выходзіць.

— Выходзіць?! За японца?

— Ды якога японца, — Талян пякельна перакрывіўся, — за Пецьку Даўгалёва.

— За Пецьку! Ай, малайца! — выбухнуў Баўтрамей. Пецька быў іхным аднакласнікам.

Пасля выбуху радасці Баўтрамей ураз пасур'ёзнеў.

— Ну а як маці?

— Нібыта, ачуняла. Радуецца, што Кацька ў Японію не з'ехала.

— А мая маці памерла, — Баўтрамей ізноў дыхнуў дымам на ветравое шкло.

— Як памерла? Калі?!

— На мінулым тыдні. А я і не ведаў. Прыехаў вось на магілу зірнуць, — Баўтрамей уздыхнуў, пхнуў руку ў кішэнь

курткі. — Я ж толькі на хвілінку пад'ехаў. Трэба тваю долю аддаць.

— Мне крадзенага не трэба, — буркнуў Талян, хацеў быў выйсці з машыны, але сябрук схапіў за рукаво.

— Ды што ты, далібог. Правучылі японца — і правільна зрабілі. Будзе ведаць, як да нашых дзевак чапляцца. Ды і якія там грошы… так, мача ў кулаку. На японскай фірме іх за месяц зарабляюць. А да таго ж я яму на адваротную дарогу бабла пакінуў, — вусны Баўтрамеевы расплыліся ва ўсмешцы. — Але як мы яго! Такія аперацыі трэба ў падручнікі крыміналістыкі заносіць.

Баўтрамей выцягнуў з кішэні стосік «баксаў» і тут жа іх скамячыў.

— Ды гэта і не табе. Кінеш маладым на вяселлі.

Схапіўшы Таляна за руку, Баўтрамей піхнуў у млявую пяцярню скамечаныя паперкі.

…Талян стаяў ля пад'езду і панылымі вачыма глядзеў услед машыне. У гэты момант дождж, які было аціх, сыпануў буйной імжакай, і волкі вецер дыхнуў у твар агідным пахам гнілога часныку.

# ВАЛНОЎ, ШТУКАТУРАЎ І МАРАВІЯ

Сто гадоў ніхто не пісаў, а вось учора атрымаў е-мэйл. Нейкая студэнтка прапанавала напісаць — як я стаў пісьменнікам. Дзяўчына паведаміла, што колькі празаікаў ужо адказалі на гэтае пытанне, і неўзабаве адказы пабачыць свет. Я, вядома, адмовіўся ад такой прапановы. Выпінаць запалую грудзіну, закідваючы на плячо крысо пурпуровай тогі, самадзейнаму празаіку не з рукі. І ўсё ж згаданае пытанне захрасла ў глуздах. А які, сапраўды, нячысцік падкаснуў мяне сесці за стол і разгарнуць, выбачайце за выраз, літаратурную дзейнасць?

Поркацца ў спратах памяці доўга не давялося. Адразу ўявілася халодная зала кінатэатру — там увесь час смярдзела нейкай агідай — і першыя кадры фільма «Журналіст». Фільм адразу апанаваў слых сваім гукавым радам: на пачатку загулі вулічныя машыны, потым запанавала цішыня, якую пакрыў пошчак жаночых крокаў і, нарэшце, прастору скалануў грукат тэлетайпу. Зусім як у перадачы «З тэлетайпнай стужкі ТАСС», якую я штотыдня слухаў па радыё, і дзе журналісты-міжнароднікі давалі дыхту амерыканскім імперыялістам ды бонскім рэваншыстам. Слухаў і зайздросціў тым «міжнароднікам», якія маглі вольна выязджаць у Амерыку і Заходнюю Нямеччыну. У фільме «Журналіст» я, чатырнаццацігадовы шкаляр, убачыў аднаго з іх. Дакладней, яго кінематаграфічнае ўвасабленне. Кінагерой, якога звалі Юры Аляб'еў, працаваў у аддзеле лістоў адной з цэнтральных газет і, пасля таго, як ягоны калега запіў, быў накіраваны асвятляць міжнародны кангрэс у Жэневу. З гледзішча сённяшняга дня гэта, вядо-

ма, кінафантастыка. Каб вось так, з аддзелу лістоў, адразу сігануць у Жэневу, для гэтага патрэбныя былі, кажучы сучаснай мовай, сур’ёзныя падвязкі. Скажам, родны дзядзька таго самага Аляб’ева мусіў працаваць на Старой плошчы альбо на Лубянцы. На добры лад, рэжысёру, тройчы лаўрэату Сталінскай прэміі Сяргею Герасімаву, варта было ўплішчыць у фільм такі персанаж. І самому яго сыграць. А ён, замест таго, ствараў у фільме вобраз нейкага задужа самавітага савецкага шляхцюка. Ну гэта я зараз такі разумны, а ў чатырнаццаць гадоў, калі ўпершыню глядзеў «Журналіста», ніякіх хібаў не заўважаў і, выходзячы з кінатэатру і ўдыхнуўшы устойлівага паху мачы (гледачы мелі завядзёнку спраўляць непадалёку ад выхаду малую патрэбу), вызначыў свой далейшы жыццёвы шлях: скончу, як кінагерой, Маскоўскі інстытут міжнародных адносінаў, адпрацую чатыры гады ў аддзеле лістоў і сігану на бераг Жэнеўскага возера — асвятляць міжнародны кангрэс. Ці, у крайнім выпадку, стану рэдактарам правінцыйнай газеты, якога паказалі ў фільме, і які таксама спадабаўся.

Аднак з чаго пачаць свой шлях у журналістыку? Першнаперш выклянчыў у маці грошы і аформіў падпіску на часопіс «Журналіст» на другое паўгоддзе, а пачухаўшы патыліцу, вырашыў напісаць невялічкі матэрыял для гарадской газеты. З выбарам тэмы доўга не мучыўся. Быў пачатак вясны, і ў нашай школе ладзілі «Спартландыю». Раней падобныя мерапрыемствы ігнараваў, а тут заявіўся ў спартыўную залу, прычым з нататнікам у руцэ. «На двары канец сакавіка, і менавіта гэтай парой скляпенні спартзалаў скаланаюць юначыя галасы: «Спартландыя» пачалася», — напісаў, назіраючы за бязладнай мітуснёй старшакласнікаў, і гэтая фраза падалася геніяльнай.

Увечары апрацаваў зацемку, назваўшы яе «Вас выклікае «Спартландыя», пхнуў у капэрту і паслаў ў мясцовую газету. Падпісаў, праўда, не сваім імем, а прозвішчам сябра. Вырашыў, што такія нататкі — справа не зусім сур’ёзная, а таму варта прыхавацца.

Праз колькі дзён нататка пабачыла свет. Надрукавалі яе без рэдактарскіх правак, і адчуў сябе сапраўдным журналі-

стам. Перачытаў тэксцік безліч разоў і, калі бацька падхапіў газету, тыцнуў пальцам у падвал апошняй паласы.

— Ну і што? — ускінуў бацька брыво, прачытаўшы пра «Спартландыю».

— Я напісаў.

— Ты? А чаму не пад сваім прозвішчам?

Я перасмыкнуў плячамі.

— Збіраешся стаць журналістам? — пацікавіўся бацька.

— Збіраюся. Хачу паступіць у Маскоўскі інстытут міжнародных адносінаў.

— Э-ээ, брат, куды табе. Там толькі дзеці дыпламатаў вучацца, — бацька з шумам разгарнуў газету, — простай «абітуры» туды не прабіцца. Нездарма ж інстытут МІМА называецца. А наогул журналіст — паганая прафесія. Народ яе не паважае.

Ноччу я доўга не мог заснуць.

«Ну добра, у маскоўскі інстытут торкацца няма сэнсу. Пралятаю МІМА, — думаў я, закінуўшы рукі за патыліцу. Але ж ёсць іншыя інстытуты, дзе рыхтуюць журналістаў. Туды ж дзеці дыпламатаў не лезуць.

Перавёўшы дых, заплюшчыў вочы, збіраючыся заснуць, і згадаў бацькавы словы, што журналістаў народ не паважае, а гарадскія газеты вартыя толькі таго, каб імі засцілалі смеццевыя вёдры. Засумняваўшыся ў абранай прафесіі, я пануры ўся ў мулкі сон.

З тае пары, аднак, стаў рэгулярна надсылаць у газету нататкі пра школьнае жыццё, але рабіў гэта без ранейшага натхнення. І вось аднойчы, разгарнуўшы гарадскую газету ў пошуках свайго матэрыялу, узбіўся на буйны загаловак: «Чыстая крыніца». Ніжэй, больш дробным шрыфтам, было набрана: «Фрагмент аповесці». У прэамбуле рэдакцыя паведамляла, што пачынае друкаваць з працягам аповесць мясцовага аўтара, які працуе дырэктарам крамы. «Гады, аддадзеныя нялёгкай гандлёвай справе, дапамаглі яму, прафесійнаму журналісту, стварыць галерэю вобразаў нашых сучаснікаў», — паведамлялася ў прэамбуле. Хаця і ўяўляў, што згаданая аповесць далёкая ад дасканаласці, пару абзацаў вачыма прабег.

«Тры дні аддзел Надзеі Пшоннай, абгароджаны шпагатам, пуставаў. Людзі падыходзілі да яго і адыходзілі, так і не зрабіўшы пакупак», — так пачыналася аповесць. Змагаючыся з позехам, прачытаў пра тое, як захварэла работніца ўнівермага, якую не было кім замяніць. Пры гэтым галоўны герой, дырэктар крамы па прозвішчы Валноў, не знаходзіў сабе месца, і ў галаве ягонай іржавым цвіком тырчала пытанне: «Дзе ж ён, ключ да вырашэння гандлёвага пытання?» Увесь фрагмент чытаць не стаў, прачытаў толькі канец. Там пакупнік, якога звалі Пятро Штукатураў, хацеў набыць адрэз паркалю для жонкі, а убачыўшы, што аддзел «Тканіны» не працуе, сіпатым голасам крыкнуў дырэктару: «Няма прадаўца, сам станавіся за прылавак. Не надарвеш пуп!». І, крануўшы шпагат, якім быў абгароджаны аддзел, злосна дадаў: «Вяровачная ў цябе душа! Вяровачная!» Я адкінуў газету, і тут жа забыўся на аповесць. А наступным ранкам, на ўроку геаграфіі, сябрук па мянушцы Македонскі перадаў аркушык з уласным малюнкам. Там быў намаляваны абматанай вяроўчынай дзядзька з аграмадным носам, а поруч стаяў лысы даўгяла з вядром і квачом у руках. Нічога не зразумеўшы, кіўнуў сябру, і той сцішана выдыхнуў: «Валноў і Штукатураў!» Македонскі, выглядала, прачытаў фрагмент аповесці і вырашыў яе праілюстраваць. Рэшту ўроку я душыўся ад смеху.

Усяго газета надрукавала тры фрагменты. Газетчыкі, відаць, зразумелі, што чытачы душацца ад смеху, таму, ратуючы рэнаме, публікацыю спынілі. Вось тады мне і цюкнула ў галаву думка: напісаць заканчэнне аповесці. Накрэмзаў цэлы вучнёўскі сшытак — хацеў прачытаць Македонскаму, каб ён зрабіў ілюстрацыі. Канец быў такім: пакуль Валноў біўся над вырашэннем гандлёвай задачы, ачунялая Надзея Пшонная пакрысе выносіла тавар і, ратуючыся ад рэвізіі, дырэктару, крамы давялося сярод ночы раскручваць трубу цэнтральнага ацяплення і ўчыняць патоп у падвале, дзе захоўваўся тавар.

Мой літаратурны дэбют скончыўся несамавіта. Бацька, пабачыўшы сшытак, падзёр яго на кавалкі, сказаўшы, што я замест вучобы, займаюся розным глупствам і што мяне з маімі ацэнкамі не возьмуць нават у прафтэхвучэльню.

Ноччу я зноў не спаў, доўга круціўся ў ложку, а заснуўшы, пачуў сярод сну сіпаты голас Штукатурава: «Вяровачная твая душа, вяровачная!» Прыхапіўшыся, вырашыў завязаць з журналістыкай і паспрабаваць сябе на літаратурнай ніве.

А неўзабаве зайшоў у кнігарню і ўбачыў 11-ы том Дзіцячай энцыклапедыі, які кагадзе выйшаў з друку. Энцыклапедыю набываў па падпісцы і выхад кожнага тома быў для мяне падзеяй. А тут якраз прыйшла таміна, прысвечаная мастацкай літаратуры. Грошы, 2 рублі 55 капеек, былі ў кішэні, і дахаты вяртаўся, на хаду гартаючы старонкі. Першым на вочы патрапіў дагестанскі паэт Расул Гамзатаў. Паэт чытаў свае творы, узняўшы левую руку. Прычым стваралася ўражанне, што ён збіраецца заехаць косткамі пальцаў камусьці ў лабешнік.

Дома паваліўся на канапу і з трымценнем стаў разглядаць фотаздымкі пісьменнікаў, спрабуючы адшукаць на іх тварах сляды творчага генія. Нічога такога, аднак, не ўгледзеў. Гэты былі звычайныя людзі, якія калі чым і вылучаліся, дык сваімі няўклюднымі паставамі: савецкія творцы, як правіла, сядзелі за пісьмовымі сталамі і нешта пісалі. Пры гэтым адзін плячук быў вышэй другога, а вочы спаўзалі да пераносся. Былі і такія, што наганялі на твар штучную задуменнасць, а празаікі Эрэнбург, Аляксей Талстой, Сіманаў ды Федзін, каб надаць абліччу элементы багемнасці (слова гэтае я ўжо ведаў), трымалі ў руцэ піпкі. Творцы з піпкамі адразу не спадабаліся. Куды больш прыемна было глядзець на празаікаў, якіх фатограф заспеў з запаленымі папяросамі. Я пра нашага Якуба Коласа, эстонца Юхана Смуула ды расейца Міхаіла Шолахава.

Заходнія аўтары таксама не ўражвалі. Герберт Уэлс быў падобны на Несцерку, Генрых Бёль сядзеў з вырачанымі зіркачамі, а Грэм Грын наогул быў падобны на калгаснага старшыню. Адзіны, хто запаў у душу, быў італіец Альбэрта Маравія. Ён гартаў кнігу, глядзеў міма аб'ектыву фотаапарату, — позірк выглядаў крыху скептычным, — а за спінай ягонай былі не кніжныя шафы, як у маральна беззаганных савецкіх калег, а бамбукавыя жалюзі. У энцыклапедычным артыкульчыку было напісана, што празаік выявіў у сваёй

творчасці духоўную спустошанасць маладога пакалення італьянцаў, а таксама закрануў тэму чалавечай адзіноты і страту узаемапаразумення між людзьмі. «Вось з каго трэба браць прыклад, а не з Мікалая Астроўскага», — падумаў я, другім разам перачытваючы артыкул (надоечы ў школе пісалі творапіс па раману «Як гартавалася сталь», і мне карцела замест вобразу Паўла Карчаніна выявіць вобраз Пятра Штукатурава з аповесці «Чыстая крыніца»). Цяпер жа, трэцім разам прачытаўшы пра майстра італійскай прозы, карцела сесці за стол і выявіць духоўную спустошанасць маладых беларусаў. Магчыма, я б і сеў, але тут маці паклікала на вячэру.

Тае ночы мне прысніўся Альбэрта Маравія. Ён стаяў на тле бамбукавых жалюзі, якія злёгку шамацелі на ветры, і сіпата прамаўляў: «Няма прадаўца, сам станавіся за прылавак. Не надарвеш пуп!»

Назаўтра, па дарозе са школы, забег у бібліятэку, і ад парога папрасіў выдаць кнігі выкрывальніка духоўнай спустошанасці.

— Маша, што ў нас ёсць Маравія?! — крыкнула бібліятэкарка нябачнай за стэлажамі напарніцы.

— «Чачара»!

— Не, «Чачару» яму рана чытаць! — усё з той жа інтанацыяй, злёгку павярнуўшы галаву, гукнула бібліятэкарка.

— «Рымскія апавяданні» яшчэ былі. Калі не спісалі!

З бібліятэкі я выкуліўся ў кнігай у руцэ. Яна была такая зачытаная, што ледзь разабраў зацёртую назву. Пра яе згадвалі ў энцыклапедыі, і я задаволена пхнуў зборнік аповедаў у школьную тэчку.

«Рымскія апавяданні» пахлі махоркай, а старонкі былі пазначаны жоўтымі мецінамі пальцаў. Першыя дзве старонкі наогул адсутнічалі, і давялося прачытаць толькі канец прадмовы, якую напісаў той самы Эрэнбург, які дэманстраваў піпку. Эрэнбург пісаў, што Маравія далучаў сябе да неарэалістаў, якія спрабавалі надаць прозе дакументальны характар. Мне адразу ж згадалася другая серыя «Журналіста», у якім замест мастацкага сталі паказваць фільм дакументальны — з блуканнем па Парыжы, наведваннем кавярняў і рэпетыцыі

папулярнай французскай пяюхі, прозвішча якой я не ведаў і якая сваім выглядам і манерай выканання нагадвала гарластую каўку. У прадчуванні сустрэчы з нечым па-сапраўднаму інтрыгоўным, перагарнуў старонку. Першае апавяданне называлася «Апантаны». Яго герой, вадзіла таксоўкі, падабраў трох пасажыраў — двух хлопцаў і адну дзяўчыну, — якія папрасілі завесці іх на пляж. Па дарозе хлопцы паспрабавалі вадзілу забіць і завалодаць машынай, але ў іх не хапіла духу і яны, выкуліўшыся з таксоўкі, далі дзеркача. Пасля таго герой павёз дзяўчыну назад у Рым, паспрабаваў па дарозе абняць, тая адмовілася, і ён яе высадзіў з машыны. Прачытаўшы апавяданне, я так і не зразумеў — што хацеў сказаць аўтар і навошта ён гэта напісаў. Такія ж пытанні апаноўвалі мяне, калі чытаў другое, трэцяе і ўсе наступныя апавяданні. Гэта былі нават не апавяданні, а нейкія замалёўкі з жыцця — манатонныя і не надта цікавыя. Іх герояў — кельнераў траторый, кіроўцаў таксовак, цырульнікаў альбо проста беспрацоўных — цікавіла толькі адно: як узбіцца на грошы. Практычна ўсе героі былі з фізічнымі заганамі, але пры гэтым спрабавалі абкруціць дзяўчын, якія ў Маравія ўсе скрозь былі з пышнымі цыцкамі. Дачытаўшы да сярэдзіны, я адклаў кнігу са шчаслівай думкай, што больш чытаць не буду.

Ноччу мне зноў прысніўся Маравія. Гэтым разам ён гартаў пацёхканую бібліятэчную кнігу.

— Ну як? — спытаў італьянец сіпатым голасам Штукатурава.

Спачатку не зразумеў — пра што ён, а потым, уцяміўшы, адказаў:

— На кволы трайбан.

Так любяць казаць у нашай школе.

Пісьменнік не чакаў такога, таму адхінуўся назад, і за спінай ягонай гучна зашамацелі жалюзі.

— Ну дык напішы лепш.

— І напішу, — выдыхнуў я і, акурат у той момант, калі вусны прашапталі «напішу», прачнуўся.

Прыспана зірнуўшы на столь, уголас паўтарыў гэткую фразу і павярнуўся на левы бок.

## КОТ БАЗЫЛЬ

Базыль жыве ў хаце, што месціцца ў канцы вясковай вуліцы, і кожнай раніцы ходзіць лавіць мышэй на Дабранскую гару. Насамрэч гэта ніякая не гара, а парослы пустазеллем пагорак са старой ліпай на вершаку. Летам на пагорку стагуюць сена, таму там і развялося шмат палёвак.

Апоўдні, змарыўшыся, кот узбіраецца на ліпу і ўважліва глядзіць на далягляд. Там, на даляглядзе, бачна вясковая дарога, густы алешнік і высокае бясхмарнае неба. Кот заплюшчвае вочы і адразу ж панурваецца ў чуйны каціны сон. Базылю сніцца гаспадыня, якая доіць у прыцемку хлява карову Зорку, і слых Базылёвы поўніць звон малака ў даёнцы. Калі ж ён ізноў расплюшчвае жоўтыя зекры, дык заўважае аблачынку пылу на даляглядзе. Гэта гоняць статак з пашы. Кот збягае па стаўбуры на зямлю і спехам, узняўшы хвост дудой, бяжыць дахаты.

Каля хаты яго сустракае шчанюк па мянушцы Гультай. Увесну гаспадыня прынесла яго з суседняй вёскі, і цяпер ён дзень пры дні гойсае па двары, змагаецца са скочкамі, перабіраючы зубамі поўсць, ды брэша на суседскага ката. Шчанюк прыязна віхляе хвастом, ды кату не да яго. Базыль прагне пакаштаваць сырадою. Між тым Зорка стаіць ля весніц і ісці ў хлеў не хоча. Рыкае, аддзімаецца, матляе гламаздаватай галавой. Чакае гаспадыню, якая павінна даць ёй хлебную скарынку. Нарэшце, цяжка дыхаючы, карова ідзе да вядра з вадой, доўга п'е, і Базыль, чакаючы пачастунку, натхнёна драпае збуцвелы, збіты каровінымі капытамі, парог хлява.

І вось цыркае малако у даёнцы, і Базыль з Гультаём, сеўшы ля парогу, закаханымі вачыма ўглядаюцца ў прыцемак хлява.

— Стой ты! — выдыхае гаспадыня, Базыль прыгінаецца, зводзіць назад вушы, а зразумеўшы, што гаспадыня сярдуе не на яго, а на карову, выпростваецца і пераступае з лапкі на лапку.

У паветры галавакружна пахне малаком. Гаспадыня, з даёнкай у руцэ, выходзіць з хлява, і Базыль з вяканнем кідаецца ёй пад ногі.

— Ды пачакай ты! — з незадаволенасцю ў голасе кажа гаспадыня — цяпер ужо кату, — і пляскае малака ў чаропку.

Базылю б пачакаць, калі пасудзіна напоўніцца пеністай смакошай, але чакаць не выпадае. Ён торкаецца пад струмень, і малако ліецца па голаў. Кот лыкае смакошу на паўсагнутых лапах, трасучы вушамі, і, толькі выжлукціўшы палову чаропкі, прысядае, абхапіўшы хвастом правы бок.

Непадалёку гучна лыкае сырадой Гультай. Базыль ужо агораў сваю порцыю, а цюлік усё яшчэ б’е языком, і кот раўніва думае: ці не налівае гаспадыня Гультаю больш, чым яму?

Агораўшы малако, кот са шчанюком, пазіраючы адно на другога, аблізваюцца. Гэта ў іх своеасаблівае спаборніцтва: хто смачней аблізнецца. Але куды там Гультаю супраць Базыля. У шчанюка адно кончык языка вытыркаецца, а ў ката язык аж да прыплюшчанага вока дастае. Урэшце Гультай пачынае лавіць мух ротам, а Базыль па-ранейшаму аблізваецца, дэманструючы, што віславухі дуронік яму ў гэтай справе не раўня.

Пасля абеду Базыль любіць памыць пысу ды паляжаць у цяньку. Вось і цяпер ладкуецца пад хатай і адчайна, выпрастаўшы лапы, пацягваецца.

Базыля адразу ж агортвае сон, як заўсёды, неглыбокі і чуйны. Таму і вушы Базылёвы злёгку варушацца, слухаючы — ці не ціўкне дзе ўвішны верабей і ці не заскрабуць між палення мышы. Нечакана Гультай заліваецца вісклівым брэхам, і Базыль спрасонку сігае на касцёр бярозавых дроў. Па агароджы, ступаючы лапамі па вострых штыкецінах, ідзе суседскі кот Марцін. Базыль з ім часцяком б’ецца і на мінулым тыдні

раздзёр суседу правае вуха. Марцін шчанюка, вядома, не баіцца, аднак на ўсялякі выпадак скача з агароджы і хаваецца ў лапушыстай капусце. Базыль таксама скача на зямлю і задаволена пазяхае. Можна было б паляжаць у цяньку, ды тут з хаты выходзіць гаспадар — саракагадовы мужчына з віслымі вусамі і чырвоным ад загару плехам. Прыпаліўшы цыгарку, ён выцягвае з-пад страхі вуду, і кот, адчуўшы на канцы шурпатага языка смак свежай рыбы, бяжыць да весніц і заклапочана трэцца вусамі аб шулу. Апрача ката, каровы і шчанюка ў гаспадара ёсць яшчэ певень і тузін курэй. Пеўня клічуць Петраком і ён таксама стаіць каля весніц, пагрозліва трасучы віслым грэбнем і злёгку надзьмуўшыся. Петрака гаспадар на рыбалку ніколі не бярэ, вось пяюн і надзьмуў грудзіну.

Праз хвіліну Базыль ужо бяжыць, раз-пораз азіраючыся, па вясковай вуліцы, у канцы якой шамаціць аерам і плёскае млявай хваляй вялікае возера. Кот замілаваў бегаць на рыбалку не проста так. Гаспадар, калі чапляецца невялічкая рыбка, кідае яе свайму гадаванцу. А рыбу Базыль любіць нават больш за сырадой.

Ступіўшы на прыбярэжны пясок, кот з нецярплівасцю круціць хвастом, але гаспадар закідваць вуду не спяшаецца: доўга, адным пальцам, поркаецца ў бляшанцы, шукаючы прыдатнага чарвяка. Урэшце чарвяк з кароткім ціўканнем пляскае ў возера, і вочы каціныя апаноўвае плавок, які калышацца на неспакойнай вадзе. Зроблены ён з віннага корка і працяты даўгім пяром, якое згубіў на двары Пятрок.

Кот неадрыўна, наструненымі вачыма, зыркае на пяро. Чакае, калі яно тузанецца. Але пяро не варушыцца, і толькі аднаго разу крутнулася, калі яго зачапіла вадамерка.

Гаспадар таксама пільна глядзіць на ваду. Хоча, каб на кручок патрапіла вялікая рыбіна. А Базыль наадварот — чакае маленькага печкура. Бо толькі імі гаспадар і частуе свайго ўлюбёнца. Буйную рыбу — платвіц ды акунёў — шпурляе ў поліэтыленавае вядро, якое прыхапіў з дому.

Нечакана пяро тузанулася, і Базыль баднуў рыбака ў бок. Маўляў, цягні хутчэй. Рыбак, аднак, не варушыцца. «Нейкая

драбната ўзялася», — мармыча, чухаючы скронь, і толькі тады тузае вудзільна.

На лёсцы матляецца малюпасенькі пячкур, і Базыль з адчаем у голасе мяўкае.

— Ну на табе ўжо, на…

Базыль есць рыбку з прагавітым адчаем, завярнуўшы галаву, ды так, што тая глядзіць у неба, і адначасова, адным вокам, пазглядае на плавок, які паспеў ужо плюхнуцца ў ваду. А раптам яшчэ адзін пячкур торкне! Праглынуўшы смакоцце, кот аблізвае вусы і зноўку таропіць вочы на плавок. Новыя печкуры, аднак, не бяруцца, і Базыль, змучыўшыся іх чакаць, вырашае памыць, як гэта робяць каты, пысу, але так і застывае з узнятай лапай. Плавок рэзка ідзе пад ваду, і ў паветры бліскае луской вялікая плотка.

— Грамаў на дзвесце пацягне, — прамаўляе гаспадар, узважваючы рыбіну на далоні.

Праз пару хвілін узялася яшчэ адна плотка, праўда, меншая па памерах, а неўзабаве на лёсцы затрымцеў, зласна натапырыўшы калючкі, зеленаваты джгір. Зняўшы яго з кручка, гаспадар хвілю маракуе, куды яго кідаць — у вядро ці кату, — і кідае ў вядро.

— Удавішся якой калючкай, — чуе Базыль і глытае сліну. Мінулым разам ён з'еў такога ж калючага джгіра і не падавіўся.

У вядры, напалову напоўненым вадой, плёскае рыба. Кот асцярожна ідзе да вядра, становіцца на яго пярэднімі лапамі, і гаспадар, павярнуўшы галаву, пагрозліваківае пальцам.

— Толькі паглядзець хацеў, — збіраўся сказаць Базыль на сваёй кацінай мове, ды тут над вадой мільгае штосьці цёмнае і гучна плюхаецца ў возера. Кот з перапуду сігае пад бліжэйшы куст.

— Такі падлешчык сарваўся! — голас гаспадара пакрыўджана дрыжыць.

Базыль вылазіць з-пад куста і, каб супакоіць рыбака, трэцца вусамі аб ягоную спіну.

— Суніміся… не да цябе, — рыбак рашуча адпіхвае гадаванца.

Пакрыўдзіўшыся, кот точыць кіпцюры аб стаўбур пахілай вярбы, ды тут у траву ляціць пячкурык, і Базыль, забыўшыся на крыўды, падхоплівае рыбку на зуб.

З рыбалкі вяртаюцца адвячоркам. Пятрок, як заўсёды, чакае іх каля весніц і радасна гарлае на ўсю вёску.

Гаспадар не паспявае прачыніць дзверы, як кот імклівым ценем праслізгвае між ягоных ног. Такою парою Базыль не надта любіць сядзець у хаце, але тут брындаць па двары не выпадае: гаспадыня зараз будзе чысціць рыбу і кіне яму рыбнае ашмоцце.

— Ну, ці шмат налавіў? — пытаецца гаспадыня.

— Крыху ёсць, — адказвае гаспадар, паставіўшы на стол вядзерца з рыбай, — юшка атрымаецца, і на смажонку хопіць.

— А на падлогу вядро нельга паставіць? Абавязкова трэба на стол усперці, — гаспадыня, мяркуючы па голасе, не ў гуморы.

— Базыль пад нагамі круціцца, у вядро палезе.

— А навошта ты яго ў хату пусціў? — наракае гаспадыня.

Кот бяжыць у святліцу і праз дзвярную пройму зазірае ў кухню.

Учора вусаты свавольнік убіўся ў місу са смятанай — вось гаспадыня з таго часу і незадаволеная. Потым тую смятану шчанюку аддалі. Аблізваўся не горай за ката. А Базыль тым часам пад ганкам хаваўся. Летам ён там наогул начуе, балазе гаспадар зрабіў яму ляжанку са старой ватоўкі.

Тым часам гаспадыня з гучным шоргатам, прыбіраючы цэўкай рукі валасы з лабаціны, чысціць рыбу. З-пад нажа разлятаецца срэбная луска, і адна лусачка прыліпае да Базылёвага носа. Кот крадком падыходзіць да гаспадыні, чапляецца кіпцюрамі за край стала.

— Прэч адсюль! — кажа гаспадыня і, выцягнуўшы з плотвіцы пухір, кідае на падлогу.

Пухір покае на зубах і Базыль чарговым разам пераконваецца, што рыба самае смачнае едзіва ў свеце.

… Базыль цэлую гадзіну сядзеў каля печы ды чакаў, калі сасмажыцца рыба. Яму звычайна даставаліся храбусткія галовы. Але надарылася нечаканае. Гаспадыня сабрала недаедкі

ў газеціну, панесла на двор, і хаця Базыль з немым вяканнем кідаўся ёй пад ногі, высыпала іх у сабачую чаропку.

Гультай захрабусцеў смажанымі галовамі, кот паспрабаваў да яго наблізіцца, і шчанюк стоена гыркнуў.

«Рыбу мы з гаспадаром лавілі, а Гультай умінае. Ды так, што аж вушы трасуцца», — падумаў Базыль, паглядаючы на шчанюка, і, узняўшы хваста, пачаў, па старой завядзёнцы, тачыць кіпцюры на падгнілых, зялёных на доле штыкецінах.

Наплыў лёгкі змрок, падзьмула халадком, і з-за Дабранскай гары выплыла вялізная поўня. Гультай, убачыўшы поўню, здушана, з падвываннем дзяўкнуў. Кудлаты дуронік, падобна, нават не ведае, што такое поўня, маракуючы, што ўдзень яна хаваецца за Дабранскай гарой і толькі ўвечары выбіраецца са свайго сховішча. Між тым Базыль кожнага дня завітвае на гару і ведае: там пачынаецца роўнае поле, дзе пасвяць каровы, і поўні няма дзе схавацца.

Базыль скача на касцёр бярозавых дроў, які падпірае хату, а потым на пакрыты збуцвелай дранкай дах. Хуценька ўзбіраецца на вільчак і адтуль, з верхавіны, паглядае на поўню. Яна сёння як ніколі вялікая і чырванаватая з водцені. У хляву з шумам аддзімаецца, а потым рыкае Зорка; абуджаны Пятрок клякоча на седале; трывожна, падскакваючы адразу на чатырох лапах, брэша Гультай. Маўляў, злазь, а то звалішся. Базыль, аднак, у ягоны бок нават не глядзіць. Сядзіць, наструнены, нібыта чакаючы чагосьці, а калі жоўты дыск поўні перасякае імклівы цень, прыціскае галаву і заводзіць назад трапяткія вушы. У небе з’явіліся першыя кажаны. У Базыля ёсць мара: злапаць хоць бы аднаго з іх. Кату здаецца, што гэта мышы, але з крыламі. Яны і пішчаць як мышы. Ды як зловіш. Кажаны імклівыя, як маланка. І калі пралятаюць перад кацінай пысай, Базыль нават не паспявае ўзняць лапу. На поўню наплывае начная хмара і робіцца зусім цёмна. Толькі кусты парэчак, якія растуць пад вакном, яшчэ свецяцца: гэта гаспадары глядзяць тэлевізар. Пазяхнуўшы, Базыль спускаецца долу. Каля ганку стаіць прыхінутая да сцяны вуда. Кот мацае яе лапай. «Ці пойдзем заўтра на рыбу?» — думае Базыль. На жаль, гаспадар ходзіць на рыбалку раз на тыдзень,

у нядзелю, і то калі добрае надвор’е. «Мог бы я ўпраўляцца з вудай, хадзіў бы на возера кожны дзень», — з гэтаю думкаю Базыль лезе пад ганак, і шчанюк кароткім дзяўканнем жадае яму добрай ночы.

# ЧОРНЫ ДОР

Больш за ўсё на свеце Ганна баялася падвойнага падбародка. Таму кожнага ранку, выкуліўшыся з пасцелі, ставала перад люстрам і, задзёршы галаву, праводзіла пальцамі па гладкай, як у дзіцяці, шыі. І хоць падвойны падбародак дагэтуль не праглядаўся, жанчына ўздыхала і скоса пазірала на швейную машынку. Прачытала недзе, што найбольш часта ён сустракаецца ў швачак-матарыстак, якія ўвесь час сядзяць скурчаныя. Яна і сама не ведала, адкуль з'явіўся гэты страх. Можа з таго часу як, малая, хварэла на свінку і цэлы тыдзень ляжала з высокай тэмпературай, задыхаючыся ад паху камфары, якой маці змазвала ёй атлусцелую шыю.

Ганне таксама даводзілася на працы курчыцца. Яно і не дзіва: працавала рэдактарам у выдавецтве. Праўда, пазалетась патрапіла пад скарачэнне і цяпер зарабляла на жыццё тым, што рэцэнзавала і рэдагавала рукапісы. Прычым не толькі маладых пісьменнікаў, але і знаных творцаў, з якімі важданіны болей, чым з пачаткоўцамі. Рукапісы іх былі тлумныя, бязладныя, без знакаў прыпынкаў. Аднак самае прыкрае тое, што апошнім часам пісьменнікі наогул кінулі пісаць, і рэдактары біліся за кожнага аўтара. Вось і давялося Ганне, каб абабіць капейку, сесці за швейную машынку — абшываць суседзяў. Нават не абшываць, а пераніцоўваць дзіцячыя апранахі ды ўстаўляць кліны ў жаночыя спадніцы.

Такім чынам, дзіўная гісторыя, пра якую хочам расказаць, пачалася змрочным восеньскім ранкам, калі Ганна скочыла з ложку, падышла да люстра і, з недаверам памацаўшы скуру на падбароддзі, рушыла ў ванну. Учора ўвечары ёй патэлефана-

вала каляжанка, Галка Чмых, якая працавала ў выдавецтве, і паведаміла: у галоўнага рэдактара на стале ляжыць аб'ёмны рукапіс, за які ніхто не хоча брацца. Цяпер творы пішуць, седзячы за кампутарам, а тут нейкая кабеціна прыцягнула твор свайго памерлага бацькі важкую тэчку з набраным на друкарцы тэкстам.

Аб адзінаццатай гадзіне Ганна парывістым крокам увайшла ў будынак, дзе месцілася выдавецтва, падалася да вінды і нечакана ўзбілася на сваю старую варагіню — карэктарку Элеанору Датунашвілі. На карэктарцы былі вузкія ласіны, якія падкрэслівалі высокі рост і манерную хаду, а вусны гарэлі ад яркай памады. З Элеанорай у Ганны даўнія звадкі. Гадоў дзесяць таму, на рэдакцыйным гульбішчы, тая сучка падкацілася да яе мужа, і хаця яны даўно развяліся і былы муж касіў сабакам сена ў Польшчы, варожасць засталася і Ганна зрабіла выгляд, што не пазнала былую суперніцу.

Галоўны рэдактар ускочыў з крэсла, шырока раскрыліў рукі. Нібыта ўзрадаваўся. Ды тут жа вярнуў на твар выраз панылай турботы і кіўнуў на край стала.

— На вас, Ганна, уся надзея. Патрэбная невялічкая рэцэнзія. Спрабаваў чытаць, але там, падобна, жаночы раман, а ад іх вар'яцею, — галоўны рэдактар падхапіў тэчку, ляпнуў па далоні і чхнуў. — Выбачайце, алергія замучыла, — буркнуў чхун, зацята пазіраючы ў вакно. Хацеў чхнуць другім разам, ды не атрымалася. У галоўнага рэдактара была алергія на кніжны пыл, пра што не стамляўся паведамляць наведнікам і падначаленым.

«Сволач», — падумала наведніца, пазіраючы на чырвоны рэдактарскі нос. Як скарачалі штаты, першым у спісе фігуравала яе прозвішча, і Ганна гэтага не забыла.

— Аўтар памёр. Жыў у глухой правінцыі. Я навёў даведкі: ён напісаў тры раманы, але іх да друку не прынялі. Дачка прадае хату, стала перабіраць бацькавы архіў і знайшла гэтую алергію, — рэдактар кінуў тэчку на стол. — Прынесла нам і папрасіла зрабіць электронную копію. За добрыя грошы. Так што калі ёсць жаданне і магчымасць, можаце заняцца. Нумар мабілы пазначаны на тэчцы.

Спытаўшы дзеля прыліку пра здароўе, галоўны рэдактар плюхнуўся на абабітае дэрмацінам крэсла, наведніца выслізнула ў калідор і неўзабаве зазірнула ў суседні кабінет, дзе сядзела старая сяброўка Галка Чмых. Сяброўцы сёлета стукнула саракоўка, але яна па-ранейшаму маладзілася: была ў куртатай, не па сезону лёгкай сукенцы, у лакіраваных туфлях на шпільках, і, да таго ж, не шкадавала касметыкі. Завітваючы ў выдавецтва, Ганна кожнага разу сустракалася з Чмых, і тая апавядала апошнія рэдакцыйныя плёткі. Сяброўка якраз збіралася ісці паліць.

— Часіны насталі. Цыгарэту выпаліць, і то трэба недзе хавацца, — прамармытала Чмых, дастаўшы з сумачкі пачак «Мальбара». — Памятаеш, раней які дым стаяў у кабінетах? І нікому гэта не замінала, — адчыніўшы дзверы прыбіральні, сяброўка змяніла тон: — На мінулым тыдні яшчэ двое звольніліся. Заробак за жнівень не атрымалі, — Галка пстрыкнула запальнічкай. — Ну а ты як маешся?

Ганна ўвогуле не паліла, але тут вылушчыла з Галчынага пачка цыгарэту, безуважна перасмыкнула плячамі. Пра сябе распавядаць не хацелася.

— Я ж у маладосці ў швейным атэлье завіхалася. Вось і зноўку села за машынку. Суседзяў абшываю.

— І не баішся? — сяброўка састроіла іранічную гімору. — Сама ж казала — швейная машынка гарантуе падвойны падбародак.

— Я сківаццу бінтам падвязваю і на макушцы завязваю, — выдыхнула разам з дымам Ганна, і сяброўка, прымружыўшы вока, паўжартам заўважыла:

— У мяне надоечы суседка памерла, дык ёй таксама так перавязвалі.

Ганне такая заўвага не спадабалася, і сяброўка, зразумеўшы, што балбатнула лішняга, з інтанацыяй абарванага смеху спытала:

— А што там табе шэф уплішчыў?

Ганна без асаблівай ахвоты выцягнула з поліэтыленавай торбы пацёханую тэчку.

— «Чорны Дор», — уголас прачытала Чмых надпіс на цэтліку і хуценька вярнула тэчку.

Чмых памаўчала, пра штосьці думаючы, са злавесным свістам выпусціла праз сцятыя зубы цыгарэтны дым.

— Я б не раіла гэта рэцэнзаваць.

— Чаму? — выгнула падфарбаванае брыво Ганна. — Я і не такія дрымучыя тэксты рэцэнзавала.

— Ды я не пра тое, — перакрывіла вусны Чмых. — Проста розныя пагалоскі ходзяць.

— Якія пагалоскі? — ужо з ноткамі незадаволення перапытала Ганна.

— Чула я, нейкая рэдактарка, за савецкім часам, узялася гэта чытаць і неўзабаве знікла.

— Як знікла? — усхапілася Ганна.

— Не ведаеш — як знікаюць? Учора была, сёння няма. І следу не пакінула.

— Заўсёды нейкія сляды затаюцца, — у голасе Ганны не было ранейшай упэўненасці.

— Не заўсёды. Скочыла, скажам, з мосту ў ваду. Рака хуткаплынная, знесла тапельца немаведама куды і да дна прыбіла. Вось і шукай яе.

Галка з прагнасцю смактанула цыгарэту.

— Я табе больш скажу. Яшчэ з адной рэдактаркай, якая «Чорны Дор» рэцэнзавала, гэтаксама нейкая прыгода надарылася.

— Якая прыгода?

— Па чутках, нат з роднымі не развітаўшыся, на БАМ з’ехала.

Ганна прыдушыла недапалак на кафлянай сценцы.

— Перапрацавалася ты, Галка, гранкі чытаючы. Варта іншы заробак пашукаць. Ну сама падумай — што можа здарыцца, калі я, паслініўшы палец, перагарну тыя пажоўклыя старонкі? Там, магчыма, пра якую брыгаду камуністычнай працы напісана. Прачытаю і тапіцца пабягу?

— Маеш рацыю, — сяброўка таксама прыдушыла цыгарэту. — Думаю праз месяц задаць адсюль лататы.

— І куды?

— У турагенцтве месца вызваляецца. Адна былая аднакласніца там працуе, сістэмным адміністратарам. Пабралася са старым аўстрыякам і пераязджае да яго. Будзе ў Зальцбургу жыць, дзе Моцарт нарадзіўся. Ты ж ведаеш, я гультайка. Надта працаваць не люблю. А гэтая праца якраз па мне.

На дварэ дагараў кастрычнік. Дажджу, на шчасце, не было, але ад самага ранку ўсхадзіўся порсткі вецер, шумеў у кустах і кронах амаль згалелых тапаляў, нябачным хохлікам мітусіўся наўкол, уздымаючы ссохлую лістоту і вулічнае смецце. Раз-пораз вецер ціснуў на грудзіну і, здавалася, торкаўся халодным струмком у сэрца, поўнячы яго няўцямнай трывогай.

Там, у выдавецтве, Галкіны балачкі выклікалі ўсмешку, нават смех. Але зараз, ідучы дахаты, Ганну агарнуў трывожны непакой. Сапраўды, а што магло здарылася з тымі небаракамі, пра якія расказвала Чмых? Захінаючыся ад ветру, Ганна патрэсла торбай, у якой ляжаў рукапіс. А мо нічога і не здарылася? Звычайныя плёткі дурной цёткі. «Вядома, плёткі», — прашаптала Ганна, кіруючы да свайго пад’езду.

Кастрычніцкі дзень кароткі. Пакуль паабедала, пакуль выпіла тры кубкі кавы, за вакном згусцілася сутонне. Паглядзеўшы тэлевізійныя навіны, Ганна села за кампутарны стол, і ўключыла настольны «грыбок», папярэдне адсунуўшы ўбок «клаву». Прынесеная з выдавецтва тэчка была пацёханая, з тлустымі плямамі па баках, а над няроўна прыклееным цэтлікам з назваю твора бег напаўсцёрты, зроблены хімічным алоўкам надпіс. Пакруціўшы тэчку перад носам і прымружыўшы вочы, усё ж такі разабрала: «Ззаду наперад!» Пісала дрогкая рука, і на клічніку сэрца алоўка раскрышылася. Аўтар, відаць, хацеў нешта адцеміць для памяці. Рукапіс, дакладней, машынапіс, выглядаў не надта аб’ёмным, так што гэта быў не раман, а вялікая аповесць.

Забарскі ніяк не развязваліся, і Ганна, надламаўшы пазногаць, забегла на кухню і прынесла кухонны нож.

«Чорны Дор», — прачытала адбітыя на разладжанай друкарцы назву і адчула, што душа міжволі адхінулася ад гэтых няроўных літар. І тут жа да іх вярнулася, панурыўшыся ў

затхлы пах цвілі. Тэчка, падобна, не адзін год парахнела на гарышчы. Ганна датыкнулася носам да старонкі, удыхнула паветра і, як той галоўны рэдактар, грымотна чхнула. «Гэта ўсё кніжны пыл, ад яго ўсе хваробы», — згадала наракання суседкі, якая жыла праз сценку. Зімой у суседкі памёр муж, і яна вынесла хатнюю бібліятэку на сметнік.

Лізнуўшы мезенец, перагарнула старонку. Літары скакалі ўваччу і былі зусім бляклымі.

«Цягнік тузануўся, за шыбай узнікла і мігам растала парная аблачына, і беластвольныя бярозы, якія дагэтуль плылі ўздоўж чыгуначнага палатна, спыніліся ў нерухомасці. Над імі, у шэрым небе, вісеў такі ж нерухомы туман.

— Ці хутка Чорны Дор? — звярнулася Люсьена да кандуктара, калі той праходзіў з незапаленым газавым ліхтаром па вагоне.

— Зараз будзе Асташкаў. Потым два раз’езды і ваш Чорны Дор. Я спадарыню папярэджу».

Ганна ўздыхнула, адкінулася на спінку крэсла-круцёлкі. Аповесць была, дзякуй богу, не пра перадавую брыгаду. Кандуктар з газавым ліхтаром у руках наводзіў на думку, што дзея разгортвалася да рэвалюцыі. Уздыхнуўшы другім разам, Ганна паглыбілася ў чытанне.

Гераіня аповеду, якую, на французскі манер, клікалі Люсьена, ехала па чыгунцы на станцыю з дзіўным і нават таямнічым назовам Чорны Дор. У наступных двух раздзелах аўтар апісваў лясныя краявіды, якія праплывалі за вакном, затым узяўся апісваць азёрны краявід. Цягнік паволі ехаў уздоўж разлеглага возера і нарэшце прывёз Люсьену на станцыю Асташкаў.

Чытаючы аповед, Ганна прыгадала, што даўно калісьці ездзіла з бацькамі па гэтай чыгунцы і бачыла з вакна вялізнае возера, назву якога забыла. Мясціны там, памятаецца, уражвалі сваёй змрочнасцю і занядбанасцю. Ганна перагарнула старонку.

«На станцыі Асташкаў у вагон убіўся і сеў насупраць увішны фацэт у форме тэлеграфіста.

— Вы не да Піцера? — спытаў тэлеграфіст, бліснуўшы юрлівымі вачыма, і Люсьена адмоўна страсянула кудзеркамі.

Спадарожнік пакрыўджана пакруціў галавой, а ўбачыўшы невялічкую чаргу ля станцыйнай, выкладзенай чырвонай цэглай, будыніны з надпісам «Кіпень», дастаў з дарожнай кайстры конаўку і кінуўся ў бок тамбура.

— А вам адліць? У кандуктара ёсць чыстыя шклянкі, — спадарожнік, заняўшы сваё месца, сыпануў у конаўку жменю зялёнай гарбаты.

Люсьена зноў страсянула кудзеркамі.

Спадарожнік зварухнуў кусцістымі брывамі, дастаў з кішэні форменнага сурдута пачак «Арыстакрата».

«Дома дзевяцікапеечны «Трезвон» паліць, а ў дарогу дарагімі папяросамі разжыўся», — нядобра падумала пра тэлеграфіста Люсьена і адвярнулася да вакна».

«Па закону жанру гераіня з тым тэлеграфістам павінна сустрэцца», — падумаўшы так, Ганна іранічна ўсміхнулася.

«Кандуктар скочыў з прыступкі першым, дапамог выйсці з вагону. Платформы тут не было, і мусіла, цягнучы нагу да зямлі, задзерці спадніцу. Цягнік паволі паехаў, і Люсьена ўгледзела ў вакне расплюшчаны нос тэлеграфіста. Тэлеграфіст глядзеў на яе, разявіўшы рот. Дзівіўся, што такая далікатная кабета выйшла на занядбанай, аточанай густым лесам, станцыі. З цягніку больш ніхто не выйшаў. Люсьена акінула ўстрывожаным позіркам бязлюднае наваколле і перавяла дых. Удалечыні, пад высокім семафорам, зварухнулася самотная постаць, пасунулася ў бок станцыйнага будынку, і там каротка бразнуў звон.

— Спадарыні, відаць, у Белкіна трэба? — спытаў малады чыгуначнік, з выгляду, начальнік станцыі, насунуўшы на патыліцу пацяганую, з трэснутым брыльком, фуражку.

— А ці далёка гэтая вёска? — тое, што незнаёмы чалавек ведае, куды ёй трэба, крыху збянтэжыла Люсьену.

— Ды дзесьці тры вярсты. І ўсё лесам.

Люсьена панурыла вейкі.

— Магу дапамагчы. Мой бацька якраз туды ехаць сабраўся.

Чыгуначнік свіснуў, і з-за будыніны са скасабочанай шыльдай «Газа» над уваходам выплылі буланы конік і грымлівыя калёсы».

Ганна адкрыла чарговую старонку, размяла замлелую паясніцу. На пачатку чытала з неахвотаю, але зараз учыталася. Ды і цікава стала: чаго Люсьена ехала ў Белкіна? Можа, яна была рэвалюцыянеркаю і распаўсюджвала ўлёткі ці ленінскую «Іскру»? А можа ў вёсцы прыхавалі друкарскі шрыфт, каб тыя ўлёткі адціскаць? Падсунуўшы чысты ліст, дзеля памяці напісала: «Дзея разгортваецца занадта павольна. Шмат непатрэбных падрабязнасцяў».

«На калёсах сядзеў сівы дзед і падганяў каня:

— Н-но, Буланчык!

— Не гарадская пралётка, аднак ехаць можна, — заўважыў чыгуначнік. — Дарога ў лесе роўная, хіба на карэнне ўз’едзеш, дык страсяне.

Сівы дзед, пад’ехаўшы бліжэй, прыўзняў картуз.

— Бацька вас і назад прывязе. Цягнік а восьмай вечара. Вы ж назад паедзеце?

На калёсах ляжаў, прыкрыты гунькай, ахапак саломы. Дзед, няйначай, загадзя падрыхтаваўся везці пасажыраў, і гэта яшчэ больш усхвалявала.

Люсьена ўзбілася на мяккую салому, прымасціла поруч sac voyage.

Начальнік станцыі жартам памахаў ім рукою, і дзед хвастануў буланага. Конь ірвануўся, і Люсьена траха не скацілася з калёс. Яны праехалі міма драўлянага, фарбаванага брунатнай фарбай станцыйнага будынку, заехалі ў рэдкі хвойнік, а потым у вячысты лес, і жанчыне стала страшнавата. Яна зыркнула на пахілую спіну возніка і, каб развеяць дрогкую сціхоту пад сэрцам, спытала:

— Адкуль такая дзіўная назва: Цёмны Дор?

Возлік адказаў не адразу. Керхануў, зварухнуў лейцамі.

— А хто ж яго ведае, даражэнькая. Чорны Дор ды Чорны Дор.

Дзед зноў памаўчаў.

— Я ж амаль кожны дзень людзей да Марты важу. Жанчыны з усяго свету прыязджаюць. Кагадзе адну вёз, казала, двое сутак да нас дабіралася.

Мяркуючы па гамонцы, дзед быў не вясковец.

— А вы тутэйшы?

Суразмоўнік падагнаў каня.

— Ды не. Шпалы ўсё жыццё рэзаў. Два гады гэтую чыгунку будаваў — ад Балагога да Асташкава. А потым тут, у Чорным Доры, і застаўся век дажываць ды жанчын у Белкіна вазіць, — дзед са свістам у грудзях уздыхнуў. — Канчаюцца мае заробкі. З'язджае Марта.

— А куды?

Дзед, аднак, пытання не пачуў.

— Нядаўна паліцыя з губерні прыязджала: акалодачны і з ім гарадавы. Я іх ад станцыі да Белкіна падвозіў. Хаця б грыўню падкінулі, падлюгі. Так задарма і праехаліся. Думаў, Марту заарыштуюць, але ж не. Гадзіну з ёю пагаманілі і на станцыю выправіліся. Як ехалі, я вуха наструньваў. Думаў, штосьці скажуць пра Марту. А тыя сядзелі, як кол пракаўтнуўшы. Нават словам не абмяняліся.

— А што яна такое ўчыніла?

— Дакладна не магу сказаць, але нібыта дала гаротніцы, якая з Цверы прыязджала, зелля, тая падсыпала швагерцы, і швагерка з твару змянілася. Ды так, што людзі не сталі пазнаваць.

— А гэта не казкі?

— А мо і казкі, — адказаў суразмоўнік крыху пакрыўджаным голасам. — А вось то, што Марта пуд загаворвае, заікам языкі ўпраўляе ды ад рожы ратуе — гэта дакладна. У мяне ўвесну, на Звеставанне, рожа на назе, на вялікім пальцы ўскочыла. Нага да ступака ўспухла, ужо і трызніць пачаў. Хведзька, які вас сустракаў, сын мой старэйшы, прывёз яе сярод ночы. Дала нейкага пітва, паплявала на нагу, пашаптала, і наступным днём я ўжо ў Белкіна наведніц вёз. А то яшчэ пляменнік мой з Вялікіх Лук дачку прывёз. Грыжа вылезла ў малой. Пуп сіні — глядзець страшна. Завезлі да Марты. Што яна там з сінепупай рабіла — не ведаю. Я на вуліцы чакаў.

А калі яны з Лёшкам, пляменнікам, выйшлі, той адно рукой махнуў. Лёшка з сацыялістамі блытаецца, шаптухам веры не дае. «Ну а ўсё ж, кажу, Марта нешта параіла?» — пытаюся, каня хвастануўшы. «Ды параіла, — крывіцца, — наказала, каб яе старэйшы брат кожны дзень вуснамі грыжу пакусваў». Вось так — дзед павярнуў галаву і памыліў вуснамі. Праз пару тыдняў атрымліваю ад пляменніка ліста. Піша, ад грыжы і следу не засталося. Во як!

Яны выехалі з цёмнага лесу на высеку, наўкол пасвятлела, і на кароткі міг з-за хмар глянула згасальнае сонца. Пасвятлела і на душы ў Люсьены. Былыя страхі ўжо не халаднілі душу і жанчына з палёгкай перавяла дых».

Перавяла дых і Ганна. «Жаночае чытво», — падумала, прыбраўшы валасы з лобу. Дзівак той… яна адгарнула тэчку каб узгадаць прозвішча аўтара… напісаў жаночы раман пра царскія часы і мерыўся надрукаваць. Хаця, не выключана, Люсьена тая далучаная да рэвалюцыйнага руху. Але чаго прэцца да Марты? Хваробу якую лекаваць, ці цяжарнасці пазбыцца?

«Белкіна, даволі вялікая вёска, сустрэла зацятым сабачым брэхам і гусіным гогатам. Гусі плавалі ў зарослай сажалцы і гергеталі, выцягнуўшы даўгія шыі.

Хаты былі спрэс бедныя, пакрытыя чорнай саломай, адно ў канцы вуліцы з-за кустоў бэзу вытыркаўся высокі дах пад гонтам.

— Марты хаціна, — пацвердзіў Люсьеніны здагадкі вознік. — Як прыехала, бацькоўскую хату перабудавала. Жыве з сястрой. Сястра ў яе, малодшая, накульгвае. Таму і засталася старой дзеўкай.

— А дзе яна раней жыла?

Дзед перасмыкнуў плечукамі.

— Недзе ў Юр’еве. Вучылася там, а потым, казалі, у шпіталі працавала.

Вознік спыніў каня, злез з калёс, прывязаў лейцы да шулы весніц, і на двары лена брахнуў сабака.

— Цішэй, Жук, свае, — выдаў госць, заходзячы ў двор.

Пасярод двара стаяў аблавухі цюцька і махаў хвастом. Госць пачухаў сабаку за вухам.

На ганак тым часам выйшла жанчына ў старасвецкім сарафане і выцвілай хустцы. Не павітаўшыся, кіўнула на адчыненыя дзверы.

Люсьена думала пабачыць старую і скурчаную шаптуху, а ўбачыла хударлявую цыбу ў даўгой і вузкай сукенцы і з накінутай на плечы пелярынай. З выгляду яна нагадвала класную даму. У пакоі, куды ўвайшла — дзед застаўся на падворку, — панаваў вэрхал. На падлозе грувасціліся вялізныя вузлы і баулы, швейная машынка «Зінгер» чамусьці ляжала на баку, а каля яе стаялі, звязаныя адно з другім, два сталовых крэслы. Гаспадары, бачна, рыхтаваліся да пярэбараў.

«Класная дама», падняўшы з-пад ног нейкую зімовую адзежыну, толькі мелькам зіркнула на госцю.

— Муж здраджвае?

Люсьена кіўнула.

— Мне забаранілі гэтым займацца, — буркнула варожка, а ўбачыўшы, што наведніца дастала з кашаля дзве храбусткія паперкі, працадзіла: — Ладна… апошнім разам.

Варожка пайшла ў суседні пакой і доўга там нечым бразгала і нешта нашэптвала, нарэшце выйшла з зялёным штофам у руцэ. На дне штофа боўталася мутнаватая вадкасць.

— Неабходна цішком падліць суперніцы ў гарбату. Сорак кропляў, не больш! Толькі самі не піце. Ні кроплі!

— А не памрэ? — з інтанацыяй панікі пацікавілася Люсьена, і «класная дама» спехам перахрысцілася на абраз.

— Бог з вамі. Як можна такое казаць?

Госця перадала грошы, патупала крыху ля парога і падалася да дзвярэй. Следам за ёю з хаты падалася і сястра варожкі. Яна сапраўды прыпадала на левую нагу.

— Ад самага ранку пад’язджайце, і больш нікога не прывозьце. Скажыце, Марта захварэла і не прымае, — прамовілі за спінай. Жанчына аб нечым дамаўлялася з дзедам.

— Усё, у пятніцу буду рэчы ў Чорны Дор перавозіць, — прабурчаў вазніца, узбіраючыся на калёсы. — А адтуль на

рамонтнай дрызіне іх у Асташкаў павязуць, на багажную станцыю. Так што вы апошняя наведніца.

Вазніца ляснуў Буланага лейцамі па баках, і аблавухі Жук брахнуў ім на развітанне».

Ганна пацерла злёгку ўпрэлы лабешнік. «Цікава, ці падліла б я таго зелля Лорцы Датунашвілі? Відаць, падліла. Пагатоў, была магчымасць: у выдавецтве кожныя паўгадзіны пілі каву. Ганна зноўку ўзялася чытаць, але не цяміла сэнсу прачытанага. Думкі перанеслі на тую рэдакцыйную п'янку, на якой былы муж падчапіў Датунашвілі. Адзначалі чыйсьці дзень народзінаў, і Мішка, былы муж, зайшоў да яе на працу, і застаўся кульнуць чарку. Крыху выпілі, і сталі круціць пустую бутэльку, высвятляючы — хто пабяжыць за дабаўкай. Бегчы лёсіла Мішку з Элеанорай. З таго ўсё і пачалося. Мішка стаў позна прыходзіць дахаты і кашуля ягоная стала пахнуць гэтак жа, як і Лорчыны кофты і блузкі. Прычым, гэта быў пах не духоў, а імпартнага мыла ці яшчэ якой пахнідлы. А аднойчы познім вечарам, яна прыхавалася пад разложыстым каштанам, насупраць Лорчынага пад'езду, стала чакаць і дачакалася: а палове дванаццатай адтуль, пужліва азіраючыся і наставіўшы каўнер дэмісезоннага плашчу, выкуліўся муж Міхаіл. Наступным ранкам яна вынесла мужавы мэтлахі ў калідор. Праўда, да гонару Датунашвілі, жыў у яе памаўзлівы кот толькі два месяцы. Развядзёнка, з тым жа імпэтам, што і яна, выставіла Мішку з кватэры, і залётнік, па чутках, з'ехаў у Польшчу і працаваў у Познані кіроўцам школьнага аўтобуса.

Адганяючы дакучлівыя думкі, Ганна патрэсла галавой, заціснула далонямі вушы, уторкнула нос у пажоўклыя старонкі. Чытаць стала зусім нецікава. Аўтар апісваў, як гераіня, гамонячы з дзедам, вярталася на станцыю, як піла ў станцыйнай пачакальні гарбату, чакаючы цягніка, і твар Ганны скрывіў залівісты позех. Падхапіўшы самапіску, неразборлівым почыркам напісала: «Твору бракуе драйву. Ствараецца ўражанне, што чытаеш аповесць, напісаную на пачатку мінулага стагоддзя. Дыялогі між Люсьенай і вознікам зацягнутыя і абцяжарваюць тэкст, робячы яго невыразным. Тым часам нават у сярэдзіне твору чытач анічога не ведае пра мужа Люсьены

і пра ягоныя любошчы з іншай жанчынай». Ва ўсёй той банальнай аповесці Ганну цікавіла адно: якім чынам гераіня накапае сорак кропляў у гарбату суперніцы і што з таго будзе.

Далей апісваўся губернскі горад, дзе жыла гераіня аповеду, Ганна пачала чытаць па дыяганалі і толькі калі Люсьена зайшла ў кватэру, злёгку наструнілася.

«Першае, што ўгледзела, гэта раскрытую шафу. Люсьена кінулася да шафы, прыпала на калена, дрогкімі рукамі выцягнула інкруставаную скрынку. Упрыгожванні і стосік «кацярынак» былі на месцы. Люсьена ўзняла вочы. Правая, мужава частка шафы, была пустая. Засталіся адны вешакі.

— Збег… збег да сваёй інстытуткі, — прашапталі сасмяглыя вусны».

— Божухна, якая банальшчына, — са стогнам выдала Ганна. За сваё рэдактарскае жыццё ёй давялося азнаёміцца з безліччу твораў, дзе мужы збягалі ад жонак і наадварот. Ды што там літаратурныя творы, калі сама свойчас выправадзіла мужа з хаты.

Палец машынальна перагарнуў старонку, і ўваччу мільганула праведзеная тлустым алоўкам між двух абзацаў рыса. Аддзьмуўшыся, вырашыла пачытаць крышку ад гэтага месца і ісці спаць.

«Абраз быў стары, пацямнелы ад часу. Дастаўся ёй ад прабабкі. Углядаючыся ў суворае аблічча Хрыста, са стогнам укленчыла, тройчы перахрысцілася.

— Дабраславі, Гасподзь, і дапамажы мне, грэшнай…

Зялёны штоф дробна застукаў аб шклянку…»

«Яна тую халеру піць сабралася?!» — Ганна засоўгалася на крэсле.

«Спачатку хацела наліць палову таго, што было ў штофе, а потым, змежыўшы вочы, выліла ў шклянку ўсё».

— Ой, дурна-я, — заенчыла Ганна, расцягваючы зыкі.

Тэкст пайшоў дарэшты нехлямяжы. Словы сям-там сталі не там, дзе трэба. Стваралася ўражанне, што некаторыя сказы напісаныя задам наперад, але Ганна чытала, уражана разявіўшы рот.

«Зелле было гаркаватым на смак і пяршыла ў горле. Ляпаючы далонню па сценцы, пасунулася ў кухню каб глынуць вады і, праходзячы міма туалетнага століка з люстрам, глянула на свой адбітак. Падалося, што валасы прыкметна пасівелі, а твар пацямнеў, як той абраз, а лоб збаразнілі маршчакі. З парэпанай амальгамы на яе пaглядала сапраўдная ведзьма і два выразаныя з чырвонага дрэва амуры, якія ўпрыгожвалі люстра, пры гэтым таямніча ўсміхаліся. «Зрабіла гэта я навошта?» — прамовіла як бы не сваім голасам».

У Ганны было такое пачуццё, што гэта не гераіня аповеду, а яна сама каўтнула нагаворнага зелля, бо ў роце стала горка і ў глытцы запяршыла. Улякнутая, ускочыла з крэсла, ды так імпэтна, што некалькі старонак зляцелі долу. Ляпаючы, як Люсьена, далонню па сценцы, зайшла ў кухню, выпіла вады з чайніка, вярнулася ў пакой і таксама глянула ў люстра. На яе зірнуў старэчы твар. Перапужана выгаліўшы вочы, усутыч наблізілася да люстра. Дагэтуль гладкі лоб баразнілі зморшчыны, густая сетка маршчакоў сабралася вакол вачэй, шчокі па-старэчы абвіслі, пушок над верхняй губой ператварыўся ў рэдкую шчэць — як у стогадовай грузінкі, — а там, дзе была тонкая шыя, асіным гняздом вісеў падвойны падбародак.

— Божухна, што са мной? — Ганна перахрысцілася — спачатку злева направа, затым справа налева, — адступіла ад люстра і наткнуўшыся лыткамі на край матраца, грымнула на ложак. — Няўжо я такой стану? — вырвалася з грудзіны, і свядомасць працяла страшная думка: чаму буду? Я ўжо такая, і застануся такой да смерці!

Небарака прыціснула да твару далоні, адчуўшы, што скура стала як пергамент шурпатай. У памяці ўсплылі гісторыі двух жанчын, пра якія распавядала Галка Чмых. Цяпер зразумела, чаму яны зніклі. Адна з’ехала некуды, дзе бедачыну ніхто не ведаў, а другую знайшлі ў вадзе, але не апазналі. Усе яе памяталі маладой, а на бераг выцягнулі старую порхаўку. Аўтар зашыфраваў у тэксце нейкае закляцце, і любая жанчына, якая гэтую мясціну прачытае, на сорак гадоў састарэе.

— Што рабіць? — заенчыла Ганна, і паспрабавала сябе супакоіць: а можа чмура напала? Стаміліся вочы ад цьмянай друканіны, глюкі і апанавалі.

Ганна скацілася з ложку, падпаўзла да люстра і сэрца як не абарвалася. На яе глядзела агідная старая з падвойным падбародкам і чорнымі вачадоламі. Хацела падняцца на ногі, але не здолела, і пасунулася вокрачч да кампутарнага стала. Усхліпнуўшы, стала машынальна збіраць пранумараваныя ад рукі старонкі, якія ляжалі на падлозе.

— «Ззаду наперад!» — прашаптала, згадаўшы напаўсцёрты надпіс на тэчцы.

Рукі дрыжалі і яна ніяк не магла знайсці тое месца, дзе скончыла чытаць. Урэшце знайшла.

— «Зрабіла гэта я навошта?» — плаксіва выдыхнула, не пазнаючы ўласнага голасу і, страсянуўшы віслым падбародкам, паправілася: — «Навошта я гэта зрабіла?»

Ганна паклала старонку на ложак, і як дзячок на пахаванні, чытала задам наперад выратавальны тэкст.

— «Пасміхаліся… злавесна… гэтым…»

На імгненне адчула, што галава закружылася і яна вось-вось страціць прытомнасць, аднак, амаль непрытомная, дапяла да мясціны, дзе Люсьена тройчы перахрысцілася.

— «Часу… ад… пацямнелы… стары… быў абраз».

Буйная слязіна ўпала на слова «абраз» і літары расплыліся бруднай плямай. Яна зноў папаўзла да люстра, прычым у жаху і спадзеўцы заплюшчыўшы павекі, а калі расплюшчыла, убачыла свой дарэшты змораны твар з прыліплай да вільготнага лба пасмай ужо не сівых, а пафарбаваных у каштанавы колер валасоў. З вохканнем паднялася на ногі, пайшла, хістаючыся, на кухню, накапала ў шклянку сорак кропляў «Карвалолу» і запіла мінеральнай вадой «Набеглаві». Вярнуўшыся ў пакой, яшчэ раз зірнула ў люстра і абрынулася на ложак, з галавой накрыўшыся коўдрай.

Ганна ўзнялася па прыступках, завярнула ў калідор і, як заўжды, узбілася на Галку Чмых — тая ішла паліць у прыбіральню. Сяброўка глянула на яе так, быццам упершыню бачыла. Сумеўшыся, паспрабавала ўсміхнуцца.

— Шэфа няма. Паехаў некуды зранку.

— Як прыйдзе, перадай яму, — Ганна працягнула сяброўцы торбу з тэчкай.

— Ну як твор? — Галка лёгкім рухам узважыла торбу.

Ганна неакрэслена торгнула плячыма.

— У торбе капэрта ляжыць з рэцэнзіяй. Я там напісала…

Калідор азваўся стукам жаночых туфель. Сяброўкі азірнуліся. Па калідоры, годна ўзняўшы галаву, ішла Лорка Датунашвілі. Мінулым разам у Лоркі былі, як і ў Ганны, каштанавыя валасы, а зараз перафарбавалася ў бландзінку. Новаспечаная бландзінка на іх нават не зірнула.

— Там на тэчцы тэлефон запісаны, — прамовіла, сцішыўшы голас, Ганна, — дачка аўтара просіць кампутарны тэкст набраць. Ты прапануй Лорцы.

— А чаму мне не прапаноўваеш? — са смехам выдала сяброўка.

— Таму, што ты гультайка, — жартам адказала Ганна, і сяброўкі разам засмяяліся.

# ДВА БЕЛАРУСЫ

Пад самую раніцу быццам хтосьці паклікаў, ён абудзіўся. Пад бокам працяжна, з сіпатым прысвістам, храпла жонка. Ён тузануў Ніну за плячо, тая замармытала, крутнулася на левы бок.

У свядомасці яшчэ лупалі рэшткі сну. І, як заўсёды пасля цяжкога дня, прыснілася груша, якая расла каля бацькавай хаты. Дзіўныя рэчы: столькі ўсяго надарылася ў жыцці, столькі краявідаў, столькі чалавечых твараў прамільгнула перад вачыма, а сонная памяць вяртае з нябыту ўсё тую ж пакарабачаную грушу з шурпатым стаўбуром і з абрыўкамі вяроўкі на суку: там калісьці віселі арэлі, на якіх ён, малое дзіця, любіў гушкацца…

Ішлі дзясятыя суткі вандроўкі дэлегацыі па Амерыцы. Учора давялося цэлы дзень правесці ў кукурузнай Аёве, у Пітсбург прыляцелі познім вечарам, а ў гатэль наогул убіліся а другой гадзіне ночы. «Як жа называецца гэта гасцініца?» — нарадзілася ў глуздах недарэчная, як для такога часу, думка.

Усе гэтыя дні не адчуваў стомы, а, пабегаўшы па кукурузных палетках містэра Гарста — знакамітага амерыканскага фермера, — адчуў, што дарэшты стаміўся. Ад той змогі сон зляцеў з павекаў, і ў галаву лезла розная лухта.

«Ці то «Нах хаўз», ці то «Ком хераўс» — мружыў вочы на цёмную столь, спрабуючы згадаць неонавы надпіс на франтоне гасцініцы. Узнікла нават жаданне выйсці ў калідор і даведацца пра тую чортаву назву ў ахоўніка. Але што падумае ахова? Што Хрушч з'ехаў з глузду: сярод ночы выкульваецца ў калідор і пытаецца: «Дзе я?»

Закінуўшы рукі за галаў, ён зморана перавёў дых, зразумеўшы, што не засне да раніцы.

Мікіта памыўся пад цёплым дожджыкам, хвіліну адпачываў у мяккім фатэлі, а потым, нібыта ўспомніўшы нешта, падхапіўся, нацягнуў штаны і рушыў у суседні нумар. Зяць Аляксей, прафесійны журналіст, сядзеў за друкаркай і калаціў пальцамі па клавішах.

Мікіта паклаў руку на зяцевы плячук, Аляксей азірнуўся, задумаўся на хвіліну і зноўку заляпаў па клавішах — відаць, хацеў скончыць абзац.

Цесць насунуў на нос акуляры, зірнуў праз зяцевы плячук.

«Мы былі шчаслівыя, назіраючы, з якім непрыхаваным майстэрствам, — мільганулі ўваччу рухавыя літары, і карэтка падалася ўлева, — з якім шчырым перакананнем і верай у яго вялікасць рабочы клас прадстаўнік савецкага народа Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў казаў амерыканскаму народу і ўсяму свету аб вялікай, неадольнай сіле марксізма-ленінізма…»

Зяць, па гарачых слядах, пісаў кнігу пра візіт у ЗША. Ужо і назву прыдумаў: «Твар да твару з Амерыкай». Напачатку Мікіта не надта ўхвальна паставіўся да ўсёй гэтай белетрыстыкі, ды пачуўшы, што ў аўтарах будзе не толькі зяць, але і тузін іншых пісак, буркнуў: «Чорт з вамі, пішыце».

— Вось што, Лёша, зірні — якая сённяшняя праграма, — прамовіў цесць, калі Лёша, патрымаўшы палец у паветры, паставіў кропку.

«Трэба рукапіс прагледзець, а то, адчуваю, напіша абы-чаго. З культам асобы змагаемся, а тут Лёшка новы культ стварае. Цяпер ужо ўласнаму цесцю», — падумаў Мікіта, ляснуўшы шлейкамі па друзлым чэраве.

Аляксей выбег у калідор і неўзабаве вярнуўся, трымаючы ў руцэ аркуш цупкай паперы.

— Та-ак… Праграма на 24 верасня 1959 года. Горад Пітсбург, штат Пенсільванія… Спачатку едзем у раён Хоўмстэд, на завод фірмы «Места-індастрыз». Потым вяртаемся ў гатэль…

— А як называецца? — перабіў цесць зяцеву хуткагаворку.

— Хто?

— Гасцініца, дзе зараз сядзім.

— «Карлтан-хаўз», — прамовіў зяць, аблізнуўшы сасмяглыя вусны. Учора ў Аёве глынуў віскі ў кампаніі амерыканскіх калегаў, таму сёння сушыла ў роце.

— Чаго змоўк, як мыла з’еўшы… Што там далей?

Зяць выцер насоўкай пот з ілба.

— Далей зноў заязджаем у «Карлтан-хаўз». Сілкуемся і едзем у мясцовы ўніверсітэт. Аглядаем кампус…

— Які яшчэ камбуз? — ускінуў брыво Мікіта.

— Кампус… студэнцкі гарадок. Там нам даюць снядانак…

— Дык ужо ж падсілкуемся да таго часу.

— Гэта ўрачысты сняданак, на пяцьсот асобаў, з удзелам губернатара, мэра…

— Пэра і хера, — выдыхнуў Мікіта, і тут жа сумеўся, утаймаваў раздражненне, якое лезла вонкі.

— Стаміўся я, Лёша. Дзесяць дзён па Штатах матляемся, — Мікіта прытуліўся лбом да шыбы. — Ладна, ідзі, — махнуў рукой, але ўцяміў, што знаходзіцца ў зяцевым нумары, і шаргатлівай хадой рушыў да дзвярэй.

У механічным цэху завода «Места-індастрыз» процьма людзей. Рабочыя лезуць на краны, на станкі і прэсы, цягнуць галовы, выглядаючы галоўнага савецкага камуніста, які пабяцаў пахаваць Амерыку.

Сярод гармідару і вэрхалу хтосьці выразна гарлае:

— Доброе утро!

Галоўны савецкі камуніст выглядае ў натоўпе таго, хто павітаў яго па-расейску.

— Вы расеец? — Мікіта пацiскае руку каржакаватаму, сярэдняга веку, мацаку. На мужчыне навюткія порткі і кашуля з кароткім рукавом. Мяркуючы па ўсім, гэта цэхавы майстар, ці як іх там называюць…

— Не, я амерыканец. У вайну сустракаўся з вашымі людзьмі ў Мурманску, — паведамляе цэхавы майстар ужо на сваёй мове.

Майстар відочна хвалюецца. Дастае з нагруднай кішэні цыгару, ды, уцяміўшы, што паліць не да часу, працягвае яе галоўнаму камуністу. Натоўп аціхае, уражана глядзіць на госця. Маўляў, які ж гэта падарунак, да таго ж, госць, падобна, не паліць. Галоўны камуніст, не доўга думаючы, здымае з рукі гадзіннік, перадае майстру.

— Буду насіць, а потым сыну свайму перадам, — выдыхае амерыканец.

Усе наўкол пнуцца паглядзець на гадзіннік, і майстар уздымае яго над галавой.

Каля ўваходу ў цэх стаіць шыхт чырвоных, з выгляду падобных на лядоўні, шафаў.

— Аўтаматы з газіроўкай, кока-колай і кавай, — запабежліва тлумачыць перакладчык, які дробненька тупае поруч.

— Аўтаматы, кажаш… — савецкі госць спыняецца ля шафаў, тыцкае пальцам на круглую блямбу з надпісам Coca-Cola.

Аўтамат поўніць папяровы кубачак, азываецца смаркатлівым зыкам.

— Я раней думаў, што гэтая кока-кола кшталту піва. Вып’еш пару бутэлек — і мазгаўня ідзе ходырам. А гэта проста газіроўка, — савецкі лідэр прыклаўся вуснамі да папяровага кубачка.

— Ну як на смак, Мікіта Сяргеевіч? — пытаюцца з-за спіны.

— Задужа салодкая… — Мікіта злёгку паморшчыўся, — і тхне аптэкай.

Ля цэхавых варот дарогу перакрывае людскі натоўп. Час падціскае і размаўляць з людзьмі не выпадае, але і тут, пакрываючы няўцямную гаману, гучыць родная мова:

— Вітаем Вас!

Гукае пажылы, Мікітавага веку, рабацяга ў зашмальцаванай кепурцы.

— Вітаю, вітаю, — жвава азываецца савецкі госць, — ну гэтым разам, нарэшце, сустрэў земляка. Вы расеец?

— Не… я беларус, — рабацяга папраўляе брылёк кепуркі, — у мяне бацькі з-пад Менску, прыехалі ў Амерыку ў 1913 годзе. Цяпер вось тут, на прэсе працую.

Мікіта ўважліва, нібыта згадваючы — ці не сустракаліся яны раней, — глядзіць на рабацягу. Дагэтуль, колькі ні сустракаў беларусаў, ніхто асабліва не ганарыўся сваім паходжаннем. А гэты прасаўшчык — і дзе, за акіянам! — з годнасцю кажа: я беларус!

— А завуць вас як?

— Змітро Заступневіч.

— Та-ак… у царскай Расеі жыццё было цяжкое, шмат хто з беларусаў ды украінцаў падаліся за акіян, — Мікіта зрабіў паўзу, адчуўшы, што гаворыць мовай зяця-журналіста, уздыхнуў у задуменні: — У мяне ў маладосці, як на Данбасе працаваў, сябар быў, беларус. Дык ягоны знаёмы, родам, як зараз памятаю, з Баранавічаў, таксама падаўся ў далёкі свет. Лепшай долі шукаць. І знік недзе, аніводнага ліста не напісаў родным.

— Я ўжо сорак два гады працую. Хачу на старасці гадоў на радзіму бацькоў з'ездзіць, паглядзець — што там ды як…

— Менск сёння вялікі і прыгожы горад. Яго б вашы бацькі і не пазналі, — прамовіў Мікіта, ціснучы на развітанне закарузлую рабочую руку.

Госць зрабіў пару крокаў і, схамянуўшыся, стаў выглядаць некага сярод сваіх спадарожнікаў. Убіўшыся ў людскі збой, схапіў за рукаво кіраўніка савецкай дыпламатыі Андрэя Грамыку. Імгненне таму Грамыка стаяў побач, а тут неяк сарамліва прыхаваўся за шырокай Аляксеевай спінай: зяць па старой завядзёнцы штосьці занатоўваў у сваім блакноце.

— Вось, пазнаёмцеся! Андрэй Андрэевіч Грамыка, ваш зямляк. Нарадзіўся непадалёку ад Гомеля. Цяпер ён міністр замежных спраў Савецкага Саюза.

Міністр з робленай усмешкай, ад чаго ягоны адвеку перакрыўлены твар яшчэ больш перакрывіўся, парукаўся з Заступневічам, і землякоў шчыльным колам абступілі рэпарцёры. Аляксей паспрабаваў быў убіцца ў тое кола, потым стаў на дыбкі, намагаючыся пачуць, пра што гамоняць землякі, — ды нічога не пачуў, і спешна запісаў у блакноце: «А.А Грамыка і Зм. Заступневіч цёпла вітаюць адно другога і згадваюць родныя беларускія мясціны».

А палове пятай мясцовага часу «Боінг 707» адарваўся ад узлётнай паласы Пітсбургскага аэрапорта і ўзяў курс на Вашынгтон. На доле праплылі, спавітыя вераснёўскай смугой, карпусы вялізных заводаў, натапыраныя ў неба коміны і падобныя да незямных спарудаў вежы небасягаў. Самалёт імкліва набіраў вышыню, ад чаго пазакладала вушы і зашчымела патыліца, і Мікіта, пазяхнуўшы, заплюшчыў вочы. Яму згадаўся Змітро Заступневіч — амерыканскі беларус, з якім размаўляў на заводзе. «Трэба будзе гэтаму прасаўшчыку персанальнае запрашэнне зрабіць, — падумалася той хвіляй, — хай бы прыехаў, глянуў на зямлю продкаў».

За сваё доўгае жыццё ён шмат пабачыў беларусаў. Упершыню сустрэўся з імі ў маладосці, калі працаваў на шахце каля Юзаўкі. Лагодныя, працавітыя людзі. Але ж задужа абачлівыя, і цураюцца ўсяго роднага. Вунь, украінцы збяруцца за бяседным сталом, адразу ж свае песні гарлаюць. А ад беларусаў і роднай песні не пачуеш. І мовы сваёй чамусьці саромеюцца.

Самалёт злёгку здрыгануўся, і ягоныя рухавікі загулі ўжо не натужліва, а з радаснай палёгкай. Мікіта размежыў павекі. Пасажыры заварушыліся, загаманілі, і на другім канцы салона мільганула чарнявая галава Грамыкі.

«Яшчэ адзін беларус», — бязгучна прашапталі вусны. Міністр замежных спраў ва ўсіх партыйных анкетах пазначыў, што ён расеец, і Мікіта з гэтай нагоды любіў яго пацвяліць. Вось і сёння, на заводзе, узяў за рукаво, падвёў да земляка. «Відаць, і цяпер злуе. Думае: зноў мяне Хрушч, як таго шкадлівага ката, носам у выпраўленую партыйную анкету тыцнуў», — Мікіта выцягнуў стомленыя ногі і згадаў, як летась, пад час нейкай бяседы, спытаў Грамыку: «А чаму ты, Андрэй, ніколі на радзіму не завітаеш?» Галоўны дыпламат наструніўся, панурыў вочы долу, пачаў бубніць, што захлынаецца ад працы, што хата, дзе ён нарадзіўся, даўно згарэла, што там даўно няма ні родных, ні знаёмцаў, і прыйшлося крэкнуць, каб спыніць тыя адгаворкі. «А вось я, Андрэю, са сваёй Калінаўкі чатырнаццацігадовым хлопцам з’ехаў, а часцяком туды наведваюся. І сёлета збіраюся з’ездзіць, калі

ўдасца. З радзімаю развітаешся, а яна ўсё адно з табою будзе. Вунь беларускага акцэнту і дагэтуль не можаш пазбыцца…»

Самалёт ізноў страсянула, і Мікіта Сяргеевіч, каб адбіцца ад надакучлівых думак, пацёр скроні, паспрабаваў засяродзіцца на заўтрашняй сустрэчы з Эйзенхаўэрам, але ўсё раптам аддалілася — і Грамыка, і прэзідэнт Эйзенхаўэр, і беларус Заступневіч. І падалося, што ён гушкаецца на прывязаных да грушы арэлях, і жонка, Ніна Пятроўна, якая сядзела поруч, торкнула мужа локцем, калі той храпянуў спрасоння.

# ПРЫНЦЭСА ФАЎЗІЯ

Пад канапай натужліва стракоча будзільнік. Змагаючыся з рэшткамі сну, намацваю бразготку млявымі пальцамі, цісну на гузік. Бацька на мінулым тыдні хварэў, пачуў тое стракаценне і быў незадаволены. Сказаў: пасля ўзыходу сонца ўсе нармальныя людзі павінны прачынацца без будзільніка. Але што зробіш, калі люблю паспаць раніцою.

Сёння 20 сакавіка 1972 года. Сонца ўзыходзіць у 7 гадзін 14 хвілін (вычытаў учора ў адрыўным календары). Такім чынам, адну гадзіну я ўжо праспаў.

Нябеснае свяціла хоць і ўзышло, ды яго не бачна. На дварэ непраглядная смуга, на шыбах блiскаюць, не даючы рады сарвацца долу, буйныя кроплі, і такой парой неахвота выпаўзаць з угрэтай пасцелі. Дакладней, з канапы, на якой сплю. «Няма чаго валяцца пасля званку, ідзе другі семестр, рашаючы», — паўтараю ў думках фразу Люсьена Мэнэстрэля, аднаго з герояў рамана «За шклом» Рабэра Мёрля. Раман таксама ляжыць пад канапай. Крыху не дачытаў — маці сярод ночы выключыла святло. Класная рэч! Пра бунт французскіх студэнтаў у 1968 годзе. Сябрук даў на выхадныя. Казаў, што гэта сігнальны асобнік. Цётка надоечы з Масквы прывезла. Працуе бухгалтаркай у выдавецтве «Прагрэс». Сёння на занятках мушу дачытаць і вярнуць уладальніку.

Перш, чым вылузацца з коўдры, закідваю рукі за патыліцу, слухаю навакольныя зыкі. На доле, як заўсёды, перарывіста гудзе электрабрытва ўперамешку з мацюгамі — гудзёлка тузае валасы на чыйсьці барадзе; на версе керхае стары дзед, які дзень да ночы смаліць дзесяцікапеечны «Памір», а праз сцен-

ку сяміпудовая суседка корміць дзіцё. «Ва-ася, з’еш лыжачку», — раз за разам скуголіць суседка і зрываецца на лямант: «Вася, ё… тваю маць!» Падхопліваюся і бягу адчыняць фортку — батарэі грэюць па-зімоваму, і ў пакоі духмень. Удыхаю волкага паветра, зводжу глядзелкі да пераносся і адчайдушна чхаю. Чхаю яшчэ пару разоў, зачыняю фортку і зноў валюся на канапу, убіўшы твар у падушку. Толькі так і ратуюся ад зацятага чхання. Маці кажа, што гэта алергія. Вільготным надвор’ем, калі няма ветру, горад накрывае смог з хімкамбінату, і ўдыхнуўшы яго, нос заходзіцца ад казыту. Аднойчы не стаў убіваць галаву ў падушку і чхнуў сорак дзевяць разоў. Зачхаўся да поўнай знямогі. Нават патыліца забалела.

Перад тым, як памыцца, падпальваю фаерку пад чайнікам. Чайнік цёплы — нагрэлі бацькі, як снедалі. Похапкам мыюся, наліваю ў шклянку кіпеню і, чакаючы, калі запарыцца гарбата, ціснуся крылцамі да сцяны. Гэта сеанс аўтатрэнінгу. Сябрук, Сашка Куліч, навучыў. Трэба проста тры хвіліны пастаяць, заплюшчыўшы вочы, і ні аб чым не думаць. Гэтым часам ў мазгах, калі даваць веры сябру, назапашваецца энергія. Ні пра што не думаць не атрымліваецца. Згадваю прачытаны раман. А менавіта момант захопу студэнтамі вежы, дзе месцілася ўніверсітэцкая адміністрацыя. Памятаю той час. Чатыры гады таму хоць і быў смаркачом, але бегаў у шапік за газетамі. Яшчэ на вуліцы, разгарнуўшы «Комсомольскую правду», чытаў — колькі барыкадаў за суткі збудавалі бунтаўшчыкі ў Лацінскім квартале. Мае сімпатыі, вядома, былі на іх баку. Сёння, дарэчы, пабягу да шапіка, прычым, падчас заняткаў. Бо якраз зранку ў панядзелак падвозяць «Панараму». Летась пачаў вучыць польскую мову, узяў адзін асобнік таго часопіса, а ў ім артыкульчык пра бітлух. Зараз руплюся ніводнага нумару не прапускаць. Думкі мітусяцца ў галаве, і энергія ў глуздах не назапашваецца. Ды і назапашвацца няма калі. Трэба бегчы на заняткі.

Адчыніўшы пад’езд, прагна ўдыхаю паветра — каб суняць апаленае гарбатай нёба. Навокал туман, ды такі, што не бачна суседняга дому. З ночы каля ганку ляжала зляжалая гурба снегу, цяпер на тым месцы мокрая пляма на асфальце. Затое

ля прыступак утварылася разлеглая лужа. Нехта паклаў цагліны, і я балансую на іх, пазіраючы на свой адбітак у шэрым люстры лужыны.

Ісці да інстытуту дваццаць хвілін. Прыспешыўшы крок, можна скараціць час, але няма ахвоты напружваць дыхалку. Да таго ж сёння не грэх і спазніцца. Першыя дзве пары — тэхнічнае чарчэнне. Чатыры гадзіны трэба стаяць як склюд перад кульманам і з дапамогай лінаркі ды кронцыркуля пераносіць на ватман якую-небудзь запорную арматуру — з разьбою, двума адтулінамі і трыма загагулінамі. Прычым ва ўсіх праекцыях і з франтальным ды папярочным разрэзам. Чарчэнне ў нас выкладае Іван Пятровіч Ярмалёнак, якога студэнты завуць міжсобку Ярмолам. Мяркуючы па прозвішчы, ён з мясцовых. Беларусаў сярод выкладчыкаў наогул няшмат. Большасць прыехалі з Расеі, і на іх тле нашы людзі прыкметна вылучаюцца сваёю сціпласцю, рахманасцю і асцярожнасцю. Такое ўражанне, што яны кожны крок загадзя прадумваюць і пры гэтым не канфліктуюць са студэнтамі. Вось і Ярмола: можна спазніцца на заняткі, але ён ніколі і слова не скажа. Адно насупіць кусцістыя бровы ды з вясёлым дакорам страсяне галавой.

Званок ужо празвінеў, таму шыбую па інстытуцкім калідоры як ветрам гнаны, і бачу са спіны лабарантку, якая нясе тацу з фарбаванымі серабранкай дэталямі — тымі самымі, якія мусім начарціць. Хапаю на хаду адну з іх — сагнутую трубу з кранам і двума адводамі. Гэтую халеру на мінулым тыдні чарціў Сашка Куліч, які займаецца ў паралельнай групе. Передзяру ў яго.

Мацую на дошцы ліст, малюю рамку, а калі Ярмола выходзіць з аўдыторыі, выцягваю з сакваяжу кнігу. Трэба дачытаць дзесяць старонак і на перапынку аддаць уладальніку — таму самаму Кулічу.

Учора натхнёна перагортваў старонкі, а зараз чытво не лезе ў галаву. Напэўна таму, што чытаю не на самоце. А можа таму, што на апошніх старонках студэнты, шматслоўна і цягамотна, абмяркоўваюць рэзалюцыю сходу з патрабаваннем вызвалення студэнтаў-анархістаў. Анархісты захапілі

некалькі будынкаў, і паліцыя іх скруціла. «Паспрабавалі б у нас захапіць які будынак», — думаю, зыркаючы на пахілыя постаці. Аднагрупнікі гамузам схіліліся над чарцёжнымі дошкамі і не ўздымаюць галоў. Ну а канец аўтар зусім сапсаваў. Там адна студэнтка пакахала анархіста. Доўга прыхоўвала свае пачуцці, нарэшце, у апошнім абзацы, запрасіла хлопца разам правесці вакацыі.

«Яна спатыкнулася аб камень, утрымалася, ушчаперыўшыся ў рукаво Жамэ, і спехам прамармытала агрубела-бурклівым голасам, не гледзячы на яго:

— У такім выпадку, чаму б табе не выправіцца з намі на малалітражцы ў Шатландыю?»

Так закачваецца кніжка. Ляпаю ёю па калену і пераводжу дых. Вось яно як… у французаў. Ездзяць адпачываць у Шатландыю ды яшчэ і бунтуюць. Хвіліну сяджу нерухома, пазіраючы на выцертую падэшвамі пляму на падлозе — плямы такія пад кожным кульманам. Здушана кракаю і падымаюся на ногі. Трэба, сапраўды, штосьці накрэсліць. А то неўзабаве прыйдзе Ярмола — паглядзець, як рухаецца справа.

На перапынку спускаюся на другі паверх, дзе займаецца Куліч. У таго лабараторная па оптыцы.

— Ну як? — пытаецца сябар, перахапіўшы кнігу.

— Клас! — выдаю ў адказ («клас» — маё ўлюбёнае слова).

— Ганарыся! — сябар выцірае далонню правае вока — у лабараторыі оптыкі апраметная цемра і святло рэжа вочы.

— Чым?

— Як чым… ты адным з першых прачытаў. Кнігу яшчэ не давалі ў продаж.

Набіраю паветра, выпінаю грудзіну.

— Чаго набычыўся? — Сашка ляпае па клубах, шукаючы цыгарэты.

— Ганаруся, — адказваю.

Сябар дастае пачак «Гродна», і мы рушым у прыбіральню — паліць у інстытуце можна толькі там.

— Новы альбом дастаў, — дружбак чыркае запалкай.

— Чый?

— «Monkees». Пайшлі пасля заняткаў да мяне, паслухаем.

Куліч любіць пахваліцца новымі запісамі. І кожнага разу кажа: «дастаў». Насамрэч іх прывозіць з Масквы тая самая цётка. У яе сын, на два гады маладзейшы ад нас, таксама бітламан. Ён і перадае магнітафонныя бабіны.

— Я, па-твойму, «Monkees» не чуў? — ад цыгарэты злёгку кружыцца мазгаўня.

— Ты што чуў? «I'm a Believer»? «Last Train»? А тут новы альбом.

— А калі бацька з'явіцца?

— Не хвалюйся, не з'явіцца. У камандзіроўку з'ехаў.

Бацька ў сябра буйны начальнік. На службовай машыне возяць. Сур'ёзны дзядзька. Дагэтуль сына б'е. Сустракаю днямі Сашку, а ў яго вуха як у Чабурашкі тапырыцца. Бацька накруціў. У малодшай сястры дзень народзінаў ладзілі. Цётка з Масквы прыехала, іншыя крэўныя. Сястра ў музычнай школе вучыцца, па класе скрыпкі, і запісала на маг пару п'ес, якія выконвала на іспытах. Бацька і вырашыў тыя запісы крутнуць — каб госці паслухалі. Завёў, а сын наверх нейкі біт запісаў. Ну і пачаў лупіць бедачыну. Я і сам таго начальніка пабойваюся.

На калідоры звініць званок і сябар, прамармытаўшы «Сустракаемся ля галоўнага ўваходу» — выходзіць з прыбіральні. Няспешна дапальваю цыгарэту, прыслухоўваюся, і калі ўсё аціхае, выслізгваю ў калідор.

Ішоў у інстытут, было зацішна, цяпер жа з неба сыпле дробны дождж, і даводзіцца зацягнуць маланку курткі да самага кадыка ды наставіць каўнер.

Ля газетнага шапіка невялікая чарга, прыспешваю крок, і ў тое ж імгненне спатыкаюся, як тая Жамэ, на роўным месцы. Першым у чарзе стаіць Ярмола. Тут бы прыхавацца, але недзе, ды і позна: Ярмола мяне заважыў і дакорліва пасміхаецца. Станаўлюся ў канец чаргі і выцягваю шыю, выглядаючы — ці выклала прадавачка «Панараму». Часопіс ляжыць паўзверх газет і я наструнена пераступаю з нагі на нагу. Ёсць небяспека, што яго могуць перахапіць. Ярмола бярэ суботні «Физкультурник Белоруссии», яшчэ нейкія газеты і

адыходзіць убок. Няйначай, хварэе за футбалістаў менскага «Дынама». Хутка пачынаецца чэмпіянат, і ў «Фізкультурніку» такім часам пішуць — каго выгналі і каго прынялі ў каманду. Польскі часопіс, на шчасце, ніхто не ўзяў, і я, мелькам паднёсшы «Панараму» да твару, убіраю носам знаёмы друкарскі дух. Набываю, па прыкладзе выкладчыка, «Фізкультурнік» — каб прыхаваць часопіс ад дажджу, — і, як ачумелы, кружной дарогай, бягу ў інстытут. Трэба прыбегчы ў аўдыторыю раней за Ярмолу і паспець штосьці чыркануць на лісце.

Трэцяя пара — лекцыя па арганічнай хіміі. Уся дошка спісана формуламі і схемамі атамных злучэнняў. Спрабую іх перапісаць-перамаляваць, ды кідаю гэты занятак і, паклаўшы на калені «Панараму», гартаю танклявыя, аслізлыя навобмацак старонкі. Пра бітлух ці хаця б пра «Чырвоныя гітары» нічога не пішуць, затое на пятай старонцы лагодзіць зрок партрэт сінявокай чувіхі з зыркай, пасыпанай дробнымі дыяментамі, каронай на галаве. Здымак стары, але ўсё адно ад каранаванай красуні цяжка адарваць зекры. Чытаю тэкст, запісваючы ў сшытак незнаёмыя словы. Высвятляецца, прынцэсу Фаўзію, якая на здымку, выдалі замуж за іранскага прынца Мухамэда Пехлеві. Неўзабаве яна нарадзіла дачку і свякруха, маці Мухамэда, узялася дапякаць нявестку. Маўляў, чакалі сына, спадкаемцу шахскага пасаду, а ты дачку нарадзіла. Наслухаўшыся дакораў, Фаўзія напрасілася з’ездзіць на радзіму, наведаць крэўных. Паехала, а назад не вярнулася. Паслала, карацей, свякруху, яе сына і ўвесь шахскі двор куды падалей.

«Вось гэта характар!» — думаю я, вывучаючы мудрагелістую, паўметровай даўжыні хімічную формулу, напісаную на самым версе дошкі. Ад усіх зямных даброццяў адмовілася! Трэба будзе яе фотку над сталом павесіць, поруч са здымкам Мэры Хопкін. Мэры я выцяў з часопіса «Ровесник». Ангельская пяюха спадабалася сваімі шыкоўнымі валасамі.

Ужо пятнаццаць хвілін тырчу ля галоўнага ўваходу і чакаю Сашку. З галоўнага корпусу раз-пораз выбягаюць гру-

пы студэнтак, і я праводжу іх панылым зіркам. Сярод студэнтак няма тых, хто хаця б здаля нагадваў Фаўзію ці Мэры Хопкін. Сашка кажа, што ў нас на курсе татальна нецікавыя дзеўкі. Каб чымсьці заняць рукі, разгортваю пакамечаны «Физкультурник Белоруссии». Вочы адразу чапляюцца за артыкул пра змены ў складзе менскага «Дынама». «Каманда атрымала значнае папаўненне. За менчукоў будуць гуляць: брамнік Васіль Кірычэнка з запарожскага «Металурга», абаронца Аляксей Аўчыннікаў і форвард Ігар Грыгор’еў з маскоўскага «Спартака» і паўабаронца Анатоль Багавік з кіеўскага «Дынама». Пхаю газеціну ў бліжэйшы сметнік. Гэта ўсё футбольныя расстрыгі. Да таго ж, відаць, не прасыхаюць. Летась былі адзінаццатымі, сёлета вышэй наўрад ці падымуцца.

Нарэшце на ганку з’яўляецца Сашка.

— Дзе цябе чэрці цягаюць? — пытаюся, сціснуўшы сакваяж нагамі і прыпальваючы цыгарэту.

— Падручнікі ў бібку здаваў, — Сашкавы ўвішныя пальцы лезуць у мой пачак па цыгарэту.

Выдыхаем дым услед двум цыбам, якія збягаюць па прыступках.

— Эй, гэта не вы перамаглі ў конкурсе прыгажосці ў Буэнас-Айрэсе? — жартам крычу дзеўкам і тыя, азірнуўшыся, пырскаюць смехам.

Люблю, пад настрой, пацвяліць чувіх.

Да Сашкавага дому шыбуем міма гарадскога палацу культуры.

— Сходзім увечары? — дружбак ківае на залеплены афішамі стэнд.

Вочы ўчэпіста блукаюць па стэндзе, вызначаючы — куды прапануе схадзіць сябар. «Танцы для тых, каму за 30»; «Конкурс чытальнікаў, прысвечаны 50-годдзю ўтварэння СССР»; «Якая яна, Амерыка?» Лекцыя журналіста-міжнародніка»; «Поющие юнги», вакальна-інструментальны ансамбль Калінінградскай філармоніі», — брыняць уваччу нязграбныя, ад рукі напісаныя літары. Мы з Сашкам не прапускаем аніводнага канцэрту заезджых ВІА. А раптам што-небудзь бі-

тлоўскае збацаюць? Не надта ахвота цягнуцца на тых «юнг», таму перасмыкваю плечукамі.

Заходжу ў Сашкавы пакой і бачу чарцёжную дошку, а на ёй відарыс той самай пакарабачанай трубы з кранам.

— Дай перадзерці!

Сябар зайшоў на кухню і мяне не чуе.

Ля «Рамантыкі» — класны маг! — ляжыць кардонка ад магнітафоннай стужкі з надпісам «Monkees». Тыцкаю нос у кардонку і заплюшчваю вочы. Вочы заўсёды заплюшчваюцца, калі чую пах стужкі (тып 10, на лаўсанавай аснове), і ў свядомасці такой хвіляй абуджаюцца бітлоўскія галасы.

Сашка, на хаду жуючы хлеб з маслам, уключае маг, і я чую бой літаўраў, брынканне піяніна і дрогкі тэнарок:

— She is a wonderful lady and she's mine, all mine.

Спачатку песня не надта зачапіла. Усё ж такі «Monkees» не бітлы. Але пры канцы, калі да асноўнай тэмы дадалася яшчэ адна, утварыўшы гіпнатычнае гукавое бязладдзе, злёгку ўразіла.

Сашка перахоплівае з маёй рукі кардонку і на адваротным яе баку чытае назву песні:

— «Randy Scouse Git».

Я шостым разам слухаю «Randy Scouse Git», прычым, прыціснуўшы вуха да дынаміка, і ў гэты момант у пакой забягае гаспадар і няўцямна, з набітым ротам вякае:

— Бацька!

Убачыў пад вакном чорную «Волгу».

Хапаю чаравікі і на дыбачках вылятаю з кватэры. Узбягаю паверхам вышэй і згадваю пра саквояж, які пакінуў у калідоры. На доле рыпаюць, а потым бразгаюць дзверы.

«Колькі ж мне тут стаяць?» — я спускаюся на Сашкавы паверх. Нечакана дзверы, ужо без рыпу, прачыняюцца, і Куліч сцярожка, каб не нарабіць шуму, выстаўляе мой саквояж.

Скочыўшы на ганак, зморана аддзімаюся, і ў думках заракаюся хадзіць да Куліча.

Пятнаццаць хвілін чакаў Сашку каля інстытуту, цяпер пятнаццаць хвілін чакаю каля палаца культуры. Хутка і канцэрт

пачнецца, а ён усё недзе блытаецца. Прыпальваю чарговую цыгарэту — ад іх ужо пякотка ў грудзіне, — і хтосьці пляскае мяне па карку. Куліч. Збіраюся спытаць — ці атрымаў ён ад бацькі кухталёў, — але сябрук апярэджвае.

— Кухталёў не атрымаў, бо бацька ў добрым гуморы. Яго ў Менск пераводзяць, у міністэрства.

— А ты? — выдыхаю разам з цыгарэтным дымам.

Сашка таксама закідвае ў рот цыгарэту, прычым, з такім выглядам, нібыта заняты нейкай сур'ёзнай справай.

— Скончу курс і ў Менскі політэхнічны перавядуся.

Вось дык навіна. Стаю ў непаразуменні, усведамляючы пачутае.

— Усё ж Менск які ні які, а горад. Маці узрадавалася. Сказала: трэба выбірацца з гэтай атручанай вялікай хіміяй ямы.

Я прыкусваю вусну. Можна падумаць, менскі політэхнічны — гэта Оксфард. З гатычнымі скляпеннямі і штогадовымі рэгатамі. Чытаў пра іх надоечы ў «Панараме».

Народу ў зале няшмат, так што сядаем у праходзе і задаволена выпростваем ногі. Канцэрт кагадзе пачаўся.

— «У меня беда со слухом — наступил медведь на ухо. Отдавил мне ухо или два», — спявае чарнявы фацэт з гітарай. На твары спевака застыла дзіўная ўсмешка. Такая ўсмешка бывае ў выніку неўралагічнай хваробы. Прыглядаюся да фацэта і разумею: чувак нападпітку.

Сашка навальваецца на плячук. Ведаю, што скажа. Паведаміць марку гітары. Ён у гітарах добра разбіраецца, і на пачатку канцэрту з інтанацыяй панікі прамаўляе: «Гібсан»! — альбо панылым голасам згадвае гэдээраўскую «Музіму». Цяпер жа, прыклаўшы далонь да роту, роблена трасецца ад смеху і паведамляе: «Тоніка»! Наколькі мне вядома, «Тонікі» гламэздаюць у Свярдлоўску, а ўсё савецкае сябар лічыць лажай.

За спінамі шыкаюць — перашкаджаем слухаць.

Наступную песню падпіты фацэт спявае на пару з бялявай дзеўкай, як пазначана на афішы, пераможцай тэлевізійнага конкурсу «Алё, мы шукаем таленты!»

— «Иван да Ма-арья нас зовут не зря. И видно в том судьба, а от неё ведь не уйти…» — руладзяць дуэтам пераможца конкурсу і ўладальнік «Тонікі». Пяюна дарэшты размарыла. Ладную чарку кульнуў перад канцэртам.

— Чаго я сюды прыйшоў? — пытаюся гучным шэптам.

Сябар тым часам зыркае ўбок, — угледзеў нейкіх знаёмцаў, — і выдыхае мне ў вуха:

— Зірні… праваруч… тры пустыя крэслы, а далей дзве класныя чувіхі сядзяць.

З іранічнай гіморай адмахваюся. Якія тут могуць быць класныя чувіхі. Дэманстратыўна не звяртаю ўвагі, але ўрэшце задзіраю галаву, адсоўваю рукой Сашкаву патыліцу і абміраю. Дзяўчына таксама паварочвае галаву. На мяне глядзіць прынцэса Фаўзія! Такі ж ганарлівы позірк, такія ж цёмна-сінія вочы! Гэта яна, тая самая егіпецкая зорка! Толькі ў акулярах.

У зале гучаць кволыя воплескі, і я трасу патламі, каб пазбыцца наслання. Якая Фаўзія… У «Панараме» напісана, што прынцэса 21-га года нараджэння. А тут жа мая аднагодка, крыху падобная на Фаўзію. І чаму раней яе не бачыў? Можа, прыехала аднекуль?

Дуэт па-ранейшаму спявае нейкую лухту. Гляджу на прынцэсу. Яна паварочваецца і зноў працінае сэрца сваімі сінімі вачыма.

— Ну як? Бачыў, якія фары ў той, што ў акулярах, — вочы Куліч здавёнчасу называе фарамі.

У адказ кажу сваё ўлюбёнае слова «клас», і за спінай зласесна сыкаюць: «Вы можаце памаўчаць?»

«А ўласна, што здарылася? Чаго я так усхадзіўся?», — пытаюся ў сябе самога і даю зарок не глядзець на сінявокую красуню. Хто яна такая, каб ёю захапляцца? Ну не прынцэса ж? І на мінулым канцэрце побач з намі ніштаватыя дзеўкі сядзелі. У антракце да іх падваліліі. Сказаў: дазвольце рэкамендаваць свайго кампаньёна, барона Гастона дэ Крэвельяка. Прозвішча пачуў у фільме «Містэр Ікс», які круцілі па целеку. Кампаньён спачатку надзьмуўся, але потым, калі чувіх закадрылі, пачаў сам сябе баронам называць. Пасля канцэрта праводзілі дзевак да хаты. Адна — тая, да якой я прыліп, —

вучылася ў Менску. Завітала да сястры на зімовыя вакацыі. А сястра была тутэйшая. На развітанне напісала на руцэ барона дэ Крэвельяка нумар тэлефону. Залётнік наступным днём пазваніў і патрапіў у лазню.

Вытрымаў… да самага антракту ані разу не зірнуў на прынцэсу. Глянуў толькі, калі ішла па праходзе. На ёй была чорная сукня з белым каўнерыкам.

— Ідзем на абардаж! — рашуча выдыхае кампаньён.

Сяброўкі стаяць, прыціснуўшы спіны да сцяны, з усмешкамі на вуснах паглядаюць у наш бок.

— Давай! — падбухторвае Сашка.

Як назваць кампаньёна? Баронам дэ Крэвельякам? Баранетам Анры дэ Шатанэф? Графам Пэрэны дэ Кіральгазэ? — перабіраю ў памяці персанажы аперэты… Не, Кіральгазэ не падыходзіць. Керагаз нагадвае. Іду, ліхаманкава лічачы паркеціны пад нагамі, а калі ўздымаю галаў, ізноў сустракаюся з позіркам сініх вачэй. Кампаньён тыцкае локцем пад драбы, зноўку шапоча: «Давай!», але адчуваю, што не магу падысці да прынцэсы, а пагатоў нешта сказаць. Язык пачне заплятацца, а то і вузлом завяжацца.

— Ну што ты? — пытаецца Сашка: мы прамінулі сяброўак і падышлі да буфету.

— А ты што? — мармычу ў адказ і зыркаю на бутэлькі ліманаду, што сшыхтаваліся на буфетнай паліцы. Знянацку перасохла горла.

— Ты ж у нас гаварун.

Маўчу, аблізваючы перасохлыя вусны.

— Добра, я сам падвалю. Кім ты мяне той раз называў? Баронам…

— дэ Крэвельякам.

— Зараз ты ім будзеш, — паведамляе былы барон.

Сябрук робіць пару крокаў, спыняецца і асуджана махае рукой.

— Ведаеш, да тых краляў на крывым бароне не пад'едзеш, — сказаўшы так, сябар займае чаргу ў буфет.

На другое аддзяленне спазняемся, і цётка, якая стаіць ля дзвярэй, не хоча нас пускаць. Патрабуе, каб мы зайшлі праз

другія дзверы, бо трэба ісці паўз усю залу. Мы ж прагнем прадэфіляваць міма краляў. Нарэшце прарываемся, рушым па праходзе, і тутэйшая Фаўзія зноў асляпляе сваімі сінімі «фарамі». Не магу адвесці ад яе вачэй, і налятаю на спінку крэсла.

— Цябе, гляджу, ужо ад ліманаду матляе, — хмыкае Сашка, калі я ладкуюся побач. — Нічога, не перажывай. Паспрабуем іх дахаты праводзіць, — паведамляе сябрук і, паказаўшы пальцам на сцэну, дадае: — Чувака вунь таксама матляе. — Чарнявы пяюн схапіўся за стаяк мікрафону, і ў зале зафаніла.

Пераможца конкурсу «Алё, мы шукае таленты!» яшчэ нешта выдае, але гледачы падняліся з крэслаў і шыбуюць да выхаду. На выхадзе ўтвараецца невялічкі затор, і гэта напружвае нервы: пакуль тырчым ля дзвярэй, кралі могуць апрануцца і знікнуць. З лаянкай выкульваемся з залы, бяжым да шатні і пераводзім дых. Упадабаныя намі чувіхі стаяць у чарзе, круцяць галовамі. Ці не нас выглядаюць? Цягнем паўзверх людскіх галоў нумаркі, на хаду апранаемся і застываем як прыкутыя. Ля шкляных дзвярэй чувіх пераймаюць тыпусы ў мадняцкіх прыталеных палітонах. Той, які падышоў да «егіпецкай прынцэсы», і сам нагадвае егіпцяніна: у яго смуглявы твар і вялікія, як у драмадэра, вочы. Дзяўчына туліцца да ягонага плечука, і чацвёрка знікае за мутным шклом уваходных дзвярэй.

Мы стаім пасярод фае, людзі абмінаюць нас, пхаюць у спіну.

— Яшчэ мая бабуля-нябожчыца казала: «Не садзіся не ў свае ночвы», — кажа Сашка, нервовымі пальцамі выбівае з пачка цыгарэты, і яны з ціхім шумам сыплюцца на падлогу.

Іду па мокрым асфальце, з дзіўным утрапеннем пазіраючы на ўласны цень. Ён то выцягваецца, то робіцца нябачным і ўзнікае ўжо не наперадзе, а недзе збоку.

Чаму ж яна на мяне так уважліва глядзела? На Куліча, здаецца, нат не зірнула. Магчыма, цікава стала — што за ёлупень на канцэрт прыцягнуўся? А мо проста, як усялякая

прыгажуня, любіць спакушаць на адлегласці. Гляне, і ў душы пасміхаецца, пабачыўшы як чарговы спакушаны губляе арыенціроўку і натыкаецца на спінку крэсла.

Лужына перад пад’ездам стала яшчэ большай. Ступаю па хісткіх цаглінах, спатыкаюся, чэрпаю халоднай вады ў чаравік.

Уваліўшыся ў свой пакой, валюся, не распранаючыся і не запаляючы святла, на ложак і доўга ляжу, нават не сцягнуўшы мокрыя шкарпэткі. Ужо позна — мы з Сашкам добрых дзве гадзіны цягаліся па горадзе, — суседзі спяць, адно за сценкай зацята плача дзіцё. Нейкая сіла падымае на ногі, я пстрыкаю ўключальнікам і лезу ў сакваяж па часопіс. Прынцэса Фаўзія, як і ўдзень, безуважна паглядае з фотаздымку. Усё ж такі, хоць егіпцянка і з каронай, але дзяўчына, якую ўбачыў на канцэрце, за яе прыгажэйшая. Пасля такога адкрыцця хуценька распранаюся і кладуся, убіўшы галаву ў падушку. Уваччу, дарэшты выяўна, паўстаюць прынцэса Фаўзія, выкладчык Ярмола, фарбаваная серабранкай дэталь з кранам, халоднае святло ліхтароў і рухавыя цені пад нагамі. Дзяўчыну, якая сядзела са мной на адным радзе, згадаць ніяк не магу. Зноў устаю. Іду, выставіўшы як самнамбула, наперад рукі, у святліцу, дзе спіць бацька, адсоўваю шкло кніжнай шафы. Бацька бубніць спрасонку і прачынаецца.

— Ты што там поркаешся?

— Кнігу шукаю.

Да сябе вяртаюся з томікам выбраных вершаў Петраркі. Нядаўна чытаў, аднак раманская паэзія не для мяне. Урэшце, мяне цікавяць не вершы, а прадмова, дзе апісваецца сустрэча паэта з Лаурай, пасля якой небараку давялося ўсё жыццё прысвячаць ёй мадрыгалы. Прабягаю вачыма прадмову і зноў ляжу ў цемры з расплюшчанымі павекамі. Відаць, там, у царкве, Лаура таксама зірнула на Петрарку дзіўным сінім позіркам. Змежваю павекі і бачу неспакойнае святло свечак, мармуровыя постаці святых, бачу падобных на анёлаў манашак, якія дрогкімі галасамі спяваюць: «She is a wonderful lady and she’s mine, all mine», — і дзяўчыну у чорнай сукні з белым каўнерыкам. Пах гарачага воску поўніць галаў хмель-

ным дурманам. Як і Петрарка, хачу прыхавацца за гладкай калонай. Дзяўчына глядзіць у мой бок, і яе позірк перацінае дыханне. Чарговым разам скочваюся з канапы, адчыняю фортку. Ветрык дзьме з-за ракі, таму паветра п'янкое і салодкае. Толькі зараз заўважаю — як адчайна вызарылася неба. Яно, як і вочы сустрэтай прыгажуні, вабіць сваёй глыбінёй і цьмяна, як намаразь у лядоўні, бліскае маленькімі зоркамі. Зрэшты, мне не даспадобы такое параўнанне. Доўга стаю, задзёршы галаў, нарэшце стоена пасміхаюся і шапчу бязгучнымі вуснамі: «Як дыяменты на кароне прынцэсы Фаўзіі».

# ЗМЕСТ

**Мудроў, В.**

М11 Замецены след : апавяданні / Вінцэсь Мудроў. — Мінск : Кнігазбор, 2021. — 208 с.

ISBN 978-985-883-028-1.

Апавяданні, якія ўвайшлі ў новы зборнік празаіка, вызначаюцца ўстурбаванасцю аўтара маральным станам грамадства. Пры гэтым сатырычная накіраванасць многіх з іх спалучаецца з мяккім лірызмам.

**УДК 821.161.1-3**
**ББК 84(4Беи)-44**

18+

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Мудроў** Вінцэсь

**Замецены след**
*Апавяданні*

Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі
Рэдактар Алесь Лёзны
Вёрстка Ларысы Гарадзецкай
Карэктар Алесь Лёзны

Падпісана да друку 05.10.2021. Фармат 84×108 1/32.
Папера афсетная. Друк лічбавы. Ум. друк. арк. 10,92.
Ул.-выд. арк. 8,55. Наклад 150 ас. Зак. 297.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 249-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.